ISBN: 978-83-935476-8-5





**Zianon. PAŁYN-PAŁYN...,** biełaruski raman z časoŭ savieckaj akupacyi. Vydańnie: "Biełaruskaje Vydavieckaje Tavarystva ŭ Amerycy", Ńju Jork, 2016 h. -- 200 s. Papiera afsetnaja (farmat US Letter). Nakład 200 as.

**Зянон. ПАЛЫН-ПАЛЫН...,** беларускі раман з часоў савецкай акупацыі. Выданьне: "Беларускае Выдавецкае Таварыства ў Амэрыцы", Нью-Ёрк, 2016 г. -- 200 с. Папера афсэтная (фармат US Letter ). Наклад 200 ас.

Дзеяньне рамана пачынаецца ў 30-х гадах на Віленшчыне і працягваецца ў 40-х -- 60-х гадах мінулага стагоддзя ў БССР. Гэта расповяд пра лёсы, каханьне і справы беларусаў, што жылі пад саветамі. Паказана акупацыйная рэчаіснасьць савецкага рэжыму, яго норавы і парадкі. У цэнтры сюжэта людзі, якія шанавалі сваю годнасьць і Бацькаўшчыну і змагаліся за яе волю і адраджэньне.
ISBN: 978-83-935476-8-5

# ПАЛЫН-ПАЛЫН…

АСОБЫ:

1. Зося Пуцюль (“Бэ'лтушка”)
2. Еўка Пуцюліха
3. Вінцук Пуцюль
4. Іваноўшчыха
5. Доктар Міхалінскі
6. Вікця Тумаш (акушэрка)
7. Юзік Гарох (“Ёська”), ён жа “Иосиф Викентьевич Горохов”
8. Вікенці Гарох (жулік)
9. Ваньдзя Касьцецкая (пазьней – Ванда Францаўна)
10. Франук Касьцецкі
11. Лёня Касьцецкая
12. Казюк Пуцюль
13. Лаўрэн Пуцюль
14. Гэнюсь
15. Настуля Пуцюль
16. Прышэлец
17. Віцька Сторта (камбайнёр)
18. Валіна “Ксяндзоўская”
19. Фрэдзя Станчык (трактарыст)
20. Вікця Станчыха
21. Шпіц Сямён Якаўлевіч (Першы сакратар райкама)
22. Пашкін (пракурор)
23. Цыдулка (суддзя)
24. Стасюль Вінчурчык
25. Гэльця Багдзюлішка (Багдзюль)
26. Таня Самохіна (камсамолка)
27. Вова (камсамолец)

28. Асмаловіч (фізрук)
29. Антось Шарыч
30. Косьцік Гародзь (старшыня калгаса)
31. Панасюк
32. Раймонд (Раман, Рамук) Шляхта
33. 1-ы гэбіст (Арсень Віктаравіч)
34. 2-гі гэбіст
35. Рафал Пятровіч Рубайла (старшыня калгаса)
36. Валя (сакратар-машыністка)
37. Лявон Баразна (мастак)
38. Сьвета
39. Валік
40. Мардасевіч (начальнік міліцыі)
41. Барыс Бабень
42. Груня Бабень (Агрыпіна Мікітаўна)
43. Жана Барысаўна Бабень
44. Артур Бабень
45. Ігар Бабень
46. Джына Бабень
47. Яніна Рубайла (настаўніца)
48. Каралішка (суседка Рубайлы)
49. Карамазаў (“Карамаз”)
50. Юрка Кароль
51. Стась Кароль
52. Глінка (начальнік міліцыі)
53. Халява (дырэктар малаказавода)
54. Ігнась Баўтрукевіч
55. Марка Яўсьціхевіч
56. Лена (Алена Аляксандраўна Равіч)
57. Лёля (Лёліта Аляксандраўна Равіч)
58. Ксёндз Каласоўскі
59. Прузына Мікалаеўна Равіч (з Валентыновічаў)
60. Аляксандар Якубавіч Равіч
61. Рыгор Равіч
62. Мікалай Альховік (дырэктар школы)
63. Таня Альховік
64. Яўген Кур’яновіч (баксёр)
65. Леанід Іванавіч Івуць (сакратар партарганізацыі)
66. Базыль (Васіль) Шляхта (натарыус)
67. Леакадыя Шляхта (з Вяжэвічаў)
68. Аляксандар Шляхта
69. Адольф Шляхта
70. Конрад Шляхта (Каменскі)
71. Антось (Язэпавіч) Бальцэвіч
72. Віталь Барэйка
73. Ассаліна (Ася, Асоль) Дарагакупецкая
74. Людвіся (Казіміраўна) Брылеўская
75. Андрэй Дуброва
76. Хведар Мялешка
77. Лявон Барэйша
78. Міхась Шулькевіч

79. Сяргейчык
80. Цімох Карповіч
81. Фэлікс Юргель
82. Віця Рашчынскі
83. Дзесюкевіч
84. Рыгор Дзюбайла (старшыня калгаса)
85. Круць (другі сакартар райкама)
86. Паўлюк Барэйша (бацька)
87. Хведар Рамдракавіч Сьмірноў (“Хведзька-два горлы”)
88. Альдона (буфетчыца)
89. Стася (суседка Рамука)
90. Валянціна (з палявой брыгады)
91. Ніканаў
92. Ядзьвіга Баляславаўна Халява
93. Міша Барсук-Бабіцкі
94. Масюта Бабіцкі
95. Валеры Раеўскі
96. Яўген Ігнатавіч Ермаковіч
97. Максім Рачкоўскі
98. Алесь Басько
99. Алесь Чаплінскі (аспірант археалогіі)
100. Федзькін
101. Рая Каліноўская
102. Пётра Грак
103. Юрчык Барэйка
104. Росьцік Жагота
105. Фэлька Кавэцкі (гаспадар)
106. Казюк Брылеўскі
107. Ляўнарды Брылеўскі
108. Дануся Брылеўская (з Давойнаў)
109. Мар’ян Мішкура (шавец)
110. Мікадзім Юркевіч (музыка)
111. Барыска Рубайла
112. Верка (суседка Бальцэвічаў)
113. Віцька-сантэхнік
114. Кухцік (лейтэнант міліцыі)
115. Юля Чаплінская (з Даліваў)
116. Паўлюк Даліва (гаспадар)
117. Рэгіна Даліва
118. Захараў (палкоўнік КГБ)
119. Дзіма Савёнак
120. Зыгмунт Анцыпа
121. Вячаслаў Антонавіч Ляшковіч (сакратар гаркама)
122. Шура Шэмбель (скульптар)
123. Макрына Янаўна Ермаковіч
124. Ніна Пятровіч
125. Івакін (начальнік гаспадарчай часткі)
126. Хоміч (маёр міліцыі)
127. Сураўцаў (“дрэнны гэбіст”)
128. Павел Аляксеевіч Паўлаў (“добры гэбіст”)
129. Юрка Паўлёнак

130. Гэлька Цыкунова (вучаніца)
131. Купрыянаў (сакратар райкама)
132. Браты “Грязновы”
133. “Вінцучок” (паштальён)
134. Карабаеў
135. Ксёндз Багінскі
136. Ігнат Бальцэвіч
137. Станіслаў Бальцэвіч
138. Язэп Бальцэвіч
139. Іван Пронін (маёр, зампаліт)
140. Альбіна Майхровіч
141. Ясюк Рабцэвіч
142. Мікіта Рагоза
143. Койта (Каетан) Ранцэвіч
144. Тоўсьцік (старшыня сельсавета)
145. Яўхім Мяйштовіч (арганісты)
146. Яўстах Мяйштовіч
147. Гальяш Мяйштовіч
148. Марыля Мяйштовіч (з дому Руткевічаў)
149. Міхаліна Мяйштовіч (з дому Рэкецяў)
150. Гарбатоўскі Ян Фролавіч
151. Гіруць
152. Збыслаў (Збысь) Мяйштовіч
153. Вацлаў (Вацюк) Мяйштовіч
154. “Еремеев” (начальнік караула)

* * *

Лета 1934-га года на Віленшчыне было гарачым і запомнілася местачкоўцам жудаснай навальніцай. Такога не было ні да гэтага, ні потым. Стаяў звычайны жніўеньскі дзень. Заканчвалася жніво. Парыла з самай раніцы. Неяк было нават млосна ў целе і аж блажыла ад задухі і цеплыні.

Чорная хмара зьявілася пасьля абеду. Усе падымалі галовы ад працы, ад пярэвясла ды сярпа, ад лучковай касы, якой часам касілі нядойшлы ячмень ды авёс, азіраліся, запрагаючы каня ды ўкладваючы снапы.

Чорная хмара ішла з захаду і гула. Гэта ўсіх найбольш і трывожыла, бо такога ніколі ня чулі. Хмара плыла нізка-нізка, нібы цягнулася па зямлі шэрымі расчосамі, якія зьвісалі ўніз, нібы кудзеля. Неба ўвесь час бліскала маланкамі і чуўся няспынны гул. Сьвінцова-чорная маса грозна паўзла і гудзела ў парным бязьветры.

Людзі пачалі ўцякаць з поля. Заганялі скаціну ў хлеў, зашчаплялі вокны, зачынялі коміны і люхты ў печах. Першы ўдар ветру быў без дажджу і ўзьняў клубы пылу. Потым даў дождж, і ўсё зьмяшалася. На вачах зрываліся дахі хатаў, уздымаліся, як парасоны, ляцела сарваная дранка, ламаліся дрэвы і гасіў пярун.

Калі мінула навала, настала цішыня і выглянула сонца, на мястэчка страшна было глядзець: паламаныя дрэвы, разварочаныя хаты, пабітае шкло, паваленыя платы, раскіданыя снапы, палеглае жыта і бульба. Заклапочаныя людзі на вуліцах аглядалі нішчэньні.

А яшчэ ўзгадвалі Фэльку Кавэцкага. У яго ўсё ацалела, нават стары плот, нават шпакоўні на бярозах. А Фэлька стаяў, абапершыся на брамку і, пазіраючы на

вуліцу, на завалены паламаным суччам і дрэвамі брук, кожнаму казаў адно і тое ж: “Вайна будзе, людцы, будзе вайна!”

Потым, гадоў праз пяць, як настала вайна, таго Фэльку местачкоўцы часта ўспаміналі. Толькі што з таго? Што з таго, што напрарочыў ён тую вайну? Колькі пасецца ў народзе такіх прадказальнікаў ды мудрацоў. Але ці быў хоць адзін мудрэц, які б сказаў, што за волю трэба змагацца і ваяваць, каб пазьбегнуць сьмерці, няволі і вялікай бяды.

* * *

А ўсё пачалося з таго, што Зосі Пуцюлёвай, па прозьвішчу “Бэлтушка”, забалеў жывот. Зося дзеўка дзябёлая, жыла з маткай Еўкай Пуцюліхай і рабіла ўсю мужчынскую працу, бо бацька, Вінцук Пуцюль, гадоў дзесяць таму захварэў на сухоты і за які год згарэў, як сьвечка. Нічога, ніякае лячэньне не дапамагло. Ну, то зазналі з маткай гора. Але неяк здолелі і зямлю абрабляць. Браты бацькавыя дапамагалі.

Зося і сямі класаў ня скончыла. І не таму, што была да навукі крыху тугаватая, – працаваць было трэба. Дык вось у гэты дзень Зося баранавала бульбу на шнурах.* Праца ня цяжкая, але ўзяло за жывот.

Яно і раней пабольвала, аж ванітавала часам ды галава кружылася. Але хто там на такое пры моцнай занятасьці калі зьвяртаў увагу. Зося нешта растаўсьцела, раздабрэла, дык каб надта не ўзіраліся, спадніцу шырокую ўверх падцягне і ходзіць сабе.

“Во, Бэлтушка валюхаецца, -- кажа бывала цётка Іваноўшчыха, выглядаючы ў вакно. – От жа некаму трапіць дырда. Хаця, хто яе возьме? Хіба зь немарасьці.”

Жывот забалеў так, што Бэлтушка крычала. Прыгнала каня з бараной да дзядзькі. Дзядзька паглядзеў, запрог каня і павёз Зосю ў амбулянс праз усё мястэчка. А тую як схопіць, дык аж курчыцца.

Доктар Міхалінскі, прысланы аднекуль з-пад Вільні, паглядзеў і тут жа паклікаў акушэрку. “Хутчэй, -- кажа, -- на стол, ужо нараджаць будзеш.”

-- Чаго? – утаропілася Бэлтушка, -- чаго нараджаць? Мне жывот баліць.

-- Ну, бо пара прышла, Зоська, -- кажа зьдзіўленая ад такой навіны акушэрка Вікця Тумашова. Тут бяз болю не абыходзіцца. Але ня бойся, народзіш і балець ня будзе.

-- А вы тут што? – зноў абурылася Зося. – Каго “народзіш”, мне жывот баліць. Што вы тут гаворыце?

Міхалінскі паглядзеў на яе і кажа:

-- Баліць? Дык ты ж цяжарная.

-- Што вы тут гаворыце? – ізноў сваё гне Бэлтушка. – Я што, дурная? Якая я цяжарная? О-о-о-ёй, хоць бы рыцыны якой далі, -- і стогне.

-- Пані Тумаш, на стол! – скамандаваў Міхалінскі і паклікаў медсёстраў.

Падагналі высокі мэталёвы стол на колцах і ў акушэрскае ўжо аддзяленьне тую Зоську вязуць. Дык яна на гэтым століку па дарозе і нараджаць пачала, лямантуючы. Так нарадзіўся Ёська, якога па-праўдзе назвалі Юзікам, але мянушка “Ёська” да яго потым зь дзяцінства прыліпла, дзеці і празвалі.

Матка Зосіна Еўка Пуцюліха – верніца-каталічка – калі даведалася, то самлела. А потым паляцела тапіцца зь немарасьці. Можа нават і ўтапілася, каб каля рэчкі швагры не перанялі. Яна доўга і на людзі не паказвалася ад сораму і ганьбы. Але паступова навіна аддалілася, людзі перасталі пра тое гаварыць, і далейшае жыцьцё патачылася для Еўкі і Зосі сваёй камяністай дарогай.

---------------------------------

* “Шнур” альбо “бляха” – доўгі вузкі ўчастак зямлі, нарэзаны, як правіла, далёка ад сядзібы гаспадара. *(Аўт.)*

Хлопчык рос жвавы, еў усё, што пад руку трапляла і лез усюды, куды нельга і льга. Хто быў бацька Ёські, напачатку ніхто ня ведаў. Зося маўчала, хоць Еўка і дапытвалася. Але калі прышла пара дзіця хрысьціць, то Зося мусіла прызнацца. Гэта нейкі Гарох, жулік віленскі, што прыехаў у мястэчка са студэнтамі, нейкі час жыў у жыдоўскай мураванцы і круціўся тут, пакуль нешта ня ўкраў і ня ўцёк у Вільню.

Калі Еўка тое даведалася, дык чаго другі раз тапіцца ня кінулася. Мала бракавала. Але тут пачалася вайна, і прышлі саветы. За саветамі прышлі немцы, потым зноў саветы і ўжо засталіся.

Пры саветах Ёська хадзіў у школу, але вучыцца не хацеў. Любіў залазіць на дрэвы, гойдацца на суках і галёкаць.

-- Чаго ты галёкаеш, дурань? – казалі яму.

-- А я не галёкаю.

-- А што ты робіш?

-- Нічога не раблю, -- адказваў Ёська.

Цераз пень-калоду ён неяк дацягнуў да 7-га класа, седзячы ці ня ў кожным класе па два гады. Далей вучыцца ня стаў. Адзін год біў лынды, нічога не рабіў. Але то рыбы наловіць, то дроваў якой бабе нарубае. А як капейка ў рукі, то гарэлкі нап’ецца ды паб’ецца. І тады ўжо ўчастковы звычайна па скарзе прыходзіў да Бэлтушкі і, убачыўшы Ёську, казаў:

-- Ну, чаго ты снова натварыл, эта вот, а? Чаво малчыш? В цюрму захацел? Ты сматры ў меня!*

Дарастаючы да 18-ці гадоў, Ёська вымахаў пад два мэтры ростам і стаў такім моцным, што мог рукамі падкову разагнуць. Але моц не пайшла Ёську ў карысьць. Нешта зайшло яму ў галаву, што чужых хлапцоў ды незнаёмых, не местачковых, трэба біць. Заблукаюць бывала на роварах хлопцы зь іншага мястэчка, дык Ёська калі ўбачыць, то абавязкова прыдзярэцца і паб’ецца. Увогуле, чуючы сілу, яму ўвесь час хацелася сьцьвердзіць сябе і каго-небудзь пабіць. У міліцыі паглядзелі на парушальніка і кажуць:

-- Слухай, хлапец, между протчым,** ты што сілу марнуеш? Спортам трэба займацца, чэмпіёнам будзеш. А то яшчэ раз да нас трапіш – пасадзім.

Ёська зацікавіўся і кажа, што ён супраць міліцыі нічога ня мае. Тады ў міліцыі паглядзелі і кажуць:

-- Будзеш у нас грамадзкім памочнікам міліцыі. Будзеш нам дапамагаць парадак наводзіць.

Ёську вельмі спадабалася, што ён будзе наводзіць парадак. Бывала, прывязуць сьвежы хлеб з пякарні, дык людзі аж душацца. Хлеб танны, па 10 буханак бяруць, потым сьвіньней кормяць.

-- Ну, і што вы тут душыцеся, цёткі? – падыйдзе і скажа Ёська, -- ніякага парадку.

Бабы паглядзяць на Ёську, памаўчаць, а потым адна да адной:

-- А чый жа ж гэта?

-- Ды Бэлтушкін...

-- Гэта яго міліцыя вабіць, дык во бачыш яго.

-- Угму. Там дурняў любяць.

---------------------------------------------

* -- Ну, што ты ізноў натварыў, гэты во, а? Чаго маўчыш? У турму захацеў? Ты глядзі ў мяне! *(Ламаная рус.)*

** між іншым *(ламаная рус.)*

Аднаго разу Ёська ўбачыў, як з-пад рэчкі ў дзярузе баба траву несла. Асакі нажала пад берагам. (Было гэта тады, калі якраз у Маскве Хрушчоў заступіў.)
-- А што нясеш, цётка?
-- Асаку нясу. Ну, што тут прынясеш?
-- А не паложана, цётка.
-- Што непаложана?
-- Калхозная собственнасьць.
-- Што? Асака?
-- Усё.
-- А мой ты сынок, ніхто таго не палажыў, само вырасла.
-- Штраф будзе, -- не сунімаўся Ёська, -- але на першы раз дарую.

Тут баба спынілася і разьзявіла рот, відаць, ад зьдзіўленьня.
-- Ты што гэта тут вярзеш, га? Гэта ты тут бабе штрафу дасі? Дзе гэта ты так гаварыць навучыўся, а? Матцы скажу. Бач ты яго, бабу страшыць. Го-о, так ня пойдзе, галубок.

Нічога не атрымлівалася ў Ёські з навядзеньнем парадку. І тады падумаў Ёська, што добра было б як памочніку міліцыі зброю мець. Меў бы наган, дык баяліся б. З гэтымі думкамі ён зьвярнуўся да ўчастковага.
-- Табе яшчэ няма васемнаццаці гадоў, -- кажа ўчастковы, -- не паложана. Пойдзеш у войска, адслужыш, тады і гаварыць будзем.

Ёську тое не спадабалася. Усё ж зброя ёсьць зброя. Ён дастаў кавалак мэталёвай трубкі, расплюскаў і загнуў канец ды заліў расплаўленым сьвінцом са старых куль, знойдзеных на колішнім рускім стрэльбішчы. Потым прасьвідраваў у трубцы дзірачку, выразаў з дошкі ручку з лажобінкай і прывязаў трубку, прыкруціўшы побач з дзірачкай драцяную брамку для падпалу. Далей усё было як у гармаце XVIII стагоддзя. Накрышыўшы серкі ад запалак, усыпаў яе ў люфу, загнаў клок, прытахціў шомпалам, уставіў кавалак сьвінца замест кулі, зноў клок – і зброя гатова. Праз брамку працягвалася запалка, галоўка над адтулінай. Чыркаеш па ёй карабком, запалка загараецца і – бах! Гучна страляе.

Убойная сіла, праўда, невялікая. Зь некалькіх мэтраў калі стрэліць, то “куля” на сантыметр у сасновую дошку залезе, але нават паўцалі не праб’е. Але ж самапал!

От ідзе бывала Ёська ў кірзачах па мястэчку, а за халявай ручка самаробнага “пістоля” відаць. Ніхто на гэта ўвагі не зьвяртаў, аж пакуль Ёська ні пачаў “пістолем” хваліцца і пагражаць.
-- Халерачка, ужо на дзевак глядзіць, а як дзіця малое, -- жаліцца Б**э**лтушка. – Выкінь, кажу, каб я ня бачыла яго ў цябе! Хочаш, каб пасадзілі?!
-- Я, мама, прыйдзе час, сам каго хочаш пасаджу, -- гэтак салідна адказвае Ёська.

Наконт дзевак, то праўда, Ёська пачаў пазіраць на Ваньдзю Касьцецкую, суседзкую дзяўчыну, што жыла наўскасяк праз вуліцу, але зусім ня ведаў, як сябе зь ёй паводзіць. Бывае, спаткае Ваньдзю на ходніку і пачне, нібы жартам, дарогу заступаць:
-- Ваньдзя, гы-гы, а куды ідзеш?
-- Далёка йду, Ёська, далёка, -- адказвае Ваньдзя і абыходзіць Ёську. А Ёська на таго “Ёську” ня крыўдзіцца, прывык.
-- Дык і я з табой, -- жартуе ён гэтак дасьціпна, -- і мне далёка трэба, -- і хапае Ваньдзю за руку.
-- Адчапіся, Ёська, -- сьмяецца Ваньдзя, -- во спадарожнік мне знайшоўся бяз спросу, -- і вырывае руку. Але ж Ёська дужы, як у міліцыі пахвалілі, гіры падымае.
-- Пусьці, кажу! Ты што, Ёська, з быка зваліўся? Во, знайшоўся мне хлапец-маладзец і на дудзе ігрэц. Адчапіся, кажу.

Аднаго разу Ёська так прычапіўся, што ўжо і вырвацца было немагчыма. Чаго ён хацеў ад дзяўчыны, Ёська і сам ня ведаў. Хутчэй за ўсё, думалася, каб гэтая Ваньдзя зь ім, Ёськам, пагаварыла як-небудзь.

-- Ёська, пусьці, тут ня жарты, а то глядзі, будзеш бедны.

-- Як бедны, дык і ўрэдны, гы-гы-гы, -- рагоча Ёська. – От вазьму і не пушчу.

І тут Ваньдзя як цапне зубамі Ёську за руку. Ёська ўзвыў, а Ваньдзя ходу.

-- Дурань ты, з бобу не выганяны, а не хлапец, -- крычыць Ваньдзя, азіраючыся.

І тут Ёська ўспомніў, хто ён такі ёсьць. Дастае з-за халявы свой самаробнік з меднай люфай, настаўляе на Вандзю, чыркае карабком. Прылада як бабахне.

Далей падзеі разьвіваліся хутка, як у кіно. Ваньдзя, трымаючыся за параненую ягадзіцу, забегла ў хату. Праз хвіліну з хаты выскокваюць раззлаваны бацька, Франук Касьцецкі, і двох старэйшых Ваньдзіных братоў.

-- А ё. т. м.! А ё. т. м.! —- ды за Ёськам. Таму Ёську яго і сіла не дапамагла. Адмяцелілі, як баксёрскую грушу, а ўрэшце яшчэ і зьвязалі і павялі да ўчастковага. Участковы склаў пратакол. Справа мусіла пайсьці ў суд. Але тут да Касьцецкіх прыляцела Б**э**лтушка.

-- А, Франучок! А, Лёнячка (гэта да Касьцеччыхі). А даруйце, а даруйце! А мае ж вы людцы! А даражэнькія! Дурнаваты ён трохі, яшчэ розуму мала. А не садзеце ж яго! Я і так ужо адна, як кол, і дзіцяя прападзе ў тых саветах. Франучок, зжалься, даруй, не садзі, ты ж разумны!

Б**э**лтушка стала на калені і хацела цалаваць рукі Касьцецкаму.

-- Зося, устань ты, не трапячыся і не валяйся, -- кажа Касьцецкі, -- ня хочам мы яго садзіць і ня будзем табе помсьціцца. Але міліцыя ўжо яго не пакіне, возьмуць на “вучот”*. Халера, дурня кавалак, так дзеўку зганьбаваў. Горш за ўсё, што людзі сьмяюцца.

А Б**э**лтушка:

-- Франук, я калі што, усё адраблю вам, бульбу дапамагу скапаць.

Б**э**лтушка, і праўда, неўзабаве прышла на “соткі” Касьцецкіх са сваім кошыкам і драпцамі і капала ўвесь час побач зь Лёняй, Ваньдзяй і іншымі. Праўда, Касьцецкія расплаціліся з Б**э**лтушкай, як і з астатнімі, хто дапамагаў.

Тым часам Ёська кажа матцы:

-- Паеду, мама, у Вільню, можа дзе ўладкуюся, пакручуся, бо тут мне ўжо горай стала.

Сказаў – і на зьдзіўленьне Бэлтушкі, паехаў, як яна яго ні ўпрошвала ня ехаць няведама куды і дзеля чаго. Ня слухаўся Ёська маткі.

У Вільні Ёська зьнік. Ну якая тады, за саветамі, праца? На ўсё трэба прапіска, пашпарт, характарыстыкі. Нічога таго ў Ёські не было. Адзінае, што ён пры сабе меў, гэта толькі камсамольскі білет (з фота і ўсё, “як трэба”). Ёська ўступіў у камсамол яшчэ ў сёмым класе, калі заганялі ў той камсамол усіх вучняў, хто меў чатырнаццаць гадоў. За два месяцы віленскага жыцьця ён прыслаў маці толькі адзін ліст без зваротнага адрасу, дзе было напісана, што ён жывы, здаровы і неяк “круціцца”, але, пэўна, вернецца. Дык Б**э**лтушка ўсё чакала, калі гэта яе Юзічак вернецца.

Усё так і трывала б, калі б ні завітаў аднаго разу да Б**э**лтушкі ў хату перад дажджом адзін старац – дзіўны чалавек. Ён сказаў, што йдзе здалёку, а тут во дождж пачынаецца.

Пакуль шумеў дождж, бліскала і грымела, прышэлец расказваў незвычайныя гісторыі.

-------------------------------
* улік (ламаная рус.)

-- От, -- кажа, -- лье, як зь вядра. А і пры Патопе так было: увесь час ішоў дождж, неба з хмарамі на зямлю апусьцілася і заліло ўвесь сьвет. От я, пані, зараз прачытаю, як тое было.

Прышэлец дастаў са зрэбнай кайстры тоўстую чорную кнігу (гэта Біблія, -- кажа) і пачаў чытаць па-руску. Было цікава і страшна, але Бэлтушка нічога толкам не зразумела. Яшчэ каб па-польску, то нешта можна было б уцяміць, а як "па-савецку", дык толькі страху нагнаў.

-- Дык от, пані, будзе Армагедон, -- кажа прышэлец, -- і ўсё затопіць.

-- Дык што, і Вільню затопіць? – спалохана пытае Бэлтушка.

-- Вільню найперш затопіць, бо яна ў нізіне, і Вяльля выйдзе зь берагоў. Тады ўжо ніхто не ўратуецца, -- упэўнена кажа прышэлец.

Бэлтушка аж рукі шчапіла.

-- А мой жа Юзік там!

-- Надта шмат зла, пані, на Зямлі сталася. Бязбожнікі апанавалі.

Дождж сьцішыўся, прышэлец адышоў, а Бэлтушка месца сабе не знаходзіла, зьлякаўшыся ад пачутага. Пайшла да Касьцецкіх і кажа:

-- Ці чулі, што патоп зьбіраецца і Вільню затопіць?

-- А хай іх халера ў вагні спаліць і вадой накрые! – раптам злосна ўзбудзіўся Касьцецкі. – Каб ужо якая пляга на іх знайшлася, каб іх пакруціла, вылюдкаў! Я ім кажу: цялушка, пярэзімак, якая карова! Гэта ж цялушка. Боўдзіла дурны, як бот, толькі вачыма лыпае.

А справа ў тым, што Касьцецкім якраз увалілі добры штраф за трыманьне двух кароў (бо дазволена было трымаць толькі адну). На самой справе карова была адна і пры ёй цялушка-пярэзімак, але Касьцецкія не змаглі давесьці тое раённаму начальству. "Что ты мне гаварыш, я жэ вижу, что эта маладая карова."* І далі штраф. Ад такой тупасьці Касьцецкі аж узьвіўся: "Гітлера на іх няма!"

-- Франук, от маўчы лепш, а то наклічаш, -- азвалася Лёня, -- шчэ й за "Гітлера" дадуць.

-- Але будзе на іх патоп, халера, будзе, каб ім павылазіла! – грымеў далей Касьцецкі.

Бэлтушка якраз натрапіла ў такі час, калі Касьцецкі сам клікаў патоп на ўсё начальства, і яна зразумела, што Вільню ўсё ж такі затопіць. Думка пра сына не пакідала яе. Ён жа там нічога ня ведае і загіне, а як паведаміш, калі невядома, дзе ён там ёсьць.

Урэшце, Бэлтушка вырашыла ісьці ў Вільню і шукаць Юзіка. Хату, курэй, карову пакінула на дзядзькоў, сабралася і раненька пайшла. Вечарам дайшла да Яшунаў і папрасілася ў адной хаце пераначаваць. Яе пусьцілі, пачаставалі кіслым малаком з варанай гарачай бульбай. Тады Бэлтушка і кажа, што ідзе ў Вільню шукаць сына, бо кажуць, што зьбіраецца быць патоп, і Вільня патоне. У хаце запанавала цішыня і гаспадар з жонкай пераглянуліся. Пагаварылі пра патоп, і гаспадар кажа:

-- Але навошта, пані Зося, ногі біць. З Салечнікаў праз Яшуны арбон ходзіць. На раніцы сядайце і едзьце. – Зося маўчыць. – Гэта ня дарага, -- кажа гаспадар, -- два рублі ўсяго.**

-- Дык для мяне і два рублі грошы. Але найперш хачу схадзіць на Кальварыю. Была некалькі разоў яшчэ за Польшчай, дык пайду пешшу.***

------------------------------------

* "Што ты мне гаворыш, я ж бачу, што гэта маладая карова." *(Ламаная рус.)*

** За два рублі сталінскіх грошай у 50-х можна было купіць адну буханку хлеба. *(Аўт.)*

*** У пільгрымку на Віленскую Кальварыю трэба было абавязкова ісьці пешшу. *(Аўт.)*

-- Добра пані робіць, -- зноў гаворыць гаспадар, а то людзі кажуць, што саветы хочуць Кальварыю зруйнаваць і касьцёл пабурыць.
-- Але, -- кажа Бэлтушка, -- і я чула. Толькі Бога не забароніш.

Надвячоркам Бэлтушка была ўжо на віленскай Кальварыі. Людзей ("нелегалаў") яшчэ хапала. Там-сям сядзелі купкамі каля капліц, вячэралі, развязаўшы вузлы. "Нелегальныя" пільгрымы падказалі ёй, дзе можна пераначаваць.

На раніцы Бэлтушка села на аўтобус і даехала якраз да Вострай Брамы. Тут перад старым гарадзкім мурам саветы ўладкавалі аўтавакзал. Зося памалілася перад абразом Маткі Боскай Вострабрамскай і пачала прабівацца да ксяндза, каб спытаць, як ёй знайсьці Юзіка. Але дастацца да ксяндза было ня так проста. Спачатку яе не пускалі ў закрыстыю рухавыя тарціяркі. Потым нейкі клерк вырас, як з-пад зямлі, і паўтараў, як заведзены, адно і тое ж, што ксёндз мусіць адпачываць.

Аж тут ідзе нейкі салідны дзядзька. Аказаўся закрыстыян у касьцёле.
-- А што, пані?
-- Хацела б да ксяндза. Сын у мяне тут. Ня ведаю, як яго знайсьці.
-- Дзе "тут"? У касьцёле?
-- Не, у Вільні.
-- Так, і што?
-- Ня ведаю, дзе ён.
-- А хто ведае?
-- Ня ведаю.
Тут закрыстыян спыніўся.
-- А ксёндз што, ведае?
-- А мо й ведае.

Закрыстыян паглядзеў на Бэлтушку.
-- Слухай, кабета, твой сын нічога не нарабіў?
-- Не, не нарабіў, але ён на ўліку стаіць у міліцыі.
-- А-а-а, -- кажа закрыстыян, -- там трэба і шукаць.

Пайшла Бэлтушка ў міліцыю. "Ёсьць такі, -- кажуць у міліцыі, -- Гарох Іосіф Вікеньцьевіч, сядзіць на Зьвярынцы. 15 сутак." Дык Бэлтушка як узрадуецца: "А мой ты Юзічак! Сядзіць! Дзякуй Богу, дзякуй Богу! А я ўжо думала, дзе тут яго шукаць". А потым, падумаўшы, кажа да міліцыянера, які зьдзіўлена разглядаў Бэлтушку.
-- А чаго гэта ён там сядзіць, га? Хто гэта яго туды пасадзіў?

Тут міліцыянер моўчкі набірае нумар і ў слухаўку:
-- Слушай, здзесь мать объявилась этого Гароха, который там у вас сидзит. А. Да. Точна. Да. Харашо. – І паклаўшы слухаўку: -- Чэрэз два дня выпусьцяць*, -- кажа Бэлтушцы.

Зося пешшу пайшла на той Зьвярынец, недзе па той бок рэчкі. Паўдня бадзялася і знайшла такі тое месца. Яе нікуды не пусьцілі. Сказалі толькі, што ёсьць такі, і праз два дні выпусьцяць, і што, калі гэта тут матка, то хай забірае балбеса.

Галодная Бэлтушка цягалася па Вільні, ня ведаючы, дзе прыстаць. Нарэшце, язык давёў яе да ксяндзоў дамініканцаў. Там яна пабыла на вячэрняй імшы (якраз быў травень), і ёй далі кут пераначаваць.

-----------------------------------------------

* -- Слухай, тут матка зьявілася гэтага Гароха, які там у вас сядзіць. А. Так. Дакладна. Так. Добра. Праз два дні выпусьцяць. *(Ламаная рус.)*

Праз два дні раненька яна была ўжо на тым Зьвярынцы. Адчыняюцца дзьверы, выходзіць “мент”:
-- Ну, давай, выхадзі, вот тут цябе ждут.*
-- А, Юзянька, а мой ты сыночак, -- кінулася да сына Бэлтушка. – А як жа добра, што ты знайшоўся. А то я ўжо думала: утопіцца мой сыночак, і ня ўбачу больш ніколі, і магілкі ня будзе, каб паплакаць схадзіць.
Ёська быў ашаломлены ад нечаканасьці і ўражаны адначасна.
-- Мама, як гэта? Як гэта ты тутака? – паўтараў узрадаваны Ёська, абымаючы матку.
Аказалася, што гэты Ёська не такі ўжо і дурны, а быў сабе прыдумны і пры клёку. Ён даведаўся ад жонкі Б**э**лтушкінага дзядзькі Казюка Настулі (значыцца, калі па фаміліі, то Ёськавай бабы) віленскі адрас яе стрыечнага брата Гэнюся (якога тут, між іншым, бачылі толькі адзін раз, на вясельлі Настулі і Казюка) і паехаў да яго, нікому нічога не сказаўшы.
Гэнюсь нешта кляпаў сьлесарам у віленскім паравозным дэпо. Ёська, прыехаўшы як сьнег на галаву, таго Гэнюся моцна зьдзівіў. Але ў хату ён Ёську пусьціў, калі зразумеў зь яго гаворкі, што сапраўды ён ёсьць іхны сваяк і Настуля яго ведае.
Ёська цэлымі днямі бадзяўся па Вільні, ня ведаючы, куды прыстаць, бо на працу без прапіскі нікуды і нідзе ня бралі. Тады Гэнюсь дамовіўся зь нейкімі “брыгадзірамі” на таварнай станцыі, што возьмуць Ёську нелегальна разгружаць вагоны па начах і што брыгадзір яму будзе сам гатоўкай плаціць.
Нацягаўся Ёська ўсяго. І хоць сілы меў за трох, выматаўся ўшчэнт. У дадатак плацілі яму вельмі мала, бо большую палову “брыгадзір” забіраў сабе.
Можа б Ёська неяк і цягнуў бы гэтую нечалавечую начную працу, калі б ні пабіўся, ды так, што пацярпелыя трапілі ў шпіталь.
“Ну, я ж не бандыт, мама! – казаў Ёська. – Ішоў вечарам, а тут чатырох саветаў насустрач і шваргочуць** між сабой. Я пытаю: хлопцы, кажу, прыблудзіў крыху, як тут на Канвалёву ўзьбіцца? Дык яны паазіраліся наўкола, і адзін, нічага ня кажучы, трах мне ў твар і давай усе ўчатырох мяне біць. Ну што я меў рабіць, мама? Панаехала савецкіх сьвіней!”
-- От жа трэба было табе пытацца. Бачыў жа, што саветы, -- уставіла Б**э**лтушка.
-- Я іх зьмясіў. Так даў, што поўзалі. А міліцыя, як з-пад зямлі выскачыла. Завезьлі ў пастарунак і зрабілі вінаватым. Словам, адсядзеў. Дык яны ня мелі права мяне садзіць, бо я яшчэ ня маю поўных васемнаццаць гадоў. Тут мне падказалі. А вось жа яны мяне пасадзілі і пагражалі, што адправяць у турму. Тут поўнае беззаконьне.
-- От і чула маё сэрца, што трэба йсьці, -- кажа Б**э**лтушка. Пры гэтым яна распавяла сыну пра навадненьне і патоп і што з гэтай Вільні трэба ўцякаць.
-- Ну, што, мама, слухаеш усялякае глупства! Адкуль той патоп!
-- Разумны чалавек казаў, што нават па радыё перадавалі, -- адказвае Бэлтушка.
-- Радыё? Нядаўна казалі, што Сталін “бацька”, а цяпер што кажуць?
-- Ціха ты, ціха ты! – замахала рукамі Б**э**лтушка, -- яшчэ наклічаш.
-- А чаго мне тут баяцца? Я сьмелы, -- гэтак з годнасьцю кажа Ёська.
Пайшлі на аўтавакзал пад Вострую Браму. Зося развязала хатулёк, купіла два білеты да Ліды, і неўзабаве яны ўжо ехалі ў “арбоне”, пазіраючы праз вакно на тапалёвыя ды бярозавыя прысады.

--------------------------------------------
*  -- Ну, давай, выходзь, вось тут цябе чакаюць. *(Ламаная рус.)*
** “Шваргатаць”, г. зн. гаварыць на чужой мове. *(Аўт.)*

* * *

Касьцецкія якраз сядалі вячэраць. Франук глядзіць у вакно і кажа: “Зноў Пуцюлішка свайго дурня прывезла.” Памаўчаўшы, да Ваньдзі: “А ні важся да яго падыходзіць нават. Бокам абыйдзі!”

Ёська зь месяц сядзеў у хаце, нікуды не выходзіў, правіў плот, зьбіваў дзьверы ў адрыне, якія рассохліся. Словам, усё рабіў, што матка скажа. Зося дык ужо і нарадвацца ня можа. Тут пачалося жніво, і Ёську ўзялі памочнікам камбайнёра. Праца яму спадабалася, і Ёська падумаў: “Добра б было і камбайнёрам стаць”. І пытае ў Віцькі Сторты, камбайнёра, значыцца:

-- А як гэта, каб камбайнам кіраваць?

-- Трэба ўмець, -- кажа Сторта, -- ня ўмеючы, не паедзеш.

-- А як гэта навучыцца?

-- Проста, -- адказвае Віцька, -- трэба школу механізатараў скончыць. Там навучаць.

Зжалі жыта, пшаніцу, ячмень, і восеньню Ёська падаўся ў вучылішча механізатараў (калгас накіраваў). Тэхніка яму спадабалася, і праз год Ёська ўжо дзелавіта сам сядзеў на камбайне.

Зося хадзіла такая важная: сын чалавекам стаў. Уключыўся ў “соцсарэўнаваніе”, нават перадавіком назвалі. Больш за ўсіх нажаў ды намалаціў. У райкаме “атмецілі”. Нават нейкія грошы пачалі вадзіцца. Але радасьць Зосі была нядоўгай. Ня быў бы то Ёська-байструк.

Атрымалі механізатары грошы за працу. Невялікія, але адзін і кажа:

-- Хлопцы, трэба “абмыць” канец лета.

Абмылі так, што Ёська ішоў дахаты, чапляючыся за платы, ад плоту да плоту. У адным месцы штыкетнік адарваўся, і Ёська жмякнуўся аб зямлю. Пастаяў ракам, падняўся, аж бачыць – перад ім вялікі драўляны крыж (што на канцы мястэчка стаіць).

-- Э-э-м-ммм, -- замукаў Ёська, -- крыж во. А гэта што!

Ёська ачаперыў крыж рукамі і пачаў тузаць, намагаючыся вырваць яго з зямлі.

А ў гэты час ішоў трактарыст Фрэдзя Станчык, несалідны чалавек, языкаты лаяншчык местачковы.

-- Ты што робіш, дурань, ё. т. м., цябе Пярун заб’е! Ня руш крыжа, ты, ёлупень, мазгі адпіў?

Ёська паднатужыўся ўсёй сваёй сілай, выцягнуў крыж з зямлі, паваліў на траву і да Фрэдзі.

-- Гэта хто дурань? Я грошы зарабляю. А Бога “ваабшчэ нет”. – Размахнуўся і кулаком Фрэдзю ў твар як дасьць. Фрэдзя і паваліўся. А Ёська яго яшчэ два разы ботам падбіў, ды так, што (як потым аказалася) рэбры Фрэдзю зламаў.

Назаўтра ўсё мястэчка стала на вушы. Б**э**лтушка як даведалася, то аж залямантавала, як па нябожчыку: “А, Юзянька, а-я-ёй-я-ёй, а што ж ты нарабі-ы-ў, крыж павалі-ы-ў! А нас жа са сьвету зжыву-у-ць! А нас жа Бог пакара-а-е! Матачка Боска, а заступіся ж за на-а-с!”

Б**э**лтушка схапіла Ёську за руку:

-- Юзянька, сынок, пайшлі, пайшлі, во, пайшлі да ксяндза.

-- Нікуды я не пайду!

-- Сыночак, а пашкадуй ты сябе і матку! Мы ж адны, а ніхто ж не дапаможа! Пасадзяць цябе. Гром заб’е, і я адна застануся. Хадзем, Юзянька, станем на калені і будзем прасіць, каб Бог дараваў.

-- Нікуды я не пайду, -- упарта адмаўляўся Ёська. – І Бога няма. І ксёндз – шпіён польскі.

Бэлтушка шчапіла рукі.

-- Нашаму ксяндзу восемдзесят гадоў скора. Ты што кажаш? Цябе саветы навучылі.

-- Не пайду, і ўсё, -- насупіўся Ёська.

Плачучы, Бэлтушка паляцела да ксяндза, ускочыла ў плябаню на веранду і пастукала ў дзьверы. Выйшла ахмістрыня, кульгавая Валіна. Яе так і называлі: Валіна Ксяндзоўская, хоць, пэўна ж, яна мела і сваё прозьвішча. Валіна завяла Бэлтушку ў пакой да ксяндза, дык яна адразу на калені – і давай ксяндзу рукі цалаваць.

-- Ойчанька, ойчанька сьвенты, вялебны, даруй яму, даруй, малады яшчэ, дурнаваты, п'яны, ня ведаў, што рабіў! Ойчанька, ён каецца і пераживае, так пераживае, што ня можа на вочы ойчанькі стаць, бо сорам і стыдоба яго забірае. Сядзіць дома і плача, во, горкімі сьлязьмі плача, што нарабіў. Мы адновім крыж і ўсё як мае быць на месца паставім. А я, ойчанька, нават новы крыж на дарозе пастаўлю, каб толькі ойчанька ласку меў і яго асьвяціў. То хай ойчанька яму ўжо даруе, І Матка Боска заступніца наша Вострабрамская хай зжаліцца над намі і заступіцца перад Панам Богам, каб розум яму, сыночку майму, даў, каб выбачыў яму, бо ж малады шчэ, каб паразумнеў, як усе людзі...

-- Чэкай, Зося, зачэкай, пшэстань. Юж пшэрва. Слухай, цо ці повем, -- спыняе Бэлтушку ксёндз Багінскі і кажа, што бальшавікі новы крыж паставіць не дазволяць, а вырваны Ёськам людзі ўжо паставілі на месца. – Ніц сен не стало. Жыце точы сен, як завшэ, а в млодосьці ружне быва. Згжэшыл, то мудль сен за него.*

Ксёндз трохі загадкава глянуў на Бэлтушку, хацеў нешта сказаць, але змоўчыў. А Бэлтушка апусьціла галаву, шостым жаночым пачуцьцём адчуўшы думкі ксяндза пра свой грэх.

-- Выбач, ойчанька, -- праварушыла яна непаслухмянымі губамі.

Пасьля ксяндза Бэлтушка паляцела да Станчыкаў. Станчыха ў вакно глядзіць і кажа сама сабе: “Во, ўжо і Пуцюлішка ляціць. Ну, пэўня”.

Бэлтушка ўвайшла, і з парогу ледзь прывітаўшыся:

-- Ой, Божа ж мой, Божа, Вікцячка, якое няшчасьце! Месца не знаходжу. Думала паразумнеў. Хоць у магілу кладзіся. І нічаму ж дрэннаму не вучыла. І што зь ім рабіць – ужо й сама ня ведаю.

-- А што тут ведаць, Зося, -- адказвае Вікця, -- у астрогу пасядзіць, дык навучыцца.

-- Каб жа ж там чаму добраму вучылі, Вікцячка. Пасядзіць у саветаў, дык бандытам вернецца. Ня дай ты, Божа!

-- Ну, -- буркнула Станчыха. – Фрэдзя ў шпіталі. Рэбры зламаныя і губа разьбіта.

-- О, матка Боска! – усклікнула Бэлтушка. – Мне хоць скрозь зямлю праваліцца. Вікцячка, слухай. Не падавайце. Адраблю. Тры гады буду вам дапамагаць і ўсё рабіць, і грошы дам. Дастану. Колькі трэба. Толькі не падавайце. Пасадзяць, то яму канец. Ужо й ня вернецца. Я ж адна, як кол. Матка памерла. Дзядзькі пастарэлі. Ды й не гаспадары ўжо яны – калхозьнікі. Ты ж бы й сама на маім месцы так думала. Каб гэта Фрэдзя дараваў, адступіўся.

-- Я тут не вырашаю, Зося. Фрэдзя гаспадар. Гавары зь ім, хоць ты ж ведаеш, Фрэдзя чалавек наравісты.

---------------------------------------------

* -- Чакай, Зося, пачакай, перастань. Спыніся ўжо. Слухай, што я табе скажу... Нічога ня сталася. Жыцьцё працягваецца, як заўсёды, а ў маладосьці ўсяляк бывае. Саграшыў, то маліся за яго. *(Польск.)*

З Фрэдзям гаворкі не атрымалася. Гэты Фрэдзя як у савецкім войску некалі пабыў (схапілі ў 1944-м), дык калі вярнуўся, то ўсё “ё. т. м., ё. т. м.”, -- і ўся гаворка, як бы прыдурэў крыху. Яго так і празьвішчавалі на вуліцы мужчыны: “Фрэдзя – ё. т. м.”

Фрэдзя абклаў Бэлтушку “ё. т. м.” і кажа:

-- Я твайго байструка, ё. т. м., закапаю, што век ня вылезе і ня знойдуць, дурня кавалак, ё. т. м.

Не дапамагло нічога. Суд прызначылі ў кастрычніку. Ёська адначасна атрымаў павестку ў суд і з ваенкамата на прызыўную камісію.

-- Дык ня так і дрэнна, -- кажа ён маці, -- як пасадзяць, дык у войска не забяруць. А як у войска забяруць, дык не пасадзяць.

А Бэлтушка:

-- Глядзі, Юзянька, не заракайся. Гэтыя і пасадзяць, і забяруць, і пер’е абскубуць.

Бэлтушка прыехала ў раён на суд разам зь дзядзькамі (угаварыла, каб ня быць там адной). Людзей было ня шмат, чалавек 9-10. А пракурор як расьпісаў, то тры гады турмы, кажа, трэба даваць. Яшчэ, кажа, вялікі пралетарскі паэт Маякоўскі пісаў пра такіх: “Безмозглый и две ноги для ляганий, Вот – портрет хулиганий”*.

Бэлтушка ўсё тое ня надта зразумела, але “тры гады” яе ўзбударажылі.

-- Якія тры гады!? За што гэта яму тры гады? – абурана выгукнула Бэлтушка.

Суддзя ад нечаканасьці (і пракурор таксама) аж раты разьзявілі. А потым суддзя схамянуўся і далоняй па стале як плясьне:

-- Прашу прэкраціць! Ешчо адно прэдупрэждзение, и я вас удалю из зала суда.**

Бэлтушка змоўкла, абурана ўзіраючыся ў пракурора. Нейкія паперы доўга зачытваў суддзя. Потым задавалі пытаньні Ёську. Той прызнаў, што выцягнуў крыж, бо рэлігія – “опіум для народа”, і што ўдарыў Фрэдзю, бо быў выпіты, а Фрэдзя назваў яго дурнем і абклаў матам, што было некультурна.

Потым нешта бубнеў адвакат незразумелымі словамі, але зь яго гаворкі Бэлтушка ўцяміла, што яе сын невінаваты.

Потым ізноў сурова гаварыў пракурор, назваўшы Ёську “абшчэсвенна апасным элементам, каторый в пазапрошлом году савершыл аналагичнае прэступление в горадзе Вильнюс и не был судзим па стацье ввиду несавершэннолеция. С шеснадцаци лет подсудзимый находзился на учоте в милицыи ввиду изготовления огнестрельного аружыя и произведзения стрэльбы по людзях”.***

Далей пракурор нешта сказаў (Бэлтушка ня ўсё зразумела) пра “колонию строгого рэжыма” і аб “отврацицельном явлении”.****

Тут Бэлтушка зноў не стрымалася:

-- Якога яшчэ “рэжыма”? Мой сын ня злодзей і не забойца, і не “прэступнік”. Ён перадавік працы і лепшы камбайнёр. Ён карысны для савецкава обшчэства, а вы яго ў турму хочаце? Як гэта?

-----------------------------------------------

* “Бязмозглы і дзьве нагі для брыканьня, Вось – партрэт хулігана” *(Рус.)*

** -- Прашу спыніць! Яшчэ адно папярэджаньне, і я вас выдалю з залі суда. *(Ламаная рус.)*

*** ...“грамадзка небясьпечным элементам, які ў пазамінулым годзе зрабіў аналагічнае злачынства ў горадзе Вільні і ня быў асуджаны па артыкуле па прычыне непаўналецьця. З шаснаццаці гадоў падсудны знаходзіўся на ўліку ў міліцыі з прычыны вырабу вогняпальнай зброі і рабленьня стральбы па людзях” *(Ламаная рус.)*

**** агіднай зьяве *(Рус.)*

-- Гражданка Пуцюль, вы удаляецесь из зала суда. Милицыя, прашу удалиць*, -- строга адчаканіў суддзя.
-- Што "ўдаліць"? Я матка майго сына. Маю права. Гэта не справядліва. Тры гады турмы, строгі рэжым! Дзе ваша сэрца!?

Малады міліцыянерык нерашуча таптаўся каля дзябёлай Бэлтушкі, просячы яе пакінуць залю. Тут падбягае другі, старэйшы, сьмялейшы і хоча схапіць Бэлтушку за рукі. Бэлтушка крутнулася, міліцыянер па інэрцыі схапіў яе за грудзі.
-- Што ты мяне за цыцкі лапаеш! Ты, мяшок з сенам! Ёш тваю клёш! Я табе цапну! Жонку сваю цапай! Эйш ты яго!
-- Міліцыянеры схапілі Б**э**лтушку за рукі, а тая вырываецца. Тут Ёська ўскочыў і як зараве:
-- Вы! Пакіньце маю матку! Я зараз з вас пыл зраблю!

Суддзя, відаць, націснуў нейкую кнопку пад сталом, бо як толькі Ёська зароў, наляцела шмат міліцыянераў і акружылі яго, угаворвалі сесьці і супакоіцца. У гэтай суматосе Бэлтушка вырвалася і выскачыла з суда на плошчу. А далей пачалося нешта зусім нечаканае, пэўна, нават для самой Б**э**лтушкі.

Яна абурана азіралася па баках, тупаючы нагамі, быццам шукаючы, што тут зрабіць. А зрабіць трэба было хутка, тут і цяпер. І Б**э**лтушка пабегла па дыяганалі праз плошчу проста ў райкам партыі. Убягае і з ходу:
-- Мне да 1-га сакратара, таварыша Шпіца.

Сакратарка:
-- А па какому вапросу?**
-- Па вапросу рэлігіі як опіума для народа, -- успомніла Балтушка словы Ёські.

Сакратарка ўзьняла бровы і неяк нерашуча гладзіць на Б**э**лтушку.

-- І нямедленна!*** Проста цяпер, -- выпаліла Зося. – І не глядзіце так. Я не вар'ятка. Справа важная і сьпешная, належыць для райкама.
-- Ваша прозьвішча?
-- Пуцюль Зоф'я.
-- Вы член партыі?
-- Член партыі, -- не задумваючыся адказала Б**э**лтушка, хаця і блізка каля той "партыі" не хадзіла. – Мой сын перадавік працы, лепшы камбайнёр.

Сакратарка пайшла дакладаць, не спытаўшы нават пра партбілет Бэлтушкі. Выйшла і кажа: "Заходзьце".

Зося зайшла рашучым крокам. Узбуджэньне яе крыху суцішылася і думкі ліхаманкава круціліся ў галаве.

За сталом сядзеў чалавек гадоў пяцідзесяці ў шэрым касьцюме, сіняватай кашулі, чорным гальштуку з даволі спакойным тварам і насьцярожаным позіркам. Местачковая інтэлігенцыя пра яго жартавала: "Добра, што хоць шпіц, а не добэрман-пінчэр".
-- Слушаю вас,**** -- азваўся Шпіц.

Бэлтушка адчула, што тут шмат не пагаворыш, і пачала з ходу, як гэта яна бачыла нядаўна ў нейкім савецкім кіно.
-- Эта безабразія, -- пачала Бэлтушка па-руску ўпершыню ў жыцьці. – Мой сын, Іосіф Пуцюль, перадавік труда, лепшы камбайнёр, барэц з рэлігіяй, у аўгусьце этава года самастойна ліквідаваў рэлігійны крэст, пастаўлены яшчэ пры панскай

-----------------------------------
*   -- Грамадзянка Пуцюль, вас выдаляюць з залі суда. Міліцыя, прашу выдаліць. *(Ламаная рус.)*
** -- А па якім пытаньні? *(Рус.)*
*** --  І неадкладна! *(Ламаная рус.)*
****  -- Слухаю вас. *(Рус.)*

Польшчы. І от калі ён ліквідзіравал крэст, на яго, упатрэбляя мацерныя выражэнія, накінуўся з кулакамі мясцовы п'яніца і слуга касьцёла Фрэдзя Станчык. Што павінен быў рабіць мой сын? Чакаць, пакуль гэты опіум для народа павыбівае яму зубы? Іосіф стаў абараняцца ад удараў этава опіума і штурхнуў Фрэдзю падальшэ ад себя. Той паваліўся на камень і паламаў рэбры. І сёньня, во, ідзе суд, і майго сына, перадавіка, судзяць за тое, што быццам бы ён зьбіў гэтага опіума, патрабуюць яму тры гады турмы -- і ні слова аб благародным дзеле барбы з рэлігіяй. І цяпер палучается слугі касьцёла крэст зноў на старое месца вярнулі, а майго сына, перадавіка і барца з рэлігіяй, судзяць за тое, што слуга рэлігіі напаў на яго і сам зламаў сабе рэбры. Дзе ж справядлівасьць?! Я лічу, што гэта проці паліцікі парціі. Так мы камунізм не пастроім. – Бэлтушка гаварыла, як на духу, і сама, здаецца, верыла ў тое, што казала. – А патаму, таварыш першы сакратар райкама, я прашу вас разабрацца і спыніць гэтае безабразіе на судзе і зьдзек з савецкай уласьці.

Шпіц з цікавасьцю глядзеў на Бэлтушку.

-- Вы кем работаете?*

-- Даярка. Надойваю тры тысячы восемсот літраў малака ад кожнай фуражнай каровы.

Шпіц акругліў вочы.

-- Да?**

-- Да.

-- Вы дэпутат сельсовета?

-- Не.

-- А согласились бы?***

Бэлтушка аж вочы выпучыла ад напругі.

-- Есьлі парція прыкажэт, тагда нада.

-- Ну, партия не приказывает. Партия рэкомендует, -- паблажліва ўсьміхнуўся Шпіц. -- Значит так. Партия не вмешивается в судопроизводство. Но по линии партии я поинтересуюсь. Если есть нарушения по линии партии – примем меры, -- Шпіц падняўся з-за стала.

-- Спассибо, товарищ Пуцюль, за сигнал. До свидания, -- і праводзіў Бэлтушку да дзьвярэй. Напасьледак ужо ў дзьвярах вымавіў:

-- А насчёт депутатства подумайте.****

Шпіц быў яўна задаволены размовай. "Вот они, веяния новой эпохи, -- думаў ён. – Вот они, будущие люди построения коммунизма".***** -- Свяжите меня с сельсоветом, -- сказаў Шпіц сакратарцы, і потым па тэлефоне:

-- Говорят, там у вас хулиганы крест поломали?******

-- Ужэ восстанавили, таварыщ Шпиц,******* -- пачуўся падлыжны голас.

-- Да? И кто же это так подсуетился?********

На другім баку, відаць, адчулі нядобрае і настала замінка.

-------------------

* -- Вы кім працуеце? *(Рус.)*

** -- Так? *(Рус.)*

*** -- А ці згадзіліся б? *(Рус.)*

**** -- Ну, партыя не загадвае. Партыя раіць. (...) Значыцца так. Партыя ня ўмешваецца ў судовую вытворчасьць. Але па лініі партыі я пацікаўлюся. Калі ёсьць парушэньні па лініі партыі – прымем захады. (...) Дзякуй, таварыш Пуцюль, за сігнал. Да пабачэньня. (...) А наконт дэпутацтва падумайце. *(Рус.)*

***** "Вось яны, павевы новай эпохі. (...) Вось яны, будучыя людзі пабудовы камунізма." *(Рус.)*

****** -- Кажуць, там у вас хуліганы крыж паламалі? *(Рус.)*

******* -- Ужо аднавілі. *(Рус.)*

******** -- Так? І хто ж гэта так памітусіўся? *(Рус.)*

-- Да ваабшчэ-та гэта сами прэдставицели касьцёла и восстанавили. Мы указания не давали.*
-- А кем у вас работает Софья Путюль?**
-- Даяркай работает.
-- И как работает?
-- Атлична работает. Испалницельны и надзёжны работник.
-- Её сын комбайнёр?
-- Так, камбайнёр. Работает первый год. Перэвыполнил норму.**

Праз нейкі час Шпіц гэтак стомлена набірае па тэлефоне пракурора раёна:
-- Товарищ Пашкин?***
-- Да, Семён Яковлевич.
-- У вас процесс?
-- Да, сейчас перерыв.
-- Пожалуйста, свяжитесь с Цыдулкой. Надо временно отложить судебное заседание. И завтра в 10.00 вы ко мне с докладом о положении дел.*** -- І паклаў слухаўку.

Шпіц ганарыўся сабой і з задавальненьнем прайшоўся па кабінеце, пазіраючы ў вакно на местачковую плошчу.

Пасьля нарады ў Шпіца суд усё ж такі адбыўся. “Кроме статей Уголовного Кодекса есть еще политика партии в антирелигиозной пропаганде, и забывать об этом не следует, товарищи”,**** -- адчаканіў Шпіц на нарадзе. Даць у тыл ён ня мог. Мундзір не дазваляў. Але Ёську нечакана пашанцавала. (Хаця чаму “нечакана”? А Зося?) Адкуль што ўзялося. Яму далі адзін год умоўна. Бэлтушка радуецца і пра Шпіца маўчыць, як вады ў рот набраўшы.

Праз два тыдні яна ўжо праводзіла Ёську ў войска.
-- Юзічак, будзь разумны, сынок, не задзірайся з начальствам і не забывайся, што ты дужы і таму ня біся ні з кім, бо пасадзяць. А ты ж мой адзіны сын, і абароны ў мяне няма.
-- Я сам сябе абараню, -- упэўнена кажа Ёська. – От бачыш, гэты Фрэдзя і сеў дробным макам. А думаў, што я за ягоны сьвінны лыч у турму пайду. Аж не.
-- Гэта нас Бог зьбярог, -- кажа Бэлтушка. – Сынок, просьба мая адна: ня йдзі проці Бога, лепш памаўчы, але не выступай. Пасталееш – усё зразумееш. Паслухай матку. Мы людзі простыя.
-- Ну і добра, што не крывыя, -- целяпае языком Ёська. – Але я ім усім пакажу. От паглядзіш, мама, я буду вялікім начальнікам. Хоць дзяржавай кіраваць, хоць усім сьветам. Маю пэўнасьць і маю сілу. Во, глядзі.

---------------------------------
* -- Ды ўвогуле гэта самы прадстаўнікі касьцёла і аднавілі. Мы ўказаньня не давалі. *(Ламаная рус.)*

** -- А кім у вас працуе Зоф’я Пуцюль? *(Рус.)*
-- Даяркай працуе.
-- І як працуе?
-- Выдатна працуе. Выканаўчы і надзейны працаўнік. *(Ламаная рус.)*
-- Яе сын камбайнёр?
-- Так, камбайнёр. Працуе першы год. Перавыканаў норму. *(Ламаная рус.)*

*** -- Таварыш Пашкін?
-- Так, Сямён Якаўлевіч.
-- У вас працэс?
-- Так. Цяпер перапынак.
-- Калі ласка, зьвяжыцеся з Цыдулкай. Трэба часова адкласьці судовае паседжаньне. І заўтра ў 10.00 вы да мяне з дакладам аб становішчы справаў. *(Рус.)*

**** -- Акрамя артыкулаў Крымінальнага Кодэксу ёсьць яшчэ палітыка партыі ў антырэлігійнай прапагандзе, і забывацца пра тое ня варта, таварышы. *(Рус.)*

Ёська ўзяў кавалак тоўстага рыфлёнага прута ад арматуры і пачаў гнуць. Аж жылы на шыі і на ілбе выскачылі і чырвоны стаў, але прут сагнуў, як гуму. А Бэлтушка і кажа:
-- Го-о, Юзянька, каб стаць начальнікам, трэба не рукамі, а галоўкай думачкі гнуць.
-- Але кажуць жа, што калі сіла ёсьць, то розуму і ня трэба.
-- Дык гэта ж дурням ня трэба, а разумным трэба, -- кажа Бэлтушка. – Будзь разумным, нікога ня бі.
-- От паглядзіш, мама, праз тры гады вярнуся з войска, і ты мяне не пазнаеш. Маю планы. Яны яшчэ мне будуць боты чысьціць.
-- Хто “яны”?
-- Ды ўсе, -- рагоча Ёська. – Будуць грошы ды начальства, дык розум і купіць можна.

* * *

Служыў Ёська недзе пад Масквой у матарызаваных войсках. Пісаў рэдка і ўсё па-руску. “Я, мамаша, ужэ не тот, -- бывала напіша, -- многому научылся”.*

Два разы на пабыўку прыязджаў. Дык у парадней форме выйдзе на мястэчка, белы падкаўнерык, сам увесь адпрасаваны, адэкалонам абпырсканы, падстрыжаныя скронькі і гэтак па ходніку йдзе. А тут дзяўчаты насустрач.
-- Ну, как дзевушки, у вас дзела?** -- кажа Ёська, усьміхаючыся.
-- А во, Ёська! Ну, цябе не пазнаць! Такім кавалерам стаў.
-- Да, ўрэмя лецит, всё меняется. Я, между прочым, ужэ не Ёська, а Иосиф, дзевушки. Это в школе мы так как та,*** -- бывала адкажа Ёська.

І вось недзе ў канцы 1961-га Ёська вяртаецца. Бэлтушцы калгас нават бартавы грузавік выдзеліў на станцыю, каб забраць сына.

Сядзелі за сталом, дзядзькі прышлі, Касьцельскіх запрасілі (але Ваньдзя не пайшла). Ёську было не пазнаць. Такі культурны стаў. Усё “мамаша” ды “Франц Вікенцьевіч” (да Касьцецкага). Расказваў, у якіх “учэниях” ён удзельнічаў, як быў на вайсковым парадзе ў Маскве на Краснай плошчы, як выглядаў Хрушчаў на трыбуне маўзалея.

Бэлтушка была на сёмым небе ад шчасьця. Хаця настрой за сталом быў нейкі чамусьці напружаны і нават прыгнечаны, нават невясёлы, быццам тут сядзеў ня свой дурнаваты Ёська, а нейкі чужы чалавек. Ну, але ж, ведама, з дарогі.
-- Дык што ж, Юзянька, будзеш рабіць? – пытае праз нейкі час Бэлтушка.
-- Да вот пака і не знаю, -- кажа Ёська. – Я ведзь, мамаша, будучи в армии, в партию уступил. Камандавание рэкамендавала. Думаю, можэт заняться камсамольскай работай, што ли?****

Бэлтушка, пачуўшы пра партыю, добра такі зьбянтэжылася.
-- Куды ты ўлез, Юзянька? Цябе ж заб’юць!
-- Хто гэта мяне заб’е?
-- Ды свае заб’юць.
-- Бросьце, мамаша, жыць врэменамі Адама и Евы, -- высакапарна выказаўся Ёська. -- Врэмена изменились. Вот камунизм строим. Все есць. Нас уважают и баятся.*****

-----------------------------------
* “Я, матуля, ужо ня той, шмат чаму навучыўся.” *(Ламаная рус.)*
** -- Ну, як, дзяўчаты, у вас справы? *(Ламаная рус.)*
*** -- Так, час бяжыць, усё мяняецца. Я, між іншым, ужо ня Ёська, а Іосіф, дзяўчаты. Гэта ў школе мы так неяк. *(Ламаная рус.)*
**** -- Дык вось пакуль што й ня ведаю. Я ж, мамуля, будучы ў войску, у партыю ўступіў. Камандаваньне рэкамендавала. Думаю, можа заняцца камсамольскай працай, ці што? *(Ламаная рус.)*
***** -- Кіньце, мамуля, жыць часамі Адама і Евы.(...) -- Час зьмяніўся. Вось камунізм будуем. Усё ёсьць. Нас паважаюць і баяцца. *(Ламаная рус.)*

-- Хто нас баіцца, Юзянька, што ты кажаш? Во, соткі абрэзалі, а ў мінулым годзе сьвінчо забралі, бо трымала двух.
-- Я не а том, мамаша. Я о нашэй стране. К 1980 году будзет пастроена камунисьцичэскае обшчэство.*
-- Можа, і “пастрояць”, толькі перш хай парсюка аддадуць, -- настойвала Бэлтушка.
-- Эх, мамаша, многова вы не понимае,** -- сказаў Ёська.

Праз пару дзён, у нядзельку, седзячы за сталом, Бэлтушка пачала важную для яе гаворку.
-- Што я табе скажу, Юзянька. Ты ўжо мужчына, войска адслужыў, то трэба неяк і пра сваё шчасьце падумаць.
-- Эта как?***
-- Ну, вось Ваньдзя Касьцецкая. Памірыўся б і ажаніўся. А дзеўка, я табе скажу, -- лепшай ня знойдзеш.
-- Гм-м, -- хмыкнуў Ёська, -- бярыце вышэ, мамаша. Пашто мне гэтая Ваньдзя? Што мне зь ёй рабіць?
-- Як, што? Жыць, дзетак гадаваць, радавацца жыцьцю.
-- Ну, мамаша. Дайце асматрэцься. Я жэнюсь так, што вы ахнеце.****
-- Фэ, -- кажа Бэлтушка, -- так пра матку сказаць. Саромся!
-- А што, а што я сказаў? – запярэчыў Ёська. Тут благия намерения и толька.*****
-- Дык вось, ня май благіх намераў, а май добрыя. А то ў цябе ўжо, відаць, нешта ў галаве паехала ад чужога розуму.

Бэлтушка пачынала злавацца, бо як Ёська культурным з войска прыйшоў, дык нешта ніякая размова ня клеіцца.

* * *

Доўгі час Ёська не шукаў працы, хадзіў, прыглядаўся. Бывала ў кіно на вячэрні сеанс прыйдзе, а па сканчэньні фільма кажа маладым:
-- Нада бы после кино хацябы танцы арганизаваць, иба грустна как-та.******
-- Дык вось вазьмі, Ёська, і арганізуй, -- сьмяюцца дзяўчаты.
-- Ну, Иосиф все можэт, дзевушки, -- салідна кажа Ёська, трымаючы руку ў кішэні і дрыгаючы нагой. – Будут вам танцы.*******

У Доме культуры быў штатны гарманіст. Але нядаўна “адзінку” “скарацілі”, і Стасюль Вінчурчык (якога “скарацілі”) хацеў граў, хацеў ня граў.

На наступны дзень Ёська ўгаварыў Вінчурчыка (бацьку празьвішчавалі “Вінчур”) паіграць, і танцы адбыліся. Потым Ёська паехаў у раённы Дом культуры і прывёз адтуль зламаны прайгравальнік, які яму той жа Стасюль Вінчурчык (майстра на ўсе рукі) і адрамантаваў. Ёська раздабыў кружэлак (у тых, хто меў патэфон), дамовіўся з кінамеханікам і праз узмацняльнік пусьціў на кінадынамікі гук. Як уключыў “Ціху воду”, то заля загрымела. А чым ня танцы! Дзеўкі былі радыя і ўсе: “О, Ёська, о, Ёська!”

----------------------------------

* -- Я не пра гэта, мамуля. Я пра нашу краіну. Да 1980 года будзе пабудавана камуністычнае грамадзтва. *(Ламаная рус.)*

** -- Эх, мамуля, шмат чаго вы не разумееце. *(Ламаная рус.)*

*** -- Гэта як? *(Ламаная рус.)*

**** -- Ну, матуля. Дайце агледзецца. Я жанюся так, што вы войкніце. *(Ламаная рус.)*

***** -- Тут добрыя намеры і толькі. (*Ламаны рус. У абодвух выпадках непаразуменьні, зьвязаныя зь няправільным разуменьнем Бэлтушкай расейскіх слоў. – Аўт.)*

****** -- Трэба б было пасьля кіно хацяб танцы арганізаваць, бо сумна неяк. *(Ламаная рус.)*

******* -- Ну, Іосіф усё можа, дзяўчаты. (...) Будуць вам танцы. *(Ламаная рус.)*

-- Я жэ сказал: Иосиф можэт все, -- падсумаваў іхнюю радасьць Ёська. -- Нада, дзевушки, нам камсамол паднимаць.*
-- Каму ён патрэбны, твой камсамол? – кажа нехта.
Дзяўчаты пахіхікалі і прыціхлі ад такой сьмеласьці.
-- Ну, как жэ, камунизм строим. Вы жэ слышали: “Камунизм – это моладасьць мира, и его вазвадзиць маладым”**, -- працытаваў Ёська лозунг, што вісеў у залі.
-- Калі б ты сказаў, Ёська, што яго “вазвадзіць” разумным, то можа і пагадзіліся б, а як толькі маладым, то дзякуй, дурняў у нас хапае, -- жарцікам адбрыкнула Ваньдзя.
Дзеўкі зарагаталі, а зь Ёські, як з гусі вада:
-- Всё вперэдзи, дзевушки. Пры Сталине, знаеце, што за гэта магло быць, а сейчас вот шуцим, смеёмся.***
-- О-о, ты, Ёська, так разумна гаварыць стаў, як з войска вярнуўся, -- устаўляе Гэльця Багдзюлішка, -- пэўна, ці ні камунізм будаваць сабраўся.
-- Ну, а вот сабрались и потанцэвали, -- кажа Ёська. – А в следуюшчый раз можэм маёвку устроиць на берэгу рэки, и музыку, и танцы, и сарэвнавания.****
-- Мы за, мы за! – усклікаюць дзяўчаты.
-- Вот вам и камунизм, общэе дзела,***** -- павучае Ёська.
Тут Ёська разьвіў дзейнасьць. Знайшоў Таню Самохіну, якая лічылася сакратаром камсамольскай арганізацыі калгаса. Галоўная задача яе была сабраць “узносы” па дзьве капейкі з пяці членаў арганізацыі (чатыры дзяўчыны і адзін хлапец – усе дзеці настаўнікаў) і напісаць справаздачу ў раён пра камсамольскі сход (які звычайна не праводзілі).
-- Таня, ёсьць идзея, -- кажа Ёська, і расказаў ёй пра сваю задумку арганізаваць камсамольскую маёўку з музыкай, танцамі, спаборніцтвамі, і нават буфетам, дзе будуць цукеркі і сітро. Камсамолец Вова ўвесь час маўчаў і толькі шморгаў носам. Ніякай рэакцыі. Але дзяўчаты захапіліся, і справа паехала. Дамовіліся з гарманістам. Дзяўчаты падрыхтавалі вершы і песьні і запрасілі сьпевакоў з касьцельнага хору, каб пасьпявалі народныя песьні. Ёська (не дарма казалі, што паразумнеў) схадзіў у партарганізацыю, папрасіў садзеяньня, потым пайшоў у сельсавет і папрасіў дазволу на маёўку. Затым зайшоў яшчэ ў сельпо і дамовіўся, што буфет будзе. Таксама Ёська дамовіўся з фізруком школы пра спаборніцтвы.
Фізрук, мясцовы татарын Асмаловіч, вырашыў усё хутка і арыгінальна. Арганізаваў пару старшакласьнікаў, узялі ліст дзесяцімілемэтровай фанеры пад расьпіску ў школьнага заўгаса, прыбілі на хвойку і прыкруцілі баскетбольнае колца з сеткай. Спаборніцтвы ўзяўся праводзіць сам Асмаловіч. Хто больш трапіць з дзесяці разоў за тры падыходы – таму ўзнагарода 1-я, 2-я і 3-я.
А перад маёўкай Ёська зьезьдзіў у райкам партыі з прапановай зрабіць велапрабег раварыстаў у гонар XXII зьезду КПСС і між іншым расказаў пра падрыхтоўку маёўкі. У райкаме зацікавіліся, асабліва сакратарка, якая пра ўсё дакладала Шпіцу. У выніку пытаньне аб велапрабегу “будут рассматривать на бюро райкома”,****** а пра маёўку Шпіц “принял к сведению”.*******

-------------------------------------
* -- Я ж сказаў: Іосіф можа ўсё. (...) Трэба, дзяўчаты, нам камсамол падымаць. *(Ламаная рус.)*
** -- Ну, як жа, камунізм будуем. Вы ж чулі: “Камунізм – гэта маладосьць сьвету, і яго будаваць маладым”. *(Ламаная рус.)*
*** -- Усё наперадзе, дзяўчаты. Пры Сталіне, ведаеце, што за гэта магло быць, а цяпер вось жартуем, сьмяемся. *(Ламаная рус.)*
**** -- Ну, а вось сабраліся і патанцавалі. А ў наступны раз можам маёўку зладзіць на беразе ракі, і музыку, і танцы, і спаборніцтвы. *(Ламаная рус.)*
***** -- Вось вам і камунізм, агульная справа. *(Ламаная рус.)*
****** “будуць разглядаць на бюро райкама” *(рус.)*
******* “прыняў да ведама” *(рус.)*

Маёўка, аднак, прайшла без асаблівага энтузіязму. Але героем яе стаўся Ёська (ён жа Юзік Гарох, ён жа Иосиф). А справа павярнулася так, што пасьля баскетбола – цаляньня мячом у колца – Ёська аб'явіў, што “следуюшчым номерам нашэй праграмы будзет силавое воздзействие на прэдметы, иба, -- сказаў Ёська, -- в чэлавеке далжно быць всё харашо”.*

Ёська распрасьцёр на траве посьцілку і паставіў на ёй гіры, якія ён па дамоўленасьці з кладаўшчыком і з сакратаром партбюро прывёз заранёў на калгасным “газіку”. Побач Ёська паставіў табурэтку і расклаў нарэзкі будаўнічай арматуры рознай таўшчыні. Задача была падымаць гіры і згінаць арматуру.

Гіры паднялі ўсе, бо цяжкіх у кладаўшчыка не аказалася. А вось калі дайшлі да прутоў, то тут толькі Антось Шарыч самы тонкі прут крыху сагнуў. А за астатнія ніхто і брацца не захацеў. Тады Ёська спакойна гэтак усе пруты пазгінаў і на посьцілку кінуў пад зьдзіўлены гул мужчынскай паловы зборкі.

На дзяўчат гэтая Ёськава сіла асаблівага ўражаньня не зрабіла, толькі пасьмейваліся. Але на падлеткаў, якія тут круціліся, гэта паўплывала моцна. Глядзелі на Ёську, як на легендарнага чалавека. А калі на заканчэньне Ёська ўзяў падкову і, напружыўшыся, траха ня лопнуў, разагнуў яе, то спачатку запанавала ціша. А потым: “У-у-у-у, го-о-о-х-х-х-х”, -- як карова ўздыхнула, так натоўп выгукнуў ад нечаканасьці і зьдзіўленьня.

Збольшага пад канец крыху раскруціліся, асабліва калі Стасюль расьцягнуў акардэон і ўрэзаў польку-тармазуху. Танцавалі, аж пыл курэў. Словам, Ёська аказаўся тут у цэнтры ўвагі, ініцыятарам і арганізатарам. Пра яго пачалі гаварыць нават у раёне: “Оживил работу комсамольской организации”. Імпэту паддавала яшчэ навіна, што рукамі падкову разагнуў.

Калі паведамілі Шпіцу, той кажа: “Нам надо думать о кадрах, товарищи,”** -- і загадаў, каб Ёську выклікалі ў райкам “для беседы”. “Бяседу” вёў трэці сакратар па ідэалогіі, які выпытаў у Ёські ўсё, што хацеў, і даклаў Шпіцу. Даклад быў станоўчы, але... Было адно “але”. У барацьбе з рэлігіяй зьбіў рэлігійнага фанатыка і быў умоўна асуджаны на адзін год.

І тут Шпіц: “А не тот ли это самый?..”*** Аказалася, што “тот”. Шпіц лічыў сябе перадавым камуністам-ленінцам, без бюракратычных фармальнасьцяў і з творчым падыходам да партыйных кадраў. Партыя патрабавала сьмялей выстаўляць маладых.

Ёську прапанавалі пасаду інструктара райкама партыі па справах моладзі, адукацыі, культуры і антырэлігійнай прапаганды, нягледзячы нават на тое, што ў яго не было закончанай сярэдняй адукацыі. Праўда, гэта была самая нізкая пасада ў сістэме партгіерархіі. Ніжэй ужо не было, хіба што прыбіральшчыца. “Таланты надо продвигать”, -- казаў Шпіц. – Образование продолжит в вечерней школе”.****

Ёська паехаў у раён, зьняў кватэру, спраўна хадзіў на працу, быў “на падхваце”. Зразумеў, што трэба рабіць тое, што скажуць, і ісьці, куды пашлюць. Вучоба давалася цяжка. Ёська нават табліцу множаньня ня ведаў. Але неяк праз пень-калоду зрабілі яму дзесяць класаў і выдалі атэстат аб сярэдняй адукацыі.

Тут Ёська і галаву падняў. Адчыніліся гарызонты. Бывала прыедзе ў мястэчка ў касьцюмчыку колеру марской хвалі, па ходніку пройдзе, у сельмаг зойдзе, паазіраецца навокал:

-------------------------------------

* “наступным нумарам нашай праграмы будзе сілавое ўзьдзеяньне на прадметы, бо (...) у чалавеку павінна быць усё добра”. *(Ламаная рус.)*

** “Нам трэба думаць пра кадры, таварышы.” *(Рус.)*

*** “А ці ня той гэта самы?..” *(Рус.)*

**** “Таленты трэба прасоўваць (...) Адукацыю працягне ў вячэрняй школе.” *(Рус.)*

-- Ну, как тут у вас? Все в порядке?*
-- У парадке, -- адказвае прадавачка і пасьміхаецца.

І Б**э**лтушка паважнела. Бывала, дзе зьявіцца, то ўсё больш маўчыць з незалежным выглядам. Паходка яе стала павольнай. Пройдзе каля Касьцецкіх (а яны ў гародзе корпаюцца), то бывае і галавы не паверне.

-- Глядзіце, во, нешта Б**э**лтушка ўжо бяз хвігі не да носу, -- кажа Лёня. – Гэта яе дурня-байструка ў раён у партыю ўзялі, дык яна думае, што начальствам стала.

А Ёська складаў планы. Яму прыйшла ў галаву думка пабудаваць камунізм у адным, асобна ўзятым калгасе. Як гэта зрабіць, ён ня ведаў, але ўзяўся б за такую справу, калі б дазволілі. І таму вырашыў дакласьці пра ідэю 1-му сакратару райкама Шпіцу. Шпіц паслухаў і задумаўся, узіраючыся на Ёську.

-- Я бы взялся, -- кажа Ёська, -- чувствую непрэадалимае жэлание служыць парции.**
-- А знаете, в этом что-то есть,*** -- казаў потым Шпіц на бюро райкама.

І вырашылі паслаць Ёську вучыцца ў Менскую Вышэйшую Партыйную школу (ВПШ), дзе навучалі, як казаў бывала ў лазьні пасьля піва член бюро райкама “гэты цынік” суддзя Цыдулка, -- “усех дубов”.

Ёська, пачуўшы пра ВПШ, моцна ўсхваляваўся. Ён ведаў, што ні ў чым такім “вучоным” не разьбіраецца, а там жа навука, марксізм-ленінізм, навуковы камунізм. Аднак імпэт і жаданьне стаць начальствам прымусіла яго паверыць у свой геній.

Ёська паехаў у Менск з рэкамендацыяй бюро райкама. Там зь ім пагаварылі, спыталі пра надоі малака па раёну, хто такі Фідэль Кастра і што ён думае пра электрафікацыю.

Ёська адказваў, як рэпу грыз. Пра надоі (матка ж даярка) усё ведаў. Пра Кастра – дык жа Ёська тэлевізар глядзеў. Ну, як ня ведаць. Кожны дзень пра Кубу гаварылі. Наконт электрафікацыі, праўда, разьбіраўся слаба, дакладней, -- не разьбіраўся, але электраправодку ў матчынай хаце мог сам рамантаваць. Тут Ёська ўспомніў лёзунг, што вісеў на на сьцяне ў Доме культуры, і выпаліў: “Камунизм – эта савесткая ўласьць плюс электрафікацыя ўсей страны”.****

“Прафэсура” заусьміхалася і заківала галовамі.

-- А чьи эта слава?***** -- не сунімаўся адзін жыўчык.
-- Леніна, -- кажа Ёська.
-- Ну, а что вы скажете об успехах советской науки в завоевании Космоса?******
-- Нашы касьмичэские карабли баразьдзят Усяленную,******* -- паўтарыў Ёська тэлевізар.
-- А конкретнее?
-- А канкрэтна, как в песне паётся, -- ня злазіць Ёська з тэлевізара. – “Да самай далёкай планеты не так уж, друзья, далеко”.

“Прафэсура” зноў усьміхнулася.

-- Каво из саветских касманавтав вы знаеце?********
-- Германа Цітова і Аляксея Гагарына, -- упарта трымаецца Ёська за тэлевізар.

------------------------------------------
* -- Ну, як тут у вас? Усё ў парадку? *(Ламаная рус.)*
** -- Я б узяўся, (...) адчуваю непераадольнае жаданьне служыць партыі. *(Ламаная рус.)*
*** -- А ведаеце, у гэтым нешта ёсьць. (Рус.)
**** “Камунізм – гэта савецкая ўлада плюс электрафікацыя ўсёй краіны.” *(Ламаная рус.)*
***** -- А чые гэта словы? *(Ламаная рус.)*
****** -- Ну, а што вы скажыце аб посьпехах савецкай навукі ў заваяваньні Космаса? *(Рус.)*
******* -- Нашыя касьмічныя караблі баразнуюць Сусьвет. *(Ламаная рус.)*
******** -- Каго з савецкіх касманаўтаў вы ведаеце? *(Ламаная рус.)*

-- А разве есць такой касманавт, Аляксей Гагарын?* -- не сунімаецца жыўчык.
-- Есьць, -- кажа насьцярожана Ёська.
-- Так он жэ Юрый! Юрый Алексеевич.
-- Ну, дык я ж і кажу: Аляксеевіч. – Ад хваляваньня ў Ёські раптам прарэзалася беларуская мова.
-- Какими языками вы владзееце?** -- падазрона пытае жыўчык.

Тут Ёська ўспомніў зампаліта маёра Івана Проніна, які паўтараў на кожных вайсковых занятках, спапяляючы поглядам узбэка Файзулу Ішантураева: “Каждый советский человек должен владеть великим русским языком – языком будущего всего человечества. При коммунизме будет один общечеловеческий язык, друзья, и зарубите это себе на носу”.***

Ёська то разумны, -- “зарубіў” адразу, а Файзула – ні ў зуб нагой.
-- Азия, чурка, что с них взять, “бишбармак кушать будем”?**** – казалі “друзья” з Масквы.

Вось тут Ёська маёра Проніна і выклаў па поўнай праграме.
-- Достаточно, -- сказаў тып, які ўвесь час маўчаў. – Думаю, что испытуемый показал вполне удовлетворительные и правильные знания, особенно учитывая рекомендацию бюро райкома партии.*****

Так Ёська стаў навучэнцам ВПШ на катэдры партыйнага і савецкага будаўніцтва з асабліва высокай стыпендыяй (захаваньнем аклада інструктара), спэцыяльным жыльлём і спэцыяльнай адукацыяй.

Вучэньне ў ВПШ было самым цяжкім мытарствам, якога Ёська паспрабаваў за сваё кароткае жыцьцё. Цяжэй было хіба што толькі ў школе, дзе яго часта настаўнікі за непаслушэнства ставілі ў кут і называлі балваном, ломам і гультаём. Ох, як узьненавідзеў Ёська тады тую школу і ўсіх настаўнікаў. І пісталеты пачаў рабіць, выношваючы думку ўсіх застрэліць. У ВПШ не абзываліся і ў кут ня ставілі, але ўвесь час Ёська ня ведаў, што казаць на іспытах. Чытаў-чытаў – і нічога не разумеў. І бывала таварыш выкладчык гэтак грэбліва ўздыхне і ставіць “тройку”, абы збавіцца ад Ёські.

Добра толькі, што Ёська такі быў не адзін. Неяк сукурсьнік (такі Косьцік Гародзь з-пад Глуску, старшыня калгаса і камуніст, ужо ў гадах) выпіваючы зь Ёсікам з нагоды гадавіны “кастрычніцкай рэвалюцыі”, разгаварыўся і адкрыў душу.
-- Слухай, Іосіф, -- кажа, -- ты верыш, што Зямля круглая? Па-мойму, тут нешта ня так. От некалі я шафёрам працаваў. Бывала, з Гомеля ў Менск еду і ўвесь час на газ цісну. Потым назад зь Менску еду і таксама на газ цісну. А калі б Зямля была круглая, то зь Менску я павінен быў бы сам каціцца.

Ёська задумаўся.
-- Ці во, пішуць: Сонца большае за Зямлю. Слухайце, вы што? Расплюшчце вочы і зірніце ўгару. Усё ж відаць, якое малое Сонца і якая вялікая Зямля. Я, ведаеш, здаўна так думаю, яшчэ ў школе зразумеў. Але маўчу. Навошта мне клопат, каб

----------------------------------------
* -- А хіба ёсьць такі касманаўт, Аляксей Гагарын? *(Ламаная рус.)*

** -- Якімі мовамі вы валодаеце? *(Ламаная рус.)*

*** “Кожны савецкі чалавек павінен валодаць вялікай рускай мовай – мовай будучага ўсяго чалавецтва. Пры камунізме будзе адна агульначалавечая мова, сябры, і зарубіце гэта сабе на носе.” *(Рус.)*

**** -- Азія, чурка, што зь іх узяць, “бішбармак есьці будзем”? *(Рус.)*

***** -- Дастаткова. (...) Думаю, што спаборнік паказаў цалкам здавальняючыя і правільныя веды, асабліва ўлічваючы рэкамендацыю бюро райкама партыі. *(Рус.)*

яшчэ галава балела. Мне, брат, з калгасам нявыкрутка. Камбікармоў ня выдзеляць – і ўсё. Я ўніз паехаў.

Тут падышоў іншы сукурсьнік Ёські Рафал Рубайла і кажа:

-- Правільна, Косьцік. Ты толькі нікому не кажы, што Зямля ня круглая, а то нічога не дадуць, -- і ставіць пляшку на стол. – Свая, хлопцы, збажовая, сьвента вода,* давайце – за камунізм. Як кажуць, каму – “нізм”, а каму і – “верхм”, -- рагатаў Рубайла.

Косьцік Гародзь вучыўся ў ВПШ завочна, каб мець пэрспэктывы. Калгас – гэта сёньня так, а заўтра – гэтак. Гародзь увогуле на ўсё глядзеў па-свойму і зь нікім надта пра тое не размаўляў, а тут вось нечакана разгаварыўся. Гарэлка ў галаву дала, ці што?

-- Я ўвогуле, ведаеш, Іосіф, прынцыпова ніякіх кніг, ніякай гэтай літаратуры не чытаю, -- працягвае Гародзь, бо ўсё хлусьня.

-- Як гэта?

-- Ну, вось, скажам, ты чытаеш нейкую кніжку. Там пішуць пра такога і гэтакага, які рабіў так і гэтак, казаў тое і сёе. Але ж гэта ўсё выдумка, няпраўда. Такога не было ўвогуле. Пісьменьнік сам усё прыдумаў. Дык калі тое няпраўда, то што? А тое, што гэта хлусьня, от што.

Ёська зноў задумаўся. Сам ён кніжак не чытаў, але проста так, бо не любіў чытаць. А тут Гародзь, чалавек старэйшы, такое кажа. Выходзіць, добра Ёська і рабіў, што не чытаў.

Тым часам Рубайла слухаў шчырасьці Косьціка ды пасьміхаўся сабе ў кілішак. Рубайла быў вельмі кампанейскі дзядзька, чалавек па камплекцыі нават не “шафа”, а “гара”. Акрамя вясёлага жывога характару і гумару меў яшчэ дзьве асаблівыя якасьці. Выдатна разьбіраўся ў сельскай гаспадарцы, любіў пагаварыць пра зямлю. І другое – быў фэнамэнальны выпівальшчык, якога ніколі ня бачылі п’яным. Мог усадзіць у сябе паўлітэрку саракаградуснай гарэлкі і пайсьці, як ні ў чым ні бывала. Прытым сядаў за руль і ехаў хоць бы што, ніякая міліцыя не падазравала. Быў, як “шкельца”.

Праўда, аднойчы Рубайла канфузьліва прагарэў на экзамене так, што зь яго доўга сьмяяліся. А было так. На экзамене задаюць Рубайлу пытаньне: “А чем Советский Союз торгует с Индией, что импортирует?”** Рубайлу замуравала. Ні слова ня кажа.

-- Ну, вспомните. Ну, что вы всегда пьете по утрам? – падказвае экзаменатар. Маўчаньне.

-- Ну, вот, сегодня понедельник, вы встаете и ...***

-- Няўжо расол завозяць? – выгукнуў ад душы зьдзіўлены Рубайла.

Яшчэ адным знаёмцам Ёські быў сябра Рубайлы, такі Раман Шляхта зь Віцебска, ці “Рамук”, як называў яго Рубайла. Гэты Шляхта – супрацьлегласьць Рубайлу – інтэлектуал з манерамі амэрыканца ў кіно (як гэта Ёська сабе ўяўляў) і ўвогуле нейкі завоблачны тып, зь Ёськам мала гаварыў, больш з Рубайлам, ды яшчэ й па-беларуску. Ёська яго недалюбліваў. Нейкі ён быў яму незразумелы.

Быў таксама такі Панасюк з Кобрыня, зь якім Ёська зблізіўся хутчэй на падставе агульнага няведаньня, чым нейкіх інтарэсаў. Панасюк перад экзаменамі вечна нечага не разумеў. Бывала, пытаў у Ёські, але той таксама не разумеў. Дык яны гэтак і прыхіліліся.

-------------------------------

* сьвятая вада *(польск.)*

** “А чым Савецкі Саюз гандлюе з Індыяй, што імпартуе?” *(Рус.)*

*** -- Ну, успомніце. Ну што вы п’яце на раніцы? (...) Ну, вось сёньня панядзелак, вы прачынаецеся і … *(Рус.)*

Але неяк усё рухалася, ехала наперад, мадзела, нікога ня выгналі, ніхто не пацярпеў.

І вось аднойчы Ёська зноў уліп у гісторыю. Неяк на лекцыі па “коммунистическом воспитании трудящихся”* выкладчык кажа слухачам: ”Усе мусіце пабываць у тэатры. Гэта вам хатняе заданьне. Партыя рэкамендуе спэктакль “Лявоніха на арбіце”.

Пайшлі Ёська, Рубайла, Шляхта і Панасюк. (Гародзь адмовіўся, бо “ўсё хлусьня”.) Парагаталі ўволю, палізалі марожанага ў антракце (нават Рубайла лізнуў). Тэатр ім спадабаўся.

-- І гляньце, -- кажа Раман Шляхта, калі ішлі дадому, -- якая прыгожая наша беларуская мова.

Усе згодна заківалі галовамі. А Ёська тут і кажа, успамінаючы зампаліта Проніна:

-- Дзела не в языке, а в содержании.**

-- А “садзержаніе” ў чым?

-- Как в чым?

-- “Садзержаніе” ў “языке”. Няма “языка”, гэта значыць, мовы, няма і “садзержанія”, -- гудзіць Рубайла.

Ёську асэнсаваць гэта было складана. І ён зноў працытаваў маёра Проніна: “Нада сматрэць упярод, а не назад”.***

-- А “упярод” – гэта куды? – пытае Шляхта.

-- Упярод – гэта ў камунізм, -- сур’ёзна кажа Ёська. – А ў камунізме обшчэчалавечэскій язык.****

-- Дык камунізм жа пачнецца скора. Хрушчоў сказаў у 1980 годзе. А дзе “язык”?

-- Чэлавечэства вырабатает.*****

-- За шаснаццаць гадоў?

-- Вырабатает, -- упэўнена кажа Ёська, -- можэт ужэ саздали, а мы не знаем. Не сразу Масква строилась.******

-- Я вам так скажу, хлопцы, -- працягвае Шляхта, -- не паўтарайце глупства. Камунізма праз шаснаццаць гадоў ня будзе. Чаму? Таму што есьці ня будзе чаго. І Хрушчова ня стане.

-- Но эта жэ прэдацельства.*******

-- Каго? Хрушчова?

-- Камунізма.

-- Хрушчова пагоняць, і камунізм скончыцца.

-- “Садзержаніе” ў “языку”, -- гне сваю лінію Рубайла.

У галаве Ёські пачало ўсё пераварочвацца: “Аказваецца, ім (невядома толькі, што думае Панасюк) гэты камунізм да лямпачкі. Вось яно што! Вось куды пайшло,” -- мяркуе сабе Ёська.

-- Мы так камунізм не пастроим, таварышчы, -- кажа Ёська. – Цем более з

---------------------------------

* “камуністычным выхаваньні працоўных” *(рус.)*

** -- Справа ня ў мове, а ў зьмесьце. *(Ламаная рус.)*

*** “Трэба глядзець наперад, а не ў тыл”. *(Ламаная рус.)*

**** -- А ў камунізме агульначалавечая мова. *(Ламаная рус.)*

***** -- Чалавецтва выпрацуе. *(Ламаная рус.)*

****** -- Выпрацуе, (...) можа ўжо стварылі, а мы ня ведаем. Не адразу Масква будавалася. *(Ламаная рус.)*

******* -- Але ж гэта здрадніцтва. *(Ламаная рус.)*

нацысцкими идзеями о языке. Руский язык велик и магуч. Эта ешчо Ленин гаварыл.*
-- Гэта якія яшчэ нацысцкія ідэі? Што вы тут гаворыце, “юнаша”? Вы хоць разумееце, што кажаце? – абураецца Шляхта.
-- Ведаю, што кажу. Такие нацысты родзину прэдавали. На беларускам языке немецкие палицаи разгаварывали. Мы, камунисты, стаим вышэ нацыаналисьцичэских прэдрассудкав. И если ты па-беларуски гаворыш, значыт ты нацыст.**
-- О-о-о, тут цяжкі дыягназ. Вы “юнаша” толькі з лапцяў вылезьлі, яшчэ сьляды засталіся, а ўжо сваю мову “нацызмам” абазвалі, як той Іван Бязродны. У цябе, малады чалавек, хоць матка ёсьць?
-- Я бязродны, а ты хрэн падкалодны! Прэдацель! Цябе савецкая ўласьць на вучобу ўзяла.***
-- О, ты далёка пойдзеш, Іосіф. Усе дадзеныя: без памяці, бяз мовы, без пашаны і партыі аддааны.
-- Не трож парцию сваим сабачым языком! Ты трацкист, ты фашыст, ты нацыст недабиты!****

Шляхта моўчкі адвесіў Ёську звонкую аплявуху. Тут жа Ёська з усёй сілы ўдарыў Шляхту кулаком у твар, ды так, што той упаў, курчыўся і толькі хрыпеў, не прыходзячы ў сьвядомасьць.

Гэта адбылося імгненна. Ніхто і апамятацца не пасьпеў. Тады Панасюк:
-- Ну, хлопцы, ці ж варта так? Мы ж камуністы, нарэшце...
-- А ты, Рубайла, -- крычыць Ёська, -- ад цябе не чакаў. Вы яшчэ пра мяне пачуеце ўсе! Боты мае будзеце цалаваць!

Ёська, калі не валодаў сабой, не заўважаў, што пачынаў крычаць па-беларуску.
-- Вы нацысты недабітыя! Я з вамі яшчэ разьбяруся, -- выкрыкнуў Ёська напасьледак і пашыбаваў наперад, нэрвова падскокваючы.

* * *

Некалькі дзён было ўсё спакойна. Ніхто нічога. На трэці ці чацьвёрты дзень выклікаюць Ёську да рэктара. Але замест рэктара ў кабінеце яго чакалі нейкія два строга-ветлівыя тыпы, якія прадставіліся працаўнікамі Міністэрства адукацыі. Яны сказалі Ёську, што за зьбіцьцё навучэнца камуніста Шляхты яму пагражае выключэньне з ВПШ, выключэньне з КПСС і суд па крымінальным артыкуле “Хуліганства”, прытым з улікам рэцыдэвізму асобы, будуць абцяжэньні.

У роце Ёські перасохла, і ён зразумеў, што ўсё. Гэта канец. Два тыпы яшчэ крыху строга пастрашылі Ёську, а потым адзін, які быў больш лагодны і чалавечны, кажа да другога:
-- Ну, подождите, Арсен Викторович, может есть еще выход из создавшегося положения. Не все так плохо.*****

-------------------------------------

* -- Мы гэтак камунізм не пабудуем, таварышы, (...) тым больш з нацысцкімі ідэямі пра мову. Руская мова вялікая і магутная. Гэта яшчэ Ленін казаў. *(Ламаная рус.)*

** -- Такія нацысты радзіму прадавалі. На беларускай мове нямецкія паліцаі размаўлялі. Мы, камуністы, стаім вышэй за нацыяналістычныя забабоны. І калі ты па-беларуску размаўляеш, значыцца ты нацыст. *(Ламаная рус.)*

*** -- Цябе савецкая ўлада на вучобу ўзяла. *(Ламаная рус.)*

**** -- Ня руш партыю сваёй сабачай мовай! Ты трацкіст, ты фашыст, ты нацыст недабіты! *(Ламаная рус.)*

***** -- Ну, пачакайце, Арсень Віктаравіч, можа ёсьць яшчэ выйсьце са створанага становішча. Ня ўсё так дрэнна. *(Рус.)*

Ёська з надзеяй паглядзеў на "чалавечнага". Словам, завербавалі Ёську хуценька, ён і вокам не міргнуў. Паабяцалі ні з ВПШ ня выключаць, ні з партыі, і з судом усё ўладзяць. (У сапраўднасьці ніякай судовай справы не існавала)

Ёська выйшаў мокры ад жаху, зьбянтэжаны і шчасьлівы, што ўсё пранесла, і ён яшчэ будзе ў дадатак таемным саўдзельнікам КГБ. Як кажуць: "Няма такога злога, што ня выйшла б на добрае", -- думаў Ёська.

Праз месяц адбылася сэсія. Ёська даведаўся, што Шляхту ўляпілі вымову па партыйнай лініі і зрэзалі на экзаменах. А Ёська неяк лёгка ўсюды праскочыў, хоць ён заўсёды нічога толкам ня ведаў і не разумеў.

Шляхта спаткаў Ёську на вуліцы і кажа:

-- Ну, і як цябе цяпер называць, Іосіф? Тое, што ты мне пашчэмкі зламаў, я нікому не сказаў і пакараць цябе не патрабаваў, а ты мяне за словы заклаў, "страіцель" камунізма. Дрэнь ты паўзучая!

Шляхта плюнуў і пайшоў.

-- Я не закладваў, -- крыкнуў Ёська ўсьлед Шляхту. – Я проста сказаў праўду, як было.

* * *

Гаваркі Рубайла адмоўчваўся. Ёська бачыў, што нейкі ён стаў іншы. Нібы зусім замкнуўся перад Ёськам. Бывала раней прыедзе пасьля выхадных са сваіх Дзятлавіч, круг свойскай кілбасы на патэльню, банку хрэну адчыніць, аж у нос дае, маласольных агурочкаў на талерку і пляшку збажовай на стол стук. "Хадзі, Іосіф, ёлкі-палкі, лес зялёны, чалавечай дзярбалызьнем! І кілбаска свая." Цяпер тое скончылася. Цішыня. Нават можна было падумаць, што Рубайла піць кінуў.

З Шляхтам справа, відаць, была б дрэнная. І калі б у гэты час ні зьнялі Хрушчова, то пагналі б адусюль. Але акурат адбыўся чарговы крамлёўскі пераварот, і Шляхту пакінулі ў спакоі (ведаючы, што на Хрушчова ён якраз і "вярнуў").

Ужо пасьля таго, калі Ёську прывербавалі, ён у ціхай радасьці даведаўся, што гэта Панасюк іх усіх і ўсю справу тым гэбістам падаткнуў. Але Ёська ўсё ацаніў па-свойму. От хто яму дапаможа па-сапраўднаму выбіцца ў начальства, дык гэта КГБ. "Гэта, брат, сіла", -- думаў Ёська. Тут на паходжаньне глядзець ня будуць. Я йшчэ пакажу ім "байструка".

І тым ня менш, дзеля шырокіх планаў Ёська вырашыў зьмяніць прозьвішча, якое, як ён лічыў, дрэнна гучэла.

Доўга думаў, як назвацца, і вырашыў, што найлепш будзе, калі "Горохов", з націскам на першым складзе. Але аказалася, што ўсё гэта ня так проста: трэба і матывацыя, і мэтрыка, і шмат дакумантаў, і згода маткі.

"Таварышы" з КГБ вельмі зьдзівіліся, калі на пытаньне "где отец?"*, Ёська нічога ня мог адказаць, нават ня ведаў, кім той ягоны бацька быў. Не цікавіўся. У галаву не прыходзіла. У дзяцінстве дзеці крычалі "байструк!", "Ёська-байструк!". А чаму "байструк", дык Ёська тады і не задумваўся. І толькі цяпер зразумеў, якая тут можа стацца небясьпека. А раптам гэты ягоны біялагічны бацька бегаў немцам у палон здавацца? Ды ўвогуле, чым ён займаўся да траўня 1945 года?

Ёську стала не па сабе ад гэтай невядомасьці. Напісаў ліст матцы – хто ды што, ды дзе яго бацька. А матка яму піша: "Нічагусенькі, сынок, ня ведаю. Ён нас пакінуў з табой, калі ты яшчэ не нарадзіўся".

-----------------------------------

* "дзе бацька?" *(Рус.)*

“Ты мне, мамаша, жызьнь паламала и всю дарогу вперод зачынила”*, -- сурова напісаў Ёська.

Бэлтушка як прачытала, то паўдня плакала і ўсё з рук валілася. Ну, а Ёська рашыў пакуль не рызыкаваць, прозьвішча не мяняць і заставацца Гарохам.

Прыехаўшы ў мястэчка на выхадныя, ён выклаў матцы сваё абурэньне і прэтэнзіі, як яна (“мамаша”) яму жыцьцёвую дарогу псуе, што ён, якога цэняць у Менску, ня можа палепшыць сваё фармальнае “палажэние и заиметь чэлавечэскую фамилию”.**

Бэлтушка слухала-слухала і кажа:

-- Юзік, а ці жыць добра?

-- Не понял.***

-- Не зразумеў, бо ня кемлівы, Юзенька. Ці мо’ лепш, каб я цябе не нарадзіла, не насіла, за ручку не вадзіла і каб ты ня жыў? Дык жыць дрэнна ці добра? А? Можа, дрэнна? Дык не жыві. Утапіся! А-а, ня хочаш. Добра жыць усё ж. Толькі каб ня я, цябе на сьвеце не было б.

Я перад Богам адкажу за сваё, а ты – за сваё. А ты ў маё, сынок, ня лезь, калі розуму мала.

Бэлтушка павярнулася і вуглаватай сваёй паходкай, грукаючы дзьвярыма, пайшла на двор, быццам курэй паглядзець. “Пуль-пуль-пуль-пуль, -- чуўся яе голас. -- Пуль-пуль-пуль-пуль, пулянькі, пулянькі-пулянькі”. Бэлтушка зайшла ў адрыну, села на жэрдку і горка заплакала, доўга, няўсьцешна і цягуча, падвываючы голасам, як сабака, ад настальгіі.

* * *

На апошніх месяцах навучаньня ў ВПШ Ёська, які старанна “стукаў” (нават на Рубайлу), кажа “двум таварышам”, што як бы гэта яму паступіць на афіцэра ў Менскую Вышэйшую школу КГБ. “Таварышы” паглядзелі на Ёську, пераглянуліся і кажуць: “Вы, Иосиф, очень умный и способный молодой человек, но пока в интересах нашего общего дела вы большую пользу принесете родине здесь, на гражданке. А по сему оставим пока всё, как есть, а там видно будет. Мы поможем по партийной линии”.****

І праўда, дапамаглі. Ёську, які пасьля сканчэньня вучобы мусіў вярнуцца ў раён, -- пакінулі ў Менску, “внедрили”***** яго вызваленым сакратарам парткама Інстытуту Механізацыі сельскай гаспадаркі. Ёська стаў вельмі важным. Абавязкова карычневы альбо цёмна-сіні касьцюм, сіняя кашуля і чорны альбо цёмна-шэры гальштук. Улічваючы ягоную мускулатуру, бычыную шыю, пудовыя кулакі і шырокія плечы, ён выглядаў, як шафа, і адразу выклікаў сьцішаную ўвагу і маўклівае чаканьне ў падначаленых. Дарма, што малады. Тым больш, што Ёська займеў сур’ёзны выгляд твару, мала ўсьміхаўся, і калі маўчаў, здаваўся разумным. Прытым яго зякратыя, крыху выпучаныя вочы з шкляным адблескам нічога не адлюстроўвалі і незразумела было ніколі, што гэты салідны і, відаць, разумны таварыш там сабе думае.

--------------------------------

* “Ты мне, матуля, жыцьцё паламала і ўсю дарогу наперад зачыніла.” *(Ламаная рус.)*

*** ... “становішча і займець чалавечае прозьвішча” *(ламаная рус.)*

*** -- Не зразумеў. *(Рус.)*

**** “Вы, Іосіф, вельмі разумны і здольны малады чалавек, але пакуль што ў інтарэсах нашай агульнай справы вы большую карысьць прынясеце радзіме тут, на грамадзянцы. А таму пакінем пакуль што ўсё, як ёсьць, а там будзе бачна. Мы дапаможам па партыйнай лініі.” *(Рус.)*

***** “укаранілі” *(рус.)*

Усё йшло няблага. У райкаме заўважылі яго правільную пазыцыю, нават падумвалі прапанаваць яго кандыдатуру ў дэпутаты райсавета. Ёську надта не цярпелася хутчэй наперад і ў гару. Ня будзе ж ён увесь час сядзець у гэтым інстытуце. Ён разумеў, што трэба дзейнічаць і час не марнаваць. Але як дзейнічаць, што рабіць – Ёська ня ведаў.

“Самы правераны мэтад, -- думаў Ёська, -- гэта правільна ажаніцца”. Ды й самы час.

Гэтыя “мудрыя” думкі прыйшлі яму ў галаву, калі ён пазіраў на сакратар-машыністку ў прыёмнай рэктара інстытута. Сакратарка Валя мела круглы прыемны пульхны твар і па прыгажосьці, на погляд Ёські, выглядала сярэдне, але ўсё астатняе бянтэжыла Ёську так, што аж у галаве круцілася. Гэта ж трэба такія формы, а яшчэ й адзеньне ў абліпку.

Валя, вядома, адразу ж адчула сквапнасьць Ёські і яе прычыну, і кажа так ветліва:

-- Вы, Иосиф Викенцевич, такой сярьёзный и прэдупрэдзицельный. Таких мала, как вы*.

-- Ну, што вы, Валя, я обычный член парции, усе такие**, -- сьціпла і разумна адказвае Ёська.

Валя сядзіць, круглыя калені выставіўшы, і нуль увагі, а Ёська незнарок крадком гляне і з глузду едзе. “Гэта непарадак, -- думае ён сам сабе, -- так на працу прыходзіць. Трэба, каб сакратаркі мелі спадніцу да паловы лыткі. А то й праца ў галаву ня лезе.”

Ну, праўда, у яго асабістай сакратаркі няма, але павінен усё ж быць парадак.

Неўзабаве Ёська разнюхаў, што ў члена бюро Абкама і намесьніка міністра культуры гадуюцца дзьве дачкі-блізьнячкі, студэнткі Інстытута Замежных моваў. Прытым надта прыгожыя. “Прыгожыя і ня замужам? Гм-м”, -- падумаў Ёська. Даведаўся таксама, што яны любяць хадзіць у філармонію і тэатры ды на ўсялякія канцэрты. Дык у чым справа! Ёська ж ужо быў у тэатры.

Якраз у Менску мусіў адбыцца заключны канцэрт Рэспубліканскага фэстывалю народнага мастацтва і калектываў мастацкай самадзейнасьці, і “міністэрскія дочкі” зьбіраліся там быць.

Ёська прышоў заранёў, хадзіў у праходзе і зыркаў па баках. Панасюк, які працаваў ужо ў абкаме намесьнікам загадчыка аддзела (і які паведаміў Ёську пра дзяўчат), падышоў і кажа:

-- Ды вунь яны зьбіраюцца заняць месцы ў першым радзе.

Міністэрскія дочкі аказаліся прыгожымі бландынкамі баскетбольнага росту з васільковымі вачыма, пухлым ротам і элегантнымі манерамі. Вось гэта элегантнасьць Ёську найбольш зьбянтэжыла. Рост яму не перашкода. Ён сам 193 сантымэтры ростам і чалавек-гара. Але элегантнасьць... Тут – канец! Ёська адразу адчуў сваю лапцяватасьць, беднае калгаснае жыцьцё ды нястачу дзяцінства, уявіў маму Зосю-Бэлтушку, якая сьцябае яго дубцом за тое, што залез у чужыя агуркі.

Уся сьмеласьць і нахабства пакінулі Ёську. Тым ня менш ён падыйшоў і спытаўся, ці свабоднае месца побач зь імі (акурат былі два вольныя месцы).

----------------------------------------

* -- Вы, Іосіф Вікенцевіч, такі сур’ёзны і далікатны. Такіх мала, як вы. *(Ламаная рус.)*

** -- Ну, што вы, Валя, я звычайны член партыі, усе такія. *(Ламаная рус.)*

Дзяўчаты сінхронна ўзьнялі бровы і з цікавасьцю глянулі на атлетычнага супэрхлопца з зялёнымі крыху зякратымі вачыма, прадаўгаватым тварам, вялікай, як гарбуз, галавой і таўсматым носам. Валасы яго былі зачэсаныя назад, падстрыжаныя пад польку і ўкладзеныя фалдамі. Гэтыя фалды адразу выдавалі ў ім местачковага правінцыяла (першага хлопца на сяле), а цёмна-шэры выходны касьцюм і сіняватая кашуля з чорным гальштукам – служачага партдзяржапарату ці камсамольскага функцыянера з апарату ЦК.

У Ёські дваілася ў вачах. Перад ім былі абсалютна ідэнтычныя харашуні з аднолькавымі прыгожымі прычоскамі, завушніцамі, у чырвоных сукенках цёплага прыглушанага тону зь нейкага высакароднага матэрыялу, выдатна дапасаваныя да дасканалай фігуры.

-- Извинице, -- вінавата прамармытаў Ёська, -- я наверна што та не так*?

Паненкі сінхронна заўсьміхаліся.

-- Усё так, -- сказалі яны разам, -- гэтае месца вольнае.

-- Спасиба,** -- кажа Ёська.

Паненкі зноў заўсьміхаліся.

-- Калі ласка, мы можам прапанаваць вам праграму канцэрта, -- кажа адна, -- калі вы маеце ў гэтым патрэбу.

-- Да. Спасиба, -- кажа Ёська, -- і пачаў чытаць праграму.

Чытаючы праграму, якая была напісана па-беларуску і ўпрыгожана арнамэнтам, Ёська раптам усьвядоміў, што і дочкі партыйнага начальніка таксама толькі што гаварылі па-беларуску. “Як гэта можа быць, -- думае Ёська, -- парція – і па-беларуску? Тут нешта ня тое.” Ёська аж асьмялеў ад такой нечаканасьці.

Ён падняў галаву і пачаў узірацца на харашунь, якія размаўлялі паміж сабой. Тая, што сядзела далей, заўважыла, што Ёська глядзіць, спынілася і ўсьміхаючыся чакае, што ён скажа. А ён нічога ня кажа. Разглядае.

-- Вас штосьці зацікавіла ў праграме? – пытае першая (тая, што сядзіць бліжэй). Зьвярніце ўвагу на гарадзенскі ансамбль “Нёман”, асабліва, калі будуць танцаваць паланэз Агінскага. Словы напісаў Янка Хвораст, вельмі сваістая інтэрпрэтацыя танца.

Паненкі глядзяць на Ёську і чакаюць, што ён скажа.

-- Ага. Ага, -- кажа Ёська, -- а потым ня вытрымаў:

-- А пачэму вы разгаварываеце па-беларуски***?

Паненкі пераглянуліся і весела засьмяяліся. Потым другая (што далей ад Ёські):

-- Вы такі мілы малады чалавек.

-- Вы, напэўна, нядаўна зь вёскі? – кажа першая.

-- Я не скрываю, што я из сельскай местнасьци, толька не из дзярэўни, а из месьцечка. Здесь разница. Но все мы саветския людзи. Я так панимаю.****

-- Ой, як цікава! – усклікнулі спадарычні. – Дык вы савецкі чалавек, так? – Яны сталі разглядаць Ёську.

-- А што зьдзесь неабычнага? Я и вы – саветския людзи ў саветскай стране. Как гаварыл Владзимир Ильич Ленин, “Чэлавек – эта звучыт горда”.*****

-----------------------------------

*  -- Выбачайце, я, відаць, нешта ня так? *(Ламаная рус.)*

**  -- Дзякуй. *(Рус.)*

***  -- А чаму вы размаўляеце па-беларуску? *(Ламаная рус.)*

****  -- Я не хаваю, што я з сельскай мясцовасьці, толькі ня з вёскі, а з мястэчка. Тут розьніца. Але ўсе мы савецкія людзі. Я так разумею. *(Ламаная рус.)*

*****  А што тут незвычайнага? Я і вы – савецкія людзі ў савецкай краіне. Як казаў Уладзімер Ільіч Ленін, “Чалавек – гэта гучыць горда”. *(Ламаная рус.)*

Паненкі дружна засьмяяліся.
-- Цэнім ваш гумар, -- кажа першая, -- але мы не савецкія, мы – беларускія.
-- Так эта жэ ўсё равно. Все народы – брацья. А ў будушчэм все сальются в адно чэлавечэства. Такова селяви*, -- увярнуў культурнае слоўца Ёська.
-- О, вы такі адукаваны, так шмат ведаеце. – Дзяўчаты ажывіліся. – Раскажыце нам што-небудзь. Пры гэтым яны адна адной нешта незразумела пераказалі, кшталту “Dieser Hammel stammt vielleicht aus der Parteihochschule”**, але Ёська таго не расслухаў.
-- Вы, напэўна, спартовец? – усьміхаецца перашая.
-- Ой, не, -- кажа другая, -- я думаю, што вы прадстаўнік савецкай навукі.

Паненкі сталі ўзірацца на Ёську. Ёську такая ўвага да яго асобы спадабалася, і ён рашыў адкрыцца ў самым важным:
-- Да нет, знаеце, я не спарцмен, хаця спортам занимался. Я секрэтар парткома абразавацельнага ўчрэждзения. И вот вазьник у меня вапрос: как эта в нашэй срэдзе людзи разгаварывают па-беларуски? Непанятна, зачэм эта дзелаць.***
-- Вы ведаеце, усё вельмі проста – у нас рознае асяроддзе, -- кажа першая.

Паненкі ўвесь час усьміхаліся, нахіліўшы свае дагледжаныя галоўкі, як на карцінцы – нейкі іншы сьвет, якога Ёська ніколі ня бачыў. І гэта было так прыгожа. Але ён сур'ёзна зьбіўся з панталыку. Такога ён не чакаў, і думкі сталі мітусіцца ў ягонай галаве. Ён хацеў ведаць, бо сам ня мог нічога ўявіць, а яму ж трэба жаніцца. Потым яго ўвесь час выбівала з каляіны іхняя ідэнтычнасьць. Як быццам адна дзяўчына, а ў двух асобах. Ды й яшчэ такія прыгожыя, як у замежным кіно. Але “нацистские устремления”**** высокапастаўленых дзяўчат узбударажылі Ёську больш за ўсё.
-- Я вот бываю в цеатрэ, -- кажа Ёська (успомніўшы “Лявоніху на арбіце”), -- так вот вы, наверна, работаеце в цеатрэ Янки Купалы. Там, знаеце, всё па-белоруски.

Тут паненкі сінхронна закацілі вочкі пад лоб і на імгненьне нібы зьнерухомелі. А потым першая:
-- О, вы, відаць, заядлы тэатрал. Мы нядаўна хадзілі на Мележа. Чыя інтэрпрэтацыя ролі Ганны Чарнушкі вам лепш падабаецца, Захарэвіч ці Давідовіч?
-- К сажалению, очэнь многа работы, в пасьледнее урэмя я в цеатр не хадзил, -- выкруціўся Ёська. – Так што ничэво не магу сказаць.*****
-- Вам, відаць, цяжка разумець беларускі тэатр, перашкаджае моўны бар’ер, праўда? – кажа зь нявіннай мінкай другая паненка.
-- Нет, пачэму жэ. Я, знаеце, да службы в армии разгаварывал толька па-беларуски и, стыдна сказаць, па руски ничэво не умел.******
-- Няўжо вы былі такім нацыяналістам?

--------------------------------------------
*        -- Дык гэта ж усяроўна. Усе народы браты. А ў будучыні ўсе зьліюцца ў адно чалавецтва. Такая “селяві”. *(Ламаная рус.)*

**       -- Гэты баран, напэўна з Вышэйшай партыйнай школы. *(Ням.)*

***      -- Ды не, ведаеце, я не спартовец, хаця спортам займаўся. Я сакратар парткама адукацыйнай установы. І вось узьнікла ў мяне пытаньне: як гэта ў нашым асяроддзі людзі размаўляюць па-беларуску? Незразумела, навошта гэта рабіць. *(Ламаная рус.)*

****     “нацысцкая сьціраванасьць” *(рус.)*

*****    -- Я вось бываю ў тэатры (...), дык вы, напэўна, працуеце ў тэатры Янкі Купалы. Там, ведаеце, усё па-беларуску. (...) На жаль, вельмі шмат працы, апошнім часам я ў тэатр не хадзіў. (...) Так што нічога не магу сказаць. *(Ламаная рус.)*

****** -- Не, чаму ж. Я, ведаеце, да службы ў войску размаўляў толькі па-беларуску і, сорамна казаць, па-руску нічога ня ўмеў. *(Ламаная рус.)*

-- Маладой был, не панимал, не разабрался, никто не падсказал, не абъяснил.*
-- А потым вам падказалі?
-- Очэнь много дает армия. Я бы сказал, што савецкая армия -- эта школа камунизма, -- намацаў Ёська сваю тэму. -- Хаця, канечна, тры года жызьни нада была аддаць.**
-- Die Welt ist kaputt! Schau, Lena, er ist ein kompletter Idiot! – прашаптала першая паненка.
-- Ja. Aber hören Sie zu, was er sagt. Das ist interessant. Er ist kein Idiot. Das ist ein neuer Homo Sowjetikus, der in die Stadt aus dem Dorf kam.
-- Ja. Heute war gestern.***
-- Затое вы можаце размаўляць цяпер на дзьвух мовах, -- кажа першая паненка.
-- А зачэм? – адказвае Ёська, -- нада сматрэць в будушчэе. Мы жэ идзём к камунисьцичэскаму обшчэству.****
-- Er ist krank,***** -- шэпча другая паненка.
-- И к таму жэ беларуский язык некрасивый, грубый язык, на нём гаварыт толька дзярэўня, и нельзя сказаць ничэго чэлавечэскава.******

Ёська глядзеў на паненак тупавата-спакойна, чыстым незамутненым позіркам. Паненкі пераглянуліся. Усьмешка зьнікла зь іхных вуснаў.
-- Вы ўвогуле разумееце, што вы гаворыце? – холадна спытала першая, узіраючыся на Ёську.
-- А што, а што я такое сказал? Я жэ праўду сказал. Дзярэўня гаварыт па-дзеравенски, а горад па-руски, иба культура развивается. Ведзь мы жывём в прэкраснае ўрэмя, не правда ли?*******
-- Ihm gefiel es, unter der Besatzung zu leben. Er freut sich ein Sklave zu sein, -- ужо голасна прамовіла другая паненка. – Die Sowjetbehörden haben unsere Leute in die linguistischen Invaliden verwandelt. Danah haben sie gesagt: das ist gut. Und jetzt die irgendeinen Invaliden brüsten sich mit ihrer Versehrtheit.

Wenn Belarus unter der deutschen Okkupation bis heute existierte, wäre dieser "Invalide" heute deutsch sprechen.********

Увогуле Ёська крыху ачуняў і ўжо стаў рабіцца задаволеным сабой. Але ён адчуваў, што аніяк не наблізіўся да гэтых такіх далікатных і прыгожых дзяўчат. Нейкая непераадольная сьцяна стаяла паміж імі і ім, перад якой Ёська ўвесь кукожыўся, дранцьвеў і ня ведаў, як праз яе перალезьці. Ён проста не разумеў іх і сьпіннымі мазгамі адчуваў перад імі сваю нязграбнасьць.

----------------------------------

* -- Малады быў, не разумеў, не разабраўся, ніхто не падказаў, не патлумачыў. *(Ламаная рус.)*

** -- Вельмі шмат дае армія. Я б сказаў, што савецкая армія – гэта школа камунізма.(...) Хаця, безумоўна, тры гады жыцьця трэба было аддаць. *(Ламаная рус.)*

*** -- Канец сьвету! Глядзі, Лена, ён жа поўны ідыёт! (...)

-- Так, Але паслухай, што ён гаворыць. Гэта цікава. Ён не ідыёт. Гэта новы гома-саветыкус, які прыехаў у горад зь вёскі. *(Ням.)*

-- Так. Сёньня было ўчора. *(Ням.)*

**** -- А навошта? (...) Трэба глядзець у будучыню. Мы ж ідзем да камуністычнага грамадзтва. *(Ламаная рус.)*

***** -- Ён хворы. *(Ням.)*

****** -- І да таго ж беларуская мова непрыгожая, грубая мова, на ёй гаворыць толькі вёска, і нельга сказаць нічога чалавечага. *(Ламаная рус.)*

******* -- А што, а што я такое сказаў? Я ж праўду сказаў. Вёска гаворыць па-вясковаму, а горад па-расейску, бо культура разьвіваецца. Мы ж жывем у цудоўны час, ці няпраўда? *(Ламаная рус.)*

******** -- Ён любіць жыць пад акупацыяй. Ён рады быць рабом. (...) Нашых людзей саветы ператвараюць у лінгвістычных інвалідаў і сказалі, што гэта добра. Дык некаторыя інваліды хваляцца сваім калецтвам.

Калі б нямецкая акупацыя датрывала да сёньняшняга дня, дык гэты “інвалід” па-нямецку б гаварыў. *(Ням.)*

Празьвінеў апошні званок, адчынілася заслона і паўстала сцэна, уся запоўненая прыгожымі людзьмі, жанчынамі і мужчынамі ў вышываным народным адзеньні. Выйшлі двох вядучых. Кароткая прамова – і засьпяваў хор. Потым былі танцы і сола – сьвята народнага хараства. Асабліва ўразіла ўсіх мастацкае афармленьне сцэны і народных калектываў Гарадзенскай вобласьці. Калі адчынілася сцэна Гарадзеншчыны, у залі пачуўся ўздых захапленьня. Усе ўсталі і віталі мастака Лявона Баразну, які сядзеў у партэры. Нават Ёська апантана пляскаў у ладкі. “Очэнь красива,”* -- сказаў ён паненкам.

Як толькі зачынілася заслона перад антрактам, паненкі адразу ўсталі і выйшлі. Ёська шукаў іх па файе, бо меў план запрасіць дзяўчат у буфет, пачаставаць марозівам і сітром. Але сарвалася. Калі вярнуўся ў залю, паненкі ўжо сядзелі на сваіх месцах і размаўлялі паміж сабой.

-- Заўтра пайду у ГУМ, Сьвета пазваніла, што ёсьць капрон бяз шва, -- кажа другая паненка.

-- У мяне заўтра лекцыі цэлы дзень, вазьмі мне дзьве пары, -- кажа першая паненка.

-- Вазьму, вядома, табе і маме. Лена, глянь, вунь твой сусед зьявіўся ў дзьвярах.

-- Яшчэ не хапала мне на яго глядзець. Рэдкасны балван.

-- Ну, не кажы, такі мужчына, спарцмэн. Ты заўважыла, што ён адмыслова да цябе падсеў?

-- Ой, Лёлячка, -- сьмяецца Лена, -- якія жарты. Давай во памяняемся месцамі, яму ўсяроўна, а мне палёгка. Ад яго ведаеш, чым пахне? Трайным адэкалонам. Гэта жах!

-- Ну, ты што, хочаш, каб я самлела? Цярпі. Ён да цябе падсеў. Факт.

-- Лёля, якая ты жорсткая!

-- Я ня жорсткая, я спагадная. Гэта ж такое шчасьце плыве. Цуд у рэшаце. Мужчына атлет, “разгаварывает па-руски”**...

-- Лёля, перастань! – Лена засьмяялася і шлёпнула сястру па калене. – Мы, відаць, застанемся з табой старымі дзеўкамі навечна, сястрычка. І гэта ня нашая, а ўжо, відаць, нацыянальная праблема.

-- А ведаеш, -- кажа Лёля, -- калі б яго абчасаць, пагабляваць, сякеркай паправіць, пудрай пасыпаць – можа яшчэ што і вышла б.

-- Ой, не прыдумляй. У пяць гадкоў трэба было абчэсваць. Таго, каго савецкі палітрук пагабляваў, і магіла ня выправіць.

-- Сумна гэта ўсё, -- кажа Лёля, -- надзвычай сумна. Вунь ужо йдзе сюды наша “дзяроўня”, цуд камунізму, “парція – наш рулевой”, мамелюкі ды янычары...

-- Лёля! – вымавіла Лена такім драматычным шэптам, -- людзі навокал. Ты што? Пра тату думай.

Лёля замоўкла. Падышоў Ёська і плюхнуўся ў крэсла. Адчынілася заслона. Пачаліся сцэнічныя танцы.

Пасьля канцэрту і доўгіх воплескаў, нарэшце, зачынілася заслона, у залі запалілася верхняе сьвятло, і ўсе накіраваліся да выхаду і ў гардэроб. Цікава, што некаторыя гледачы кінуліся стрымгалоў на выперадкі, каб першымі забраць адзеньне і выйсьці на вуліцу. Паненкі глядзяць на гэта, а потым Лёля:

-- Ты ведаеш, неяк аж сорамна.

-- Ну, што ты хочаш, -- азвалася Лена, -- вялікае калгаснае перасяленьне.

-------------------------------------------

* “Вельмі прыгожа” *(ламаная рус.)*

** “рамаўляе па-руску” *(ламаная рус.)*

-- Я вижу, девушки, вы вродзе не адабраеце калхозную систему*, -- азваўся раптам за імі Ёська, які ўвесь час не губляў іх зь відавоку.
-- Не, не, што вы, мы “за”, -- тут жа адказала Лена.
-- Мы “за”, мы “за”, -- паўтарае Лёля і сьмяецца.
-- Есьць, канечна, недастатки, знаеце, и на сонце есць пятна, но ў цэлам сисьцема себя апраўдала.**

Падышоў нейкі малады чалавек і прынёс плашчы паненак.
-- Ой, Валік, дзякуем, які ты здагадлівы, -- загаварылі паненкі.

Яны апрануліся і тут жа пайшлі разам з “Валікам”, пакінуўшы Ёську стаяць у чарзе і нават на яго не азірнуліся.

* * *

Апэрацыя “жаніцьба” правалілася, нават не пачаўшыся. Ёська разумеў, што яго, такога “віднага” (як ён пра сябе думаў) дзяўчаты праігнаравалі (а бывала ж некаторыя проста валіліся з абцасаў). Ёська быў злы. “Задавакі. А чым задавацца?! Што бацька начальнік? Каштоўнасьць чалавека не ў пасадзе, -- прагрэсіўна думаў Ёська. – Дзьве дырды, старыя дзевы, вымахалі, як каноплі. Хто б іх, акрамя Ёські, узяў! І мужчын тут такіх, як ён, няма. Драбяза. Курдупелі, -- Ёська так абурыўся. -- Па-беларускі раз-га-ва-рывают, бач ты іх, выкабеньваюцца, “вы из дзярэўни”, дурніцы распешчаныя, “інцелігенцыя”.

У чарговы раз спаткаўшыся з Арсенам Віктаравічам (цяпер ён да Ёські прыходзіў у кабінет), Ёська і кажа: “А эці абкомавские дочки па-беларуски гаварылі. У каком видзе ани выстаўляют сваево атца: камуниста, члена бюро абкома! Што эта за паведзение?!”***

Арсень Віктаравіч паглядзеў на Ёську, падумаў і кажа:
-- Это они выпендриваются. Беларуссия была и будет. Мы никому не дадим ее захватить.****

Тым часам Ёська не пакідаў сваёй задумы выгадна ажаніцца і рухацца “упярод”. Другая нагода надарылася на пахаваньні начальніка міліцыі, на якім Ёська апынуўся па партыйнай лініі. Начальнік ДАІ Мардасевіч, вяртаючыся зь вёскі ад цешчы на службовым аўтамабілі, урэзаўся ў слуп, калі яму наперарэз выехаў сельскі аўтобус зь дзецьмі. Нягледзячы на тое, што начальнік быў п’яны, ягоная сьмерць была патрактавана як геройскі ўчынак. Начальнік, маўляў, загінуў, ратуючы дзяцей, скруціў управа і зьнёс бэтонны слуп з указальнікам да вёскі Сірэнь (былы Божы Дар).

На пахаваньні героя прысутнічаў намесьнік міністра Барыс Бабень, які прыходзіўся нябожчыку нейкім накшталт кума (сьведка на шлюбе). Разам была там дачка намміністра старая дзеўка Жана. Намміністра таксама некалі пераехаў у Менск з “дзярэўні” і ўжо дзяцей называў культурна, як мае быць у “гарадзкой срэдзе”*****: Жана, Артур, Ігар, Джына. Ініцыятарам культурных імён была, праўда, ягоная жонка Груня Бабень, бухгалтар Абласнога Упраўленьня культуры, жанчына начытаная і нагледжаная. Акрамя бухгалтарскіх кніг чытала раманы і любіла глядзець індыйскае кіно і ўвогуле “перажывацельныя” фільмы пра каханьне і “как в

-----------------------------------------
* -- Я бачу, дзяўчаты, вы быццам бы не ўхваляеце калгасную сістэму. *(Ламаная рус.)*
** -- Ёсьць, вядома, недахопы, ведаеце, і на сонцы ёсьць плямы, але ў цэлым сістэма сябе апраўдала. *(Ламаная рус.)*
*** -- А гэтыя абкамаўскія дочкі па-беларуску гаварылі. У якім выглядзе яны выстаўляюць свайго бацьку: камуніста, члена бюро абкама! Што гэта за паводзіны?! *(Ламаная рус.)*
**** -- Гэта яны выпендрываюцца. Беларусь была і будзе. Мы нікому не дазволім яе захапіць. *(Рус.)*
***** “у гарадзкім асяроддзі” *(ламаная рус.)*

жызьни бывает".* Бабень вяла супраціўляўся гэтым залішнім інтарэсам жонкі, але супраціўленьне яго было скамечана, культура і "искусства"** запанавалі.

Жана аказалася дзяўчынай гадоў пад трыццаць, магутных формаў (у нейкім сэнсе адпаведных яе прозьвішчу) з круглым тварам і алімпійскім спакоем у абліччы, якое выяўляла адну пэрманэнтную думку: "хачу замуж", "замуж хачу". Шэра-блакітныя, як дажджавое неба, вочкі яе стомлена плавалі, закочваліся ўверх пад вейкі, галава на кароткай шыі часам схілялася на бок і на твары блукала загадкавая ўсьмешка, якая часам так бянтэжыла літаратурна начытаных мужчынак, якія тут жа пачыналі шукаць у такой асобе нейкі загадкавы сэнс.

Жана, па праўдзе кажучы, усьміхалася проста так сабе, здуру, само ўсьміхалася (хоць тут было і пахаваньне).

Ёська, які кніжак не чытаў, расцаніў гэта як увагу да сваёй асобы. Ён толькі што сказаў перад труной пару мала зьвязаных словаў ад імя партарганізацыі Інстытута і быў такі ўсьцешана-маркотны і задуменны. Непрыкметна ён гэтак, нібы само па сабе, апынуўся каля Жаны і, улучыўшы момант, уздыхнуў і гэтак глыбокадумна, ціха ёй кажа:

-- А знаеце, настанет урэмя, и усе мы тожа умром.***

-- Ой, не гаварыце, не гаварыце, страшна падумаць,**** -- тут жа адказала Жана і загадкава ўсьміхнулася.

-- Такава селяві, -- маркотна прамовіў Ёська сваё кароннае выслоўе.

-- О, вы філосаф, -- заўважыла Жана.

-- Жызьнь – сложная штука, -- пагадзіўся Ёська, -- асобенна ў нашэ прэкраснае ўрэмя.*****

Жана таксама згадзілася, што жыцьцё складанае і паведаміла, што ў Інстытуце механізацыі ў бухгалтэрыі працуе яе мамы добрая знаёмая, зь якой яны разам сустракалі Новы год. На гэта Ёська разумна адказаў, што "мир цесен"****** і што сам ніколі ня думаеш, "гдзе каво встрэціш".*******

Тут Жана жаночым пачуцьцём адчула, што нешта яно ня проста так, і працягвае:

-- А я вот, знаеце, думаю, что есьць судзьба. Хаця, канечна, разнае гаварат. Но, наверна, што-та есьць.*******

-- Бывает, канечна, -- адказвае Ёська, -- но я вот думаю, што чэлавек всё-такі хазяин сваей жызьни. Как он парукавадзит, так и пайдзёт.********

-- О, да, да, мая мама тожэ всегда так гаварыт.*********

Славам, гаворка завязалася. Ёська сваімі размовамі, а найбольш выглядам і ростам, зрабіў на Жану ўражаньне. Яны пазнаёміліся, пасьля чаго Ёська запрасіў Жану ў кіно на новы індыйскі фільм, які "очэнь інцярэсный".**********

---

* "як у жыцьці бывае" *(ламаная рус.)*

** "мастацтва" *(ламаная рус.)*

*** -- А ведаеце, настане час, і ўсе мы таксама памрэм. *(Ламаная рус.)*

**** -- Ой, не кажэце, не кажэце, страшна падумаць. *(Ламаная рус.)*

***** -- Жыцьцё – складаная штука, асабліва ў наш цудоўны час. *(Ламаная рус.)*

****** "сьвет цесны" *(ламаная рус.)*

******* "дзе каго спаткаеш" *(ламаная рус.)*

******** -- А я вось, ведаеце, думаю, што ёсьць лёс. Хаця, вядома, рознае кажуць. Але, напэўна, нешта ёсьць. *(Ламаная рус.)*

******** -- Бывае, вядома, але я вось думаю, што чалавек усё ж такі гаспадар свайго жыцьця. Як ён пакіруе, так і пойдзе. *(Ламаная рус.)*

********* -- О, так, так, мая мама таксама заўсёды так кажа. *(Ламаная рус.)*

********** "вельмі цікавы" *(ламаная рус.)*

І пайшло-паехала, сталі ўжо па вуліцах бадзяцца, потым Ёська стаў Жану ціскаць у пад'езьдзе, заціскаць ды прыгаворваць, што "первый раз в жизни встрэціл такую дзевушку, каторая сразу так панравилась",* што ён "чэлавек сер'ёзный" і з "жызьненным опытам", з пэрспэктывай, што ён скончыў ВПШ і "слышал харошае мнение"** аб яе бацьках.

Неўзабаве Жана са згоды бацькоў запрасіла Ёську ў дом. Ёська прыйшоў у сваім цёмна-шэрым касьцюме пад чорным гальштукам, напырсканы трайным адэкалонам (які ён ужываў пасьля галеньня) з двума вялікімі пушкамі цукерак пад пахай (для мамы і дачкі). Прынесьці кветкі яму ня тое, што не прыйшло ў галаву, ён меркаваў, што "ад цветов цэннасьці жэ никакой".***

Праўда, ні мама Груня Бабень, ні дачка Жана на гэта не зьвярнулі ўвагі. Пушкі тут жа адчынілі, паспрабавалі цукеркі і прапанавалі Ёську. Ёська адмовіўся. І колькі яму ні прапаноўвалі – ня браў. "Эта вам, эта вам",**** -- паўтараў Ёська.

У залі стаяў вялікі сэрвант пад чырвонае дрэва з шклянымі палічкамі, увесь застаўлены стопкамі талерак, фігуркамі Леніна, Дзяржынскага, Сьвярдлова, ляжалі пярсьцёнкі і ланцужкі, была глазураваная статуэтка дзяўчыны з чорнай касой, якая нібыта абрывала пялёсткі з рамонкі. "Любит – не любит" – так было напісана на цокалі, дзе валяліся керамічныя лісточкі. Таксама была яшчэ "скульптура" ўзьлятаючай ракеты, зробленая зь нержавейкі, і будзільнік з вясёлымі німфамі, што фрывольна пазіралі перад сабой; ляжалі мэталёвыя мэдальёны, танаваныя пад бронзу з надпісам "XXII съезд КПСС" і яшчэ ўсялякая ўсячына на фоне хрустальных кілішкаў, графінаў, вазаў і фужэраў.

У куце на століку – тэлевізар, які быў уключаны і якраз вяшчаў пра "працоўныя заваёвы працоўных". Вакно было на ўсю сьцяну завешана белымі цюлевымі гардзінамі, пасярэдзіне стол пад каляровай сурвэтай, з другога канца насупраць тэлевізара шырокая канапа, а ў сьцяне насупраць вакна стэлаж з кнігамі, ад падлогі і да столі. Прытым добрая палова кніг – гэта была толькі картонная імітацыя кніжных пераплётаў з надпісамі залатым цісьненьнем кірыліцай і лацінаю. Уражаньне было прыгожае.

Але Ёська сюды нават не паглядзеў.

-- Эта вот мая библиацека, -- кажа мама Бабень, падводзячы Ёську да стэлажа. – Я, знаеце, ужасна люблю лицературу, кагда вот такие из жызьни взятые, перэжывацельные и паучыцельные книги. Вот, напрымер, вы, канечна, чытали раман "Серца на ладони". Эта наш беларуский писацель написал. Очэнь инцярэсна а нашэй жызьни.*****

Тут Ёська адказвае:

-- Ну, да. Толька я, знаеце, па-беларуски не чытаю.******

-- Так эта жэ па-руски написана!*******

-- Ой, мама, эта написана па-беларуски и перевели по-руски,******* -- уставила Жана.

-- Ну што ты гаварыш! Эта усё па-руски написана.*******

------------------------------------

* "першы раз у жыцьці спаткаў такую дзяўчыну, якая адразу так спадабалася" *(ламаная рус.)*

** "чуў добрую думку" *(ламаная рус.)*

*** "ад кветак жа ніякай карысьці" *(ламаная рус.)*

**** "Гэта для вас, гэта для вас" *(ламаная рус.)*

***** -- Гэта вось мая бібліятэка. Я, ведаеце, жутка люблю літаратуру, калі вось такія з жыцьця ўзятыя, перажывальныя і павучальныя кнігі. Вось, напрыклад, вы, вядома, чыталі раман "Сэрца на далоні". Гэта наш беларускі пісьменьнік напісаў. Вельмі цікава пра нашае жыцьцё. *(Ламаная рус.)*

****** -- Ну так, толькі я, ведаеце, па-беларуску не чытаю.

*******-- Дык гэта ж па-руску напісана!

-- Ой, мама, гэта напісана па-беларуску і пераклалі па-руску.

-- Ну што ты кажаш! Гэта ўсё па-руску напісана. *(Ламаная рус.)*

-- Ну, как жэ – эта перавод з беларускава. Он жэ беларуский писацель, Шамякин.*
-- Но всё равно он пишэт па-руски,* -- цьвёрда адсекла мама Бабень.
-- Я вас паддзержываю, -- адазваўся Ёська. – Была бы непанятна, если бы писацель писал па-беларускі, а патом перэвадзил па-руски. Не лучше ли сразу па-руски. Эта жэ панятна.*
-- Ну да, ну да,* -- падхапіла мама Бабень.
-- А дзеньги?! А дзеньги как! – усклікнула Жана. – Сначала написал па-беларуски – палучыл дзеньги. Патом перэписал па-руски – палучыл дзеньги. Два раза за адно и то жэ. Вот как рвут у гасударства. И вездзе так. На Украине по-украински переписывают.*
-- Да, да, -- падтрымаў Ёська сваю сымпатыю, -- рвут и врут, иба усе, што ани пишут, -- неправда. На самам дзеле ничэво такова не была.*

Тут мама Бабень уважліва паглядзела на Ёську.
-- Знаеце, искуства – эта тожэ труд. Мы не Запад, в СССР труд цэнится, и чэлавек у нас на высаце.**

Ёська цалкам пагадзіўся з мамай Бабень, і далей размова пераключылася на мастацтва. Мама Бабень зь веданьнем справы камэнтавала тэлевізар.
-- Вот пасматрыце, Пыр’ев – сколька фильмав надзелал, но он жэ ее саблазьнил и разврацил. А ана такая маладая, красивая и радзи дзенег вышла за этава старава. Канечна, ей давали роли. В искустве всегда так.

А вот, сматрыце, сматрыце, -- эта Гурчэнка. А вы знаеце, кто её праталкивает? Так это жэ тот самый Пыр’ев ее и зделал. Да. Эта ешчо та дзевачка. Но паёт ана неплоха.***

Блакітны экран мільгануў і пайшлі іншыя кадры. А мама Груня:
-- Во-о-а! Так эта жэ Александроўская. Перапёлачка. Сматрыце, как ана пастарэла. А была любоўніцай Панамарэнки. Гаварат, радзи театра усё праталкивала.
-- А Ланавой! Какой красавец-акцёр! Русланава всё жэ была дрань, толька дзеньги любила. Правильна Сталин её пасадзил. Ну, голас, канечна, я вам скажу! А “Валенки” как исполняет! Прама нада вскачыць – и танцэваць хочэтся!
-- А вот сматрыце, Мардзюкова, а? Ну копия маей Жаны!****

-------------------------------------------

* -- Ну як жа – гэта пераклад зь беларускай. Ён жа беларускі пісьменьнік, Шамякін.
-- Але ўсяроўна ён піша па-руску.
-- Я вас падтрымліваю. Было б незразумела, калі б пісьменьнік пісаў па-беларуску, а потым перакладаў па-руску. Ці ня лепш адразу па-руску. Гэта ж зразумела.
-- Ну так, ну так. *(Ламаная рус.)*
– А грошы?! А грошы як! Спачатку напісаў па-беларуску – атрымаў грошы. Потым перапісаў па-руску – атрымаў грошы. Два разы за адно і тое. Вось як рвуць у дзяржавы! І ўсюды так. На Украіне па-украінску перапісваюць.
-- Так, так, -- рвуць і хлусяць, таму што ўсё, што яны пішуць – няпраўда. На самой справе нічога такога не было. *(Ламаная рус.)*

** -- Ведаеце, мастацтва – гэта таксама праца. Мы ня Захад, у СССР праца цэніцца, і чалавек у нас на вышыні. *(Ламаная рус.)*

*** – Вось паглядзіце, Пыр’еў – колькі фільмаў нарабіў, але ён жа яе спакусіў і разбэсьціў. А яна такая маладая, прыгожая, і дзеля грошай выйшла за гэтага старога. Вядома, ёй давалі ролі. У мастацтве заўсёды так.
А вось глядзіце, глядзіце – гэта Гурчанка. А вы ведаеце, хто яе праштурхоўвае? Дык гэта ж той самы Пыр’еў яе і зрабіў. Так. Гэта яшчэ тая дзяўчынка. Але сьпявае яна нядрэнна. *(Ламаная рус.)*

**** -- Во-о-а! Дык гэта ж Александроўская. Перапёлачка. Гляньце, як яна пастарэла. А была каханкай Панамарэнкі. Кажуць, дзеля тэатра ўсё праштурхоўвала. *(Ламаная рус.)*
-- А Ланавой! Які прыгажун-акцёр! Русланава ўсё ж такі была дрэнь, толькі грошы любіла. Правільна Сталін яе пасадзіў. Ну, голас, вядома, я вам скажу! А “Валенкі” як выконвае! Проста трэба ўскочыць – і танцаваць хочацца!
-- А во, глядзіце, Мардзюкова, а? Ну, копія маёй Жаны!

-- И никакая ни копия, -- абурылася Жана, -- у неё лицо далгое, а у меня – круглае. И  нос у нее на сями рос. Ана большэ на нашу Джыну пахожа.
-- Ну, не скажы, Джына красавица, а эта – лошадзь у спадницэ.
-- А я што – не красавица? Што ты гаварыш, мама? Вот ты усегда так!
-- А эта что за чуда? Сматрыце! – усклікнула мама Бабень. – Ой, сматрыце! Эта жэ этат, Маргунов. Между прочым, п’янница. Алкаголик, имел сем жон и ўсех бросил. Тачнее, ани ево бросили. Но я вам скажу, в искустве усегда так*, -- не сунімалася мама Бабень.

Ёська моўчкі круціў галавой то на тэлевізар, то на будучую цешчу, мала што разумеючы. Аднак якраз тут ён сказаў тое, чаго сам спачатку не зразумеў, але што паўплывала на ўсе яго заляцаньні і пэрспэктывы.
-- Вы знаеце, Агрыпина Микитаўна, -- кажа агаломшаны Ёська, -- вы так сильна разьбираецесь в искустве, у вас такое сильнае абразавание! Я вот акончыл Высшую парцийную школу, а, знаеце, так инцерэсна вас слушаць.
-- Ах, ну што вы! – засаромелася ад задавальненьня мама Бабень, -- абычный разгавор. Раскажыце лутшэ а себе. Я проста дзика люблю искуства**.

Ёська расказаў пра сваю партыйную працу, ВПШ, службу ў войску і пра тое, як ён сур’ёзна “атносится к жызньи”***.

У гэты час зайшоў тата Барыс Бабень. Гэта быў таксама чалавек-шафа, шырокі ў плячах, з тоўстым каркам і квадратным тулавам; вочкі блякла-блакітныя, над якімі навісалі рыжыя калматыя бровы; твар грубы, чырвоны, выгляд страхалюдны. Але, як аказалася, гэта была цалкам спакойная і маўклівая істота. Ніколі невядома было, што ён думае і што скажа.

Тым часам на стракатаньне жонкі – нуль увагі. Ён, здаецца, нават яе ня чуў і ўяўляў з сябе чалавека, нібы прышэльца з іншага сьвету.

Бацька Бабень моўчкі працягнуў руку Ёську пад акампанемэнт мамы Бабень: “Знакомся, Боранька, эта Иосиф Гарох, секратар парткома Инсцитута Механизацыи Сельскава Хазяйства, друг нашай Жаны”.****

“Боранька” памаўчаў яшчэ разам хвілін пяць і моўчкі аддаліўся ў свой пакой. Між іншым, ён уважліва паглядзеў на Ёську і адзначыў сабе, што той апрануты дакладна гэтак жа, як і ён. Такое назіраньне яго задаволіла і праз хвіліну (перш, чым адыйсьці) ён на Ёську нібы забыўся.

Маме Груні Ёська спадабаўся сваёй сур’ёзнасьцю і, натуральна, “абажаньнем”, як ёй здалося, яе асобы. “От гэта быў бы сапраўдны зяць”, -- думала мама Бабень. У гэты ж дзень яна сур’ёзна пагаварыла з Жанай. Жана нічога толкам не магла сказаць, а мама Груня насядала: “Эта жэ, пасматры, какой

---------------------------------------
* -- І ніякая ні копія, у яе аблічча доўгае, а ў мяне -- круглае. І нос у яе на сямі рос. Яна больш на нашу Джыну падобная.
-- Ну, не скажы, Джына прыгажуня, а гэта – конь у спадніцы.
-- А я што – не прыгажуня? Што ты гаворыш, мама? Вось ты заўсёды так.
-- А гэта што за дзіва? Глядзіце! Ой, глядзіце! Гэта ж гэты, Маргуноў. Між іншым, п’яніца-алькаголік, меў сем жонак і ўсіх кінуў. Дакладней, яны яго кінулі. Але я вам скажу, у мастацтве заўсёды так. *(Ламаная рус.)*

** Вы ведаеце, Агрыпіна Мікітаўна, вы так сільна разьбіраецеся ў мастацтве, у вас такая сільная адукацыя! Я вось скончыў Вышэйшую партыйную школу, але, ведаеце, так цікава вас слухаць.
-- Ах, ну што вы! Звычайная размова. Раскажыце лепш пра сябе. Я проста дзіка люблю мастацтва. *(Ламаная рус.)*

*** “адносіцца да жыцьця” *(ламаная рус.)*

**** “Знаёмся, Боранька, гэта Іосіф Гарох, сакратар парткама Інстытута Механізацыі Сельскай Гаспадаркі, сябра нашай Жаны”. *(Ламаная рус.)*

мужчына, а! Маладой и сер’ёзный, и далеко пайдзёт. И какой абразованный, любит искуства”*.

Ёська адносна Жаны ніякіх перажываньняў ня меў і не праймаўся. Дзеўка як дзеўка, моцная, здаровая, чаго болей трэба! Праўда, ужо не маладая, ну, але ж не старэйшая за Ёську. Галоўнае ж ня ў гэтым. Намесьнік міністра ўнутраных справаў, -- гэта нешта. Ёська падлічваў у сваёй галаве, што з таго можа атрымацца. І выходзіла, што Жана – дзеўка ў самы раз.

Усё пайшло, як па масьле. Расьпісаліся ў ЗАГСе пры сьведках, знаёмцах ды жанінай радні. Ёська быў у добрым настроі, спрабаваў нават пажартаваць.

-- Ну, пасмотрым, какая ты старая,** -- весела кажа Ёська, бяручы асадку, каб расьпісацца, і пачаў чытаць. Твар яго выцягнуўся. Ёська спацеў, рука дробненька задрыжэла. Ён вычытаў, што Жане трыццаць два гады, што супраць ягоных дваццаці дзевяці выглядала, як ён думаў, амаль старасьцю. Ёська пакутліва расьпісаўся і чырвоны, як рак, маўчаў.

Б**э**лтушка не прысутнічала. Ёська маці не папярэдзіў, палічыў тое непатрэбным, але напісаў ліст, што жэніцца на міністравай дачцэ і яшчэ пакажа ўсім, дзе ракі зімуюць.

Ёська сваю матку і на вясельны вечар (які запланавалі ў рэстаране) не хацеў запрашаць (“нагаварыт здзесь па-дзеравенски”). Але паўстала цешча Груня і Жана. “Ну, как так! Непарадак! Нет, едзем все к тваей маме -- и всё!”*** -- вырашыла цешча Груня. Яна сама пазваніла на пошту і папрасіла “саабшчыць”**** Зосі Пуцюль, што едзе сын з жонкай.

“Все” не паехалі, але цешча з Жанай і Ёськам на службовым аўтамабілі міністэрства пакацілі ў мястэчка Мур.

Калі пад’ехалі, брукаванка перад хатай Бэлтушкі пад Замкавай гарой і падворка былі чыста падмецены, дарожкі пасыпаны жоўтым пясочкам, а з абодвух бакоў брамкі стаялі ўтыркнутыя ў зямлю зялёныя бярозкі. Пад вокнамі цьвілі юргіні і півоні, а на ганку стаяла Зося ў народным строі (сама яшчэ дзяўчынай вышыла і выткала) з хлебам і сольлю на вышываным ручніку, які яна трымала на выцягнутых руках.

-- Ну, даёт мамаша! – усклікнуў Ёська. – Эта ана нас встрэчает*****.

Усе вышлі з машыны, і цешча Груня паляцела першая да Б**э**лтушкі.

-- О-о! О-о! Здрастуйця, здрастуйця. О, как красива, па-беларуски! Праўда? Я такой вас и прэдставляла. Я мама Жаны – Груня. А эта мая Жана. Падыйдзи к маме, Жана. Эта твая втарая мама.******

Цёшча Бабень стала абымаць Бэлтушку, а Бэлтушка кажа:

-- Вітаю вас у доме,
Хлебам-сольлю спатыкаю,
Гасьцеей у хату запрашаю.

-- О, спасиба, спасиба! Как харашо!******* -- засакатала цешча Груня.

-- Цалуйце хлеб, -- кажа Бэлтушка, паглядзеўшы на іх, -- каштуйце і заходзьце.

---------------------------------------------

* “Гэта ж, паглядзі, які мужчына, а! Малады і сур’ёзны, і далёка пойдзе. І які адукаваны, любіць мастацтва.” *(Ламаная рус.)*

** -- Ну, паглядзім, якая ты старая. *(Ламаная рус.)*

*** “Ну, як так! Непарадак! Не, едзем усе да тваёй мамы – і ўсё тут!” *(Ламаная рус.)*

**** “паведаміць” *(ламаная рус.)*

***** -- Ну, дае матуля! Гэта яна нас сустракае. *(Ламаная рус.)*

****** -- О-о! О-о! Добры дзень, добры дзень. О, як прыгожа, па-беларуску! Праўда? Я такой вас і ўяўляла. Я мама Жаны – Груня. А гэта мая Жана. Падыйдзі да мамы, Жана. Гэта твая другая мама. *(Ламаная рус.)*

******* -- О, дзякуй, дзякуй! Як добра! *(Ламаная рус.)*

У хаце быў падрыхтаваны стол з пачастункам, а пасярэдзіне хаты стаялі зосіныя два дзядзькі Пуцюлі, ужо на пэнсіі, але яшчэ крэпкія мужчыны.
-- Во, гэта мае родныя дзядзькі Казюк і Лаўрэн, -- паказвае Зося. – Пазнаёмцеся.

Пагаварылі. Тады Зося кажа:
-- Ну, то запрашаю ўсіх за стол. А вы, дзяўчаты, калі хочаце рукі памыць, то йдзем за мной, -- адвяла Груню і Жану ў кухню і пад начышчанай да бляску мядніцай палівала ім з конаўкі цёплай вадой, прапанавала белы вышываны ручнік.
-- Ого-о, лён, мама, сматры – лён!*
-- А што тут глядзець? Ну, лён, як лён, -- кажа Бэлтушка.
-- О-о, вы знаеце, эта сейчас так ценится.**
-- Нешта не заўважыла, каб нас нехта цаніў. От працуем сабе і добра.

За сталом пасьля пары кілішкаў языкі лепш разьвязаліся. Жана, праўда, адмовілася -- а ні ў рот – а мама Бабень такі трошкі пацягнула і з Бэлтушкай нядрэнна паразумелася.
-- Ого, знаеце, самагону даўно не прабавала. У дзярэўни маладые мы ў рот ня брали. Штобы дзевушки? Вы што? Никагда! А вот в горадзе – да. Папа инагда прывазил. Так вот в Минске какраз у начальства – за милую душу. Толька давай. Кагда папа умер, так некаму прывазиць.

А у вас дом какраз как у нас хата ў дзярэўни, хаця атсюда так далеко.***
-- А адкуль будзеце? – Лаўрэн пытаецца.
-- Віцебская вобласьць. У вас здзесь католики, а ў нас в аснавном праваслаўные, а разьницы никакой, и гаварäць, как здзесь.****
-- Ёсьць розьніца, -- адказвае Казюк, -- каталікі трымаюцца свайго, а праваслаўныя – чужога.
-- Ну, я бы не сказала, -- адказвае Груня. – У нас хаця и сацыализм, но каждый за сваё дзержытся: за кварциру, за дачу, а ў дзярэўні – за дом, агарод, за сотки да за сад, за карову, и дажэ за парсюка.*****
-- Я не пра парсюка.
-- Как эта?******
Я пра сваё, пра наша. Гэта значыць пра тутэйшае, пра тое, што Бог даў.
-- Ну, так я жэ и гавару.*******
-- Я думаю, нада сматрэць упярод, а не назад, -- уставіў Ёська. – Помню, маёр Пронин часта гаварыл: “Всем нам нада выхадзіць из лапцей, иначэ камунизм не пастроим. Руские церэбят дарогу упярод”.********

--------------------------------------------
* -- Ого-о, лён, мама, глядзі, лён! *(Ламаная рус.)*
** -- О-о, вы ведаеце, гэта цяпер так цэніцца. *(Ламаная рус.)*
*** -- Ого, ведаеце, самагонкі даўно не каштавала. У вёсцы маладыя мы ў рот ня бралі. Каб гэта дзяўчаты? Вы што? Ніколі! А вось у горадзе – так. Тата часам прывозіў. Дык вось у Менску якраз у начальства – за мілую душачку. Толькі давай. Калі тата памёр, дык няма каму прывозіць. А ў вас дом, як раз, як у нас хата ў вёсцы, хоць адсюль так далёка. *(Ламаная рус.)*
**** -- У вас тут каталікі, а ў нас у асноўным праваслаўныя, а розьніцы – ніякай, і гавораць, як тут. *(Ламаная рус.)*
***** -- Ну, я б не сказала. У нас хоць і сацыялізм, але кожны за сваё трымаецца: за кватэру, за дачу, а ў вёсцы – за дом, гарод, за соткі ды за сад, за карову, і нават за парсюка. *(Ламаная рус.)*
****** -- Як гэта? *(Ламаная рус.)*
******* -- Ну, дык я ж і кажу. *(Ламаная рус.)*
******** -- Я думаю, трэба глядзець наперад, а не ў тыл. Памятаю, маёр Пронін часта казаў: “Усім нам трэба выходзіць з лапцяў, інакш камунізм не пабудуем. Рускія цярэбяць дарогу наперад”. *(Ламаная рус.)*

-- Дык яно так, -- кажа Лаўрэн. – Памятаю, вайной, недзе ўжо ў канцы, немцы прывезьлі з усходу нейкіх рускіх. Выгрузілі на станцыі і сказалі гаспадарам, каб наймалі іх на працу. Дык яны ў лапцях хадзілі і ўсё прасілі: "Хадзяін, картошкі дай, хадзяін, картошкі дай". Нам дык дзіва было, а яны зімой у лапцях. Упершыню такое бачыў. Потым гэтыя рускія разам зь немцамі ўцяклі.
-- Слышала такое, у нас тожэ гавораць, -- дадае Груня. – Эта были семьи палицаев, наверна. И как фронт двигался, немцы уродзе как их увазили.*
-- Я о другом, -- пярэчыць Ёська. – Упярод нада сматрэць, а не цэпляцца за сваё. Из земли нада вылазиць, а не сидзець, как жук в навозе. Усё чэлавечэства идзёт упярод.**
-- Праўду кажаш, Юзік, -- падсьміхае Казюк, -- ад свайго трэба пазбыцца і здаць у калкоз. Але галоўнае тут, каб ня выскачыць з портак, бо мужык без парток – гэта, ведаеце, як без мазгоў: і перад бабай канфуз, і дзецям не пакажашся.
-- Га-га-га, -- зарагатаў Лаўрэн, -- у камунізм ды без парток, дык самы раз – усе роўныя.
-- Ха-ха-ха, -- сьмяецца Груня. – Мужыкі, беражыце штаны! Иба, как в песьне паётся: "На Каўказе есьць гара – Севастопаль видна. Ходзиць турак без штаноў, как яму не стыдна".*** – Ха-ха-ха, -- заліваецца Груня.
-- Мама! – тузае яе Жана, -- ну вот, мы ж у гасьцях.
-- А чэво? Усе сваи,**** -- кажа мама Груня.
-- Ат, хто ў боб, хто ў гарох, -- падхапіла Бэлтушка. – Дзядзька Лаўрэн, налі кілішкі і вып'ем за майго Юзіка і за Жану, каб добра жылося, у гаспадарцы вялося, цялілася, жывілася ды весялілася і гора ня ведала.
-- Вот именна! И любов. И што бы ўсегда была любов, -- падхапіла цешча Груня, -- как ў песьне паётся: "Любов – не ціхая вада, а бурная цечэнія",***** -- зноў зарагатала мама Бабень.
-- Мама!, -- выгукнула Жана, -- не пачынай, мы ў гасьцях.
-- Главнае в жызьни – эта любов, -- працягвала далей цешча Груня, -- без любви, как в песне паётся: "Сьвету нету, щасьцья нету Пасрэдзи чужых людзей, Дажэ пцицэ не гадзиться Жыць без родзины сваей".******

Казюк з Лаўрэнам усё спрабавалі больш загаварыць з Груняй (што ды як, ды дзе), але мама Бабень усіх перабівала і ўсё тлумачыла, як сама хацела.

Бэлтушка слухала, а Ёська, даўно зразумеўшы, што цешчу ня спыніш, замаўчаў, як слуп. Гэтыя яго два дзядзькаваныя дзяды Казюк і Лаўрэн, канешне, людзі адсталыя, меркаваў Ёська, але тут яго цешча сваёй гаварыльняй перашкодзіла (так Ёська думаў) падцягнуць іх "упярод". Прытым ён не пасьпеў сказаць галоўнага – пра шкоднасьць беларускай мовы для камунізма і ўвогуле для нармальнага жыцьця. Столькі гадоў савецкай уладзе пасьля вайны, а яны сваё

----------------------------------

* -- Чула такое, у нас таксама гавораць. Гэта былі сем'і паліцаеў, напэўна. І як фронт рухаўся, немцы як быццам іх вывозілі. *(Ламаная рус.)*

** -- Я пра іншае. Наперад трэба глядзець, а не чапляцца за сваё. З зямлі трэба вылазіць, а не сядзець, як жук у гноі. Усё чалавецтва ідзе наперад. *(Ламаная рус.)*

*** -- Мужыкі, сьцеражыце порткі, бо, як у песьні пяецца: "На Каўказе ёсьць гара – Севастопаль бачна. Ходзіць турак без парток – сораму ня мае". *(Ламаная рус.)*

**** -- А што? Усе ж свае. *(Ламаная рус.)*

***** -- Менавіта! І каханьне. І каб заўсёды было каханьне, як у песьні пяецца: "Каханьне – ня ціхая вада, але бурная плынь". *(Ламаная рус.)*

****** -- Галоўнае ў жыцьці – гэта каханьне. Без каханьня, як у песьні сьпяваецца: "А ні шчасьця, а ні сонца Пасярод чужых ня міла, Нават птушкам жыць ня проста На чужыне без радзімы". *(Ламаная рус.)*

галёкаюць. Нават перад Жанай няёмка. А яшчэ тут і матка выступае і не маўчыць. Ёська пачуваўся, нібы абпляваны. Ужо і цешча Груня пачала паддавацца. Зараза нейкая. Добра казаў Пронін: “Есьць чэлавек – есьць вапрос; нет чэлавека – нет вапроса”.* Ёська насупіўся і соп.

-- Ну, што, Юзук, -- штурхнуў яго Лаўрэн, -- порткі трымаюцца, дык давай завядзем сваё і прынагодна. Падцягвай. І сказаўшы так, голасна засьпяваў:

Ой хацела ж мяне маці
Ды-й за першага аддаці

Яго падхапіў Казюк, а потым і Зося з падводкай. І палілася песьня, як рака ў мора з хвалямі-пералівамі.

Цешча Груня адразу запляскала ў далоні.

-- О! О! Атлічна! Брава! У нас эту песьню тожа пели,** -- і паспрабавала падцягваць. Праўда, крыху ўпоперак і Жана зноў пачала яе тузаць.

Гэтага Ёська ўжо выцерпець ня мог. Ён ціхенька падняўся і выйшаў з хаты, нібы па нейкай патрэбе. А дзядзькі-дзяды з мамай Зосяй выводзілі так, што аж шыбы трымцелі.

-- Атлічна! Атлічна!*** -- крычала цешча Груня, -- і, прапусьціўшы яшчэ кілішак, кажа:

-- А вот у нас, в Минске, сейчас вездзе пают такую песьню. Знаеце? – і засьпявала рэзкім, крыху дзяркатым голасам:

Вот кто-та з горачки спусьцился,
Наверна, милый мой идзёт.
На нём зашчытна гимнасьцёрка –
Ана с ума меня сведзёт.***

Груні хапіла на два слупкі, тым больш, што ніхто не падхапіў.

-- Очэнь красивая песьня,**** -- сказала цешча Груня.

-- Так, “красівая песьня”, паўтарыла Зося.

-- Да, да, очэнь красивая. А ешчо пают: “Называют меня некрасиваю, так зачэм жэ он ходзит за мной?” Па радзио часта испалняют. Знаеце, эта шэдзеўр. Я очэнь люблю искуства. Мы з дзецьми часта ходзим на канцэрты, правда, большэ з Жанай. Ана ўся у меня. Асобенна кагда прыезжают пеўцы из Масквы. А ешчо мы с ней всегда ўмесьце ходзим в кино. У младшых свои сем’и, так ани самы па себе. А мы с Жанай – па цеатрам да па кинам шляемся, не разьли вада. Ох, дажэ жалка, што замуж атдала. Но, знаеце, я давольна: Иосиф чэлавек видный, сяр'ёзный, красивый. Вы пасматрыце, ани жэ такая пара, такая пара...*****

----------------------------------------------------------

* “Ёсьць чалавек – ёсьць пытаньне; няма чалавека – няма пытаньня.” *(Ламаная рус.)*

** -- О! О! Выдатна! Брава! У нас гэтую песьню таксама пелі. *(Ламаная рус.)*

*** -- Выдатна! Выдатна!(...) А вось у нас, у Менску, цяпер усюды сьпяваюць такую песьню. Ведаеце?

Вось нехта з горачкі спусьціўся,
Напэўна, мілы мой ідзе.
На ім ваенна гімнасьцёрка,
Яна м’не з розуму зьвядзе. *(Ламаная рус.)*

**** -- Вельмі прыгожая песьня. *(Ламаная рус.)*

***** -- Так, так, вельмі прыгожая. А яшчэ сьпяваюць “Называюць мяне непрыгожаю, дак навошта ж ён ходзіць за мной?” Па радыё часта выконваюць. Ведаеце, гэта шэдэўр. Я вельмі люблю мастацтва. Мы зь дзецьмі часта ходзім на канцэрты, праўда, больш з Жанай. Яна ўся ў мяне. Асабліва, калі прыязджаюць сьпевакі з Масквы. А яшчэ мы зь ёй заўсёды разам ходзім у кіно. У маладзейшых свае сем’і, дык яны самы па сабе. А мы з Жанай – па тэатрах ды па кінах бадзяемся, не разьлі вада. Эх, нават шкода, што замуж аддала. Але, ведаеце, я задаволена: Іосіф чалавек прыкметны, сур’ёзны, прыгожы. Вы гляньце, яны ж такая пара, такая пара... *(Ламаная рус.)*

(А ўвогуле, гэта было нешта накшталт пары маладых сланоў. Але Ёська быў на двары і параўнаньне ня ўзьнікла.)

Пачало зьмяркацца, і цешча Груня замітусілася, што пара ад'язджаць, бо далёка ехаць. І тут яна ўспомніла, а дзе ж кіроўца?

-- Кіроўца адпачывае, -- кажа Бэлтушка.

У міжчасьсі Зося на кухні пакарміла кіроўцу, пра якога яны забыліся, і паслала яму на тапчане, каб адпачыў.

-- А, да? Он атдахнул? Харашо. За рулём, знаеце, тожэ не проста,* -- сказала цешча Груня.

Бэлтушка прапанавала пераначаваць, але Груня замахала рукамі.

-- Нет, нет, нет, Зося, што ты? Нада ехаць, нада ехаць. Ноч, цемно, засидзелись. Но всё атлична! Всё харашо!**

Груня сказала, што Зося ёй спадабалася і на вясельны вечар у наступную нядзелю яна прышле па яе машыну і што яе прывязуць і адвязуць. Але Бэлтушка чамусьці катэгарычна не згадзілася і сказала, што прыедзе сама, ёсьць каму адвезьці і што так ёй лепш.

Яна ўзіралася на Жану, прыкідваючы, што па камплекцыі яны мала адрозьніваюцца, хіба што Бэлтушка крыху вышэйшая. “Але гэта і добра”, -- падумала Зося. Яна выйшла за перагародку, адчыніла куфар і дастала свой вышываны строй, які дзяўчынай выткала, вышыла сама і рыхтавала сабе на вясельле, і якога ніколі не адбылося. Потым яна думала, што ў гэтым строі некалі ляжа ў труне, і хай яе ў ім пахаваюць.

Зося склала андарак, хвартух, кашулю, кабацік, перабрала пацеркі, якіх некалі перад вайной накупляла ў Вільні і сама нанізала на ніткі. Страшэнны жаль агарнуў яе. Для Зосі гэта вызначальны крок і ўсе сымвалы – рэальнасьць, як паветра, як Сонца і Зямля. “Але так трэба. Трэба так, -- думала Зося. – Так будзе добра.”

Яна акуратна ўзяла строй, вынесла яго на выцягнутых руках у сьвятліцу і кажа Жане:

-- Жана, гэта табе на шчасьце, -- і пакланілася.

Вочы ў Жаны загарэліся.

-- Спасиба. Спасиба. Дзякуй. Вы мая мама.

-- О-о! О-о-у! – завохкала мама Груня, -- какой падарак! Эта лён, Жана. Ты знаеш, эта жэ народнае искуства. Эта очэнь цэнны падарак. Сейчас эта знаеш што? Эта валюта, не пабаюсь этава слова.***

Бэлтушка слухала і маўчала. Увайшоў Ёська і кажа:

-- А ни пара ли ехаць?

-- Да-да-да-да-да! – зноў замітусілася Груня. – Всё! Едзем, едзем, ат’езжаем...****

Зоська! – Груня растапырыла рукі і кінулася абдымаць Бэлтушку.

-- Ну, то возьмем на пасашок, -- сьмяецца Казюк, гледзячы на Груню.

-- Да-да-да-да-да! На пасашок! – усклікае Груня. – Как у песьне паётся:

Ехаў-ехаў праз масток,
Кінуў чарачку ў раток.

-------------------------------------

* -- А, так? Ён адпачнуў? Добра. За рулём, ведаеце, таксама ня проста. *(Ламаная рус.)*

** -- Не, не, не, Зося, што ты? Трэба ехаць, трэба ехаць. Ноч, цёмна, засядзеліся. Але ўсё выдатна! Усё добра! *(Ламаная рус.)*

*** -- ...які падарунак! Гэта лён, Жана. Ты ведаеш, гэта ж народнае мастацтва. Гэта вельмі каштоўны падарунак. Цяпер гэта ведаеш што? Гэта валюта, не збаюся гэтага слова. *(Ламаная рус.)*

**** -- Так-так-так-так! Усё! Едзем, едзем, ад’язджаем. *(Ламаная рус.)*

Чарачка, чарачка мая,
Аглаблёвая! Э-э-эх! І-і-і-ых! –

топнула нагой мама Груня.
-- Мама, мама, ты што? Ну, я цебя не узнаю,* -- занудліва зацягнула Жана.
-- Эх, дочка! У жызьни раз бывает восемнаццаць лет! Как даўно эта была, кагда пели, танцавали, усех баялись, усех пугались. А сейчас – мы не баимс я! Мы никаво не баимся! И ты не бойся!**

Эх ты, чарачка,
Чарачка мая
Аглаблёвая-а... –

зацягнула цешча Груня, стукаючыся кілішкам з Казюкам і Лаўрэнам.
-- Казюк! Вы ня думайце, што Груня падпіла. Груня проста вясёлая. А яшчо я очэнь люблю искуства. Я ня проциў нікаво и нічэво, но нада дзела знаць. Правільна?
-- Правильна, -- сьмяецца Казюк.
-- И очэнь сваеврэменна,*** -- дадае Лаўрэн і куляе чарку. Усе пасьмяяліся (толькі Ёська сур'ёзны) і пайшлі праводзіць гасьцей.

Госьці ад'ехалі, і Зося з Казюком і Лаўрэнам вярнуліся ў пустую хату моўчкі, як пасьля зробленай працы. Зося кажа:
-- Дзядзька Казюк, Лаўрэн, можа яшчэ чарку зробіце, усё ж засталося?
-- Дзякуй, Зося, нeяк ня хочацца.
-- От, -- кажа Лаўрэн, -- не пілося, бо піць не было з кім. Толькі тая Груня і памагала. Але во Юзук, зух, бач ты, і гарэлкі ня п'е. А Груня, відаць, нядрэнная баба. Але ж меньціць, брат, як сарока.
-- Была нядрэнная, пакуль у горад ні пераехала, -- уставіў Казюк. – Ведаеце, я вось назіраю: як толькі хто свайго выракся і па-савецку загаварыў, -- адразу стаў крыж, душа адпала. Яшчэ іншая брыда на сваіх і гаўкаць будзе.
-- Ну, не кажы, -- пярэчыць Лаўрэн, -- хто да саветаў пайшоў, той там і служыць, і на хлеб мае. А мы з табой як былі "адзіналічнікамі",**** дык яшчэ добра пашанцавала, што ў Сібір не загналі.
-- Не хацеў бы я такога хлеба, -- кажа Казюк.
-- А і пры Польшчы тое самае было, -- уставіла Бэлтушка, -- па-польску не гаварыў, дык і сядзі ў бэце.*****
К а з ю к:
-- А мы ў бэце не сядзелі, мелі зямлю, былі гаспадарамі. Чхалі на тую Польшчу.
-- Дзядзька Казюк, успомні, -- кажа Бэлтушка, -- Як толькі хто падвучыўся ды ў горад трапіў, то прыедзе да сваякоў, дык ужо па-просту не разумее, паляка з сябе корчыць. І чым цямнейшы, тым горшы.
К а з ю к:
-- У тым і справа, што ад цемры ўсё ідзе. Цёмнага не навучыш.
Л а ў р э н:
-- Ну, дык от цяпер цёмныя ў саветы пайшлі. Ім і добра.
К а з ю к:
-- Ім добра, але нам дрэнна. Уся бяда, што ня наша ўласьць. Была б наша – ня

---

* -- Мама, мама, ты што? Ну, я цябе не пазнаю. *(Ламаная рус.)*

** -- Эх, дачка! У жыцьці раз бывае васемнаццаць год! Як даўно гэта было, калі сьпявалі, танцавалі, усіх баяліся, усіх палохаліся. А цяпер – мы не баімся! Мы нікога не баімся! І ты ня бойся! *(Ламаная рус.)*

*** -- І вельмі своечасова. *(Ламаная рус.)*

**** Гаспадары, якія не ўступілі ў калгас. *(Аўт.)*

***** Беларускі картачны жаргон (быць у мінусе, сядзець у даўгах, у нястачы) *(Аўт.)*

пшэкалі б і ня хрукалі б, сваё шанавалі б. А цяпер, калі ты не з уласьцяй, то ў нізе сядзі. А пайшоў да ўласьці, дык трэба на сваё брахаць. Інакш уласьць ня прыме і дарогі няма.
А тут З о с я:
-- Ну, дык што будзе, дзядзька Казюк?
-- Нічога добрага ня будзе, Зоська, і не спадзявайся, бо дурной застанешся. Выбачай, як ёсьць, так і кажу. Хіба што яму смажаны певень у задніцу дзюбне. Альбо саветы пагоняць адусюль. Але ўсёроўна нічога ня зьменіцца. Колькі я ўжо паназіраў за такімі і пры Польшчы, і цяпер. Гіблая справа. Тут, як д’яблу душу прадаць, -- назад ня вернеш.
З о с я:
-- Можа, яшчэ вернецца. Груня ж, відаць, баба не прапашчая.
-- Пры чым тут Груня, Зосячка, і Жана таксама? Ён жа на міністэрстве жаніўся, а не на бабе. Ты што, ня чула, што ён раней казаў? От і маем сабе.
А тут Л а ў р э н:
-- Чаго ты трапечашся, Казюк? Пойдзе Юзук у вялікае начальства, будзе мець уласьць, кучу грошай і нам дапаможа. Вунь матцы трэба дах на хаце накрыць, а то дранка дзіравая. Раз-два – і накрыюць. Маючы ўладу ў саветах, можна б было йшчэ як сваім дапамагчы.
-- Не кажы абы што. Беларус табе будзе сваім дапамагаць? Ты што? Гробіць будзе сваіх. Забудзь.
-- Ну, чаму гэта ня будзе? Чаму?
-- А таму што начальства таго ня любіць, браце. Беларус – гэта такая цаца, што сьвет пройдзеш, -- такога ня знойдзеш самаеда. А што пра Юзіка, то пачакай, брат, ён яшчэ сябе пакажа. Зьдзівішся і ненадзівішся.
-- Нічога дрэннага ён у мяне ня бачыў і ня чуў, -- кажа Зося, -- толькі добрае. Але гэта мяне Бог карае. І трэба крыж несьці.
-- Зараз, Зосячка, усе нясуць крыж. Час такі. Савет пануе, і кругом зло.
-- Савет саветам, але лёс лёсам. Так хацелася, каб было іначай. Гэта ж, мае вы, так проста.

Памаўчалі. Лаўрэн кажа:
-- Мы цябе, Зоська, не пакідалі і не пакінем. Але ж мы ўжо старыя. А нашыя дзеці, ведаеш як, -- таксама ў Менск паўцякалі. Там і хрукаюць. Праўда, як да бацькі прыедуць, то па-нашаму, свайго не выракаюцца. Але што з таго, калі ўсё падае.

Халера. Чым больш савет пратрывае, тым будзе горай. А тут бачыш як. Але ты на нас спадзявайся, што б там ні сталася.

* * *

Вяртаючыся ад Бэлтушкі, калі ўжо сьцямнела, Казюк з Лаўрэнам усё разважалі пра яе ды пра Ёську.
-- Шкода Зосю, халерачка, -- кажа Казюк, -- змарнавалася кабета. Бач ты, і стаcuraлася, і завіхалася, а толку ня вышла.
-- І колькі я дзе бачыў, такім кабетам Бог шчасьця не дае, -- працягвае Лаўрэн. – Можа стацца і не найгорш, і нават добра, толькі бяз шчасьця. Дый з байструка, брат, байструк і расьце.
-- Падлачка, каб ён быў хоць трохі разумнейшы, то можна было б яшчэ спадзявацца. Як з войска вярнуўся, дык зусім бязмозглы, супраць свайго прэ.
-- Але бачыш, во трохі прабіўся.
-- Дык такія саветам якраз і патрэбныя. Дурні – вялікая сіла. Хаця ня думаю, што ён там далёка пойдзе. Розум усюды патрэбны.

Браты разьвіталіся і разышліся па хатах.

* * *

Мама Бабень, выдаўшы Жану замуж, прапанавала, каб Ёська пераязджаў да іх і будуць жыць усе разам. Але Ёську хапіла хітрасьці адмовіцца. Ён патлумачыў, што трэба пражыць мядовы месяц і што калі яны з Жанай будуць без кватэры і нешта наймаць, то ёсьць шанц хутчэй атрымаць дзяржаўную кватэру. Намёк быў празрысты, і мама Бабень тут жа пачала апрацоўваць мужа на гэтую тэму.

Ёська ўжо ведаў некаторыя таямніцы партыйнай улады. У міністэрствах, у ЦК і ўвогуле ў намэнклятуры былі свае кватэрныя фонды і патрэбны чалавек, скажам, функцыянер, прысланы з Масквы, атрымліваў дзяржаўную кватэру імгненна, добрую і ў добрым месцы.

Ёська ведаў, што калі недзе у СССР, скажам, у Сібіры (у Магадане, Іркуцку, на Калыме), супрацоўнік КГБ ці МУС (скажам, з аховы лагераў, турмаў і т. п.) выходзіў на пэнсію па выслузе гадоў (а гэта звычайна ў саракапяцігадовым узросьце), то яму прапаноўвалі на выбар жыхарства ў эўрапейскай частцы СССР. У намэнклятуру такіх месцаў уваходзілі Эстонія, Латвія, Летува, Беларусь, Украіна, Малдова і г. д. па пэрыметру. Такія “кадры” звычайна выбіралі Беларусь (“уровень жизни высокий, народ хороший и главное – язык не надо знать”*). Улады былі абавязаны ў месячны тэрмін выдзеліць такім кліентам дзяржаўныя кватэры, працу і прапісаць. Плоймы гэбістаў-пэнсіянераў з усіх канцоў СССР асядалі ў Беларусі, Ёська зайздросьціў ім. (“Чэм я хужэ, если дажэ и не пенсіанер, я жэ сатрудничаю.”**)

У гэты час на чарговым спатканьні з 1-м і 2-м гэбістамі Ёську сказалі:

-- Есть место инструктора ЦК партии. Вы бы потянули эту работу?

-- Да, пацянул бы***, -- адказвае Ёська.

-- Естественно, это зависит от руководства ЦК, но мы, то есть Комитет, можем дать рекомендацию. Естественно, при соблюдении некоторых условий.****

Ёська маўчыць.

-- Вы поняли, о чем мы говорим?

-- Да, понял,***** -- адказвае Ёська і зноў маўчыць.

Гэбісты пераглянуліся, пасьля чаго адзін кажа:

-- Надо будет выполнять некоторые задания, точнее просьбы, со стороны Комитета. При успешном выполнении можете получить звание.

-- Какое?****** -- ажывіўся Ёська.

Гэбісты зноў пераглянуліся.

-- А вплоть до генерала. Точнее, подполковника.*******

У Ёські перасохла ў роце.

------------------------------

* “узровень жыцьця высокі, народ добры і галоўнае – мову ня трэба ведаць” *(рус.)*

** (“Чым я горшы, нават калі і не пэнсіянер, я ж супрацоўнічаю”) *(Ламаная рус.)*

*** -- Ёсьць месца інструктара ЦК партыі. Ці пацягнулі б вы гэту працу? *(Рус.)*
-- Так, пацягнуў бы. *(Ламаная рус.)*

**** -- Зразумела, гэта залежыць ад кіраўніцтва ЦК, але мы, значыцца Камітэт, можам даць рэкамендацыю. Зразумела, пры датрыманьні некаторых умоў. *(Рус.)*

***** -- Вы зразумелі, пра што мы гаворым? *(Рус.)*
--Так, зразумеў. *(Рус.)*

****** --Трэба будзе выконваць некаторыя заданьні, дакладней, просьбы з боку Камітэта. Пры пасьпяховым выкананьні можаце атрымаць званьне.
-- Якое? *(Рус.)*

******* -- Аж да генерала. Дакладней, падпалкоўніка. *(Рус.)*

-- Нет вопроса, -- кажа Ёська. – Мы людзи парцийныя и прэждзе ўсево – камунисты.
-- В общем, обдумайте и будьте готовы,* -- суха адказалі гэбісты.

Ёська ўжо разумеў, што гэта дзейнічае яго маўклівы цесьць Бабень. Ён нават і не ўяўляў, што ў гэтага бясслоўнага чалавека такая хватка і такая сіла. “Тут міліцыяй і ня пахне”, -- падумаў Ёська.

Неўзабаве яго запрасілі ў аддзел ЦК на размову. Ёська больш маўчаў і таму пакінуў уражаньне сур’ёзнага камуніста, хоць пару разоў “бомкнуў” неўпапад.

Потым афармілі ўсе фармальнасьці і выдзелілі Ёську нават невялічкі кабінецік са сталом і тэлефонам. Калі Ёська ўсё гэта ўбачыў і ўсьвядоміў, у яго закружылася галава. Але потым ён раптам супакоіўся, разваліўся ў крэсьле і гэтак спакойна па-філасофску ўставіўся ў вакно, па-гаспадарску барабанячы пальцамі па стале. Зазваніў тэлефон. Ёська нясьпешна, так неахайна ўзяў слухаўку.
-- М-да.
-- Таварыш Гарох, зайдзіце ў аддзел кадраў. – І кароткія гудкі.

Тут Ёська крыху абсеў. І дзе той аддзел кадраў, ён ужо і ня памятае ў гэтых кабінетах. Ёська выйшаў на калідор і пачаў разглядацца. Тут раптам як з-пад зямлі вырастае нейкі тып.
-- Вы что-нибудь ищите, товарищ**? – кароткая стрыжка і гатоўнасьць у вачах.
-- Я здесь ужэ работаю, -- адказвае Ёська, -- нада аддзел кадрав.***
Тып паказаў яму, куды ісьці.

Фантастычна, але роўна праз месяц Ёська з Жанай уехалі ў новую кватэру па Барысаўскай шашы за кінастудыяй “Беларусьфільм”.

Неўзабаве ў кабінецік Ёські прыйшоў 1-ы гэбіст Арсень Віктаравіч зь нейкім чалавекам, які меў фізіяномію, як футбольны мяч.
-- Вот, Иосиф Викентьевич, товарищ Никонов. Отныне будете иметь непосредственные отношения с ним.****

Ніканаў дааформіў зь Ёськам нейкія паперы і пацьвердзіў, што апэратыўны псэўданім яго “Дубровский”.

Гэбісты пайшлі, і Ёська застаўся сам, задаволены сабой. Яму вельмі карцела даведацца, калі яму дадуць званьне, як абяцалі. Але спытацца не рашыўся.

Па дарозе з ЦК Ніканаў кажа 1-му гэбісту:
-- Этот агент может оказаться очень полезным идиотом. Нужен подход.*****

* * *

Пасьля ВПШ, інцыдэнту з пабіцьцём і галоўнае, з прычыны нязгоды на супрацоўніцтва з КГБ, Раман Шляхта, фактычна, апынуўся бяз працы. Яму нічога не прапанавалі. Шляхта асабліва не праймаўся. “Член партыі” ня будзе бяз працы, толькі працу яму дадуць нікудышнюю.

Шляхта ня стаў перажываць, а паехаў у Віцебскі абкам партыі і папрасіў “апошнюю справу” – накіраваць яго старшынём калгаса (“туды, дзе ёсьць вакансіі”).

----------------------------------------------
* -- Няма пытаньняў... Мы людзі партыйныя і перш за ўсё – камуністы.
-- Увогуле абдумайце і будзьце падрыхтаваным. *(Рус.)*
** -- Вы што-небудзь шукаеце, таварыш? *(Рус.)*
*** -- Я тут ужо працую (...), патрэбны аддзел кадраў. *(Ламаная рус.)*
**** -- Вось, Іосіф Вікенцевіч, таварыш Ніканаў. Ад цяпер будзеце мець непасрэдныя дачыненьні зь ім. *(Рус.)*
***** -- Гэты агент можа стацца вельмі карысным ідыётам. Патрэбны падыход. *(Рус.)*

Пасьля “бяседы” яго накіравалі ў калгас пад Воршай. Гэтак Шляхта стаў “гаспадарнікам”.

Калгас быў нікудышнім, справы запушчаныя. Але Шляхта сур'ёзна ўзяўся за справу. Праз год становішча крыху палепшылася. Шляхта асвоіўся, зразумеў нескладаны мэханізм савецкай гаспадаркі, але галоўнае – набыў павагу ў людзей, бо стараўся быць строгім і справядлівым, не заўзімаўся за дробязі, гаварыў зь людзьмі па-беларуску, адносіўся з павагай, але начальніцкага тону не губляў і слабіны нікому не даваў. У народзе заслужыў клічку “талковага”. А як быў ён яшчэ чалавек малады і не жанаты, то некаторыя мясцовыя дзяўчаты гэтым моцна цікавіліся.

Але аднойчы паехаў Шляхта па грамадзкай справе ў Менск. Пакруціўся, нічога не залагодзіў, чаго хацеў, зайшоў на тэлеграф і пазваніў Рубайлу, кажа, што заедзе, каб успомніць мінулае ды пагаварыць.

У Менску ён плянаваў пастарацца, каб прыслалі настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры ў сярэднюю школу, бо тыя, што былі, паўцякалі ў Менск на лепшую працу, а іхныя лекцыі чыталі іншыя па сумяшчальніцтву. У міністэрстве Шляхту сказалі, што настаўнікаў прышлюць толькі з наступнага года, бо ўсё ўжо разьмеркавана. Але ж Шляхта хацеў, каб прыслалі цяпер. Навошта чакаць год?

* * *

Газік (“козьлік”) плаўна каціўся па добрай дарозе да Баранавіч. Сонца хілілася ўжо пад вечар. Доўгія цені клаліся ад прыдарожных таполяў на сіні асфальт і таўкліся камарыкі ў паветры. Гэта такі спакойны час у Беларусі, калі глядзіш перад сабой, назіраеш, як зьмяняюцца краявіды, далёкія сінія лясы і ўзгоркі сплываюць за гарызонт, шаляваныя і фарбаваныя на жоўта хаты, палявыя дарогі пятляюць, як стужкі, чароды буслоў на сенажацях, што гуртуюцца ў вырай, пажатае высока камбайнам іржышча зь веерамі шпакоў на пожнях, як вокам абняць, і праз адчыненую шыбку разам зь ветрам далятае сьвежай саломы пах.

Гудзіць матор, дарога амаль пустая, як шмат дзе ў Беларусі. Паабапал бярозы, кусты зьбягаюць за плечы. Нічога ня думаецца, спакойна ў душы, час, калі проста добра жыць у Беларусі, якая вось за вакном і за шклом ветравым, нібы жывая, разам зь ветрам з табой ляціць.

Рубайла быў яшчэ ў канторы і гучна ўзрадваўся, убачыўшы на парозе Шляхту.

-- Рамук! Ну, ты зух, брат! Ну, харашун! Так і трэба! Шчыра рады, браце, надзвычайна, -- грымеў Рубайла, абымаючы Рамука. – А то праз тэлефон, браце, гэта не гаворка, ды яшчэ ўсялякая хвароба слухае. Гаварыць трэба за сталом, браце, за сталом! Беларус спраўджваецца за сталом. Пакуль за стол ня сядуць – гэта яшчэ не беларусы. Але ж ты даў, брат, пэўна, з пяцьсот кілёмэтраў. Ды яшчэ на “казьле”! Ну, і што там у Воршы?

-- Кажуць, як у Воршы, дык найгоршы, -- адказвае Рамук, -- і пэўна, што праўду кажуць.

-- Ну, ня ўся праўда, браце, бо ў Мінску шчэ й па-сьвінску, а ў Сянно ... Добра, што мы з табой не ў Сянно, а тут во круцімся. – Рубайла набраў нумар:

-- Яня? Ты гатовая? Так, прыехаў. Едзем. Ну, то пагналі, -- кажа Рамуку, -- жонка чакае, ато гарэлка скісьне.

Яніна Рубайла, мажная ўсьмешлівая жанчына з прыемным грудным голасам (здаецца, што яна не гаварыла, а сьпявала) сустрэла мужчын на ганку, запрасіла ў дом. Стол аж ламаўся ад усяго. Рамук анямеў.

-- А хто яшчэ будзе, -- пытаецца.

-- Як хто? Ты, мой ты вясёлы, будзеш, хто ж яшчэ?

-- Але ж... – пачаў Рамук, гледзячы на стол і на Яніну, якая шырока ўсьміхалася.
-- Ніякіх “але ж”, таварыш Шляхта, -- загрымеў Рубайла, -- пакуль усё ні падчысьцім і ўсё ня вып’ем – ня ўстанем. Ноч наперадзе, і жыцьцё бяжыць, як пугай высмаліць.
-- Ну, як збажовая? – пытаецца неўзабаве.
-- Фантастычна! – кажа Рамук. – Божая сьляза!
-- От тое ж і яно, “товажышу”, -- адказвае Рубайла, -- прыязджаў тут адзін паляк з Варшавы, дык кажа: “Знам сен на трунках, але ніц подобнэго в жыцю не пілэм”* А чаму, -- кажу, -- бо самы робім.
-- Як? – зьдзівіўся Рамук, -- ты самагонку гоніш?
-- Ну, не я, Рамук, дай спакой. Народ гоніць.
-- Пры Сталіне пасадзілі б разам з народам.
-- І саджалі, братка, і дарма. Нічога ня выйшла. Гналі і будуць гнаць. Такая патрэба.
-- Я думаю, што як жыць стане добра і ўсяго будзе, то гнаць перастануць.
-- Гэта калі? Пры камунізме? – хмыкнуў Рубайла.
-- Пры чым тут “ізм”, я ўвогуле кажу.
-- Калі настане тое “ўвогуле”, мы ня ведаем, а цяпер трэба круціцца і людзям выжываць. Мой калгас у ліку добрых, наперадзе йдзе, бо ўлады спрыяюць. А ведаеш чаму?
-- Ведаю, чаму ж не. Ты фігура, брат, асоба, шчыра кажу. На такіх тут шмат што і трымаецца.
-- Не ў фігуры справа.
-- Дык у чым?
-- У тонкім веданьні савецкай “ўласьці”. Мы з табой сябры? Сябры. Дык от – заўтра пакажу. Толькі табе і пакажу. Можа, пяроймеш вопыт. Слухай, Рамук, мы з табой, як з ВПШ, то й ня бачыліся.
-- Па тэлефоне ж гаворым.
-- Гэта ня тое. Ты скажы, ці ты ўжо ажаніўся? Сям’я, жонка ёсьць?
-- Не ажаніўся.
-- Ну і чаго ты чакаеш? Прынцэсы?
-- Шукаю.
-- Чаго?
-- Беларускі.
-- Дык тут жа і шукаць ня трэба. Заплюшчы вочы, ткні пальцам і трапіш у беларуску.
-- Так, але трэба, каб ня хрукала і не шваргатала над вухам. Каб гаварыла па-людзку.
-- Братка мой! Дык у нас такіх дзевак поўны калгас. Выбірай любую.
-- Гэта я ведаю. Толькі ці ведаюць яны, колькі будзе двойчы два і навошта людзям мова?
-- А-а-а, -- зацягнуў Рубайла, -- так бы і казаў па парадку, увесь сьпіс. Значыцца: беларуска, патрыётка, адукаваная і далей..? Што яшчэ?
-- Усё на гэтым. Ну, хіба што (гэта так, пажадана), каб не худая, -- прастадушна вымавіў Рамук.

Тут аб’ёмная Яніна як зарагоча, аж запляскала ў ладкі.
-- Брава, Рамук! Вось гэта шчыры муж! Як пышна, дык і ўвішна, як пагожая, дык і прыгожая, як у целе – на расхват! А яны там – “фігура”, “балярына” – самы сабе хлусяць. Навошта сябе ашукваць, а?
-- Да мяне тое не адносіцца, -- адказвае Рамук.

-----------------------------------------
* Я разьбіраюся ў алькагольных напоях, але нічога падобнага ніколі ня піў. *(Польск.)*

-- Мода! Фальшэрства! – кажа Рубайла, -- кіно глядзяць, лухту чытаюць, -- і зацягнуў басам: “Дзяўчына гарна, дзяўчына пышна, Чаму да мяне ўчора ня выйшла?” – Словам так, Рамук, жарты ў бок. Шукаем жонку. Справа сур’ёзная, і мы людзі цьвярозыя.
-- Хо-хо-хо-хо, -- сьмяецца Яніна, -- ой, праўда, вы такія цьвярозыя.
-- Янячка, дай бусю*, мая харошая, -- рагоча Рубайла, абымаючы жонку, і зноў зароў басам: “І піць будзем, і гуляць будзем, А як пышну жонку знойдзем, танцаваць будзем”. Рамук! З заўтрашняга дня пачынаем шукаць. Месяц часу. Прыедзеш на агледзіны. Так. Заўтра мы з табой паходзім, паезьдзім, пагаворым там-сям. Трэба паказацца. От так от сабе.
-- На раніцы ад’яжджаю, -- кажа Рамук.
-- Ну, ты кінь, братка, гэта не па-беларуску, не па-шляхецку. Гарэлка ня выпіта, а ён -- “ад’яжджаю”. Тры дні – мінімум. І каб управіліся.

Тут Яніна некуды адхілілася, і Рамук кажа:
-- Слухай, Рафал. Даўно ня бачыліся. Трэба б было пагаварыць пра важныя справы. Ты ж бачыш, што ў нас робіцца.
-- Бяз нас і робіцца.
-- Гэты гэбоўскі сукін сын зьнішчыць усё беларускае. На Віцебшчыне яго, гада, ведаюць.
-- Ну.
-- Трэба нешта рабіць.

Рубайла раптам стаў сур’ёзны і цьвярозы, як шкелца, дзе што дзелася, аж твар перамяніўся. Ён увогуле п’яны не бываў, хоць вядро вып’е.
-- Слухай, Рамук. Ты паглядзі, які вечар харошы. Сонца заходзіць, і сосны залацяцца. Над рэчкай цяпер лепата, братка, на сьвеце такога нідзе няма. Пашлі паглядзім, як вада цячэ.

Яны пайшлі вузкай дарожкай праз зялёны яшчэ авёс да рэчкі і спыніліся на высокім беразе над вадой. Таўклася машкара над плыньню, і ўжо чуваць было, як шчакаталі конікі ў траве. Выскачыў ліпень з вады, схапіў моль і гучна плюснуў.
-- О, бачыш, братка, ліпні плюскаюць. Над вечар іхні час. А лавіць -- няма калі як адхіліцца. І ніхто ня ловіць. Няма вольных людзей на такі занятак.
-- Але і хараство! Аж за горла сьціскае і плакаць хочацца.
-- Як гэта?
-- А так, што нічога гэтага нашага хутка можа ня быць. Яно ўжо ня наша. І ні адно савецкае парасё таго ня цэніць.
-- Ёсьць рэчы, якія ад нас не залежаць.
-- Але нешта ж залежыць.
-- Ну, так. Ураджай, уборка, план, пастаўкі і здача дзяржаве, гэта знача – у горла Маскве.
-- Планы, пастаўкі... Слухай, масава зачыняюцца беларускія школы. Гэты сукін сын зьнішчыць усё, лэб разаб’е перад Масквой. Ужо й Хрушчова няма, а ён усё гнецца. У нас ліквідавалі стаўку настаўнікаў беларускай мовы. Я ў Менску заходзіў у Міністэрства, прасіў, каб вярнулі стаўкі і прыслалі настаўнікаў. Ведаеш, што яны адразу сказалі? Чаму гэта я, маўляў, старшыня калгаса і цікаўлюся школай? Я кажу, што цікаўлюся як камуніст і чакаю ад іх пазытыўнага вырашэньня і тлумачэньня пазыцыі. Дык яны трохі абселі. Абяцаюць, што праз год прышлюць. А ўвогуле, ты толькі паслухай, -- кажуць, што трэба глядзець “упярод”, а не назад. “І што ў вас упярадзе, -- кажу, -- закрыцьцё беларускіх школ, таварышы? А як жа

----------------------------------
* пацалунак, раток *(ламаная польск.)*

ленінская палітыка ў вобласьці нацыянальных адносін? Хто каго корміць хлебам, -- пытаю, -- я, камуніст, старшыня калгаса, ці вы, якія тут толькі сядзіце і глядзіце “упярод”? “Мы тожа работаем*, -- кажуць. “Дзе яна, гэтая ваша “работа”, -- пытаю, -- колькі беларускіх школаў вы зачынілі ў гэтым годзе? Ці вы хочаце, каб я палічыў? Мы гэта зробім усім калгасам.” І сядзяць жа, халера, і ўсе беларусы.

Рубайла маўчаў, круцячы ў пальцах галінку сасны.

-- Гэта наконт “глядзець упярод” успомнілася, -- бубніць Рубайла. – Ведаеш, гэты балван Гарох, гэты наш “лапаць” ажаніўся на міністэрскай дачцэ і ўжо далёка скокнуў – інструктар ЦК КПБ па сельскай гаспадарцы. Так што чакайма, гэты дуб яшчэ нас “праінструкціруе”.

-- Трэба нешта рабіць, -- працягвае сваё Шляхта. – Усё зло ідзе шырокім фронтам: нішчаць вёску (прыдумалі “непэрспэктыўныя”), нішчаць рэкі (прыдумалі меліярацыю), нішчаць старую архітэктуру і гістарычныя цэнтры гарадоў, нішчаць беларускую школу. І нічым рацыянальным тое нават не абгрунтавана, акрамя прыдумак. Ідзе вайна супраць нас. Гэты сукін сын разбурыць усё, абы скокнуць у Маскву (куды яго ня возьмуць), нават прозьвішча сваё зьмяніў на маскоўскі лад!

-- Я ўсё гэта бачу, Рамук. Мы тут свае часам пры бутэльцы гаворым. Але што зьменіш? Гэтага “драня” ў Маскву не забяруць. Цалкам згодны. Заўваж, што яны робяць: пачалі прызначаць беларусаў на “першых”. Добра. Але як толькі чалавек пачынае па-сапраўднаму спрыяць Беларусі, яго хоп – і ў Маскву, маўляў, на павышэньне, бліжэй да Крамля. Зямянін пачаў па-людзку. Яго раз – і ў Маскву. Потым гэты Кірыла – глядзі, як Беларусь падняў. Памятаеш, Хрушчоў прыехаў, а Мазураў даклад па-беларуску. “Ні чарта не панятна!” – раве. Дык Мазураў і Хрушчова зьняў. І дзе цяпер Мазураў? На павышэньні ў Маскве. А тут цяпер паставілі гэтага халуя, які пачаў са зьнішчэньня мовы і школы. Дык от яго ўжо ў Маскву ніколі ня возьмуць. Запраданцы, братка, ім тут патрэбныя. І здохне ў Беларусі.**

-- Трэба ж супраціўляцца. Сваё рабіць.

-- Я раблю. Я чалавек просты і навука не для мяне. Але школа ў нас наша, беларуская. Мая Яня выкладае там батаніку і заалогію, дрэвы растуць, касьцёл дзеіць, нічога не разбурылі. Нават будынак сінагогі прыстасавалі. А мне ж умяшацца трэба было. Прапанаваў клуб. З райкама крычаць: “Снесци к чортавай мацеры!”*** А вось і ня зьнесьлі. Цяпер сельскі Дом культуры. Архітэктура ўсё ж. І гісторыя наша. Хоць і жыдоўская, але наша.

-- Добра, што добра. Але без арганізацыі не абыдземся.

-- Я ў рэвалюцыю не пайду. Гэта юнацтва, братка, ад маладосьці ўсё. Адразу накрыюць і раскрыюць. А там у іх ведаеш што.

-- Ты не разумееш, пра што я кажу. Я не пра рэвалюцыю. Я кажу пра рэальныя рэчы – пра лучнасьць сваіх. Арганізацыя можа быць і з двух чалавек, а праца – з дзясяткамі.

-- Табе я веру, Рамук. Але гэтых нашых феадалаў-акномаў добра ведаю. Там што ўбіў, што ўехаў. Яны будуць выконваць усё, што райкам скажа. А райкам – што Менск, а Менск – што Масква. Пад ляжачы камень вада не пацячэ.

Там, у Менску, цяпер студэнтаў накрылі. Зьбіралі подпісы за выкладаньне па-беларуску. Павыганялі палову. Ходзяць бяз працы. Адзін – з нашых мясьцінаў. Папросіцца – вазьму.

--------------------------------

*  Мы таксама працуем. *(Ламаная рус.)*

** Гаворка ідзе пра П. Машэрава, першага сакратара ЦК КПБ. *(Аўт.)*

** Зьнесьці да д’ябла! *(Ламаная рус.)*

-- Я чуў пра гэта. Іх усіх вербавалі. Таму падумай. “Лапця” ўспомні.
-- А-а, добра, што сказаў. А наконт “Лапця” не зьдзіўляюся. Ім вырадкі патрэбныя.
-- У мяне тут ёсьць наш беларускі “самвыдат”. Возьмеш? Ну, і расейскі “Красный террор”.
-- Пачытаць вазьму, але распаўсюджваць ня буду. І табе ня раю. Здадуць. Трэба, каб тое рабілі іншыя людзі.
-- Былі ж часы, што не здавалі.
-- Увесь час здавалі. І Каліноўскага здалі. Жонка чытала такога Генадзя Кісялёва, то там, у кніжцы, нават фота здрадніка ёсьць.
-- А Грамада?
-- Ну, Грамада. Ты малады жук аршанскі, а я, брат, дзяцінства яшчэ пры Польшчы меў. То бацька расказваў – не паверыш – у нашых мясьцінах цэлымі вёскамі ў Грамадзе былі. Зьбіраліся, братка, пракламацыі, Купалу чыталі. Бацька напамяць ведаў. Такі быў захват, такі ўздым.
-- Ну, вось бачыш.
-- Што “бачыш”, братка, -- усіх пабілі, згнаілі і панішчылі разам Дэфензіва і НКВД. Засталіся толькі напалоханыя. Гэта цяпер яны ёсьць мае калгасьнікі. Ужо некаторыя піць пачалі беспрабудна. Маскаль усім бокам вылезе.
-- І чаму тое ўсё так ляснула, халера? Такі ж быў рух!
-- Ляснула, бо сіла была ня ў нас. З двума акупантамі ты пазмагайся! Хаця можна было б, каб ні Тарашкевіч, дурань. Паверыў Маскве.

Рамук глядзеў на Рубайлу, разьзявіўшы рот.

-- Слухай, Рубайла! Як ты тут яшчэ ходзіш і гарэлку п’еш? Табе ж трэба сядзець далёка і дзяўбаць вечную мерзлату, а ты во, на табе.

Рубайла рагоча.

-- Хрэн ім у вочы! Мы, Рубайлы, ня зь іхняга цеста. А наконт рэвалюцыі, пакінь, братка, ня буду, ня веру і не хачу. Жывем, рабем, а там паглядзім. Будзе як будзе. Бог бацька.

* * *

Пакуль мужчыны былі на беразе, Яніна вырашыла перанесьці крэслы з саду ў веранду. Можа, захочуць яшчэ вечарам пасядзець ды паразмаўляць.

-- А нешта ж крэслы носіш, можа, на дождж зьбіраецца? Добры вечар, – гэта суседка Каралішка з-за плоту.
-- Не выглядае на дождж. Гасьця маем, то можа яшчэ захочуць пасядзець, як прыйдуць.
-- А дзе ж яны?
-- Гэта ж во, выпілі і пайшлі на бераг на ваду глядзець. Гэтыя мужчыны, як вып’юць, дык ім пачынае хацецца перамяніць сьвет. Тады яны ўжо гавораць, гавораць сабе...
-- А мая ж ты, -- сьмяецца Каралішка, -- і мой жа такі. Як вып’е, то ўсё кажа, як трэба, каб было. Гатовы ўсё перавярнуць. Потым пасьпіць і назаўтра бяжыць сабе на працу, як ні ў чым ні бывала. Іх толькі слухай.
-- Затое пагавораць уволю. Пры Сталіне і такога не было.
-- Слухай, Янэчка, сёньня мой дзяжурыць у сельсавеце. (Гэта ж гэты Карамазаў тут зноў дзяжурствы ўвёў.) Дык ён чуў, як з раёну званілі. Нехта важны да нас у Дзятлавічы прыедзе, нейкі інструктар ці то зь Менска, ці зь Берасьця. То ён прасіў мяне, каб Пятровічу сказаць. Гэты ж мангол яму ня скажа.
-- Добра, скажу.

Далей жанчыны абмяркоўвалі новы шляфрок Яніны ў кветачкі, які Каралішцы спадабаўся. Потым -- што трэба выхавацельку ў дзетсад, дзе Каралішка загадчыцай. Потым -- што яе, Каралішкін, сын, выдатнік Юрка Кароль, паступаў у Менску ў палітэхнічны і не прайшоў па конкурсу, то каб Пятровіч тут яму якую

працу даў, але не каб гной вазіць. Хопіць таго, што яе муж Стась Кароль на ферме таўчэцца. Потым узгадалі, што ў лесе поўна грыбоў і якраз пайшлі баравікі. І гэтак далей, усяго не пераскажаш, шмат пра што яны пагаварылі.

* * *

На раніцы Рубайла ўгаварыў Рамука застацца хоць на паўдня і разам пайшлі на разводку. Пасьля разводкі, калі ўсе разышліся па сваіх працах, Рубайла зьбіраўся ехаць у далёкую брыгаду і там паказаць Рамуку пасеку, заадно пачаставаць мёдам. Па дарозе заехалі на піlараму, бо электрарухавік зламаўся, пільшчыкі сядзелі і курылі. Рубайла сам разабраўся і накрычаў на пільшчыкаў, маўляў, такое глупства – трэба замяніць шчоткі, а яны бязрадныя, ня ведаюць, што рабіць.
-- А што рабіць? – пытае адзін.
-- Што рабіць? Ты сёньня нарадзіўся? На ровар і на механічны двор! І ня баўся! Ведаеш, што рабіць.

У гэты час падыходзіць да Рубайлы такі самавіты мужычок і кажа:
-- Пятровіч, людзей трэба.
-- Колькі?
-- Два.
-- Надоўга?
-- На тры дні.
-- Ого!
-- Глінка цярэбіць. Сорак літраў. Дачку выдае.
-- Ён здурэў хіба! Коней будзе паіць, ці што? Так, хлопцы, пакуль рамонт, ідзіце на сёньня з Ігнасём. Заўтра дам замену. Ігнась, бяры хлопцаў. Я сёньня заеду, гляну.

Рубайла з Рамуком селі ў “газон” і пакаціліся на пасеку. Калі прыехалі і выйшлі з машыны, Рамук аж плечы распрастаў: “Боскае месца і Боскае хараство!”

Высокае ўрвіска на беразе зарослай старыцы ракі, парослае маладым сасновым лесам з астраўкамі старых хвой і бяроз. А ўнутры гэтага сасновага мора шырокія палі – гактары распрацаванай пасекі, засеяныя жоўтым рапсам і беларужовай грачыхай. Па ўскрайках поля мноства вульяў. Грачыха позьняга засеву (пад пчолы) якраз зацьвіла, і мядовы пах, зьмешаны з водарам сасны, стаяў у паветры. Яркае сонца, блакітнае неба, цішыня і пчаліны гуд вісіць над полем у смольнай прасторы. І толькі часам рэдкі ветрык зашуміць у вяршынях старых хвой на ўскраінах грачышнага мора.

Якраз пад гэтымі старымі хвойкамі стаялі два фінскія дамкі. Тут летам жыў пчаляр Марка Яўсьціхевіч, захоўваўся ўсялякі пчаліны інвентар, рыштунак, рамкі, вашчына і нават старая ручная ацынкаваная цэнтрафуга. Часам начальства прыязджала проста на пасеку, і тут у запасе неабходна было заўсёды мёду мець, каб не пайшлі з пустымі рукамі. Марка аказаўся высокім дзядзькам гадоў пад пяцьдзесят, з чырвоным, як гуля, носам і шляхецкімі абвіслымі вусамі, на галаве меў саламяны брыль (які зрабіў сам), а на плячах белую зрэбную кашулю з чырвоным гафтам. Адчувалася, што быць пчаляром яму падабалася, адсюль, відаць, і такая класіка зьнешняга выгляду.
-- Ну, што, Марка, пчолкі гудуць? – пытае Рубайла, вітаючыся за руку.
-- Гудуць, Пятровіч, а куды ім дзецца.
-- Ну, дзякуй Богу. Заўтра Халява пад’едзе, то ты яму дай. Што тут табе трэба?
-- Нічога пакуль што ня трэба. Усё, як звычайна.
-- Добра, то мы паехалі. Сьпяшаем.
-- Значыцца, гэты Халява, -- кажа Рубайла Рамуку, ад’ехаўшы ад пасекі і круцячы кіраўніцу, -- дырэктар малаказавода. Свой чалавек, а дачка ў Менскім гаркаме

камсамола начальніца, змагаецца супраць беларускай школы. І адкуль што бярэцца, брат? Як рыба з галавы загіне, то ўсялякая гніль пачынае навокал з бакоў вылазіць. Пры іншым раскладзе, хто б падумаў. – Рубайла памаўчаў, абʼязджаючы лужу. – Мёдам мы трохі гандлюем, даем у крамы і трохі на рынак возім. Але гэта не галоўны прыбытак. Галоўнае, братка, начальства корміцца. Дык от і калгас добры, і камбікармы маю, і тэхніку. Інакш нічога не было б, братка, -- прыгоннае права. Гэты Халява для ўсяго райкама бярэ.

-- Слухай, Рафал, а навошта табе здалася тая ВПШ? – загаварыў Рамук.

-- Ты што, не разумееш? Хай ляжыць у кішэні. Гэта, як шчыт, калі што.

-- Калі ўзьнікне “калі што”, Рафале, то тут ужо ніштo не абароніць.

-- Го! Гэта яшчэ як сказаць. Рубайлу яны ня возьмуць за рубель дваццаць. Хрэн ім у вочы, як казаў адзін мой зямляк – знакаміты пісьменьнік.

-- Які “пісьменьнік”?

-- Марцінкевіч, братка. Шчыра скажу, не чытаў, але памятаю са школы.

Дарога пайшла па лесе, звузілася, галінкі дрэў хвасталі ў шыбы, і “газончык”, як пʼяны танцор, падскокваў, матляючыся па карэньнях. Неўзабаве “казёл” падкаціўся да шлагбаўму (жэрдкі на двух слупках), ад якога ўлева цягнулася дарожка ў глыб лесу. На шлагбаўме таблічка “Праезд забаронены. Угоддзі Н-скага лясьніцтва”. Рафал з Рамуком выйшлі з машыны і пайшлі далей пешшу. Прайшлі добры кавалак уздоўж лясной рачулкі Лані з чыстай вадой і выйшлі на невялікую паляну на высокім беразе, спрэс устаўленую катламі, бідонамі, вёдрамі, зьмеявікамі і бочкамі. Прытым катлы былі пад высокім навесам, пакрытым шэрым рубероідам. У глыбіні пад старымі бярозамі стаяла дашчатая паветка без дзьвярэй і з незашклёнымі вокнамі. У праёме паветкі сядзеў той самы самавіты мужычок, паголены, з бадзёрым выглядам, у вельветавай рудой кепачцы і жаваў яблык, назіраючы за хлопцамі, якія падкідвалі дровы ў агонь і цягалі вёдрамі ваду з Лані. Убачыўшы Рубайлу з Шляхтам, ён адклаў убок недакусаны яблык, устаў і пайшоў насустрач.

-- Усё гарыць, усё цячэ, Пятровіч, дзякуй за хлопцаў.

-- Гэта ўсё Глінку?

-- Глінку.

Рубайла хмыкнуў.

-- Падрыхтуем. Ён прышле чалавека. І памятай: ніякай размовы ні з кім і зь нікім. Ты – нямы.

-- Ну, ясна, Пятровіч, вядома.

-- Глінка – гэта начальнік раённай міліцыі, -- патлумачыў Рубайла Рамуку. Як мент, дык і сквапны. Добра. Цяпер што? Пяршак пайшоў? – Рубайла зноў да мужыка.

-- Пайшоў.

-- Давай пробу.

Мужычок пабег пад паветку, выносіць па паўшклянкі пяршаку і прапануе Рубайлу і Рамуку.

-- Ты што, Ігнась? А сабе? – заракатаў басам Рубайла.

-- Праца, Пятровіч, -- не павінен.

-- Ну, ты давай, Баўтрукевіч, тут мне не залівай, а гарэлкі налівай.

-- Ня трэба, -- уставіў Рамук, -- мне тут зашмат, дык мы з Ігнасём падзелімся.

Ігнась прынёс шклянку, і Рамук адліў напалову мужычку.

-- Э-э, не салідна, таварышы, не па-бальшавіцку, -- пасьмейваецца Рубайла. – Ну, на здароўе, -- і кульнуў шклянку. Пахухаў і кажа:

-- Добра, файна, гут.

Баўтрукевіч паднёс яблыкі ў місцы. Рубайла з Рамуком хрумсталі яблыкі і хвалілі пяршак.

-- Ну, ты даеш, Рафал! – кажа Рамук, калі ўжо селі ў машыну і ехалі назад, -- гэта ж крымінал.
-- Гэта сацыялізм, братка, разуменьне сацыяльных абставінаў і ніякага крыміналу. Ці ты хочаш, каб мент Глінка сам сябе пасадзіў?
-- Пракурор павінен умяшацца.
-- Крыміналу няма, бо нічога ня робіцца на прадажу, усё толькі для сябе. Я за гэтым спэцыяльна сачу.
-- Гнаць самагонку ўвогуле забаронена.
-- Але калі не на прадажу, то, сам разумееш, іншы падыход. І пракурор, наш карыстальнік, дарэчы, тое ведае (хоць робіць выгляд, што ня ведае).
-- Цябе могуць здаць за панюшку табакі і закапаць. І нічога нікому не дакажаш.
-- Рубайлу закапаць? Гэта ўжо занадта. Спрабавалі накляўзьнічаць. Цяпер самы сядзяць.
-- Ты сур’ёзна?
-- Сур’ёзна. Не люблю здраднікаў і лічу, што такіх караць трэба на ўсю шпулю. Ніхто ж нікому шкоды ня робіць. Існуе калейка. Кожны сам сабе выганіць і кожны карыстае. Камунізм, браце. І заўваж, п’яніцаў няма. Выпіваюць па справе. Дык жа не! Знайшоўся гад, што на ўсіх напісаў. Скажы мне – навошта ён такое зрабіў? Сам жа карыстаўся. Тут жа, калі разабрацца, нічога благога з гэтай самагонкі няма. Дык вось, падла, што напісала і ўсіх здала, ёсьць прыроджаны здраднік. Вось такія лапці прададуць Радзіму. Проста так прададуць, бо прырода такая.
-- А за што ты яго пасадзіў? Прычына?
-- Прычына – крадзёж. У калгасе крадуць, толькі ня ўсіх садзяць, што крадуць. Дакладней, нікога ня садзяць. Інакш бы палова сядзела. Але каго трэба – проша бардзо і да вензеня*. Ці гэта я табе мушу тлумачыць?
-- Але ж гэта наш народ, Рафал!
-- Дык от таму, што гэта наш народ, халуёў і здраднікаў трэба чысьціць. Здрада і данос – найвялікшы грэх. Пры Сталіне на лепшых беларусаў пісалі даносы горшыя беларусы. Тысячы людцаў па даносах зьнішчылі. Саветы чалавечую гразь падымаюць – і ў начальства, і ў начальства, каб сваіх нішчылі. “Пралетарыі, яднайцеся.” Любіш бедных – ідзі ў касьцёл. З галоты ніколі не нараджалася нічога добрага. Як бедны, дык і здрадны. Гонар трэба мець і майно таксама.
-- Але ж ты разумей іхнюю палітыку: добрых людзей загнаць у галоту, каб думалі толькі пра хлеб ды як выжыць, але не пра тое, каб нешта карыснае для людзей зрабіць.
-- Добра. Можа, я тут крыху загнуў. Але слухай. Гаварылі мы неяк з нашым дырэктарам школы, гісторыкам. Талковы, брат, моцна адукаваны чалавек. Значыцца, пра паўстаньні ў Беларусі ад Касьцюшкі да Каліноўскага. Дык ведаеш, што ён мне сказаў? Паўставалі супраць Масквы, але першым чынам вешалі сваіх здраднікаў. Не цырымоніліся.
-- Цяпер такое будзе немагчыма.
-- Зразумела – немагчыма. Сьвет перамяніўся. І здраднікаў мора. Але я не пра тое. Я пра здраду і адносіны да яе. От скажы, якая галоўная цнота беларуса? Ну? Доўга думаеш.
-- Думаю, што цярпімасьць і павага да ўсіх людзей, незалежна ад паходжаньня.
-- Гм-м. Вельмі падобна. Толькі гэта такая “павага”, што чужых ён ставіць вышэй за сваіх. Такая ў яго “павага”. Гэта факт.
-- А цяпер: якая галоўная загана?

--------------------------------
* калі ласка, і ў турму. *(Ламаная польск.)*

-- Ну, дык ты ж ужо адказаў, Рафал. Навошта пытаеш?
-- А ведаеш, здрада, між іншым, добра стасуецца з такой цнотай – паважаць усіх чужых і здаваць сваіх. А я сваім розумам думаю, што трэба так: паважаць сябе, шанаваць сваіх і бараніць сваіх перад чужымі. Вось і ўся філасофія. А здраднікаў трэба чысьціць. Злодзею можна прабачыць, ашуканцу-круцялю, ды шмат каму, але здрадніку – не. Здраднік – гэта забойца нацыі.

Пад'ехалі пад кантору і некаторы час сядзелі ў машыне, перш чым разьвітацца.
-- Нагаварылі мы з табой, Рафал, бочку арыштантаў. Каб нейкі толк быў, -- заўважае Рамук.
-- Будзе толк. Знайду табе жонку (гэта бяз сьмеху) – прыедзеш, паталкуем.
-- Во-о, лаўлю цябе на слове, -- сьмяецца Рамук, ды нібы жартам, -- значыцца так: пышная, свая, не дурная, ня цёмная, ня злая і не малая.
-- Га-га-га, зарагатаў Рубайла, як жарабец. – Стаўкі растуць. Лягчэй кабылу выбраць, чым такую дзеўку. Ну, але зробім. Зробім, браце, табе жонку – усё жыцьцё будзеш катацца і падскокваць. Трымайся за борт! Га-га-га, -- рагатаў Рубайла, ды так весела, што канторскія павылазілі ў вокны і глядзелі, чаго гэта там Рубайла так іржэць.

Калі Рамук сеў у свой запылены “газон”, дык заўважыў за крэслам на тыльным сядзеньні вядро мёду, накрытае накрыўкай і завязанае ручніком, адну фанерную скрынку зь яблыкамі, другую з агуркамі, некалькі слоікаў канфітур зь вішняў і аплеценую лазой бутлю літраў на пяць, добра закаркаваную пружынным коркам.

Рамук паўзіраўся і толькі павярнуў галаву да Рубайлы, каб гаварыць, але той слова сказаць ня даў.
-- Маўчы, маўчы, кажу! Ты нічога тут ня скажаш. Гэта ўсё жонка. А яна ў школе, і ня важся яе пакрыўдзіць, а то знайду табе худую дзеўку і будзеш, брат, усё жыцьцё галодны хадзіць. Толькі слухай, тут бутля. Там ведаеш, што. Прыхавай, каб міліцыя не прычапілася. У іх такія насы – на адлегласьці чуюць.

* * *

Рамук ціснуў на газ і каціўся ў Менск, увесь час думаючы пра Рубайлу. Вядома, ён мае рацыю. Гэтыя феадалы найперш нічога ня ведаюць пра становішча і пра краіну, і не задумваюцца аб гэтым. Вегетацыя. А калгасьнікі – яшчэ горш, заняволеныя, без уласнасьці, без правоў. І на што абаперціся? На сьведамасьць, пэўна, на асьвету, на адраджэньне духа волі, бо толькі дух волі здольны на барацьбу, дзе б ён не адрадзіўся. А тут жа працы-працы! Прытым доўгай, жмуднай і нелегальнай, бо дазволена толькі хлусьня.

У Менск уехаў – ужо было тры гадзіны па поўдні. Машыну пакінуў на плошчы Леніна каля педінстытута, а сам пайшоў па кнігарнях, якія яшчэ былі адчыненыя (субота – скарочаны працоўны дзень). Спачатку пабываў каля вакзала (на Кірава), потым у “Падпісных выданьнях” (каля паштамта) і на завяршэньне зайшоў у “Цэнтральную” на праспэкце Леніна (насупраць кавярні “Вясна”). Памяшканьне цэнтральнай кнігарні ў выглядзе літары “Г”, як для Менска, то надта цеснае. І людзей тут заўсёды поўна, да кожнага аддзела і да кожнай касы чарга. Словам, трата часу і адны пакуты.

Тут Рамук набраў цэлае бярэма кніг. Прадавачка палічыла, напісала цану і Рамук, пакінуўшы кнігі на прылаўку, пайшоў аплочваць іх у касу. Пакуль стаяў у чарзе, аплачваў прайшло крыху часу. Калі ён вярнуўся з аплочаным чэкам, ля прылаўка стаяла высокая бялявая і стройная дзяўчына ў сьветлым капялюшыку, прыгожай квяцістай сукенцы да паловы лыткі і з цікавасьцю гартала томік Танка, які

ўзяла з рамуковай стопкі (не задумаўшыся, напэўна, чаму тут гэтыя кніжкі ляжаць). Яна здалася Рамуку дзівосна прыгожай, асабліва калі чытала і ўсьміхалася. Зь левай рукі яе, сагнутай у локці, зьвісала на тонкім рамушку маленькая бежавая сумачка пад колер туфляў і капялюшыка.

Рамук стаяў збоку і глядзеў на яе, расплыўшыся ў зьбянтэжанай усьмешцы. "Трэба ж, такое шляхетнае стварэньне ў гэтай мільённай "дзяроўні", -- падумаў Рамук. Зараз адкрые свой прыгожы раток і "произнесёт"* што-небудзь нібыта "по-русски". У такт гэтым іранічным (а па сутнасьці роспачным) думкам узвышаны настрой Рамука крыху падупаў, і ён загаварыў першы.

-- І як вы думаеце, шаноўная паненка, кім трэба быць, каб назвацца танкам і кулямётам адначасна?

Дзяўчына зьдзіўлена павярнулася і паглядзела на Шляхту з несхаванай цікаўнасьцю.

-- О, выбачайце, гэта я, відаць, стала капацца ў вашых кнігах, не зразумеўшы, што яны вам адкладзеныя? – не сказала, а, як здалося Рамуку, прасьпявала дзяўчына па-беларуску.

Рамук зірнуў у яе блакітныя вочы і адчуў, што зь ім нешта робіцца. Якое прыгожае ласкавае аблічча! Яны глядзелі адзін на аднаго і ўсьміхаліся.

-- А па поваду кулямёта і танка, -- працягвала паненка, -- відаць, трэба быць тым, хто верыць, што танкі нясуць свабоду.

-- Альбо тым, хто адчувае адказнасьць перад сваім талентам, каб зьберагчы яго ў несвабодзе, -- гэтак разумна дадае Рамук.

-- Такое можна кампазітару ці нават жывапісцу, але паэту... цяжкая задача.

-- Цяжкая, -- пагаджаецца Рамук. – І таму (я так думаю) таленту ў несвабодзе шмат што трэба дараваць.

-- Жэншчына, вы зьдзесь пакупаеце или не пакупаеце!? Да прылаўка не падайци, а ани разгаварывают,** -- пачуўся крыклівы жаночы голас.

-- Выбачайце, мы зараз разлічваемся і адыходзім, -- папярэдзіў Рамук мажную кабету з рашучым выразам твару і гаспадарчай сумкай у руцэ. Ён аддаў чэк, забраў кнігі і кажа незнаёмцы: "Давайце адыйдзем адсюль".

Яны прыселі на банкетку ў канцы залі. Рамук і кажа:

-- Бычыце, што вытварае наша сяло. Горада больш не існуе. На жаль. Адна вялікая калгасная вёска, якая хоча стаць гарадзкой вёскай.

-- Так, на жаль, гэта так, -- пагаджаецца незнаёмка.

-- І самае няшчаснае, што яны адмаўляюцца ад роднай мовы. Селянін без уласнасьці – гэта калгасьнік. Адпаведна, і псіхалогія несвабоднага чалавека, бо няма апоры ў жыцьці. Сацыяльна ён падвешаны і залежны.

-- На жаль. Хаця вось мой тата са Слоніма, а мама лекар-тэрапеўт паходзіць з малога мястэчка, але ў нас у сям'і ўсе шануюць нашу мову.

-- А вы падумалі, чаму жанчына накінулася не на мяне, вінаватага ва ўсім, а на вас?

-- О, так. Мая мама як паходзіць па Менску, наслухаецца калгасу і жартуе потым: "Ах, дачушка, чаму гэта баба бабу так ня любіць!?"

-- Тут, відаць, банальная жаночая зайздрасьць. Яе ўзлавала вашае хараство, вашая дасканаласьць і прыгажосьць. Ваша мама, напэўна, таксама ўзвышаецца над асяроддзем?

---------------------------

* "вымавіць" (рус.)

** -- Жанчына, вы тут купляеце ці не купляеце!? Да прылаўка не падыйсьці, а яны размаўляюць. *(Ламаная рус.)*

Незнаёмка весела засьмяялася.
-- А вы сэрцаед, малады чалавек? Вас, напэўна, любяць жанчыны. Вы такі “віція”.
Рамук зьбянтэжыўся.
-- Выбачайце. Я шчыра. Я, можа, няўдала выказаўся. Выбачайце. Мне з вамі прыемна гаварыць на нашай мове.
-- Ой, не ўспрымайце іронію так сур'ёзна. Я бачу, вы чытаеце Багдановіча. Мы чытаем яго ўсёй сям'ёй. А яшчэ Якуба Коласа.
-- Цікава. У нас у сям'і таксама была традыцыя ў голас кніжкі чытаць. Адзін чытае, астатнія слухаюць. І ня толькі ў нас. Ну, вось, напрыклад. Вы дазволіце? – І Рамук па памяці:

Цёплы вечар, ціхі вецер, сьвежы стог
Улажылі спаць мяне вы на зямлі.
Не курыцца сьветлы пыл усьцяж дарог,
У небе месяца праглянуў бледны рог.
У небе ціха зоркі расцьвілі.

Зьнічка коціцца агністаю сьлязой,
Прашумела мякка скрыдламі сава;
Бачу я, з прыродай зьліўшыся душой,
Як дрыжаць ад ветру зоркі нада мной,
Чую ў цішы, як расьце трава.*

-- Вы, напэўна, таксама паэт? Вы пішыце?
-- Не, я сельскі адміністратар. Старшыня калгаса.
Вочы незнаёмкі акругліліся ад зьдзіўленьня. Яна быццам анямела. А потым:
-- Вы жартуеце?
-- Не. Але чым я непадобны?
-- Усім. У вас дэсідэнцкі склад розуму. Але галоўнае – вы павінны быць, як шафа. Мінімум 120-130 кіль. Інакш вы шмат ня вып’еце, зваліцеся пад стол і сярод калег аўтарытэту мець ня будзеце. Ваш калгас будзе ў адстаючых. Вы праўду кажаце, што вы старшыня?
-- Праўду.
-- Вось гэта сюрпрыз! І доўга вы думаеце пратрымацца?
-- Ня ведаю. Так склаліся абставіны. Я еду цяпер якраз дадому ў калгас. Гэта каля Воршы. А быў я у калегі, таксама старшыні. Дык ён, па вашых словах, -- поўны стандарт: 130 кіль. Гара. Выпівае пяцьсот мілілітраў, сядае за руль і, як кажа таварыш Райкін, “ни в одном глазу”**, нават міліцыя не заўважае. Ягоны калгас у перадавых, усе задаволеныя, асабліва начальства.
-- І вы езьдзілі пераймаць вопыт?
-- Не. Як вам сказаць? Гэта такі добры беларус.
-- Разумею. Вы, напэўна, сябры?
-- Ну, неяк так знаёмыя яшчэ з ВПШ.
-- Вы вучыліся ў ВПШ? О, Мар’ё!
-- Так, пасьля “Наргасу”. Думаў пайсьці па партыйнай лініі.
-- І што перашкодзіла?
-- Відаць, характарам не зышліся. Але ў калгас я сам напрасіўся. Стараюся прывесьці ўсё да парадку.

----------------------------
* Верш М. Багдановіча *(аўт.)*
** Вокам не міргне *(рус.)*

-- О, вы проста легенда. Не ўяўляла, што такое можа быць. Зычу вам посьпехаў. Я ў Воршы ніколі не была. Заўсёды езджу ў Слонім, Баранавічы, Гародню, Ліду і найбольш у Вільню.
-- Калі вам надарыцца быць у Воршы, я гатовы вам дапамагаць. Увогуле, двох беларусаў у такім шэрым часе не павінны разбягацца, але трымацца адзін аднаго. Калі дазволіце, вось вам мае тэлефоны – хатні і канторскі. Завуць мяне Раман Шляхта.
-- Дык вы шляхта?
-- Так. Раман Шляхта.
-- Я не пра тое. Але ня важна.
-- Я Лена Равіч, настаўніца нямецкай мовы. Вось хатні тэлефон. Не саромейцеся, званіце. Наша сям'я – сястра, брат, тата і мама. Брат жыве асобна. Але мы ўсе будзем такому беларусу вельмі рады. Вашы словы пра лучнасьць беларусаў мне спадабаліся. Каб вы ведалі, як тут цяпер цяжка.
-- Нічога, будзе лепей. Верце мне.

Рамук сабраў кніжкі, разьвітаўся зь Ленай і рушыў да выхаду увесь пад уражаньнем прыгожай паненкі і галоўнае – нармальнай беларускі, дзівоснай і шляхетнай у тым акупаваным і зрусіфікаваным савецкім Менску. Усё адбылося так проста хутка і нечакана, што ў Рамука, здаецца, нават кружылася галава. “Толькі сярод інтэлігенцыі яшчэ нешта людзкае і застаецца, -- думаў Рамук. -- Калгас, просты люд... Яны ўжо прыехалі сюды нявольнікамі шукаць ратунку, але не гаспадарамі. Іх прынізілі і абабралі. Вядома, людзі не вінаватыя, -- разважаў Рамук, -- іх напалохалі, зламалі варожыя абставіны. Хто не згінаўся, тых расстралялі. Але ж перад ніжэйшымі сталі гнуцца. Чаму?! Чаму? Чаму ня вытрымалі?” – задаваўся пытаньнем Рамук. – Пэўна, бо ні адкуль не было ратунку. І не было абароны. Нішчылі ўсіх. Апакаліпса. Падсьведама адчувалі – каб выжыць, трэба адмовіцца ад сябе. І от жа факт – вытрымліваюць толькі там (Прыбалтыка, Каўказ), дзе зьберагглі нацыянальную годнасьць і чалавечы гонар. Нейкі зьмешаны настрой апанаваў яго, усяроўна як шчасьце зь няшчасьцем спаткаліся.

Рамук выйшаў праз галоўны вуглавы выхад з кнігарні на рог Камсамольскай і праспэкта Леніна. Засяроджаны ў сваіх уражаньнях, думках і мроях, ён падняў галаву і аслупянеў. Проста перад ім, насупраць уваходу, стаяла Лена і з абсалютна абыякавым выразам на твары глядзела паўз яго ў кнігарню, быцца кагосьці выглядаючы.

Рамук стаяў перад Ленай, як укапаны, трымаючы стос кніг і, здаецца, нават разьзявіў рот. У кнігарні быў яшчэ адзін выхад, туды, далей па праспэкце. Але як яна пасьпела так хутка аббегчы і навошта?

Тым часам Лена абыякавым позіркам сьлізганула па рамуковай постаці і далей сабе разглядаецца па баках. Нарэшце яна зноў зьвярнула ўвагу на ягоную ўкапаную фігуру, зьдзіўлена зьмерыла яго з ног да галавы, а паколькі Рамук усё стаяў, праглынуўшы язык і аслупянела ўзіраўся на яе, Лена склала губкі трубачкай і пасьвістала яму проста ў твар: ф'ю-ф'ю-ф'ю-ф'ю-ф'ю-ф'ю-ф'ю-ф'ю-ф'ю-ф'ю... Атрымалася мэлёдыя расейскай песьнячкі “Как много девушек хороших...” Пасьвістаўшы, Лена павярнулася і адышла ў бок, стаўшы бліжэй да дзьвярэй і цалкам забыўшыся на рамуковую прысутнасьць.

Ашаломлены Рамук усё яшчэ стаяў, як пень, круцячы галавой і нічога не разумеючы. Выгляд у яго быў поўнага балды, і людзі, мінаючы Рамука, азіраліся, каб яшчэ раз паглядзець на даўгавязага арыгінала з кнігамі, які, відаць, нешта забыўся.

Перамена ўражаньняў адбылася настолькі нечакана і настолькі моцна, што да плошчы Леніна, дзе стаяла машына, Рамук ішоў нібы ў прастрацыі. Па дарозе нават сутыкнуўся зь нейкім і замест “прабачце” машанальна сказаў “дзякуй”.

У машыне доўга сядзеў і ня мог ад’ехаць. Прыводзіў у парадак думкі і пачуцьці. Калі супакоіўся, пачаў аналізаваць. Прыдумаў некалькі варыянтаў. Сярод іх былі нават “вар’ятка” (псіхічная хвароба) і “агентура КГБ”. Але нічога рацыянальнага, талковага ў галаву не прышло, бо выпадак ірацыянальны. Зразумела было толькі адно: зь яго, Шляхты, непаважліва пасьмяяліся, разыгралі яго, абышліся падступна, брыдка і зьдзекліва. Чаму, навошта – адказу няма.

Назаўтра вырашыў пазваніць у восем (хоць яно і насуперак добрага тону), бо ў дзевяць у Менску пачынаўся працоўны і вучэбны дзень. Пошта яго тут жа злучыла зь Менскам.

-- Так, слухаю, -- пачуўся ў слухаўцы прыемны, але незнаёмы жаночы голас. Рамук назваўся і папрасіў прабачэньня, што рана звоніць, але ўзьніклі такія нечаканыя абставіны, што яму канчаткова трэба б было пагаварыць зь Ленай.

-- Добра, -- адказаў пявучы голас, -- зараз паклічу. Я мама Лены. Яна ўчора пра вас расказвала.

-- Так, я тут. Слухаю. Лена, -- пачуўся ласкавы голас дзяўчыны, які так узбударажыў учора Рамука.

-- Выбачайце, Лена, ня ведаю нават, што сказаць, настолькі я ўражаны і зьбіты з панталыку. Але ўсё ж патлумачце мне, што абазначаюць тыя сьвістулькі і як вы там апынуліся? Навошта?

-- Ну, я зайшла на хвілінку глянуць кніжныя навінкі і спаткала там джэнтэльмэна па прозьвішчу Раман Шляхта. Мы зь ім прыемна пагаварылі. Пра якія сьвістулькі вы пытаеце?

-- Я не пра тое.

-- А пра што?

-- Я пра тое, як на выхадзе з кнігарні вы незразумелым чынам заступілі мне дарогу, пасьвісталі ў твар расейскую лухту і “гордо удалились”.*

-- Пасьвістала ў твар? Я?

-- Так. Мастацкі сьвіст “Как мало девушек хороших”? Навошта вы яшчэ прыкідваецеся?

-- Ой! О-о-й! Езус Мар’я! А-а-ай-я-ё-ёй! – пачуўся залівісты сьмех Лены. – О-о-ха-ха-ха! Чакайце! Не кладзіце слухаўку, я зараз усё патлумачу. Хвіліны тры слухаўка маўчала. Было чуваць далёкія жаночыя галасы, сьмех і абрыўкі слоў: “Не сказала”.., “ня ведала...”, “камэдыя”, “ой”, “ай”, – і зноў сьмех. Потым голас Лены:

-- Вы ведаеце, Раман, сьвістулькі рабіла не я, а мая сястра Лёля, якая чакала мяне на вуліцы. Мы блізьняты. Выбачайце. Як добра, што вы пазванілі. А то маглі б падумаць, што я лётаю на мятле. Даю слухаўку Лёлі.

-- Добры дзень, Раман, -- пачуўся той жа голас. – Я Лёля. Вы так чароўна ўчора выглядалі, у вас былі такія вялікія вочы і так шырока адчынены рот, што я, нікчэмная Папялушка, падумала, што зрабіла на вас нязгаснае ўражаньне, ды такое, што я ад хвалявань ня забылася чалавечую мову і пачала сьвістаць. І, відаць, таму вы не зразумелі сьпяваньне майго сэрца, якое так шчыра...

-- Дай сюды, дай сюды, -- пачуўся дубль-голас, -- Лёля, ну што за жарты, што ты гаворыш, гэта сур’ёзны чалавек... Алё, Раман, ну, вы чулі, што нагаварыў гэты наш цуд прыроды?

--------------------------------

* ганарова аддаліліся *(рус.)*

-- О, ведаеце, цудоўна! Яе б словы ды Богу ў вушы. Ды каб яно было ўсё праўда. У вас такая выдатная сястра. Маё ёй найлепшае шанаваньне.
-- Ох, ну я проста чырванею. Гэтую Лёлю я сёньня паб'ю. Усё. Сьпяшаю. Мне трэба ўжо выходзіць. Званіце, Раман. Ня бойцеся, я на мятле ня лётую.

Яны разьвіталіся. Рамук усхапіўся і літаральна забегаў па кабінеце, падскокваючы. "Эх, як добра жыць!" – сказаў ён сам сабе, выбег на двор, сеў за кіраўніцу і паехаў. Праз нейкі час спыніўся і задумаўся – куды ж гэта яму сёньня трэба ехаць.

* * *

Пачатак жніўня – гарачая ў калгасе пара. Поўна працы, а Рамук жыў, як на аўтапілоце. Уражаньне ад Лены было такое моцнае, што ён увесь час толькі пра яе і думаў. Усё падабалася: яе высокая зграбная фігура, прыгожая галоўка ў абрамленьні сьветлых, як лён, валасоў, пухлыя губы, заўсёды крыху ва ўсьмешцы, і асабліва прыгожыя, ласкавыя сінія, як васількі, вочы, ад якіх цяжка было адарвацца, каб не глядзець. Але асаблівым было тое няўлоўнае, што ўзьнікала вакол яе постаці і прысутнасьці, найбольш, калі яна сьмяялася і гаварыла. Тады вакол яе зьяўляўся нейкі асаблівы арэол здаровага радаснага і прыгожага існаваньня. Рамук быў перакананы ў рэальнасьці сваіх адчуваньняў, у тым, што так яно і было. Яна стварала незвычайную атмасфэру. І голас яе гучэў яму ў вушах. Такога зь ім яшчэ ніколі не здаралася. Ён нават не ўяўляў, што можна вось так чалавеку дрыжэць і думаць толькі пра дзяўчыну. Яму так хацелася зноў яе ўбачыць, гаварыць зь ёй хоць пра што, глядзець на яе, адчуваць прысутнасьць. Ад гэтых думак станавілася ўжо нясьцерпна. Яго проста несла, здзьмувала, нібы ветрам, туды, у Менск, дзе яна хадзіла па вуліцах.

Адхіліцца ад працы можна было толькі ў нядзелю, хоць камбайны працавалі ўвесь час. Але там было камуназіраць.

У пятніцу Рамук зноў пазваніў Лене і прапанаваў зьезьдзіць у Нясьвіж, паглядзець на замак, парк і касьцёл разам утрох – ён, Лена і Лёля. Лена з радасьцю пагадзілася, і на раніцы, каля дзевяці гадзін, Рамук быў ужо ў Менску. Дзяўчаты чакалі яго каля паштамту, бо жылі яны ў доме побач, насупраць кінатэатра "Цэнтральны".

Перад паездкай Рамук прадбачліва даў бухгалтару заданьне падлічыць, колькі будзе каштаваць арэнда і амартызацыя машыны на адзін дзень, плюс расход паліва на 100 *км*. А ў пятніцу (як вопытны перастрахоўшчык) сабраў праўленьне калгаса і зацьвердзіў рашэньнем праўленьня арэнду аўтамабіля на выхадны дзень па тарыфу, прадстаўленаму бухгалтэрыяй. (Члены Праўленьня, між іншым, моцна зьдзівіліся. Папярэдні старшыня езьдзіў калі хацеў і куды хацеў, нікога не пытаючыся)

Калгасны "газон" аж зіхацеў, так Рамук яго вымыў, пачысьціў, а пашарпанае сядзеньне заслаў для паненак прыгожай узорнай беларускай посьцілкай, вытканай зь лёну, і нават папырскаў на яго нейкай парфумай, якой накупляў у сельмагу.

Дзяўчаты, ізноў жа, як заўсёды, былі апрануты аднолькава: у доўгіх да паловы лыткі квяцістых у дробныя кветачкі сукенках колеру сьпелага жыта з васількамі, на галоўках у іх былі бежавыя капялюшыкі з апаскай, на ножках лёгкія на сярэднім абцасе бліскучыя туфлікі колеру марской хвалі, а на скронях валасы былі падкручаныя так, што зьвісалі пасмачкамі з завіткамі. Сьветлая чырвоная памада на губах і, як кажуць, усё сваё. Паненкі з карцінкі. І ад гэтай карцінкі ім, відаць, было надта весела. Выгляд іх нібы сьведчыў, як гэта добра жыць на сьвеце.

Рамуку яны здаваліся істотамі зь нейкай чароўнай казкі, якія патрапілі невядома адкуль у гэтае шэрае сацыяльнае асяроддзе. Ён яшчэ асабліва не

задумваўся, хто яны і адкуль, зь якога сьвету, бо яму было проста вельмі добра і хораша на душы.

Паненкі прынесьлі з сабой вялікую напакаваную спартыўную сумку, якую Рамук паставіў на дол перад першым сядзеньнем. Дзяўчаты, весела перамаўляючыся і хвалячы Рамука за пунктуальнасьць, разьмясьціліся з тылу на сьветлай напарфумленай посьцілцы. “Козьлік” зачмыхаў маторам і пакаціўся.

Праз дзьве гадзіны былі ўжо ў Нясьвіжы і пад’ехалі да фарнага касьцёла. Дзень быў сонечны, яркі. Сьветлыя блікі гулялі на фасадзе ды кумпале, асьвятлялі крыжы.

Імша, відаць, нядаўна скончылася, і ў касьцёле заставалася толькі некалькі чалавек, якія моўчкі сядзелі на лаўках, засяроджаныя ў малітвах.

Калі зайшлі ў касьцёл, дзяўчаты ўкленчылі і перажыгналіся. Тут Рамук зноў крыху аслупянеў, нават азірнуўся, ці хто ня бачыць. Тым часам Лена зь Лёляй, як ні ў чым ні бывала, адышлі направа і спыніліся каля памятнай пліты і вобраза Сыракомлі, ціха перамаўляючыся. Раман тут быў раней і пачытаў, што трэба, каб не выглядаць невукам перад паненкамі. На іх пачалі азірацца рэдкія малельцы, якія дагэтуль сядзелі нерухома. Увогуле, атмасфэра схаванага страху, прыгнечанасьці і недаверу была ва ўсіх незачыненых касьцёлах, якія яшчэ дзеялі ў краіне.

Падышоў ксёндз, які зьявіўся незаўважна, нібы з-пад зямлі.

-- Шчэнць Божэ! Паньство пшыехалі з Польскі?*

-- Не, мы зь Менску прыехалі паглядзець касьцёл, -- адказвае Рамук.

-- А, да. Пажалуста. Ксёндз Колосовский, -- прадставіўся ксёндз. – Можэт ка мне какие вапросы есьць?**

-- Не, дзякуем, няма. Можа б толькі ксёндз расказаў трохі паненкам пра касьцёл.

-- О, пажалуста смотрыце***, -- працягвае ксёндз. Потым, падумаўшы, паглядзеў уважліва на Рамука і кажа:

-- Вельмі прыгожыя роспісы. Кажуць, што гэта зрабіў італьянскі архітэктар Бернардоні, калі будаваў касьцёл у XVI-м стагоддзі. Але дасьведчаныя людзі даводзяць, што фрэскі перамалявалі ў XVIII-м стагоддзі. Наш тутэйшы артыста рабіў, такі Гескі.

-- О, гэта дасканалае барока, -- уставіла Лена.

-- Тут я панству скажу. Немцы ў вайну як зайшлі сюды, то ўсё дзівіліся і фатаграфавалі. Але о так, ад жывата, наставілі і пстрык-пстрык.

-- Гэта яны сваімі “Рольлейфлексам” рабілі, -- падказвае Рамук.

Ксёндз, шчыльны мацак гадоў пад шэсьцьдзесят з пухлымі рукамі і таўсматым носам, зноў паглядзеў на Рамука.

-- Ня ведаю. Але о, так, ад жывата. Туды глядзіць і пстрык-пстрык.

Тут ксёндз нібы спалохаўся і працягвае:

-- Очэнь важна эта сахраниць. Эта миравое искуства. Усе у васторге. Сматрыце. Я ужэ мушу атхадзиць.****

Атрымалася крыху штучна і нацягнута. Але тады было такое зазвычай.

Дзяўчаты блукалі па храме, разглядаючы жывапісныя сьцены і столь з захапленьнем і цікавасьцю. Аказваецца, яны чаталі пра Нясьвіж і чулі, але ніколі тут не былі, хоць гэта і непадалёк ад Менска. Сакральная культура, тым больш,

--------------------------------

* -- Памагай, Божа! Спадарства прыехалі з Польшчы? *(Польск.)*

** -- А, так. Калі ласка. Ксёндз Каласоўскі. Можа да мяне якія пытаньні ёсьць? *(Ламаная рус.)*

*** -- О, калі ласка, глядзіце. *(Ламаная рус.)*

**** -- Вельмі важна гэта захаваць. Гэта сусьветнае мастацтва. Усе ў захапленьні. Глядзіце. А я ўжо павінен адыходзіць. *(Ламаная рус.)*

беларуская, гэта была ўвогуле амаль зачыненая тэма ў тыхчасовым грамадзтве. Адкуль тое каму ведаць?
-- Лёля, прывязем вучняў сюды, а? – кажа Лена. – Зробім экскурсію. Дзяўчаты дэталёва агледзілі ўсё, трымаючы з сабой Рамука, які з большага маўчаў, баючыся сказаць глупства.
-- Ох, слухайце, гэта ж цуд, -- кажа Лена, калі нарэшце выйшлі на сонечны двор. Гэта шэдэўр.
-- Гэта першы барочны храм, пабудаваны ў Беларусі, -- уставіў Рамук сваю заўвагу, спэцыяльна вычытанаю ў энцыклапэдыі. – А цяпер сходзім паглядзім на замак Радзівілаў і паходзім па парку.
-- Але ж і занядбана ўсё, -- кажа Лёля.
-- Добра яшчэ, што існуе і не ўзарвалі, -- адказвае Лена. – Памятаеш, як Дамініканца ў Менску?
-- Памятаю. Малыя былі. Мы тады ў Верхнім горадзе жылі, бавіліся ў руінах таго Дамініканца.
-- Так. А ў 50-м яго ўзарвалі, мы яшчэ ў школу не хадзілі, зусім малышня былі. А памятаеш, як мы з табой разам з большымі хлопцамі там падземным ходам прадзіраліся да Бернардынаў?
-- О, жах! Але страхоцьце!
-- Ты пра чэрап?
-- Ой, не кажы, душа ў пятках, так уцякалі.
-- А што было ў Менску з Дамініканцам? Дзе гэта? – спытаў Рамук.
-- Гэта на Цэнтральнай плошчы, на Новым Месьце велізарны старадаўні касьцёл стаяў з кляштарам, помнік архітэктуры, пад аховай дзяржавы быў. Наш тата казаў, што немцы за яго нават рэпарацыі заплацілі, бо вайной нешта там пашкодзілі.
-- І што?
-- Вырашылі там паставіць скульптуру Сталіна. Касьцёл з кляштарам узарвалі і паставілі ідала. Ня памятаю, здаецца, у 61-м ідала ноччу звалілі і цяпер пуста.
-- Гэта жахліва. У нас у Віцебску ў 61-м узарвалі царкву XII стагоддзя. Ужо ніякага Сталіна не было. Хрушчоў камандаваў. А мясцовыя халопы распарадзіліся.
Л е н а  к а ж а:
-- Я ведаю дакладна, тата казаў (а ён у сістэме культуры), Кісялёў (першы сакратар ЦК КПБ) падпісаў знос.
Л ё л я:
-- Затое цяпер руіны пад аховай.
-- Так-так. Памылкі за памылкамі, і ўсё за наш кошт, -- уздыхнуў Рамук.
-- Вы ўпэўнены, што гэта памылкі? – пытае Лена.
-- Не ўпэўнены.
-- А што гэта?
-- Гэта палітыка.
-- Раман, а вы заўважылі, што цяпер стала модным валіць усё на камуністаў-сталіністаў, але вінавацяць якраз тыя, што самы ўсё і рабілі.
-- Я не рабіў і на камуністаў не валю, і камунізм тут ні пры чым.
-- О, цікава, а хто ж тады “пры чым”?
-- Масква. Гэта руская палітыка. Камунізм – толькі форма. Ніхто ня верыць у гэты камунізм, акрамя дурняў. Гавораць пра камунізм, але нішчаць нашу мову і ўсё беларускае. Рускую ж мову ня нішчаць, іхнюю культуру, літаратуру, гісторыю не абплёўваюць, не забараняюць, не прыніжаюць. Наадварот – дыфірамбы пяюць і ўсім насаджаюць. Гэта ж паўсюдна. І сьляпы бачыць, і глухі чуе. Толькі мярзотнік без сумленьня і той, хто гэтую палітыку робіць, кажа, што такога няма. Кажа і не

заікаецца. Мы што – ня ведаем, “как врёт русский человек”*? Ён глядзіць у вочы і нахабна лжэ, ведаючы, што лжэ, і верачы ў сваю ілжу, за якую сам сабе лэб разаб’е. А хто ня верыць у яго хлусьню – тыя “враги, которых надо уничтожать”**. І на дарозе гэтай хлусьні мільёны забітых людзей ляжаць, што верылі ў праўду. Вось такая гэта палітыка. Мы маем справу зь дзікімі манголамі ў эўрапейскіх касьцюмах, з Азіяй, з псіхалогіяй стэпу і ня хочам таго зразумець, што бачым – пра камунізм гаворым. Не даем веры рэальнасьці, бо чуем ад іх нерэальнае, верым вушам, а ня розуму.

Дзяўчаты былі крыху агаломшаныя.

Л ё л я:

-- Раман, мне страшна за вас. Вы такое гаворыце... Вас могуць пасадзіць у турму, калі пачуюць. Гэта страшныя людзі.

Л е н а:

-- Ох, Рамане, не палохайце нас. Мы думаем таксама, як і вы, і ўсё бачым, але мы ня кажам пра тое ўслых. Гэта ж канец. Тут такая жорсткая, страшная машына.

Р а м у к:

-- З гэтай машынай можна змагацца, не выходзячы з камунізма. Прынамсі, пакуль што.

Л е н а:

-- У нас шмат хто так думае, бо так бясьпечна. Можна нечага дамагчыся, але перамагчы машыну – ніколі. Перамагчы камунізм можна толькі вышаўшы з камунізма. Цяпер тое немагчыма, вядома. Не такія ўмовы. Тыя, хто сьпяшаюць, -- кладуць галовы, і пра іх ніхто ня ведае.

-- Я за першы падыход, -- кажа Рамук, -- тым больш, што я не гатовы да выхаду з камунізму. Мне здаецца, што гэта добрая ідэя, за якую варта стаяць, толькі як яе ажыцьцявіць у грамадзтве – ніхто ня ведае.

Л е н а:

-- Ніхто ня ведае, бо ўтопія. Наш тата кажа так: “Ніякая ідэалогія ня можа падмяніць сабой сацыяльную сістэму. Абавязкова будзе гвалт, уціск і рэпрэсіі”. Тата прыводзіць прыклад тэакратыі. Вось Хрысьціянства – такая сьветлая харошая рэлігія. А ўлада клерыкаў, папоў, ксяндзоў ды царквы да чаго прыводзіла? Вось тое і яно. Павінна быць Богу Богава, а каралю – каралёва, і не падпускаць клерыкаў да ўлады. Грамадзтва павінна быць сьвецкім, хрысьціянскім, але не клерыкальным.

Бацька кажа, што камунізм – гэта сурагатная рэлігія, толькі бяз Бога. Камуністы здольныя з тырана зрабіць рэлігійны культ.

Л ё л я:

-- Ну, добра. Руская палітыка. Але ж яны там і свае цэрквы разбурылі і папоў пабілі, і людзей патаўклі.

-- Ох, Лёля, гэта ж не аргумэнт супраць таго, што я кажу, а наадварот – доказ, -- запярэчыў Рамук. – Яны ўсю гісторыю такія. Яны ж і між сабой хамы і бандыты. Быў такі цар Іван IV Жахлівы.

Л ё л я:

-- Ja, ja. Iwan der Schräkliche.***

-- Дык вось, гэты дэр Шрэклісе вымардаваў траціну насельніцтва Маскоўшчыны проста так, “от любви к искусству”.**** Ну – вар’ят. Але ж ніхто яго не спыніў, бо

---------------------------------

* ”як хлусіць рускі чалавек” *(рус.)*

** “ворагі, якіх трэба зьнішчаць” *(рус.)*

*** -- Так-так, Іван Жахлівы. *(Ням.)*

**** “ад цягі да мастацтва” *(рус.)*

“Государь! А мы – твои холопы”.* Альбо быў такі Пётра Першы Шалёны. Гэты вашывец і папоў мардаваў, і жанчын гвалціў. Дык жа ўсе ў галаве скручаныя. А Мікалай Першы? А што яны пры тым Мікалаю на Каўказе вытваралі?! А Мікалай Другі і апошні, гэты алкаш, каторы “крывавы”. Людзі пайшлі да яго з абразамі, а ён загадаў страляць. Колькі людзей пабілі!

Гэта такое грамадзтва. Такое ў іх жыцьцё, такая норма, якую яны лічаць добрай, а ўвесь сьвет – дрэнным. Чынгіз-хан пабудаваў гэтую імпэрыю з калектыўнай адказнасьцю. Амаль камунізм. Калі здрадзіў ці спалохаўся адзін зь дзясяткі ваяроў, то забівалі ўсіх дзесяцёх. Галовы ляцелі са сьвістам. У іх нават прымаўка ёсьць, што яны, маўляў, не «из робкого десятка»**. Ну, дык і што – будзем па манголах і па Маскве раўняцца?! Крытэр можа быць толькі наш, беларускі, эўрапейскі, наша культура. Яны прынесьлі нам дзікунства і варварства. Папоў забівалі, цэрквы разбуралі.

І што яны засьпявалі: “Мы наш, мы новый мир построим, кто был никем, тот станет всем”.*** Мае рацыю ваш тата. Яны будавалі новую бязбожную рэлігію, новы сацыяльны культ, дзе божаства ім замяніў правадыр. Вось вам Ленін, Сталін, Мао-Цзэ-Дун. І хто там яшчэ на падыходзе? Кастра? Ці, можа, Насэр?

Рамук так узбудзіўся ад сваіх філіпік на імпэрыю і камунізм, што голас яго загучэў звонка, як на трыбуне. Лена аглядалася на яго з трывогай і цікаўнасьцю.

-- Але будзьма справядлівымі, – кажа паненка, -- у Маскоўшчыне былі людзі, якія змагаліся супраць варварства і за тое, каб было лепш. Ня ўсё так цёмна.

-- І што яны зь імі зрабілі, шаноўная Алена Аляксандраўна? – пытае Рамук, -- усіх альбо забілі, альбо пасадзілі, альбо зганьбавалі, альбо ў вар’яты запісалі, як Чаадаева. Прытым супраць адных варвараў выступалі іншыя варвары, як тыя бальшавікі, -- не сунімаўся Рамук.

-- Але ж цяпер тут багоў і правадыроў ужо няма, а камунізм мадзее, -- заўважае Лёля.

-- Жывога няма, -- працягвае Рамук, -- але ёсьць “живее всех жывых”.**** Чым не божаства! Тыповы сурагатны культ рэлігійнага кшталту.

Дзяўчаты! Гэта, вядома, гвалт над вашым часам і інтэлектам, але пачытайце Леніна, калі хопіць сілы. Я вэпээшнік, быў змушаны прачытаць яго амаль усяго. Гэта жах! Вы схопіцеся за галаву. Там усё напісана: колькі расстраляць і за што, і каго ў “канцэнтрацыйны лагер”. Гэта дробязная злосная істотка, маральны калека, пачвара, гатовая зьнішчыць усё чалавецтва дзеля ўлады і нянавісьці.

-- Ой, Раман, Рамане, ціха, ціха! – замахала рукамі Лена, азіраючыся. – Тут і на дрэвах могуць падслухаць, і дрэвы настукаюць. Ша! Прашу вас, ня рушце Леніна. Ён для іх бажышча. Яны вас заб’юць, і нас разам з вамі. Пагаворым пра музыку.

-- А я вось вазьму і прачытаю Леніна, -- усклікнула Лёля, -- ён так любіў народ.

Р а м у к:

-- Ах-ах! “Он так хотел иметь детей.”***** -- Усе засьмяяліся.

Падышлі да замка. Паглядзелі на браму і вежы, на зарослы роў, напалову напоўнены вадой. Усім было цікава. А Лёля ізноў:

-- Ох, як недагледжана ўсё! А што тут цяпер?

-- Нейкі санаторый ці шпіталь па ўнутраных хваробах, -- кажа Рамук.

-- То тады ў замак ня пойдзем.

-- Ня пойдзем, бо ня пусьцяць, -- заўважыла Лена.

------------------------

* “Гаспадар! А мы – твае халуі”. *(Рус.)*

** “з баязьлівай дзясяткі“ *(рус.)*

*** “Мы наш, мы новы сьвет збудуем, Хто быў нікім, той стане ўсім.” *(Рус.)*

**** “Жывейшы за ўсіх жывых” (*рус.; так камуністы называлі Леніна. – Аўт.)*

***** “ён так хацеў мець дзяцей” (*рус.; узгадка зь вядомага савецкага анекдота)*

-- У тым баку парка, -- паказвае рукой Рамук, -- прыгожы від на возера. Вербы старыя. Тут вакол вазёры. Сходзім туды?
-- Сходзім, сходзім, -- наперабой пагадзіліся Лена і Лёля.

Від сапраўды быў прыгожы. Старыя вербы паласкалі гольле ў вадзе, лаза, гладкае люстэрка шырокага возера, у якім адбіваліся белыя воблакі, сіняе неба. Поўная паўдзённая цішыня. Ні душы. Толькі збоку, ля вады, над ліловымі “агенчыкамі”, якія яшчэ называюць лугавым васільком, і над бардовымі, рэдкімі ў прыродзе кветкамі, якія называюцца тут “цыганы”, бомкаў самотны чмель. Плюснула рыбка, гуляючы. Відаць, верхаводка. І зноў цішыня.

Усе трое сядзелі на беразе зачараваныя і доўга маўчалі. Высака ў небе загудзеў чужы рэактыўны баявы самалёт, пакідаючы ў блакіце белы хвост. Ныла і ныла гэтае гудзеньне над цішынёй, гугнявае, як зьдзек над існаваньнем. І тут Рамук заўважыў, што Лена бязгучна плача. Сьлёзы скатваліся па яе шчоках, але выраз твару быў каменны, як у статуі. Рамук усё зразумеў, бо сам пра тое падумаў. Ён крыху адвярнуў галаву, быццам ня бачыў, каб не бянтэжыць Лену.

Перапыніла маўчаньне Лёля. Яна пачала насьвістваць паланэз Агінскага “Разьвітаньне з Радзімай”, імкнучыся ўзяць верхнія ноты. Але ёй тое не ўдавалася. Тады Лена кажа:
-- Нічога ня выйдзе, Лёля, твайго сьвісту хапае толькі на трэць актавы. Агінскі не для сьвісту.
-- Магу на паўактавы, -- адказвае Лёля, і пасьвістала “Как много девушек хороших”.
-- Во, гэта другая справа, -- сьмяецца Лена, -- некаторыя былі так уражаны.
-- Я чытаў, што тут Радзівілы ставілі спэктаклі на вадзе, -- кажа Рамук. – Марскі бой быў.
-- А я чытала, -- падхапіла Лёля, -- што адзін Радзівіл летам у санях на мядзьведзях катаўся. Замест сьнегу дарогу соляй пасыпалі. Дык от бы на мядзьведзях пакатацца! Во была пара! Во жыцьцё!
-- Во-во, -- іранізуе Лена, -- гэта ў цябе кроў продкаў сігналіць*.
-- А нічога дзіўнага, -- зь веданьнем справы ўстаўляе Рамук. – У Смаргоні была цэлая мядзьвежая акадэмія. Там мядзьведзяў адмыслова для тэатра скамарохаў абучалі.
-- Але, -- заўважае Лёля. – Кажуць, што тыя мядзьведзі нават гаварыць умелі і “Лявоніху” танцавалі.
-- О, так, -- паддаківае Лена, -- казалі яшчэ, што тыя мядзьведзі валодалі мастацкім сьвістам.
-- Але толькі на паўактавы, -- дадае Лёля і паказвае пальцам угару.
-- Во-во! Слухайце – усе сюды! Танцуем паланэз, -- ускочыла Лёля, схапіла Рамука пад руку і камандуе: “Табе, Лена, пары няма, дык будзеш капэльмайстрам-капэльдудкай. Вытылінгуй на ензык, як в тэн спосуб мувіл пан Адольф Быкоўскі.** І так: ”Там дара-рам, дарарам-там-там, там-там-там. Панове шляхта, правая рука сагнутая ў локці, паненка бярэ пана Шляхту пад руку. Пан Шляхта зьгінае галаву і паварочвае яе да паненкі, усьміхаецца і з шляхецкай годнасьцю і любовяй зазірае паненцы ў вочы. Абавязкова ўсьміхаецца! Сьпінка простая, як у кантрадансе. На левую ножку прысядаем, а правай выбрыкваем, як лось капытцам, пальчыкі адцягнутыя. І-і раз: там-тара-ра-ра-ра, там-там! І-і два: тарам-там-там, тарам-там-там. І тры: тарам-там-там, тарам-там-там, там-там...

------------------------

* Тут Лена намякае на родавы гэрб “Равіч”. *(Аўт.)*

** “Вытылінгуй” пад язык, як пра тое казаў пан Адольф Быкоўскі (*польск.; спасыланьне на “Паўлінку” Янкі Купалы. Аўт.)*

Лёля з Рамуком пачынаюць на траўцы танцаваць паланэза, а Лена заліваецца ад сьмеху.
-- Брава! Брава! Бравісьсіма! Шарман! Білісьсіма! Ах, якая грацыя! Пан Шляхта няйначай скончыў Смаргонскую акадэмію.
-- Трам-тарарам-там-там-там-там, -- саліравала Лёля.

* * *

Калі яны вясёлыя вярталіся па дамбе да касьцёла, то спаткалі некалькі асоб, якія азіраліся і з цікаўнасьцю глядзелі ім усьлед. У кампаніі Рамука паненкі адчувалі сябе камфортна, бо гэты даўгавязы Шляхта быў вышэйшы за іх і яны не адчувалі свайго нестандарту. Да васемнаццаці гадоў дзяўчаты вымахалі да 180 см. І былі вышэйшымі за шмат якіх мужчын. І вядома ж, тое сьвядома ці несьвядома ўлічвалася з абодвух бакоў і часта не ў карысьць дзяўчат.

“Дзевушки, па чом жэрдзі?”* -- кідалі часам усьлед вулічныя дасьціпнікі. А Лёля, якая рэагавала першай, кідала зьверху ўніз забойчую фразу: “Не бядуй, сынок, яшчэ падрасьцеш, усё наперадзе”.

У Менск выправіліся недзе пасьля 15-й гадзіны. Сонца стаяла высока, матор урчэў, салон правявала ветрам, і паненкі зацікаўлена круцілі галовамі, разглядаючыся па баках і прыкідваючы, дзе б спыніцца на перакус. Нарэшце, убачылі бярозава-рабінавы гаёк справа ад дарогі і малапрыкметную зарослую дарожку ўглыб гаю.
-- Стоп-стоп-стоп, Ромчык, стоп! – замахала рукамі Лёля. – “Принять вправо”.**

Рамук усьміхнуўся і асьцярожна паехаў па сьцяжынцы між бярозак і кустоў. Неўзабаве дарожка павяла ўніз, і мэтраў праз сто яны выехалі на зялёную пакошаную лужайку ў абрамленьні лесу, а пасярэдзіне лужка булькатаў ручаёк, пятляючы, як зьмейка. На беражках расьлі невялічкія вольхі і дзе-нідзе кустоўе чырвонай парэчкі, прытым зь ягадамі, і птушкі іх тут не падзюбалі. Ня тая пара.

Паненкі зь неверагодным піскам выскачылі на лужайку, ськінулі туфлі, ахалі-охалі, разглядаліся па баках, кружыліся ў танцы, распускаючы веерам сукенкі і бліскаючы голымі пяткамі. Яны былі ў захапленьні.
-- Ромчык! Ромчык! Гэта Рай! Усё! Застаемся тут на ўсё жыцьцё, нікуды ня едзем. “Ой, рэчаньнка, рэчанька, чаму ж ты ня поўная”, -- моцным голасам засьпявала Лёля. “Зь беражком ня роўная, -- падхапіла Лена, -- люлі-люлі, зь беражком ня роўная...”

Рамук глядзеў на гэтае шчасьлівае відовішча, якое не апісаць: дзьве абсалютна ідэнтычныя прыгажуні ў квяцістых сукенках і мілых капялюшыках плаўна кружыліся па лузе босымі ножкамі і сьпявалі “Рэчаньку”, якая якраз тут цякла, упрыгожаная чырвонымі гранкамі парэчак.

Налётаўшыся, накрычаўшыся і насьпяваўшыся, паненкі ўзяліся за справу. Выцягнулі вялікую спартыўную сумку, прывалаклі да беражку з парэчкамі, дасталі з сумкі вялікую льняную зеленкавую посьцілку з традыцыйным узорам (“кошычкі”), разаслалі на траве і пачалі вымаць талеркі, кубкі, фужэры, нажы, відэльцы, тэрмасы, сурвэткі, пасярэдзіне разьмясьцілася бутэлька віна “Муказані”, а вакол нарэзаны хлеб, вяндліна, “курчо-табака”, сыр, агуркі, памідоры, катлеты, колцы свойскіх кілбас, салата, смажаная рыба і... – О, Матка Боска! – Торт, упрыгожаны вішнямі, плюс баржомі і нават хлебны квас.

----------------------------------
* Дзяўчаты, па чым жэрдкі? *(Ламаны рус.)*
** Збоч управа *(рус. ваенная каманда)*

-- Дзяўчаты, вы што?! – праляпятаў Рамук.
-- А што “што”?
-- Гэта на дзесяць асобаў.
-- Ой, вы што, Рамэа, -- замахала рукамі Лёля, -- на пяць. Вы самы вялікі – за трох, і нас двох. Якраз пяць.
-- Торт рабіла я, -- працягвае Лёля, -- рыбу і катлеты – Лена, кілбасы зь вёскі, курчо-табака – з рэстарану, агуркі-памідоры – з дачы. Усё сваё, беларускае. Толькі віно з Грузіі і курчо па-грузінску. Няхай жыве Сакартвэла і Слава Капээсэс!
-- Пры чым тут КПСС? – пытае Рамук.
-- А вы што, ня ведаеце?
-- Не, ня ведаю.
-- Значыцца, сустракаюцца два грузіны, -- прадаўжае шчабятаць Лёля, расстаўляючы талеркі, -- і адзін другому кажа: “Слухай, Голія, ты ведаеш, аказваецца Карл і Маркс – гэта адзін чалавек, а Слава Капээсэс увогуле не чалавек”. Але за Славу мы скажам тост потым. Наліць бакалы! – Лёля перадае бутэльку Рамуку. Рамук разьлівае віно і думае: “Ёлкі-палкі, я тут за кіраўніцай, скарб вязу. Ну, але Бог – бацька. Каб толькі ня мент”.
І тут Л е н а:
-- Ну, дарогу маладым. Ваша слова, таварыш Лёля.
-- Як гэта маладым? – вырвалася ў Рамука.

Паненкі засьмяяліся.

-- Я старэйшая, -- сьмяецца Лена, -- яна маладзейшая на дзьве гадзіны.
-- Мілая дарагая Лена! Шаноўны, паважаны Раман, які нам сёньня быў такім сяброўскім. Давайце вып’ем гэтае чырвонае грузінскае віно за нашае знаёмства і за наш шчасьлівы дзень, дакладней – паўдня, які прамінуў так хораша і па-людзку, вып’ем за нашыя мары, за нашыя сьлёзы, за нашыя песьні і сьмех, за мілую нашу Айчыну.
-- Ой, Лёля, як добра. Мілая мая сястрычка, люблю цябе.

Імкнуся ў марах
Я да Радзімы,
Душа сумуе
Па ёй адзінай.

Усе папівалі віно маленькімі глыткамі з перапынкамі і ўсьміхаліся.

-- А хто гэта? – пытае Лёля.
-- Ян Райніс.
-- О, як добра.
-- А вось яшчэ Райніс зь беларускіх матываў:

Мая дудка
Мая радасьць,
Весялі мяне
На чужой зямлі.

-- Здорава. Але ў нас зямля наша. Я б прачытала так: ”Весялі мяне На сваёй зямлі”.
-- О, Райніс! Які гэта дзівосны паэт! Як ён гучыць па-беларуску! Я нават крыху латышскую падвучыла, каб яго чытаць.
-- А я нарадзіўся там, дзе Райніс, у латвійскай Беларусі, у Дзьвінску ў 1938-м перад вайной. А ўжо потым, калі Латвію акупавалі, бацькі пераехалі спачатку ў Браслаў, а потым у Віцебск. Але ў час вайны мы яшчэ жылі ў Дзьвінску.
-- У такім разе, -- усклікае Лёля, -- вам як латгальцу-латышу трэба абавязкова зьесьці ўсё гэтае курчо і кілбасу, бо яна Слонімская, а Слонім, каб вы ведалі, перад

прыходам таварышаў-бальшавікоў называлі “пці Пары”, такі ён быў прыгожы горад. Так што Слонім на Дзьвінск глядзіць і падтрымлівае.

Рамук, які з 4-х раніцы (ужо паўдня) нічога ня меў у губе, не адмаўляўся і ўплятаў за абедзьве шчакі, да вялікай радасьці паненак, якія таксама не адставалі.

Падсілкаваўшыся, яны яшчэ доўга размаўлялі на розныя тэмы, сярод якіх Лёля ўсё даціскала Рамука пра камунізм.

-- Ну, дык як жа будзе з камунізмам? Куды ён дзенецца? А можа пабудуюць?

-- Анічога ня будзе. Куды дзенецца – ня ведаю. Хутчэй за ўсё вернецца туды, адкуль выйшаў – у маргіналізм.

-- Але ж, аказваецца, ідэя харошая, і Раман Шляхта – кадравы камуніст, які мае партбілет у кішэні, кажа, што нічога ня будзе. Вельмі цікава.

-- Ідэя харошая. Але як яе ажыцьцявіць, я ня ведаю. Напэўна, яно і немагчыма. Ні ў каго не атрымалася. І нічога ня выйшла, акрамя шкоды людзям і народам. Я сур’ёзна пра гэта кажу, бо тэма сур’ёзная.

Наконт “кадравых”, то я ж казаў і вы пагадзіліся, што толькі будучы ўнутры камунізма, можна на нешта рэальна ўплываць супраць камунізма. Камунізм – гэта ўлада. І наконт маральнай пазыцыі і партбілета ў кішэні. Калі гэта дзеля прыстасавальніцтва і выгады, то тут бяспрынцыпнасьць. Да прававерных камуністаў я таксама не належу. А калі тут пазыцыя барацьбы, то ўдзел у сістэме – гэта таксама змаганьне. Тут, як на вайне, – усё ёсьць прынцыпова і маральна дзеля перамогі, бо за гэтыя прынцыпы можна пацярпець, і ня толькі свабодай, але і жыцьцём. Я адкрыты перад вамі, лічу сябе сумленным чалавекам і нічога не баюся, аж так, каб хлусіць і казаць няпраўду.

Тут Лена з горыччу папракае:

-- Лёля, мілая сястра, табе б у пракуроры. Ну як ты можаш так дапытваць культурнага чалавека. Гэта ўсё так па-савецку. Ох, мне проста нядобра.

-- Леначка, можа я памылілася, але я не саветка, ты мяне крыўдзіш.

-- Мілыя дзяўчаты, калі ласка, не папракайце адна адну. Няма падстаў. Я ж не...

-- Ромчык, -- перабівае Лёля, -- прабачце мне. Наша Лена такая разумная. Я сказала лішняе, але затое ведаю, што вы прыстойны чалавек.

-- Ох! Якія эмоцыі, -- уздыхае Рамук. – Слухайце, я вам раскажу пра нешта важнейшае за камунізм.

Даўно ўжо целам я хварэю,
І хвор душой, --
І толькі на цябе надзея,
Край родны мой!
У родным краю ёсьць крыніца
Жывой вады.
Там толькі я змагу пазбыцца
Сваёй нуды.
Калі-ж у ім умру – загіну, --
Не жалюсь я!
Ня будзеш цяжкая ты сыну
Свайму зямля.
Там хоць у гліне, хоць у брудзе,
Там, пад зямлёй,
Найдуць мае слабыя грудзі
Сабе спакой.*

-------------------------------
* Верш М. Багдановіча *(аўт.)*

Запанавала цішыня. Нарэшце Лена вымаўляе:
-- Як гэта геніяльна і як трагічна!
-- У трагедыі заўсёды ёсьць аптымізм, -- кажа Рамук, -- бо перамагае ідэя. Калі дазволіце, тады я яшчэ пра трыумф ідэі.
-- Дазваляем! – запляскалі ў ладкі, як на канцэрце, паненкі.

Тады Рамук дэкламуе:

Маладыя гады,
Маладыя жаданьні!
Ні жуды, ні нуды,
Толькі шчасьце каханьня!
Помніш толькі красу,
Мілы тварык дзявочы,
Залатую касу,
Сіняватыя вочы!
Цёмны сад-вінаград,
Цьвет бяленькі вішнёвы, --
І агністы пагляд,
І гарачыя словы!
Будзь жа век малады,
Поўны сьветлымі днямі!
Пралятайце гады,
Залатымі агнямі!*

Паненкі запляскалі ў ладкі, імітуючы авацыі, і весела ўсклікаючы “Біс!”, “Брава!”, “Брава!”

Тады Рамук паказвае на гадзіньнік, на сонца, што на захадзе, і аб’яўляе: “Канцэрт закончаны”.

Паненкі ўсхапіліся. Памылі посуд ў ручаі, сабралі ўсё ў сумку, а ежу, што засталася некранутай, -- у асобны пакет і замежную паліэтыленавую торбу з малюнкамі. Хвіліна – “газік” завёўся, забурчэў, выехаў на шашу і пакаціўся ў Менск, падсьвечаны праменьнямі заходняга сонца.

Рамук падвёз паненак пад самы дом, нават у двор заехаў. Ужо зьмяркалася, было каля 20 гадзін, і дзяўчаты наперабой сталі запрашаць Рамука зайсьці да іх дахаты (“тата і мама будуць радыя”) пазнаёміцца з бацькамі, пераначаваць і раненька паехаць.
-- Навошта ж ехаць на ноч – і цяжка, і небясьпечна, і далёка.

Паненкі шчабяталі так настойліва і шчыра. Але Рамук быў цьвёрды, як скала. На раніцы, а 7-й, ён мусіць быць у канторы.

Лена кладзе яму на сядзеньне замежную паліэтыленавую торбу (піск бытавой моды) з курчай-табака, кілбасамі, сырам і ўсёй рэштай, што засталася ад абеду, і кажа:
-- Гэта ў дарожку.
-- Не, ну куды там! Колькі той дарогі.
-- Прыедзеце позна, есьці захочацца, а тут курчо гатовае з агурочкамі. Нічога ня трэба рабіць, толькі паесьці. Ну, калі ласка. Гэта ж так усё зразумела і проста. Цікава, што вы нас ні разу не пераблыталі.
-- Ого! Вас пераблытаеш. Але, ведаеце, я па вачах пазнаваў.

------------------------------
* Верш М. Багдановіча *(аўт.)*

У гэты час з пад'езду выбягае Лёля, якая хутка пасьпела ў кватэру і назад, і стаўляе яшчэ адну торбу, зь якой выглядае бутэлька віна, яблыкі, поўна цукерак і шакалад. Убачыўшы гэта, Рамук пачаў рагатаць.
-- Тут яшчэ, -- кажа, -- марозіва не хапае. І паболей. Вы што, паненкі!
-- "Кто может сравниться с Матильдой моей", -- засьпявала Лёля, закрываючы дзьверы "газона". Усё. Прэкраціць всячэскій оппортунизм!*
Рамук вырульваў са двара, а паненкі стаялі і махалі рукамі "па-па". Ад'ехаўшы ад горада, Рамук зьехаў на ўзбочыну, заглушыў матор, уключыў сігнальныя агні, лёг на руль і хвілін 10-15 спаў. І толькі потым паехаў на Воршу,

* * *

Праз тыдзень, у нядзелю, калі Лена зь Лёляй ехалі ў Вільню, у цягніку зноў зайшла размова пра Шляхту.
-- Ведаеш, Лена, калі б ты за яго пайшла, то лепшага мужа і ня трэба. Ён цябе будзе ўсё жыцьцё на руках насіць. І беларус нармальны, і высокі, і сумленны, і шчыры, і праўдзівы, і просты, і культурны, але... Ёсьць адно "але". Чуе маё сэрца. Скончыць у турме. Яшчэ добра, калі не заб'юць. Будзеш саламянай удавой. Гэта страшна. Я ж бачу, ты ўся растала, як марозіва на сонцы, глядзіш на яго, як на абраз. А ўжо ён на цябе.., то й зусім маўчу.
-- Навошта ты гэта ўсё гаворыш, Лёля?
-- Сама ня ведаю. Гавару, бо думаю пра цябе.
-- Яшчэ няма чаго думаць. Тут толькі пачатак, які невядома, ці стане працягам.
-- О, не! Тут пачатак, які вызначае вянец. Не адкруцішся.
Паненкі езьдзілі ў Вільню амаль што кожную нядзелю, часам разам з маці Прузынай Мікалаеўнай Равіч з Валентыновічаў, інтэлігентнай кабетай гадоў за пяцьдзесят з лагоднымі манерамі і заўсёды дабразычлівым голасам. Яно адразу адзначалася сярод грубаватага наплыву ў Менск прышлага насельніцтва. У 1930-х гадах Прузына вучылася ў Віленскім унівэрсітэце на мэдычным факультэце, належыла да Беларускага Студэнцкага Саюзу і да Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі. Гэта не перашкодзіла ёй яшчэ студэнткай выйсьці замуж за "левака", сябра Грамады, а потым КПЗБ** Аляксандра Равіча. І шлюб, і каханьне, і сям'я ў іх атрымаліся ідэальнымі. Аляксандар выкладаў фізіку і матэматыку ў школе, спрабаваў займацца жывапісам. У КПЗБ яго прывяло рэзкае непрыняцьце польскай акупацыйнай палітыкі ў заходняй Беларусі, дыскрымінацыйнай і антыбеларускай. Праўда, асаблівай палітактыўнасьцю Аляксандар не вылучаўся. Па натуры ён быў больш філосаф, чым палітык, такі мудрэц, схільны рацыянальна вымяраць будучыню.
Тым часам Прузына – гэта было само дабро і ласка. Прузына мела тры пасіі: Беларусь, касьцёл і медыцына. Яна была прыроджаны лекар. Лекаваць людзей было для яе найвышэйшым задавальненьнем. Скончыўшы ўнівэрсітэт, яна адчыніла прыватную медыцынскую практыку ў Слоніме (дапамаглі заможныя фальварковыя бацькі). Але ў тым жа годзе пачалася вайна. Да гэтага часу, практычна, увесь беларускі рух у Заходняй Беларусі быў разгромлены Дэфэнзывай і НКВД (якія ў гэтым супраць беларусаў супрацоўнічалі) і сям'я адышла ад палітыкі.
Калі прыйшлі саветы і танкі, Аляксандар адразу засьведчыў падтрымку савецкай уладзе і нейкі час працаваў бухгалтарам у райвыканкаме, а з восені ўладкаваўся настаўнікам у беларускай школе.

------------------------------
* Спыніць усялякі апартунізм (*Ламаны рус.*)
** Камуністычная Партыя Заходняй Беларусі. *(Аўт.)*

Прузына ў той час мела працу лекара ў амбулаторыі. У 1940-м яна зацяжарыла, і якраз у гэты час саветы пачалі па сьпісах хапаць людзей, вывозіць і расстрэльваць. Аляксандар, маючы палітычны вопыт змагара і партыйную практыку камуністаў, распарадзіўся хутка і рашуча, не гадаючы і ні на што не спадзеючыся. Ён паехаў у Менск да сваякоў і пры падтрымцы некаторых беларускіх камуністаў (якіх яшчэ не расстралялі) уладкаваўся, зноў жа, бухгалтарам у гарадзкі аддзел культуры. А легенда была такая: уцякач ад варожага буржуазнага асяроддзя ў гушчу савецкай улады. Аляксандар тут жа перацягнуў у Менск жонку (а лекары былі патрэбныя), пакінуўшы ў Слоніме ўсё.

Прузына яму часам казала: “На ваду дзьмухаем, але як жыць будзем?”

-- Ты ж зважай, -- кажа Аляксандар, -- усю нашу КПЗБ Масква вытаўкла яшчэ ў 30-х. Яны ня спыняцца. Менск – гэта ня высылка і не Тамбоў. Жыць будзем, а там паглядзім.

Зімой 41-га Прузына нарадзіла сыночка Рыгорку і ў траўні, як пацяплела, таемна з мужам адвезьлі яго ў Вільню і ў касьцёле ахрысьцілі. Аляксандар, хоць і камуніст, нічога ня меў супраць Бога і рэлігіі, лічыў, што “нешта ёсьць” (бо сьвет існуе ў парадку), але касьцёл і ксяндзоў не любіў за польскі шавінізм і паланізацыю беларусаў.

Пасьля ад’езду са Слоніма ўсё як бы было ціха. Але кожную ноч па Менску сноўдалі чорныя хапуны і хапалі людзей. Каля НКВД і перад Пішчалаўскай турмой дзень і ноч стаялі натоўпы людзей – сваякі арыштаваных. Аляксандар ведаў, што людзей расстрэльваюць у Камароўскім лесе, у лесе Ваньковіча, у Сьляпянцы, на Баравой, у Інтэрбуршчыне, на Бродзе пад Цной, у Трасьцянцы, і шмат яшчэ пра што людзі казалі шэптам і азіраючыся.

Равіч разумеў, што адбываецца генацыд насельніцтва, камунізм тут толькі зачэпка, і рана ці позна чарга да іх як беларусаў дойдзе. Зразумела, яны дакапаюцца, што ягоныя продкі і продкі жонкі – гэта шляхта, гэрбавая і вядомая. Потым даведаюцца пра КПЗБ і пра хадэцыю, плюс Беларускі Студэнцкі Саюз, ды ці мала пра што яшчэ, якое тут усё мае значэньне. Беларусы, інтэлігенцыя – у расход.

Што рабіць – нічога талковага ў галаву не прыходзіла, асабліва цяпер, калі нарадзіўся Рыгорка.

22 чэрвеня 1941-га немцы ўдарылі па саветах. 23-га бамбавалі Менск. Аляксандар зразумеў, што пачаўся разгром саветаў. Тым ня менш ужо 23-га ён сказаў:

-- Прузя, палі фатаграфіі, рыхтуй дзіця, едзем у эвакуацыю. Кідаем усё.

Прузына пачала ўгаворваць Аляксандра застацца ў Менску і дачакацца немцаў. Саветам жа канец. Куды ж да іх у лапы ўцякаць!

А Равіч ёй тлумачыць сваё:

-- Усё перакулілася дагары нагамі, -- кажа Аляксандар. – Сталін з Гітлерам дамовіліся заваяваць сьвет і згрызьліся паміж сабой. У гэтай раскладцы немцы вайну прайграюць. Будзе тое ж, што і ў 1918-м. Падарвуцца. Яны пайшлі супраць Францыі, Англіі, усёй Эўропы і Амэрыкі, яшчэ маскаля маюць у тыле. Ня могуць яны выйграць вайну супраць амаль усяго сьвету. Невядома, што будзе з Масквой, але Гітлеру, дакладна, будзе труна. Жонка, вер мне і зьбірайся. Веру, што пасьля вайны будзем у Беларусі.

Равічы трапілі ў Маскву, намучыліся, напакутваліся, нагаладаліся некалькі месяцаў і, нарэшце, пераехалі ў Ташкент. Там і дачакалі канца вайны. У Менск вярнуліся ўжо ў 1944-м.

Прузына працавала у 1-м клінічным шпіталі, які ацалеў ад савецкага бамбаваньня горада, што ператварылі ў руіны. Аляксандра як чалавека адукаванага і савецкага (бо пад акупацыяй ня быў) прынялі на даволі значную

пасаду – загадчыкам аддзела ў Міністэрства культуры. Аддзел займаўся падлікам зьнішчэньняў аб'ектаў культуры і складаньнем сьпісу на рэпарацыі па нямецкіх злачынствах.

У 1945-м у Равічаў нарадзіліся дзьве дзяўчынкі-блізьняткі. Аляксандар ня мог нарадвацца, калі яны ўжо трохі падрасьлі, ляжалі ў калысачцы, усьміхаліся і ўсё "ля-ля-ля", "ля-ля-ля". Іх таксама таемна ахрысьцілі ў Вільні, але ўжо зь вялікімі цяжкасьцямі. Ксёндз баяўся, што Равічы зь Менску. Але неяк угаварылі. Гучэла прыблізна так: "Пжэцеж не естэсьмы обцы обыватэле, але католіцы з Віленшчызны і студ'ёвалісьмы тутэй на унівэрсытэце, паментамы ксендза-пробошча ешчэ з лят тжыдзестых..."* і г. д.

Пасьля вайны шмат што перамянілася, і гадоў праз дзесяць Аляксандра аценілі і моцна павысілі. Ён стаў адным з намесьнікаў міністра, членам бюро Абкама, жыў з сям'ёй у новым прасторным доме ў цэнтры Менска за два крокі ад міністэрства. І на гэтым Аляксандар нібы закансэрваваўся. (Відаць, быў ліміт на такіх "заходніх".) Яго ніхто ня рушыў ні ў тыл, ні ўперад, ні ў бок. Аляксандар зразумеў, што гэта мяжа, столь, і проста дабрасумленна выконваў працу. Старэйшы сын яго, Рыгор, скончыў архітэктурны факультэт Палітэхнічнага інстытута, быў ужо жанаты і працаваў у праектным гарадабудаўніцтве.

Лена і Лёля пасьля школы адразу паступілі ў Інстытут замежных моваў на нямецкую і ангельскую спэцыялізацыю і акурат у гэтым годзе скончылі. Будуць працаваць настаўніцамі нямецкай мовы ў школах Менска.

Такая кароткая гісторыя гэтай дзіўнай беларускай сям'і, якая жыла (прытым не найгорш) ва ўмовах унутранай сямейнай эміграцыі, дзе ўсе ўсё разумелі, хто яны ёсьць, што такое іхняя культура і ў якім грамадзтве яны існуюць.

У іхнай сям'і ніхто не павышаў голасу, але для дзяцей аўтарытэт бацькі і маці быў неаспрэчны і беззаганны, прытым не таму, што загад і трэба слухацца, а таму, што любоў і павага былі ўзаемныя, а гонар і абавязак – вышэйшыя цноты.

Цікава яшчэ, што калі якая праблема ці здарэньне, то сёстры найперш абмяркоўваюць усё паміж сабой. Потым Лена абавязкова падзеліцца з бацькам і паслухае, што ён скажа. Бацька для яе найвялікшы аўтарытэт. Лёля, наадварот, пойдзе абмяркоўваць усё з маці – гэта такія найбліжэйшыя сяброўкі. Прузына бывае падсьміхае сясьцёр: "Ну, во, бацькава дачушка і матчына дачушка. Можа б памяняліся калі ролямі дзеля цікавасьці".

-- Мамачка, мы цябе абедзьве любім, -- сьмяецца Лена.

-- І тату таксама разам любім. Unsere Eltern sind schöne Leute. Sie sind wunderbar! Sie sind wonderful people! Sie sind beautiful!** -- дэкламуе Лёля на нямецка-ангельскай трасянцы.

Прузына выхоўвала дзяцей у каталіцкай традыцыі, будучы вернай каталічкай яшчэ з часоў хадэцыі. Часта ў нядзелю яны зьбіраліся і ехалі ў Вільню ў касьцёл на імшу. Вільня цяпер была ў другой савецкай рэспубліцы. Рознае падпарадкаваньне і КГБ мала сутыкаецца. Аляксандар, аднак, увесь час паўтараў жонцы: "Памятай, заўважаць – нам канец: усе беспрацоўныя. Гэта ня жарты".

Равіч катэгарычна забараняў сям'і бываць у касьцёлах на тэрыторыі БССР (іх і пакінулі ўсяго некалькі на ўсю краіну).

-- Засякуць імгненна. З першага разу. Памятайце ўсе! – строга выгаварваў Равіч.

---------------------------------------

* "Але ж мы не чужыя грамадзяне, але каталікі зь Віленшчыны і вучыліся тут ва ўнівэрсітэце, памятаем ксяндза-плябана яшчэ з трыццатых гадоў..." *(Польск.)*

** -- Нашыя бацькі прыўкрасныя людзі. Яны цудоўныя! Яны выдатны народ! Яны дзівосныя! *(Ням.-англ.)*

* * *

Рамук, калі трапіў у калгас, адразу пазнаёміўся з дырэктарам школы, такім Мікалаем Альховікам, і стараўся, як мог, школе дапамагаць. Ну, і школа дапамагала яму ў калгаснай працы, асабліва калі надыходзіла пара бульбу капаць. Потым ён зблізіўся з фізруком, такім Яўгенам Кур'яновічам. Пазнаёміліся найбольш праз валейбольную пляцоўку і гульню ў валейбол. Рамук быў вялікім аматарам валейбола, самай папулярнай гульні ў БССР у 50-60-х гадах. Пры сваім росьце 190 *см* ён "рэзаў" проста пад сетку.

Тым часам Кур'яновіч трапіў у школу пасьля заканчэньня Інстытута фізічнай культуры, маючы 1-ы разрад па боксу. Бокс ён не кідаў і часта адлучаўся на спаборніцтвы. Выступаў у класе сярэдняй вагавай катэгорыі. Хацеў стаць майстрам спорту.

Аднойчы Рамук кажа Яўгену, што хацеў бы заняцца боксам, ці згадзіўся б ён яго навучыць?

-- Вы сур'ёзна, Васілевіч?

-- Сур'ёзна.

-- Якая вага?

-- 85.

-- А рост?

-- 190.

-- Гм-м, Пры вашым росьце можна паспрабаваць. Займацца боксам яшчэ ня позна. І ў пяцьдзясят дубасяцца. У вас яшчэ самы ўзрост.

Пачалі заняткі. Кур'яновіч ня мог надзівіцца ўпартасьці маладога старшыні – не прапусьціў ні аднаго дня. Рабіў усё да сёмага поту. Яўген паставіў яму ўдар, навучыў розным прыёмам, фінтам, тактыцы бою. Потым увёў паядынкі, гэта значыць сапраўдны бой. Адзінае, гэта толькі тое, што Яўген мусіў аберагаць Рамука ад накаўта (бо было б занадта жорстка). Лупілі яны адзін аднаго такі добра. Кур'яновічу, праўда, шмат не перападала, а Рамук хадзіў з сінякамі і нават з разьбітым брывом. Замазваў грымам, рабіў прымочкі, насіў цёмныя акуляры.

Людзі, аднак, усё ведалі, некаторыя пасьмейваліся. Затое для падлеткаў Шляхта зрабіўся кумірам, асабліва, калі яны з Кур'яновічам наладжвалі для школьнікаў паказальны бой (папярэдне, вядома, дамовіўшыся пра баксёрскі спэктакль).

Неўзабаве Кур'яновіч кажа, што можа ўладкаваць ягоны (Рамуковы) ўдзел у нейкіх куставых спаборніцтвах. Рамук пагадзіўся і паехаў. О-о, панове, гэта ня гульні з Кур'яновічам. Першы ж бой ён прайграў па ачках. Затое другі неспадзявана выйграў накаўтам у другім раундзе. Трэці бой ён таксама выйграў па ачках, але зь вялікімі цяжкасьцямі. Тут яму далі ў вока так, што ліхтар выплыў "на палову бубена", як ацаніў Кур'яновіч. З гэтым набыткам Рамук і вярнуўся ў калгас. Два тыдні ў вялікіх цёмных акулярах хадзіў. Заняткі ён не кідаў, і Кур'яновіч ізноў жа не пераставаў зьдзіўляцца ягонай настырнасьці. "Усё добра, -- хваліў ён Рамука, -- я нават не чакаў такога выніку. Так што – працягваем."

Ніхто, вядома, ня ведаў прычыны таго боксу. Але трэба было ведаць Рамука Шляхту. Схапіўшы (за гонар Беларусі) жалезны ўдар ад Лапця (то бо Ёські) і зламаную ськівіцу, Рамук ня мог таго забыць. Адчуваньне бездапаможнасьці перад сілай яго бянтэжыла і злавала. Тады ўсё пайшло дагары нагамі. Нарэшце калгас, і тут гэты Кур'яновіч. І Рамук вырашыў узяць усё, што магчыма, каб больш ніколі ня стацца грушай для біцьця.

* * *

Зь Ленай Рамук перамаўляўся па тэлефоне амаль кожны дзень, але коратка. Ды і Лена, маючы бацькаву падпольную вывучку КПЗБ, усё разумела.

Аднойчы Рамук кажа:

-- Ёсьць ідэя экскурсіі з тымі ж удзельнікамі ў гэтую нядзелю. Мэта наведаньня – Вільня. А экскурсаводамі будзеце вы.

-- Выдатная ідэя, -- падхапіла Лена. – Уношу карэктывы. Вы прыязджаеце ў Вільню і ў 13.00 чакаеце нас на вакзале. Сустрэча каля галоўнага ўвахода. Потым ходзім па Вільні і вечарам вяртаемся ў Менск.

-- Як паненка хоча, так і будзе, -- адказвае ён Лене, -- я шчасьлівы выканаць любое яе жаданьне.

-- Які вы мілы і галантны, Раман. Такіх ужо няма ў гэтым сьвеце.

-- У гэтым сьвеце вы прычына, Лена, што з душы йдзе лепшае, а дрэннае зьнікае. Вы і Лёля, як дзьве сьветлыя зорачкі на беларускім шэрым небе. Я такі ўсьцешаны, такі рады, што пазнаёміўся з такімі мілымі паненкамі.

-- Ну, то тады будзем дзяліць нашу радасьць папалам. Чакаем вас. Зычым шчасьліва прыехаць.

Тым часам Лёля стаіць побач, чуе гэтую размову і кажа:

-- Паслухай, о Лена! Маеш шанц утаймаваць мядзьведзя. Ха-ха-ха.

-- Ой, не. Я не каралева.

-- Леначка, а от ты якраз і каралева. Толькі карону надзець – рыхтык каралева. Садзім на мядзведзя і ауф відэрзээн – дзе наша каралеўства?*

Л е н а:

-- “Там, дзе Нёман і Днепр,
Там, дзе Прыпяць цячэ,
Там, дзе добрыя людзі
Прыгожа жывуць.”

Л ё л я:

-- О, і гэта Рай, сястрычка, і ты паедзеш туды на мядзьведзю. А я застануся сьцерагчы родавы парог і жытло ад цёмных праклятых варвараў і буду чакаць цябе зь мядзьведзяняткамі ў сьвяточныя дні.

Л е н а:

-- Гэй, ты, прыроды цуд, Зямлі стварэньне, не крычы наперад, а то мядзьведзь зьбяжыць.

-- Не зьбяжыць, мы яго зацугляем і прыручым, і навучым танцаваць, -- нястомна шчабятала Лёля, -- паланэза, польку, падэспань і “падзіспаць”, -- і дзяўчаты рагочуць, заліваюцца -- так ім весела і добра.

* * *

У нядзелю Рамук без прыгод даехаў да Вільні, адкруціўшы пяцьсот кіломэтраў дарогі і восем гадзін за кіраўніцай. Ён паставіў свайго “козьліка” на плошчы справа ад будынку вакзала і ў 13.00 стаў перад уваходам, пазіраючы на гадзіньнік.

-- О, спадар, напэўна, нейкага чакае, – пачулася за плячыма, -- можа нас?

Рамук павярнуўся. Лена і Лёля шырока ўсьміхаліся, выяўляючы гэтым свае мілыя ямачкі на шчочках. На іх былі цёмна-сінія сукенкі ў дробныя кветачкі, як гарошак, і ў бежавыя пасачкі, абробленыя па баках і на сподзе карункамі. На

-----------------------------------------------

* Размова паненак тычыцца гісторыі іхняга родавага шляхецкага гэрбу “Равіч”, цэнтральны сюжэт якога – жанчына ў кароне едзе верхам на мядзьведзі. *(Аўт.)*

галоўках чорныя капялюшыкі, а на ножках чорныя лякаваныя туфлікі на сярэднім абцасе. Калі яны ішлі, разьзявакі на іх азіраліся.
-- “Модніцы”, -- падумаў Рамук, -- цяпер мала хто так апранаецца. Ёсьць магчымасьці. Але бездакорна. Шляхетна. Проста і прыгожа.
-- Дакладнасьць – ветлівасьць шляхты, -- перафразаваў выраз у каламбур Рамук і пахваліў усіх.
-- О, бездакорна! – усклікнулі паненкі. План такі, -- кажа Лена, -- пойдзем па памятных беларускіх мясьцінах. Пачнем з Вострай Брамы і Базыльянаў. Усё, што паказаў і расказаў нам тата, мы пакажам і перакажам вам.

Паненкі доўга вадзілі Рамука па беларускай Вільні. На былой Завальнай, там, дзе была рэдакцыя “Нашай Нівы”, яны шмат расказвалі Рамуку пра Беларускі рух, пра “Крыніцу” і Беларускі Студэнцкі Саюз, пра патранат над Саюзам усіх беларускіх палітычных арганізацыяў і шмат чаго такога, чаго Рамук ніколі ня чуў. Тут ён таксама даведаўся, чаму паненкі назвалі яго старадаўнім словам “спадар”, а ён адразу і не зразумеў. Рамук, які лічыў сябе докам у беларушчыне, быў нават зьбянтэжаны сваёй няведай.
-- Паслухайце, адкуль вы ўсё гэта ведаеце? Нідзе ж нічога не напісана. Няўжо так было?
-- Што вы, Рамане! Усё напісана, толькі спалена і схавана.
-- І вы чыталі?
-- Трохі чыталі. Толькі ніхто пра гэта ня ведаў, і нас не пасадзілі, -- сьмяюцца паненкі. – Але, галоўнае – нам расказалі людзі, якія самы тут ва ўсім прымалі ўдзел: і ў студэнцкім руху, і ў палітыцы, і вучыліся тут тады ва ўнівэрсытэце, і нават былі вось у гэтым доме, насупраць якога мы ідзем.
-- А што гэта за дом?
-- Унікальны дом, -- кажа Лена, -- некалі гэта Людвісарская,9. Унізе была друкарня “Беларускай крыніцы” – самай масавай газэты ў Заходняй Беларусі, -- а зьверху цэлы паверх займаў з сям’ёй рэдактар “Крыніцы” і намесьнік старшыні ХД такі Янка Пазьняк. Ён, фактычна, і кіраваў партыяй, бо Адам Станкевіч, старшыня ХД, быў больш ідэолагам-тэарэтыкам і філосафам, чым адміністратарам і кіраўніком. Усё было ў руках Пазьняка. Дык вось, у іх была вялікая гасьцінная, якую яны прыстасавалі пад жыльлё і начлегі для бедных беларускіх студэнтаў, якім не было дзе жыць. Пару разоў і наш тата там быў. Уздоўж сьцен па пэрымэтру стаялі тапчаны. На іх і спалі студэнты. Дзеці Пазьняка рабілі ім гарбату і таксама дапамагалі, як маглі. Гэта быў дзівосны час, у якім жылі дзівосныя ахвярныя людзі. Цяперашнім гэтакае нават не зразумела. Дарэчы, над Пазьняком вісела трыццаць пяць судовых справаў супраць газэты і яго рэдактара. Але ён быў такі разумны, што польскай уладзе ніяк не ўдавалася засадзіць яго ў турму. Наша хадэцыя выступала супраць фашызму і камунізму. За тое яго і забілі.
-- Хто? Фашысты?
-- Так, толькі камуністычныя фашысты, бальшавікі. У 1939 годзе схапілі і сьлед па ім загінуў.

Рамук быў прыгнечаны ўсім пачутым.
– Справа тут усё ж не ў камуністах і не ў фашыстах, -- кажа ён пасьля доўгай маўчанкі. -- Мэтады агульныя, мэты -- розныя.
– Мэты вядомыя, пярэчыць Лена, – ашчасьлівіць чалавецтва. Але хіба маюць значэньне мэты, дзеля якіх трэба забіваць нявінных людзей і зьнішчаць народы?
– Я не пра тое, Лена, пра што вы кажаце. І мэтады, і мэты паскудныя, бо ідэалогія была тут толькі формай нямецкага і маскоўскага імпэрскага шавінізму. Ці, дакладней, – імпэрыялізму. У гэтым якраз быў і канфлікт і падобнасьць мэтадаў. Агульная мэтадалогія – генацыд. Вынішчалі лепшых беларусаў. І ня мела

значэньня ці гэта беларускі антыкамуніст хадэк Пазьняк, ці беларускі камуніст Лагіновіч ды Тарашкевіч з КПЗБ, якую Масква таксама вынішчыла. Камуна-фашысцкая ідэалогія – гэта зброя генацыду і шырма, якая засьціць нам правільны погляд на нашу гісторыю.

Раман змоўк. Цяпер ён так думаў. Але ж некалі яму здавалася ўсё інакш. Ён уступіў у КПСС і хацеў працаваць у партыйнай сістэме. Потым усё перакулілася дагары нагамі, асабліва калі ён зразумеў, што беларусу не пакінута ніякага месца ў жыцьці, ніякай пэрспэктывы для існаваньня, іх проста выкрэсьлівалі з будучыні, а рэчаіснасьць была жахлівай і пацьвярджала тое, што іх чакала наперадзе. Яго ўсё больш бянтэжыла думка, што фармальна ён існуе ў гэтай сістэме і потым (невядома, што будзе потым) ніхто ня стане разьбірацца. “Ня страшная сьмерць, -- думаў Рамук, -- страшная ганьба. Але ўрэшце рэшт, галоўнае вынік, а там..? А там – усяроўна абплююць. Гэта такое грамадзтва.” І таму чхаць яму, Рамуку, на ўсе варожыя меркаваньні гэтага савецкага грамадзтва, у тым ліку і на тое як яго трактуюць ворагі і дурні, іхняя савецкая гісторыя ўсёроўна будзе дурной. Чхаць на іх. Была б толькі, жыла б толькі Беларусь і ўсе мы, беларусы, разам. І за гэта якраз трэба змагацца ўсімі сродкамі, усімі сіламі, любымі мэтадамі.

-- Рама-а-а-н! – пачуўся нібы здалёк голас Лены, -- ачніцеся. Вы так глыбока задумаліся.

-- А не, я трошкі, -- адказвае Рамук, -- выбачайце.

-- Я пытала пра пісьменьнікаў. Вы ведаеце?

-- А, так, пісьменьнікі, вядома, -- няўцямна працягвае Рамук.

-- Дык вось, Беларусь тады абрэзалі з усіх канцоў. Засталася, фактычна, толькі Менская вобласьць. А якая літаратура! Купала, Колас, Чорны... За трыццатыя гады расстралялі больш за палову пісьменьнікаў, каля пяцісот. То як гэта ўсё называецца? Расстралялі ўвесь беларускі тэатр Галубка -- БДТ-3. А гэта што: фашызм ці камунізм?

-- Гэта маскоўскі імпэрскі камуна-фашызм крамлёўскіх вылюдкаў, -- адказвае Лёля, якая йшла наперадзе, круцячы галавой і азіраючыся па баках. Праз нейкі час яна працягвае:

-- І што вы маўчыце, Рамэа? Ці не шкадуеце вы, што пазнаёміліся з дзьвумя антысаветкамі, якія Вас падтрымліваюць, але ня ведаюць, што гавораць?

-- Ой, Лёля, ну што ты кажаш! – устаўляе Лена.

-- Ага, Раман Васілевіч, -- працягвае Лёля, -- ну, прызнайцеся, што нешта думаеце. От калі нас зараз пачуюць, дык усіх і пасадзяць. І будзем мы сядзець і песенькі сьпяваць, -- сьмяецца Лёля.

Л е н а:

-- О, Матко! Спыніся, Лёля! А то зараз Раман Васілевіч і гаварыць з намі ня стане.

Лёля сьпявае:

-- “Спасіба парціі, велікай парціі за то, што мы так радасна жывём!”

Рамук сьмяецца:

-- Раней было “спасіба Сталіну”.

Л ё л я:

-- А нашто, каб дабро прападала. “Перакуем мячы на аралы!” Ой, відаць, трэба перакладаць на “нарогі”? Yes? Wirklich*. Хаця – не! На “плугі”. Ist das richtig, Freulein Lena?**

-- Лепш адразу на “трактар”, -- сьмяецца Рамук.

------------------------------------

* Так, сапраўды *(англ, ням.)*

** Гэта правільна, паненка Лена? *(ням.)*

Л ё л я:

Зь мячоў наробім трактароў
І туманамі даль пакрыем.
У камунізм ня лезь, парсюк,
З сваім буржуйскім панскім рылам.

Р а м у к:
-- Лёля, гэта шэдэўр!
Лёля маршыруе, падскокваючы, і пяе:

Сегодня мы не на параде,
А к коммунизму на пути.
В коммунистической бригаде
С нами Ленин впереди*

Л е н а:
-- Лёля, супакойся, на нас азіраюцца.
Л ё л я:

На нас азіраюцца,
А мы ідзем,
На нас азіраюцца,
А мы брыдзем,
Прэвазмагая жажду і боль,
Мы ідзем
На встрэчу сьветламу будушчэму
Усево чэлавечэства.
На нас азіраюцца,
А мы уперэдзи,
Як Блюхер з даху,
Прыближаемся к заветнай цэли.

А вось яна, "цэля". Achtung!** напісана "рэсторан Вильнюс", -- чытае Лёля ўрачыста, -- што абазначае па-беларуску "рэстаран Вільня". Ня блытаць з "рэструм". Так што, Лена Аляксандраўна, "жди меня, и я вернусь".*** Versteen Sie doch… und guten weg.****

Лёля адчыніла дзьверы і ўвайшла ў рэстаран, а Рамук зь Ленай засталіся на вуліцы і прыселі на лавачку.

-- Ох, цуд прыроды! – пасьмейвалася Лена. – Ёй бы ні настаўніцай быць, а ў тэатр ісьці. Але вы ведаеце, якая гэта добрая і ахвярная душа!
-- А мне здаецца часам, што ў вас адна душа і вы разам ёй валодаеце.
-- Ой, не. Па характару мы розныя, хаця па душы сапраўды даволі блізкія. І мы так зь дзяцінства – заўсёды разам.
-- А чаму вы аднолькава апранаецеся?
-- Бо вы ж заўважылі, -- адна душа. Так прасьцей. А калі па-праўдзе, то ў гэтым наша перавага. Мы шмат больш даведаемся пра жыцьцё і людзей у сваім "тандэме", чым калі б былі кожная ў паасобку.

-------------------------

* Сёньня мы не на парадзе,
А на шляху ў камунізм.
У камуністычнай брыгадзе
З намі Ленін наперадзе. *(рус., савецкая песьня)*

** Увага! *(ням.)*

*** "Чакай мяне, і я вярнуся." *(Рус.)*

**** Ты ж разумееш... і ў добры шлях. *(Ням.)*

-- Я думаю ўсё ж, што ў рэстаран ісьці ня варта, -- кажа Рамук, -- сапсуем дзень. Гэта ня тое асяроддзе. Памятаючы ваш прыклад, я ўзяў з сабой усё, што трэба. Дзе-небудзь на лужку пад Ашмянамі зробім вячэру на траве, а замест жывапісу будзе фотаапарат, які я таксама ўзяў.
-- Выдатна! Мінулы раз было так добра. Лёля правакуе вас на небясьпечныя размовы, магчыма, сама таго не разумеючы. Сёньня, відаць, нейкі правакацыйны дзень.
-- Хутчэй за ўсё дзень ісьціны, -- кажа Рамук. – Я шмат чаго даведаўся. Але пазыцыя мая вызначана даўно. Сёньняшні дзень толькі ўмацуе яе.
-- А вы ведаеце, чаго мы сюды прыехалі?
-- Не, ня ведаю. Можа, чаго купіць?
-- Мы прыехалі на імшу ў касьцёл сьвятых Пятра і Паўла, там нас хрысьцілі. Мы прыехалі маліцца Богу. Мы верым у Бога, Раман.

У гэты час вяртаецца Лёля:
-- Дакладваю. Рэструм свабодны, а ў рэстаране поўна рускіх камандзіровачных і афіцэраў. “Глушат водку” і танцуюць з “жэншчынами, которых полно”*.
-- А вось Раман Васілевіч абяцае нам пад Ашмянамі рэстаран на траве.
-- Слава Рамну Васілевічу! – усклікае Лёля. – Ромчык, вы ёсьць сапраўдны Шляхта без заганы і папроку.
Р а м у к:
-- Але я хачу цяпер адказаць Лёлі на пытаньне, што я думаю, бо раней ня змог уставіць слова, -- (Лена сьмяецца). – Дык вось, я думаю, глыбокапаважаная Лёліта Аляксандраўна, што перамога будзе за намі, бо нас шмат – ужо аж тры асобы. А гэта сіла. Правільна? Правільна! – скончыў Рамук.

На беразе безыменнай рэчкі, у гаёчку з сенажаткай быў цудоўны падвячорак на траве, у тракце якога Лёля танцавала “Манчыза” і “Падзіспаць”, а Лена з Рамуком пляскалі ў ладкі і, уключыўшыся ў гульню, выкрыквалі ўсялякія экзатычныя замежныя слоўцы кшталту “білісіма” ды “шарман”.

У Менск вярталіся, калі сонца ўжо было на Захадзе і цёпла асьвятляла дарогу чырвонымі промнямі. У дарозе Рамук, памятаючы словы Лены пра касьцёл, што засталіся без адказу, распавядаў паненкам пра сваё жыцьцё, пра якое пачаў быў гаварыць яшчэ ў Нясьвіжы.

Рамука ахрысьцілі ў прыгожым дзьвінскім касьцёле сьвятога апостала Пятра і далі імя Раймонд. Гэта ён ужо потым пры саветах, уступіўшы ў партыю, сябе крыху перайменаваў у духу новай улады. Бацька яго, Васьль Шляхта (запісаны пры хросьце як Базыль) быў натарыусам, а маці, Леакадыя зь Вяжэвічаў, медсястрой у шпіталі. Бацькі былі прыхільныя да беларускага руху ў Латвіі. Але калі ўсю ўладу загарнуў Ульманіс, яны абмежаваліся больш сямейнымі справамі і сталі сымпатызаваць камуністам, слухаючы савецкае радыё.

Калі прыйшлі танкі, яны спаткалі новую ўладу з задавальненьнем. Потым, яшчэ перад нямецка-савецкай вайной, саветы пачалі хапаць і вывозіць людзей у Сібір. Схапілі роднага брата Базыля Аляксандру, які быў адвакатам у Дзьвінску. Забралі таксама Базылёвага дзядзьку Адольфа, правізара, які трымаў аптэку ў Рызе.

Іншы, ужо стрыечны брат Базыля, Конрад Шляхта, вырашыў, што радню хапаюць з-за прозьвішча “Шляхта” (што было недалёка ад праўды) і зьмяніў сваё родавае найменьне, перайшоў на жончынае і стаў Каменскі. Загрымеў тут жа.

----------------------
* “п’юць гарэлку” (...) з “жанчынамі, якіх поўна” *(Ламаная рус.)*

Прытым яго катавалі і дапытваліся, на якую буржуазную разьведку працуе, чаму зьмяніў прозьвішча, ад каго хаваецца.

Бацька Раймонда разумеў, што забяруць таксама і яго, і наважыўся пераехаць у Браслаў у БССР, але вайна аддаліла яго планы і вываз у Сібір (бо быў у савецкім сьпісе ўжо на чарзе).

Як толькі вярнуліся саветы, Базыль з сям'ёй пераехаў у Браслаў да сваякоў і ўладкаваўся на працу ў Браслаўскі санаторый. На пачатку 50-х ён, маючы навыкі муляра (некалі падпрацоўваў на ўнівэрсітэце) згадзіўся працаваць на будоўлі ў Віцебску і пераехаў з сям'ёй туды. Пасьля сьмерці Сталіна (у сакавіку 1953-га) атрымаў месца натарыюса. Масавыя рэпрэсіі скончыліся, і далей ужо сям'я жыла спакойна.

У 1960-м Рамук скончыў агранамічны факультэт Сельскагаспадарчай Акадэміі ў Горках і нейкі час працаваў аграномам, быў групоргам у партарганізацыі, меў аўтарытэт, і яго накіравалі на вучобу у Вышэйшую Партыйную школу ў Менску.

Якраз у гэты час, калі Рамук яшчэ працаваў аграномам пад Віцебскам, вярнуўся з ГУЛАГу той родны брат бацькі адвакат Аляксандра. Ён атрымаў 25 гадоў лягеру і ў 1956 годзе, калі пасьля ХХ-га зьезду КПСС вызвалялі рэпрэсаваных вязьняў, Аляксандру ня выпусьцілі. Адсядзеў бы ўсю “норму”, калі б ня XXII зьезд КПСС і чарговае развянчаньне культа асобы і злачынстваў Сталіна ў 1961 годзе.

У Дзьвінск Аляксандру ўжо не было куды вяртацца. Бацькі не жылі, а сваёй сям'і ён тады яшчэ ня меў. Аляксандра прыехаў у Віцебск і нейкі час мясьціўся ў брата Базыля. Вось тут ён і пасябраваў са сваім узьнёслым пляменьнікам Раймондам (Рамуком, Раймусем па-хатняму), прыхільнікам новай лініі “партыі”. Апавяданьні Аляксандра, які цудам выжыў у лягеры на Калыме, перавярнулі ўвесь сьвет у галаве Рамука, што дагэтуль яму здавалася такім узвышаным, сэнсоўным і правільным.

-- Што трымала дзядзьку на духу ў лягеры? – пытаўся Рамук.

-- Што трымала? Скажу так: вера ў Бога і гонар роду.

-- А што гэта за “гонар роду”?

І Аляксандра падрабязна распавёў пляменьніку пра шляхецкі смаленскі род Шляхтаў.

-- Мы маем знакаміты гэрб “Навіна”. Ты ведаеш, хто быў пад гэтым гэрбам і хто падпісваўся псэўданімам “Навіна”*?

-- Але што з таго? Усё гэта толькі фармальная ўмоўнасьць, якая ня мае значэньня на сёньняшні дзень.

-- Але чаму для тых, хто нас забіваў і кінуў у ГУЛАГ, гэта мае значэньне? Ты не падумаў? Вось і маўчыш. Нас забівалі і душаць маскоўскія рабы, чэрнь. А мы – вольныя людзі. Ідзе вайна між цемрай і сьвятлом. Рабы, нявольнікі душаць волю. Яна ім непатрэбная, -- рубаў дзядзька Аляксандра словамі, як сякерай. – У нас, Раймусь, у Вялікім Княстве, было дваццаць адсоткаў шляхты і не было рабоў. Сяляне таксама былі вольнымі людзьмі, толькі што не абавязаныя былі ваяваць і выбіраць уладу, бо ў нас быў стары дэмакратычны лад і гарады вольныя. Мы караля Вялікага Княства самы выбіралі. А ў Расеі (насамрэч – у былой Ардзе) быў усяго адзін адсотак дваранаў і ўсе астатнія – рабы. Рускае прыгоннае права – гэта сарамлівы эўфэмізм рабства. Расейца-селяніна можна было прадаць, купіць, прайграць у карты, выменяць на сабаку і нават забіць. Уся іхняя гісторыя пра тое

---------------------------------------
* Тут намёк на Антона Луцкевіча. *(Аўт.)*

піша. А гэты адзін адсотак “дваран” у іх – гэта ж ня нашая вольная шляхта. Гэта былі прыдворныя прыслужнікі цара, “холопы государевы”, як яны самы сябе называлі.

Цяпер скажы мне, за сотні гадоў які такі чалавек мог вырасьці ў такім грамадзтве, якая культура, якая мараль?

Вось адсюль, мой дарагі, і ўзьнік бальшавізм, і рэвалюцыя рабоў. Маскоўскія рабы хочуць накінуць рабства ўсяму сьвету і паняволіць усіх. Ім ненавісна ўсё чыстае, добрае, сьветлае, усе працавітыя, вольныя і заможныя людзі. Усе мусяць стаць такой жа гразьзю, як яны самы.

Дык што, хай плююць нам у твар? Нам добра?

А некаторыя думаюць, што, маўляў, “умоўнасьць”, фармальнасьць. Кожнае слова ёсьць умоўнасьць, але яно называе сутнасьць.

Лапідарныя разважаньні дзядзькі Аляксандра, падмацаваныя турэмным лёсам, глыбока запалі ў Рамуковую душу. І сапраўды, усё ж відаць, усё на паверхні. Навошта ён успрымаў на веру ўсю тую пісаную школьную лухту!

Як Рамуку павялося потым у ВПШ, мы ўжо ведаем. Але гэта яшчэ не фінал. Рамуку часаліся рукі нешта рабіць, змагацца, зьмястоўна працаваць дзеля Айчыны, пра якую голасна нельга было нават казаць.

І вось Лена... Боскае пасланьне, жывы ідэал і дасканаласьць. У тое цяжка было паверыць, што такое можа стацца ў гэтым зьняважаным, прыдушаным жыцьці, што ў ім яшчэ існуюць анёлы, ёсьць прыстойнасьць, чыстасьць і харство, якое з гонарам  сябе паважае. Неверагодна. Ці сьвет ужо асьлеп, што нічога ня бачыць? Ці яму ўжо нічога ня трэба, акрамя рабства і паніжэньня?..

“Імкнуся ў марах я да Радзімы, Душа сумуе па ёй адзінай”, -- гучэў у сьвядомасьці яе голас. Раптам Рамук падумаў, што Айчына – гэта і ёсьць Лена, што гэта яе вобраз. Што б ён ні падумаў пра Бацькаўшчыну – зьяўляецца вобраз Лены, гэтай, фактычна, невядомай яму дзяўчыны, усьміхаецца ласкава і зазірае ў душу. Рамук глянуў у люстэрка над кіраўніцай і сустрэўся вачыма зь Ленай. Паненка ўсьміхалася. Рамук заплюшчыў адно вока, нібы міргаючы. І Лена заплюшчыла, сьмеючыся з гэтага жарту.

Нястомна вурчэў матор. Лёля, стаміўшыся, ад рухаў, словаў і эмоцый, ціхенька спала, паклаўшы галаву на плячо Лены. Рамук павольна спыніў машыну, не тармозячы. Вакол рос рэдкі бярозавы лес, і праменьні нізкага заходзячага сонца чырванелі на белых ствалах.

-- Што здарылася? – па-змоўніцку пытае Лена, весела пасьміхаючыся.

-- Іскра зьнікла, -- успомніў Рамук кіно пра Тарапуньку і Штэпсэля.*

-- А-я-яй! Як жа бяз іскры? – ціха ўсклікае Лена, каб не разбудзіць Лёлю.

-- Будзем шукаць, -- кажа Рамук, дастае сваю дарожную падушку (неабходны аксэсуар у дарозе) і падае Лене. Лена асьцярожна кладзе галаву Лёлі на падушку і выходзіць з машыны.

Яны моўчкі шпацыравалі між бярозак. Лена пасьмейваецца і кажа гэтак, падкідаючы ножкай апалыя галінкі бярозы.

-- І дзе гэтая свавольная іскра падзелася, не чуваць нешта?

Рамук спыніўся.

-- Лена! Я лепш пакажу.

-- Ну, пакажы, -- пасьміхаецца Лена і глядзіць у вочы.

Рамук кладзе руку на сэрца і маўчыць.

---------------------------------

* Украінскія эстрадныя комікі 50-70-х гадоў. *(Аўт.)*

-- Гэта што, Ромчык?
-- Гэта пароль, -- кажа Рамук.
-- Што за "пароль"?
-- Гэта пароль для нашых душ.., для нас з вамі. Ён гучыць так:
"Каго любіш?" – Рамук памаўчаў. – "Люблю Беларусь".
-- "Так. Узаемна".*

Лена спынілася, як укопаная. Яна не чакала, што будзе так хутка і так сур'ёзна, і неадрыўна глядзела Рамуку ў вочы, разумеючы, што мусіць быць адказ, да якога яна гатовая і негатовая. Прыкідвацца, какетнічаць ды ўдаваць неразуменьне тут нельга было і неразумна. Маўчаньне зацягнулася. Лена паклала руку на сэрца і ціха прашаптала: "Узаемна".

Вось табе і жартачкі пра іскру. Заіскрыла так, што Рамук затросься, як стрэлка ў магнітным полі. Было непераадольнае жаданьне схапіць Лену ў абдымкі, цалаваць, насіць на руках (хаця тут і ня ўсё так проста). Ну да чаго ж прымітыўна ўладкаваныя інстынкты чалавека!

Рамук узяў руку Лены і прыціснуў да губ, схіліўшы галаву. Ён ня бачыў, як на вачах у Лены на імгненьне зьявіліся сьлёзы, бо, калі ён падняў галаву, Лена ўсьміхалася сваёй незьнікальнай усьмешкай. А Рамук глядзіць на яе і дэкламуе, пераймаючы яе стыль:
-- "Імкнуся ў марах я да Радзімы."

А Лена падхоплівае:
-- "Душа сумуе па ёй адзінай". І гэта праўда, Ромчык, што душа сумуе па ёй адзінай?
-- Праўда. Сьвятая праўда, вечная праўда!
-- Ой, няўжо вечная, Ромчык? Нічога ж вечнага не бывае.
-- Не бывае, дык будзе.
--Ох, як добра, што будзе. А то гэтыя мужчыны бываюць "такія ашуканцы"**.
-- Але мы з такімі ня знаемся (хоць Дзікенса я таксама люблю). О! Ціха! Чуеш?
-- Што "чуеш"?
-- Іскра лётае.
-- Ах, што вы кажаце?
-- Ціха, ня рушся! Во, села.
-- Ой, і дзе ж гэта яна села?
-- Ціха-ціха, каб не ўцякла.

Рамук нахіляецца і асьцярожна цалуе Лену ў вусны.
-- А во яна дзе! Спаймалі!

Лена зачырванелася, а потым сьмяецца і пляскае Рамука па руцэ, хаваючы хваляваньне.
-- Ты такі жартаўнік, Ромчык.
-- Я вельмі сур'ёзны жартаўнік.
-- Праўда?
-- Узаемна.
-- І душа сумуе?
-- Па ёй адзінай.

Падышлі да машыны. Лёля ціхенька сьпіць. Рамук вельмі асьцярожна адчыняе дзьверы і ўпускае Лену. Ён завёў матор і выехаў на асфальт. У гэты час Лёля прачынаецца:

---------------------------------
* Гэта вядомы пароль паўстанцаў Кастуся Каліноўскага. *(Аўт.)*
** Намёк на гумарыстычную фразу з рамана Ч. Дзікенса *(Аўт.)*

-- Ох, добра сьпіцца, бо добра едзем. Ужо Менск?
-- Не, яшчэ палова дарогі, -- кажа Рамук.

Праехалі з паўгадзіны і тут Лёля шэпча да Лены:
-- Табе не здаецца, што нешта матор чмыхае?
-- Не, не здаецца. А што?
-- Такое ўражаньне, быццам іскра зьнікае.
-- Ох! – вохнула Лена. – Як ты магла! Ты хітрая ліса! Ты ўвогуле! Ты нядобрая! А яшчэ сястра.
-- Я, між іншым, вельмі добрая сястра. А ты, мая любая сястрыца, яшчэ лепшая. Ты ж ведаеш, што я цябе люблю, і хочаш на мяне злавацца.

Толькі пад раніцу Рамук даехаў да Воршы. Паспаў адну гадзіну – і ў кантору. Зазьвінеў тэлефон. У слухаўцы голас Рубайлы:
-- Памятаеш, гаварылі пра Лапця, пра ягоную кар’еру? Словам, рыхтуйся. Усё, як казалі. – Больш Рубайла гаварыць ня стаў.

* * *

Маленькі авальны вестыбюль узьдзейнічаў магічна. Па баках стаялі велізарныя белыя статуі Апалона і яшчэ нейкага голага элінскага бажка з жанападобным тварам. На верх у глыбіню вяла шырокая клясычная лесьвіца зь белай балюстрадай, якая разгаліноўвалася налева і направа на другім паверсе, дзе насупраць стаяла ўжо Венэра Мілоская з абламанымі рукамі, а побач на сьцяне падвешаны чырвоны вогнетушыльнік. Пахла мастацтвам. Бегалі экзальтаваныя дзяўчаткі з акцёрскага факультэта, голасна перамаўляючыся на паказ і быццам бы не зьвяртаючы на тое, што навокал, аніякай увагі. Стаялі купкамі прымодненыя хлышчыкі ў вузкіх портачках і востраносых туфліках на павышаным абцасе. Гэта ўсё будучыя акцёры, якія цяпер уяўлялі сябе людзьмі “не ад сьвету гэтага” і ня мелі ніякай веды, што чакае іх потым у тэатральным гецэ чужога тэатра, дзе яны потым амаль усе і знойдуцца.

Салідна, моўчкі ўверх-уніз праходзілі студэнты-мастакі з падрамнікамі ці з мальбэртамі. Іх пазнаць можна было адразу па натуральных паводзінах, маўклівасьці і бародах. Часта можна было бачыць, як яны нясьпешна размаўляюць з пэдагогам-мастаком, бы з родным бацькам, а ён вядомы, “заслужаны” і “народны”. Там не было ніякага чванства. Мэтр прыходзіў у студыю, даваў заданьні, рабіў пастаноўку натуры і ішоў сабе куды-небудзь. А студэнты пісалі. Як правіла, моўчкі, каб не перашкаджаць адзін аднаму. Студэнты-мастакі былі вольнымі людзьмі. “Акцёрышкі” і “рэжысёрышкі” ў гэтым ім ціха зайздросьцілі. Але кожны любіў свой занятак.

Увогуле, у часы “хрушчоўскай адлігі” канца 50-х – пачатку 60-х Беларускі Дзяржаўны Тэатральна-Мастацкі інстытут быў прыстанішчам вольнадумства і свабоды. У ацэнках студэнтаў дамінавалі творчыя, профільныя дысцыпліны, а ўсялякія “палітэканоміі”, “ізмы” і гісторыі “ізмаў” ня мелі ніякай пашаны, значэньня і вагі. Нават выкладчыкаў гэтых прадметаў студэнты толкам ня ведалі і на лекцыі не хадзілі. А экзамены стараліся сьпіхнуць любым спосабам, абы як, абы пазбавіцца і адразу забыцца, каб заняцца творчым навучаньнем. І вось Антось трапіў у гэты кляштар мастацтва, вытрымаўшы экзамены, конкурс і значны адбор. Ён прыехаў з Гародні, дзе пасьля мастацкага вучылішча працаваў мастаком-афарміцелем. Праца нібы і вольная, у параўнаньні з іншымі занятками насельніцтва, але – калі густа, калі пуста, і афармляць часта прыходзіцца розную савецкую прапаганду. Родам ён быў таксама з-пад Гародні, з тых мясьцін, дзе нарадзілася і пахавана

Алаіза Пашкевіч. Радзіма бацькоў і самы бацькі былі, фактычна, побач, і гэта падтрымлівала яго дух, а часам і дачаснае цела.

Антось захапляўся жывапісам. Ён хацеў атрымаць школу мастацтва, каб лёгка і добра выказваць у палатне тое, што накапілася ў сэрцы. Вырашыў вучыцца. І вось ён, Антось Бальцэвіч, студэнт гэтага сталічнага храму мастацтва.

З тузіны шчасьліўцаў, што трапілі на жывапіснае аддзяленьне, бальшыні ўжо было каля трыццаці – людзі з жыцьцёвым вопытам.

Ужо ў першыя дні знаёмства палова адгукнулася да Антося па-беларуску. На зімовыя канікулы актыўны Антось дамогся грошай (адусюль патроху, нават ад ЦК камсамола) на паездку групы студэнтаў у Ленінград. Там сакурсьнікі пахадзілі з Антосем па музэях, архівах, паглядзелі на творы беларускага мастацтва і культуры, нарабаваныя ў Беларусі, паслухалі пра ўсё гэта інфармацыю дасьведчанага Антося і вярнуліся поўныя ўражаньняў.

Наступнай паездкай (ужо за свой кошт) была Вільня. Антось павадзіў студэнтаў па беларускіх мясьцінах, усё паказаў і расказаў, што ведаў.

-- Хлопцы, дык чаму нас вучылі ў школе і вучылішчы, што мы нічога ня ведаем свайго? Ёлкі-палкі! – залемантаваў Віталь Барэйка, нэрвовы, але ўдумлівы і сур'ёзны малец зь Віцебшчыны. – Ёлкі-палкі. Мы ж нічога ня ведалі!

-- Ох, Антоша, вы так нам усё расказалі! – усклікнула Ася Дарагакупецкая, трэцьцякурсьніца, дзяўчына з цёмна-блакітнымі вачыма і такім авальным абліччам надзвычайнага хараства, на якім, здавалася, адбілася сама нявіннасьць і непасрэднасьць натуры. Яна была ўся такая дасканалая і акуратная з сваёй зграбнай фігуркай, дзе ўсё было дасканала дапасавана, так, што здавалася, вось пастаў яе ў вітрыну і толькі любуйся. Дык Антось і любаваўся. І Асі тое так падабалася.

Калі вярталіся ў Менск цягніком, то ўсю кароткую дарогу размаўлялі пра Вільню, пра беларускае мастацтва, гісторыю і дзяліліся ўражаньнямі. Антось кажа Віталю:

-- Ну, ты ж разумееш, чаму ня ведалі. Нам самым трэба даведвацца. Гэтыя ж ня скажуць, -- Антось паказаў пальцам у гару, -- яны самы ня ведаюць. Ды й ненавісна ім нашае ўсё. Вясной можам паезьдзіць па вёсках, паглядзім, як людзі жывуць. Не пашкадуеце.

Антось меў захапленьне – народная вышыўка і ткацтва. Ён сабраў шмат аўтэнтычных ручнікоў, посьцілак і нават жаночых строяў.

-- Толькі няма каму апранаць, -- усьміхаецца Антось, гледзячы на Асю.

-- Ой, а я з прыемнасьцю апрану, -- усклікае Ася сваім тонкім субтэльным галаском.

-- А ў мяне сваё ёсьць, -- устаўляе Людвіся Брылеўская, -- сама вышыла і пашыла.

-- Ну, дык апраніся калі на сьвята.

-- Ох, калі тое сьвята будзе! На вясельле шыла, а замуж не бяруць, -- рагоча Людка.

-- Мы ўсе цябе возьмем замуж, толькі апрані, -- сьмяюцца хлопцы.

Людвіся Брылеўская надзвычай здольная мастачка (недзе з-пад Ліды) і найлепшы сябра. Яна адна дзяўчына на курсе і выдатна ўпісалася ў мужчынскі калектыў, дзякуючы сваёй весялосьці, шчырасьці, сяброўскасьці і адсутнасьці, як яна сама называла, “бабскіх комплексаў”, гэта значыць “завіхрэньняў” у пачуцьцях і галаве. Яна была простай, шчырай і таварыскай з усімі. Калі трэба дапамагчы, падтрымаць на экзамене, “шпору” перадаць, папярэдзіць, падказаць – Людка першая і адказная. Яна першая даведвалася, што дзе робіцца і чаго трэба спадзявацца.

Што датычыць Асі, то яе заўважыў і запрасіў у кампанію Антось. Яна дасканала, бездакорна і прыгожа гаварыла па-беларуску. З усімі і паўсюдна.

Зрусіфікаваныя анальфабэты часта імкнуліся падладжвацца пад мову прыгажуні і пачыналі нешта “размавлять”. Але Асю гэта не ўражвала. Ася паходзіла з сям’і кампазытараў і музыкантаў, была адзінай дачкой у бацькоў, упэўнена арыентавалася ў музыцы, літаратуры і мастацтве і валодала (як і бальшыня мастачак-жанчын) тонкім адчуваньнем колеру. Яе жывапісныя і акварэльныя букеты-нацюрморты – гэта нешта незвычайнае.

Ася паўсюдна была неяк больш заўважнай у паасобку, чым у кампаніі. Аднакурсьнікі называлі яе “блукаючы форвард”. Апраналася яна прыгожа, заўсёды з прычоскай, але ўсё выглядала неяк вельмі “акуратненька”. Да яе боязна было дакрануцца, каб не парушыць крохкага парадку.

Ася была добра выхавана, але гэта не перашкаджала ўсім заўважаць яе закаханасьць сваёй асобай. Яна любіла сябе дасканала.

Бацькі назвалі яе “Ассаліна” і гэтак запісалі ў мэтрыцы. Дома і ў школе яе клікалі проста “Ася”. Сама ж Ася зь нейкай пары, калі зь кім трэба было знаёміцца, падавала простым прыгожым жэстам сваю мяккую маленькую ручку і вымаўляла: “Асоль”.

Асоль, дык Асоль. Ніхто на гэта не зьвяртаў увагі. Праўда, калі які хлышч быў начытаны, то звычайна, усьміхаючыся да прыгажуні, казаў якую-небудзь пошласьць, якая здавалася яму вяршыняй эрудыраванай галантнасьці, кшталту: “О, вы Асоль! Как приятно вас увидеть в этом сером мире. А я капитан Грэй. Наконец то мы встретились”.*

-- Вы капітан Грэй? Тады вяртайцеся на карабель і замяніце такелаж, -- раздавала парады Ася-Асоль. – Павінны быць пунцовыя ветразі. І не кажыце пра гэта налева й направа. Акрамя таго капітан Грэй гаварыў па-беларуску. Пра тое ведаў Аляксандар Грын-Грынеўскі, які таксама быў беларусам. А вы якім жаргонам прамаўляеце, сэр? Вы японец? Турак? Ці можа грэк? А-а, разумею, вы з Пухавіч. Пардон, мсье, вам трэба доўга плаваць. – І Ася-Асоль, напоўненая годнасьцю, так спакойна сабе ішла (не ішла, а аддалялася) куды-небудзь. Прытым гэта не была гульня. Ася проста ўваходзіла ў сваю ролю.

Хлышч быў агаломшаны, вядома, не пакручастым зьместам Асінай тырады, але тым, што гэтая прыгажуня так недаступна, з вышыні прамовіла па-беларуску (в то время, как уже все в мире говорят по-русски**). “Напэўна, яна з мастацкай беларускай эліты”, -- прыходзіла яму ў галаву выратавальная думка. – “Тогда понятно.”***

Не закахацца ў такую Асю-Асоль часам было проста немагчыма. У яе паў-інстытута закахалася. Але мінаў час, і нешта ўсё зьмянялася. Закаханцы хадзілі задуменныя, круцячы галовамі, няўцямна перажываючы сваё каханьне, пакуль яно нейкім цудоўным чынам ні прамінала само сабой.

Ася-Асоль хадзіла такая ўся далікатная, вытанчаная, з прыцягальнай усьмешкай на вуснах і прыгожым аблічам. Ёй было хораша быць сабой, любавацца і глядзець на сябе ў гэтым захопленым яе асобай сьвеце. Жыцьцё ёй здавалася шчасьцем. І ўсе людзі, якія захапляліся ёй, былі такія мілыя, такія харошыя.

Ну вось, Антоша! Ах, які мілы малады мужчына! Вось гэта сапраўдны капітан Грэй, воля і розум, і слоў на вецер не кідае. Ах, якім поглядам ён глядзеў на яе! Які ў яго моцны, прыгожы і нізкі голас! Рыцар без папроку, які здольны яе кахаць.

------------------------------

* “О-о! Вы Асоль! Як прыемна вас убачыць у гэтым шэрым сьвеце. А я капітан Грэй. Нарэшце, мы спаткаліся.” *(Рус.)*

** ... (у той час, калі ўжо ўсе на сьвеце гавораць па-руску) *(рус.)*

*** “Тады зразумела.” *(Рус.)*

Словам, Антось, які зь дзеўкамі не навічок, уліп. Асоль так яго зачаравала, што неяк па-іншаму павярнулася рэчаіснасьць. Як быццам ня так ужо і дрэнна тое, што дрэнна. Як быццам ужо і цярпець можна.

* * *

На вёску зьезьдзілі ў пачатку траўня. Антось дамовіўся ў Мастацкім Фондзе Саюзу мастакоў, і на паездку на адзін дзень яму выдзелілі мікрааўтобус пры ўмове, калі пагодзіцца кіроўца на звышнармаваную працу. Кіроўца пагадзіўся за дадатковую аплату, і група зьезьдзіла ажно ў Тонеж на Палесьсі, спыняючыся па дарозе ў іншых вёсках.

Антось ужо раней шмат дзе быў. У вясковым асяроддзі ён плаваў, як рыба ў вадзе, выдатна ведаючы людзей і аб чым зь імі можна гаварыць. Словам, і песьняў наслухаліся, і вышыванак наглядзеліся, нарабілі замалёвак, наздымалі фатаграфіяў. А ў канцы ніхто ж, вядома, адтуль іх проста так не выпусьціў. Усіх за стол – і гарэлку на стол. Нават Асоль, паддаўшыся ўгаворам і запэўніваньням “пра вадзічку”, з кілішка самагоначкі прыгубіла.

Назад ехалі і сьпявалі народныя песьні. І тут усім фору далі Антось і Людвіся.

-- Ах, які дуэт, які дуэт! – пляскала ў ладкі Ася-Асоль. – Адкуль вы столькі песень ведаеце?

-- Ад прыроды, галубачка, -- сьмяецца Людвіся.

* * *

У восень на новы набор набралі шмат таленавітай моладзі. Першакурсьнікі тут жа заўважылі Антося Бальцэвіча, які расказваў ім аб парадках у інстытуце, чаго можна тут спадзявацца і чаму навучыцца. Амаль усе яны выявілі жаданьне пазнаваць творчасьць на ніве роднай культуры. Сярод іх апынуўся такі Андрэй Дуброва (як кажуць, з такім прозьвішчам толькі ў знакамітасьці). Андрэй паступіў на графіку і паказаў, што задаткі для знакамітасьці ён мае, засталося толькі навучыцца. Але тут пачаўся небясьпечны, на думку Антося, паварот. Дуброву цягнула ў палітыку. Конча трэба было перакуліць камунізм. І адразу, не марудзячы. Антосю, як старэйшаму, было зразумела, што могуць хлопца без пары зьнішчыць. Усяму час. Ня трэба сьпяшацца. Якая там палітыка, калі ты яшчэ на нагах не стаіш! Хто ты? Студэнт у СССР. Чалавек без юрыдычнага статуса, без правоў. Вытураць з воўчым білетам і канец твайму таленту. “Студэнт у СССР ня мае правоў. Талент трэба берагчы, -- даводзіў Антось маладзёнам. – Трэба заняць месца ў сацыяльным грамадзтве, а не ў багеме, і запіваць сваю дурасьць віном. Трэба набыць вагу, каб з табой лічыліся.” Ну, але дзе ж там. Некаторым хочацца адразу перакуліць сьвет у сваёй шклянцы вады. “Але ж трэба змагацца!” – пярэчылі Антосю нэафіты. Нарэшце прыйшлі да лапідарнай формулы, як у анекдоце пра лысых: “Змагацца трэба, але з розумам”. На гэтым і пагадзіліся.

Неўзабаве ў інстытуце зьявіліся ўлёткі з крытыкай Хрушчова і русіфікацыі. У гэты час Антось з мастакамі і студэнтамі-акторамі рыхтавалі вечарыну беларускай паэзіі, на якую меркавалі запрасіць знакамітых беларускіх паэтаў.

Усё йшло добра. Вечарына адбылася пры перапоўненай залі. Але ўсіх зьдзівіла, што яшчэ за паўгадзіны да пачатку залю раптам запоўнілі дзясяткі мужчын прыблізна аднаго ўзросту, у межах 35-50 гадоў, у шэрых касьцюмах і зь нейкімі сабачымі позіркамі, якімі яны шнырылі па прысутных.

Больш беларускіх вечарын рабіць не дазволілі. У гэты ж час зьмянілі рэктара інстытута і на дошцы аб’яў зьявіўся вялікі друкаваны тэкст пра мову, які

заканчваўся словамі: “Шануйце ж мову нашу беларускую, каб ня ўмёрлі”. Подпіс пад тэкстам – “Мацей Бурачок”.

Праз нейкі час тэкст ляжаў на стале ў новага рэктара, які “возмутился”.* У гэты ж дзень быў скліканы сход рэктарату. Абмяркоўвалі выхаваўчую працу сярод студэнтаў і тэкст пра мову. Ніхто ня ведаў, хто такі Мацей Бурачок.** Выказалі меркаваньне, што гэта псэўданім.

-- Кто бы ни был, товарищи, -- сказаў рэктар, -- это негодяй похуже Солженицына.***

Вырашылі перадаць тэкст у КГБ для азнаямленьня і рассьледваньня.

У гэтым жа месяцы быў “умацаваны” кадравы склад выкладчыкаў “марксісцкіх дысцыплін”. Зьявіліся такія цемрашалы і прыдуркі, што нават гумарыстам стала не да сьмеху.

Антосю паставілі двойку па “навуковым камунізме” (от проста так, са столі, узялі ды і паставілі). Пайшлі “накаты” на іншых студэнтаў зь яго групы. Стала цяжка вучыцца. Зацікаўленасьць беларушчынай, гісторыяй і мастацтвам зрабілася, фактычна, нелегальнай справай.

Антось і яго сябра Хведар Мялешка тут дамовіліся ў адным домакіраўніцтве, што будуць ім бясплатна пісаць лёзунгі і плякаты на ўсе сьвяты і нясьвяты, але каб яны ім далі вольную плошчу ў арэнду пад мастацкую майстэрню. Шмат хто з маладых мастакоў так і выкручваўся.

Манэўр удаўся, і неўзабаве хлопцам выдзелілі на птушыных правах нейкі вялікі захламлены тэхнічны паддашак без падлогі, з вузкімі, як амбразуры, вокнамі (прытым у цэнтры горада). Уся група наводзіла “марафет”, чысьціла, бяліла, фарбавала, стукала, клала падлогу з кавалкаў ДСП і лінолiуму, і неўзабаве памяшканьне каля 50 *кв. м.* было прыведзена ў належны “багемны” выгляд, нават сьцены расьпісалі краявідамі і панарамамі даўніх гарадоў.

Гэта была ціхая, незаўважная, але магутная перамога. Можна было зьбірацца не ў інстытуце, гаварыць аб усім і рабіць што хочаш. Бальцэвіч зь Мялешкам выглядалі героямі.

* * *

Антось працягваў трымцець у “магнітным полі” Асоль, але дачыненьні ніяк не складваліся. Думкі ў яго ад пачатку былі сур’ёзныя. І калі б усё пайшло добра, то ён, відаць, узяў бы яе за жонку і без ваганьняў. Пра будучыню, праўда, ён яшчэ надта ня думаў. Такой прыгажуні ён яшчэ і ў жыцьці ня бачыў і не ўяўляў нават. Прытым нармальная беларуска, не саветызаваная, разумная, з інтэлігентным выхаваньнем. Антось сам па сабе чалавек з местачковай сельскай сям’і, быў крыху праставаты для вытанчанай Асоль. Але ён гэтага, відаць, не разумеў (не задумваўся), тым больш, што Антось якраз валодаў тым дарам, які называецца прыроджаная інтэлігентнасьць, жыцьцёвыя прынцыпы меў сьведамыя і высокародныя, значэньне якіх добра ўсьведамляў і цаніў.

Калі ўладкавалі майстэрню, ён запрасіў Асоль паглядзець, што яны зрабілі і чаго дамагліся.

-- О-о-о, выдатна! – усклікнула Ася-Асоль, увайшоўшы ў майстэрню. – Тут можна і працаваць, і схавацца ад ідыётаў і ад інстытута. Віншую!

------------------------------

* абурыўся *(рус.)*

* Мацей Бурачок – шырока вядомы псэўданім класіка беларускай літаратуры Францішка Багушэвіча. *(Аўт.)*

** -- Хто б гэта ня быў, таварышы, гэта нягоднік, горшы за Салжаніцына. (рус.)

-- Адзінае, ад каго я не хацеў бы схавацца, гэта ад найпрыгажэйшай дзяўчыны на сьвеце на імя Асоль.
-- О-о, калі можна, не хавайся. Ты такі мілы, Антось. Ты так прыгожа гаворыш. Мне так прыемна цябе слухаць.
-- Бо гэта ад сэрца. Ты ж бачыш, я чалавек адкрыты.
-- Ты цудоўны, Антоша.

Гэтае “Антоша”, праўда, было для Антося, як цьвіком па шкле, але дзеля яе ўсё гатоў быў цярпець.
-- А ты заўважыла, што за паўтары гады нашых дзіўных адносінаў мы першы раз разам адзін на адзін?
-- Што значыць “дзіўных адносін”? Табе нешта ў ва мне не падабаецца?
-- Дзіўных, значыць дзівосных. Ну, і яшчэ дзіўных, бо мы ўвесь час неяк далёка адзін ад аднаго стаім.
-- Ну чаму ж далёка? Вось я стаю блізка побач з табой. Мы нават зусім блізка стаім.
-- Ася паглядзела Антосю ў вочы, нібы ў люстэрка і чароўна ўсьміхнулася. – Ты мне такі блізкі, Антоша, як быццам мы нешта адно.

Антось сігнал зразумеў, імгненна па-свойску згроб Асю-Асоль у свае мядзьвежыя абдымкі, як чуе раптам такі крыху мэталёвы голас:
-- Э! Э! Э! Э! Ты што? Ты што? Супакой свае нэрвачкі.

Ася-Асоль уперлася рукамі ў грудзі Антосю і адхіснулася ад яго, каб ня мог дастаць яе губамі.
-- Ну, што ты замёр?! Пускай мяне! Пускай, чуеш!

Зьбянтэжаны ад нечаканасьці такога павароту, Антось трымаў за плечы Асю-Асоль і адчуваў амаль фізічна, што трымае ня тое што халодную дошку, але мармуровую магільную пліту. Ні малейшага ўздрыгненьня ні ў голасе, ні ў целе, ні найменшай падатлівасьці.
-- Ну, што ты?! – ізноў падала голас Ася-Асоль, адштурхнула Антося і вызвалілася ад яго рук.
-- Ох! – усклікнула Ася, пачакаўшы. – Вось і вер пасьля гэтага мужчынам. Ты мяне не паважаеш, Антоша.
-- Паважаю, -- механічна вымавіў Антось.
-- Не. Раз ты хацеў мяне пацалаваць, значыць не паважаеш.

Агаломшаны Антось, слухаючы яе глупствы, адказваў як у аўтарэжыме:
-- Я зачараваны тваім хараством. І тады цалуюцца.
-- Ах, што я чую, ты зачараваны? Гэта праўда?
-- Праўда.
-- Ты на мяне не крыўдуй, Антоша. Я часам бываю капрызнай. Але ж ты інтэлігентны чалавек і павінен разумець, што прыгожыя жанчыны бываюць капрызныя. Гэта іх нават упрыгожвае, і шмат каму тое падабаецца. Ну, прызнайся, што так?
-- Што так?
-- Што ў прыгожай жанчыны павінна быць ўсё прыгожа.
-- Ага.
-- Ой, Антошка, ты пакрыўдзіўся? Ну і дарма. Пазнаць душу жанчыны – гэта мастацтва. І некаторыя нават плацілі за гэта жыцьцём. Але гэта ў літаратуры. Я думаю, што ты мой мілы і адданы друг. Праўда? Мы з табой дзівосныя сябры на гэтым сьвеце.

Антось слухаў Асю-Асоль, пазіраючы на яе з-пад ілба.
-- Ну ўсьміхніся, што ты такі незгаворлівы? Ведаеш, як у песьні пяецца:

Улыбнися, Маша,

Ласково взгляни,
Жизнь чудесна наша
Солнечныя дни.*

Антось прысеў на край тапчана і глядзіць.
-- Ну скажы што-небудзь, Антоша! Я табе больш не падабаюся, а? Так? Я ўжо не падабаюся?
-- Падабаешся, -- выціснуў з сябе Антось.
-- А за што я табе падабаюся? А? Ну за што?
-- За ўсё.
-- За ўсё? А я ж такая бываю непрыгожая.
-- Такога не бывае.
-- Чаго не бывае?
-- Што ты непрыгожая. Ты вельмі прыгожая ўвесь час.
Ася-Асоль засьмяялася шчасьлівым сьмехам.
-- Ну, ты скажаш. Твае словы ды Богу ў вушы. Слухай, Антось. Ты наракаеш, што мы рэдка бачымся. Ты ж ні разу ў мяне ня быў у гасьцях. Ведаеш што? Я запрашаю цябе ў госьці ў нядзелю ў тры гадзіны дня. Мне шмат што ёсьць табе паказаць і яшчэ больш – расказаць. Ну, згода?
-- Згода, -- кажа павесялелы Антось, усё менш разумеючы, што адбываецца.

* * *

Назаўтра падвечар у майстэрню прыбег Андрэй Дуброва крыху ўстрывожаны і ўзбуджаны.
-- Антось, дрэнныя справы ва ўнівэрсітэце.
-- Што за справы?
-- Ты ведаеш Барэйшу, Шулькевіча, Сяргейчыка, Карповіча?
-- Барэйшу крыху ведаю. А што?
-- Схапілі ўсіх. Сем чалавек. Гэбэ схапіў. Яны зьбіралі подпісы сярод студэнтаў, каб у Беларускім унівэрсітэце выкладалі па-беларуску.
-- Ну, і сабралі подпісы?
-- Схапілі на трэці дзень.
-- Значыць, выганяць з універа за што-небудзь. А калі сфармулююць як “антысавецкую прапаганду”, то пасадзяць.
-- Нашыя хлопцы кантактавалі зь імі. Мы таксама ў нас рыхтаваліся зьбіраць.
-- За мову?
-- За мову.
-- Слабавата, -- кажа Антось, -- Трэба было адразу сабраць подпісы за адмену савецкай улады і падаць у ЦК КПСС. От тады б усё і перамянілася.
-- Як гэта? – пытае ўсур'ёз зьдзіўлены Дуброва.
-- Гаварыце па-беларуску – і подпісы не спатрэбяцца. І сядзець ня будзеце.
-- Дык гэта ж усё ўзаемазьвязана, -- пачаў пярэчыць Дуброва.
-- Тады пацалуйце акупантам у задніцу, -- пачаў губляць цярпеньне Антось.

Недзе праз тыдзень пра падзеі у БДУ загудзеў увесь Менск (ну, паў-Менска, то пэўна). Праз два месяцы стала вядома, што ўсе вучацца, як і раней, а Барэйшу выключылі і ўзбудзілі справу за “буржуазны нацыянальзм”.

----------------------------------
* Усьміхніся, Маша, Ласкава зірні, Зорка сьвеціць наша, Сонечныя дні. (*рус.)*

-- Ну, як бы пранесла, -- кажа Антосю Дуброва, -- толькі Барэйшу прасуюць, бо ён завадатар.
-- Бо ён, Андрэйка, не згадзіўся стукаць у КГБ, астатнія згадзіліся і ўсё падпісалі.
-- Адкуль ты ведаеш, што гэта так?
-- А мне і ведаць ня трэба, -- суха адказвае Антось, -- вылічваецца па табліцы Мендзелеева.
-- Ну і што цяпер?
-- Нічога. Магло быць 7:0. А так 6:1. Прадулі не на суха. І тое мяса.
-- Шкода хлопцаў.
-- Ага, шкода. Кастусь Каліноўскі павешаў бы.
-- Усяроўна шкода. Шкода, што зламаліся.

* * *

Яшчэ перад гэтымі падзеямі ў нядзелю Антось папрасаваў кашулю, падабраў гальштук, убраўся, нават зірнуў на сябе ў люстэрка і пайшоў у госьці да Асоль. Яна жыла ў раёне плошчы Свабоды (раней Высокі Рынак, потым Саборная плошча, потым пляц Волі, затым Гітлерпляц і цяпер плошча Свабоды) у прыгожым доме, прыпісаным да вуліцы Леніна. Бацькоў дома не было. Відаць Асоль так разьлічыла. Гэта ізноў падбадзёрыла Антося.

Асоль завяла яго ў прасторны пакой, усе сьцены якога былі завешаныя і заклееныя фатаграфіямі Асі-Асоль у розных позах, маштабах, ракурсах і паваротах. Яе фотапартрэты таксама стаялі на кніжных паліцах, на падваконьніку, на тэлевізары, на журнальным століку, віселі над канапай, над вялікім насьценным гадзіньнікам з боем і прыбамбасамі. У куце стаяў туалетны мармуровы столік з партатыўным настольным трэльяжам, увесь застаўлены флаконамі з духамі, лакамі, ценямі, памадай, крэмамі, пэнзлікамі, пудрай і т. п.

Парадку асаблівага не было. На плечыках крэсла ляжаў квяцісты шляфрок, побач валяліся какетлівыя “пазалочаныя” з блёсткамі туфлікі. На сьценах яшчэ віселі два выдатныя кветкавыя акварэльныя нацюрморты, напісаныя Асоль. А яшчэ тут стаяла старое аўстрыйскае з арэхавага дрэва і з кручанымі кандэлябрамі па баках піяніна, на якім Ася-Асоль нешта зьбіралася Антосю сыграць.

У пакоі ціха грала музыка з магнітафона Gintaras (апошні найноўшы цуд тэхнікі), які ляжаў ля тэлевізара на спэцыяльнай тумбе-падстаўцы. Гучэў слабы жаночы галасок, які выконваў нейкую арыю пад акампанемэнт фартэп’яна.
-- Табе падабаецца Грыг? – спытала Асоль.

І тут Антось зразумеў, што гэта песьня Сольвейг, а слабы галасок, які яе выконвае, гэта Ася-Асоль музыкуе на фартэп’яна пад запіс на магнітафон, які цяпер вось акурат і гучыць.

Гэтая “Сольвейг” у выкананьні і запісе Асі-Асоль уразіла Антося больш, чым сьцены, завешаныя яе фатаграфіямі. А тут яшчэ і Асоль кажа:
-- Ведаеш, вельмі люблю фатаграфіі. Калі гляджу на фота, неяк узвышаецца і харашэе душа.
-- Ну, так. Прыемна паглядзець на прыўкрасную жанчыну, -- уставіў Антось, які раптам усё зразумеў сваім зачараваным розумам. І гэта было яму, як кувалдай па ілбе. “Эх жа, баран я баран, і прастафіля”, -- здаецца, абураўся яго ўнутраны голас.
-- Ах, не такая ўжо і прыўкрасная, -- адказвае Асоль, -- але жанчына мусіць сябе любіць, інакш яна перастае быць жанчынай. Ня ведаю, хто гэта напісаў, мне здаецца, што гэта я сказала. Ах, Антоша, як я рада цябе бачыць. Мне заўсёды хочацца дарыць табе прыемнасьць і радасьць. Ты такі ўважлівы і мілы.

На гэтым месцы Антось упершыню адчуў жаданьне, каб ніколі гэтага больш ня чуць і драпаць адсюль без агляд кі. Усё перавярнулася адразу і кардынальна. Ён

сеў на канапу, тупа гледзячы перад сабой. Асоль паказала яму сямейныя альбомы, якія на 90 адсоткаў складаліся зь яе фатаграффіяў. Яны сядзелі побач. Асоль паказвала альбомы, весела камэнтуючы кожны здымак. Антось глядзеў, сьцяўшы зубы і касавурыўся на Асоль. “Узяць яе за цыцку, ці што?”, -- мільганула ў яго галаве думка шалёнага мача. Але дзіўная рэч, не было ўжо ніякага ні жаданьня, ні прыцягненьня, акрамя імкненьня ўцякаць, рваць адсюль і назаўсёды, і найхутчэй.

Прыйшоўшы ў майстэрню, Антось дастаў з паліцы папулярную энцыклапэдыю і пачытаў артыкул “нарцысізм”, але не дастаў адтуль ніякага тлумачэньня.

Так скончылася гарачае і таемнае каханьне Антося Бальцэвіча да выдатнай мастачкі Асі-Асоль-Асаліны Дарагакупецкай, праз якое прайшлі дзясяткі паклоньнікаў яе хараства, уздыхальнікаў, рамантыкаў і проста балваноў, якім гармоны паблыталі мазгі.

* * *

Асоль прыходзіла да сяброў на другі курс, як ні ў чым ні бывала, жартавала з Антосем, слухала камплімэнты. Толькі Антося, як зварылі. Ён зацята маўчаў, лыпаў вачыма, мычэў, замест адказаў, і ўвогуле гаварыў неяк ня думаючы, амаль механічна.

Усім усё было зразумела. Ня першы раз такое бачылі з гэтай Асоль. Усе звычайна пасьмейваліся ў рукаво ды маўчалі. Толькі вясёлая Людвіся Брылеўская пускала бяскрыўдныя жарцікі, не стамляючыся.

-- А вось нейкі расеяц сказаў, што “красата спасёт мир”*, -- разважае нібы сама з сабой Людка, седзячы за планшэтам і даводзячы соусам малюнак. – Вы ня ведаеце, хлопцы, хто гэта сказаў?

Маўчаньне.

-- Трэба спытацца ў “Таварыства выратаваньня на водах”, -- заўважае нібы сур’ёзны Фэлікс Юргель.

-- Я думаю, што гэта сказаў Уладзімер Ільіч Ленін, слухаючы джаз “Апасіянату”, -- падказвае Віця Рашчынскі.

-- Ну, не, хлопцы, гэта ён сказаў, закахаўшыся ў “прыгажуню Крупскую”, -- удакладняе Мялешка.

Успамінаньне пра “прыгажуню Крупскую” хлопцаў крыху рассьмяшыла.

-- Ну, так, “хараство ўратуе” канешне сьвет, калі расстраляць усіх “нехарошых”, -- дадае Юргель.

Словам, працягвалася “трапатня” на зададзеную тэму. Антось маўчаў, як мур. Ён моцна перажываў за сваё дурное захапленьне, якое, як ён лічыў, прыніжала ягоную ўсё ж такі арганізуючую пазыцыю ў групе. Але паступова неяк усё выраўнялася і Асоль стала заходзіць рэдка. У яе знайшоўся чарговы паклоньнік з выкладчыцкага складу. Так яму і трэба.

* * *

У сакавіку (сярэдзіна семестра) мастакі-жывапісцы скааперваліся з графікамі ды прыкладнікамі і вырашылі арганізаваць у інстытуце выстаўу сваіх працаў, пасьвечаных сельскай Беларусі. Выстава павінна была так і называцца “Сельская Беларусь”. Твораў сабралася дастаткова: акварэлі, эцюды, замалёўкі адзеньня, арнаменты, накіды партрэтаў з натуры ў час паездак па ваколіцах Менска, замалёўкі вёсак, цэркваў і касьцёлаў, старых пабудоваў ды краявідаў.

--------------------------------

* “хараство ўратуе сьвет” *(рус.)*

Выставачнай залі не было, таму вырашылі разьвесіць усё ў файе і ў калідоры на другім паверсе. Паглядзеў рэктар (той самы, што лічыў Мацея Бурачка “пахужэ Салжэніцына”) і загадаў “всё-таки эци цэрквы и крэсты сняць”.* Прышлося выдаліць некалькі акварэляў.

На адкрыцьці іграла скрыпка і флейта (запрасілі студэнтаў з кансерваторыі). Коратка выступіў Антось Бальцэвіч і Людвіся Брылеўская, якая ўразіла ўсіх сваім выглядам. Людка прыйшла ў аўтэнтычным беларускім народным строі надзвычайнага хараства, уся ў пацерках і вышыванках.

-- О-о-о! – усклікнулі ўсе, калі яна зайшла ў майстэрню. – О-о-о! Людвіся выходзіць замуж, -- аб’явіў Мялешка.

-- І толькі па конкурсу і па дзесяцібальнай сістэме, -- сьмяецца Людвіся. Рыцар павінен валодаць мячом, шчытом і канём. Адгадайце, што гэта? Ну? Ну! Што гэта? – сьмяецца Людка. Хто прэтэндэнт на мужа – налятай! А-а-а! Тое ж і яно. Слабакі!

Антось быў уражаны, як наш народны строй выяўляе хараство жанчыны. Людвіся ў жыцьці – тыповая сельская беларуска, шляхетная і жыцьцярадасная: пухлы вясёлы тварык зь ямачкамі на шчочках, калі сьмяецца, пунцовыя губы, блакітныя вочы, сярэдні расточак у народных формах з усімі выпукласьцямі, тоўстыя лыткі не замінаюць грацыі і ўпісваюцца ў пластыку “сваёй дзеўкі”, зь якой весела і проста пра ўсё можна пагаварыць, пажартаваць, і нават ушчыкнуць, на што яна не пакрыўдзіцца, а тут жа знойдзе дзейны гумарыстычны жэст альбо слоўны адказ. І вось тут у гэтым строі, у доўгім андараку такое шляхетнае перамяненьне.

“І дзе былі мае вочы? – думае Антось, -- такая дзяўчына! А то – Асоль-шмасоль, рапэта ты рапэта, “Антоша” з-пад цёмнай гвязды!”

-- Я ведаю, Людвіся, -- кажа Антось.

-- О, ты ведаеш? Ну-ну. Паглядзім, на што рыцар здольны.

А н т о с ь:

“Толькі ў сэрцы трывожным пачую
За краіну любімую жах,
Успомню Вострую Браму сьвятую
І ваякаў на грозных канях.”

Вось гэта тое і ёсьць.

Л ю д в і с я:

-- О-о-о! Фантастычна! Адкуль ты ведаеш тое, што забаронена?

-- От жа ведаю. Шмат ведаю.

-- Ну, добра, адзін бал залічваем, засталося дзевяць, -- усклікае Брылеўская.

-- Слухайце, -- пытаецца Юргель, -- пра што вы тут гаворыце? Патлумачце, што забаронена?

А н т о с ь:

-- Забаронены верш Максіма Багдановіча, пачатак якога я прачытаў. Называецца “Пагоня”. Ну, адпаведна, той, хто валодае мячом, шчытом і канём. Я ў Вільні паказваў вам на Вострай Браме.

-- І што?

-- Што, што? Ці ты забыўся? Гэта наш гістарычны нацыянальны сымвал. Гэта як Крыж для хрысьціянаў.

-- Выдатны сымвал, -- дадае Мялешка.

-- Хлопцы, каб у сьценах інстытута з нашых вуснаў слова гэтага не было чуваць.

--------------------------------

* “усё ж такі гэтыя цэрквы і крыжы зьняць.” *(Ламаная рус.)*

Замкніце вусны. Выключаць усіх. Тут ня жарты, -- папярэджвае Антось. – Тут ёсьць сабакі, спэцыяльна нацяганыя на гэтае слова.

Антось толькі цяпер зразумеў і зафіксаваў яшчэ адну дэталь, што сёньня якраз 25 Сакавіка, і што менавіта Брылеўская (так сабе, між іншым) прапанавала гэтую дату для адкрыцьця выставы, а ён, Антось, так сабе, між іншым, думаючы, што гэта выпадковасьць, пагадзіўся.

Пра 25 Сакавіка ў БССР ужо ніхто ня ведаў і ня чуў, акрамя асобных людзей, якія трымалі рот пад замком. “Цікавая Людвісячка асоба. Вось жа і ў строі прышла”, -- думае Антось.

У дзень адчыненьня выставы падышла Асоль і кажа:

-- Ах, якое дзіва гэтае наша народнае мастацтва! Сама дасканаласьць. Нават непрыгожая жанчына, апрануўшы строй, выглядае, як прыгажуня. Пра гэта трэба пісаць. Гэта канон, шэдэўр эстэтыкі.

Ася ўсё казала правільна, але гэты яе рэпэртуар, павернуты на сябе, любімую, ужо сядзеў Антосю ў пячонках (асабліва пра быццам бы “непрыгожую” Людвісю). Ён нават ледзь стрымаўся, каб ні сказаць таго, чаго ня трэба, але мэханічна “адтарабаніў” патрэбнае:

-- А ўяўляеш, каб у гэты строй апрануць прыгожую Асоль. “Харaство ўратавала б сьвет.”

-- Ой, ня ведаю, ня ведаю, сьвет так расхістаўся (відаць Ася нядаўна схадзіла на “Гамлета”).

Вечарам усе сабраліся ў майстэрні пад дахам. Асю не запрашалі (не таму, што яна не свая, проста некаторых яна раздражняла). Гучна адкаркавалі шампанскае. На выставу Дуброва запрасіў Лявона Барэйшу. Хлопец прыйшоў, пазнаёміліся, і вось ён тут, разам з мастакамі. Гэта быў высокі малады мужчына гадоў 25-ці з грубымі рубанымі рысамі твару, вялікім носам і засяроджаным выразам у абліччы. Нечым ён нагадваў вобраз нямецкага філосафа Георга Вільгельма Фрыдрыха Гегеля з графічнай падабізны, зьмешчанай у энцыклапедыі. Гаварыў Барэйша мала. Узважваў кожнае слова. Карыстаўся слоўнымі сымваламі.

-- Як ты, Лявон, цяпер гэта ўсё ацэньваеш, тое, што вы зрабілі? – пытае Антось.

-- Варта было.

-- Чаму варта?

-- Кругі пайшлі ў балоце. Інакш ціха засмокча і канец.

-- Вялікая цана заплочана.

-- Інакш ужо не атрымаецца. Хіба што здарыцца цуд.

-- Але можна зрабіць ціха, бяз дэманстрацыі, захаваць людзей. Глядзіш – і сіла зьявіцца.

-- Гэта добрая справа, але ня ўсе да яе здатныя. Усяроўна знойдуцца нецярпліўцы, што зробяць па-свойму.

-- Мусіць быць праца накапленьня, -- кажа Мялешка. – Без апоры на базіс ніякі рух далёка ня пойдзе.

-- Я згодны, -- кажа Барэйша. – Уся бяда ў тым, што яны таксама тое разумеюць і будуць нішчыць усё, нават дыханьне. Для іх лепш, каб мы ня дыхалі.

-- Ну, тут хто каго, -- пярэчыць Антось. – Я лічу, хлопцы, што ў нас магчымасьці большыя, бо ёсьць вялікі патэнцыял. У іх увесь патэнцыял ужо рэалізаваны ва ўладзе. Ён выкарыстаны. Тут ня робіцца нічога новага. А нам галоўнае разумна арганізаваць працу і абарону.

-- Суд спынілі, але на працу нельга нідзе ўладкавацца, -- кажа Барэйша. – Дадзены загад: ня браць на працу.

-- І што гэта значыць? Чалавек мусіць памерці, ці што? – пытае Юргель.

-- Я падазраю, што яны мне пакінулі дзьве дарожкі: альбо рабочым на завод, альбо калгасьнікам у калгас. Пайду ў калгас.
-- У калгас без сям'і, бяз хаты і бяз сотак – галодная сьмерць.
-- Магу вадзіць машыну і танк. Нешта даручаць.
-- Наконт танка – гэта тое, што трэба, -- жартуе Мялешка, -- толькі дзе дастаць.
-- Пад Баранавічамі працуе бацькаў знаёмец старшынём калгаса. Туды і паеду.
-- А ведаеце, сябры, -- адазваўся Андрэй Дуброва, -- самая вялікая наша перавага, што ўсё жыцьцё наперадзе. Толькі, як кажуць, дай Божа. Прапаную падняць кілішкі за сьветлую будучыню Беларусі.

У інтэрнат вярталіся ўсёй кампаніяй. Антось праводзіў Людвісю да самых дзьвярэй у яе пакой і кажа:
-- Людвіся, маю просьбу. Забудзь пра Асоль.
-- Ох, "забудзь"! А я пры чым?
-- Пры тым, -- кажа Антось, -- што "Мне доўгае растаньне з вамі Чарней ад вашых чорных кос"*.
-- А-а-а, вось яно што-о-о. Кожны дзень бачымся.
-- Дык хацелася б ня так.
-- А як?
-- Ты ды я, ды мы з табой.
-- Ды як рыбка з вадой, -- сьмяецца Людвіся. – За вершык класіка залічваю яшчэ адзін бал. Засталося восем. Сьцяг у рукі, Антоні. Ну трэба ж за дзеўку пазмагацца, праўда? А то Асоль-фасоль, до-рэ-мі-фа, сама ў рукі плыве. Такія толькі хлопцаў псуюць, -- рагоча Людка.
– Добра, хай будзе, як Сора казала. Але заўтра дагавару тое, чаго не сказаў сёньня.
-- Чакаю з хваляваньнем у крыві, -- сьмяецца Людвіся і разьвітваецца.

* * *

Рубайла пазваніў Рамуку невыпадкова. Зьвесткі Каралішкі спраўдзіліся. І сапраўды праз пару дзён у мястэчку зьявіўся "Лапаць". Дзіва дзіўнае, каб ЦК прыслала. Але Рубайла прывык не зьдзіўляцца, не гадаць, а дзейнічаць. У той жа дзень вечарам, як толькі ад'ехаў Рамук, ён паслаў у Лань грузавік і пагрузчык з наказам Ігнасю да ночы ўсё перавезьці ў месца "нумар два". Працавалі да 12-й ночы, зрабілі чатыры рэйсы і ўсё перавезьлі на адзін кілёмэтр вышэй па Лані. Заранёў пра гэтае месца ведалі толькі Рубайла і Ігнась.

На раніцы Рубайла загадаў завезьці на старое месца некалькі машын пяску, засыпаць вогнішчы і ўсё разраўняць.

Ёська прыехаў толькі праз два дні на райкамаўскай машыне. Рубайла выйшаў спатыкаць.
-- Иосиф, сколька лет, сколька зим,** -- распрасьцёр абдымкі Рубайла.
-- А, здраствуйце Рафаил Пятрович. – Ёська важна працягнуў руку. – Как дзела, как усьпехи, как здароўе?***
-- Спасиба, Иосиф, усё на вышшэм уравне.****
-- Да? Кантора пашэт, ха-ха-ха. Я сматру, места зьдзесь у цебя красивыя. Как угодзья? *****

--------------------------------------------
* Радкі з М. Багдановіча *(Аўт.)*
** -- Іосіф, колькі зім, колькі летаў *(Ламаны рус.)*
*** -- А, добры дзень, Рафал Пятровіч. (...) Як справы, як посьпехі, як здароўе? *(Ламаны рус.)*
**** -- Дзякую, Іосіф, усё на вышэйшым узроўні. *(Ламаны рус.)*
***** -- Так? Кантора гарэ, ха-ха-ха. Я гляджу, мясьціны тут у цябе прыгожыя. Як угоддзі?

-- Харошыя угодзья, Иосиф, и народ атличный.*
-- Да? Так вот в кантору захадзиць не будзем. Пакажы угодзья. Паедзем пасмотрым.
-- Атлична, -- кажа Рубайла, -- есьць што пасматрэць*, -- а сам думае: “Што за “ўгоддзі” стукнулі прыдурку ў галаву? Пакажу яму іржышча на пожнях і авёс, які яшчэ стаіць і, дзякуй Богу, добра вырас (калі толькі ён разьбіраецца)”.

Пачуўшы “угодзья”, Рафал таксама зразумеў, што Лапаць ведае пра Лань і дзеля таго і прыехаў.
-- Прыглашаю, Иосиф, пазнакомимся с акцивам и паедзем**, -- кажа Рубайла і накіроўваецца ў кантору.
-- А можэт усё-таки не будзем трациць урэмя, едзем сразу?*** -- зноў на сваім настойвае Ёська.
-- Урэмя пацераем, кагда абайдзём стараной партарганизацыю. Мы жэ не можэм не учытываць, што камунисты далжны быць на первых рубежах****, -- падцёр нос Ёську Рубайла.

Незадаволены Ёська пайшоў з Рубайлам у кантору. Рубайла разумеў, што мусяць быць сьведкі і, пажадана, сам кляўзьнік. Ён пазваніў сакратару партарганізацыі (начальніку пошты Дзесюкевічу), выклікаў аднаго члена праўленьня і пазваніў старшыні сельсавета Карамазаву, каб прыехаў на спатканьне з інструктарам ЦК.

Калі каманда сабралася, коратка пагаварылі, селі ў “газік” і паехалі глядзець “угоддзі”.

Паглядзеўшы на іржышча і на авёс, Ёська ізноў кажа:
-- Места у вас красивыя. Гаварат, есьць очэнь красивая рэчулка Лань. Хацелась бы пасматрэць. Можэт махнём, а, Рафаил?***** – Ёська расплыўся ў задаволенай усьмешцы. Ён упіваўся сабой і глядзеў на Рубайлу, спадзяючыся ўбачыць, як той спалохаецца.
-- Гэта, па-праўдзе, і ня рэчка, а ручаёк. Але месцы тут сапраўды прыгожыя, -- кажа Рубайла, -- настолькі прыгожыя, што маем праблемы.
-- Да? Какия праблемы?******
-- Праблемы з турыстамі-дзікунамі, -- адказвае Рафал. – Летам спасу няма. Прыезжают (апамятаўся Рафал і зноў па-руску) з палатками да с гитарами, жгут кастры, ламают лес, топчут траву, да ещо и спиртное распивают, пакидают после себя кучу бутылак. Прыходзится убираць за ними. Иначэ бы усё изгадзили.

Культура храмает усё-таки. Мы и дарогу перэгарадзили, штобы на машынах не заежджали. Усё раўно лезут. Пешком абходзят.*******

-------------------------------------

* -- Добрыя ўгоддзі, Іосіф, і народ выдатны.
-- Так? Дык вось у кантору заходзіць ня будзем. Пакажы ўгоддзі. Паедзем, паглядзім.
-- Выдатна (...) ёсьць што паглядзець. *(Ламаная рус.)*

** -- Запрашаю, Іосіф, пазнаёмімся з актывам і паедзем. *(Ламаная рус.)*

*** -- А можа ўсё ж такі ня будзем губляць час, едзем адразу? *(Ламаная рус.)*

**** – Час згубім, калі абыйдзем бокам партарганізацыю. Мы ж ня можам ня ўлічваць, што камуністы павінны быць на перадавых рубяжах *(Ламаная рус.)*

***** -- Мясьціны ў вас прыгожыя. Кажуць, ёсьць вельмі прыгожая рэчка Лань. Хацелася б паглядзець. Можа, махнём, а, Рафаіл? *(Ламаная рус.)*

****** -- Так? Якія праблемы? (рус.)

******* -- (...) Прыяжджаюць з палаткамі ды з гітарамі, паляць вогнішчы, ламаюць лес, топчуць траву, ды яшчэ і алькаголь расьпіваюць, пакідаюць пасьля сябе кучу бутэлек. Прыходзіцца прыбіраць за імі. Інакш бы ўсё загадзілі. Культура кульгае ўсё-ж-такі. Мы і дарогу загарадзілі, каб на машынах не заяжджалі. Усяроўна лезуць. Пешшу абходзяць. *(Ламаная рус.)*

Пад’ехалі да шлагбаўма.

-- Вот видзице,* -- паказвае Рубайла і зьбіраецца ехаць далей. У гэты час Ёська дастае мапу, глядзіць у яе і кажа:

-- А мы не магли бы праехаць за шлагбаум?

-- Ну, разьве што шлагбаум ламаць. Но эта жэ не дзело.

-- А я думаю, нада папробаваць, -- кажа Ёська. – А патом на места паставим.**

-- Гм... Дык што, рабочых выклікаць?

-- Зачэм, мы з вами людзи крэпкие, з камунисьцичэскай закалкай.***

Ёська выйшаў з машыны, узяўся за адзін слуп і паднатужыўся выцягнуць яго з зямлі. Слуп не паддаваўся.

-- Лягчэй лату адбіць, -- кажа Рубайла, бачачы дурную працу.

-- Да, я тожэ так думаю,**** -- сказаў Ёська і рвануў за лату. Лата не паддалася.

“Ён жа прыроджаны дурань, -- думае Рубайла, гледзячы на працу Ёські. – Трэба ж адагнуць цьвікі і адбіць лату, а не цягнуць.”

Але Ёська, які мог падковы разгінаць, узлаваўся, рвануў з усёй сілы і адарваў лату шлагбаўма “зь мясам” (разам з цьвікамі). Рубайла аж рот разьзявіў.

Ціха ехалі па дарожцы, а Ёська глядзеў на мапу. Рубайла кінуў вокам і заўважыў, што мапа маляваная ад рукі. Рафал праехаў міма месца, дзе стаялі самагонныя апараты.

-- Стоп-стоп! – скамандаваў Ёська. -- Красивый лес. Нада асматрэць меснасьць.*****

Цікава было Рафалу назіраць за Ёськам і “Карамазам”. Карамазаў чамусьці разгубіўся і ўсхваляваўся, круцячы галавой па баках. Ёська з мапай абыйшоў усю мясьціну, потым пытае ў Рубайлы:

-- А што зьдзесь песок?

-- Так я жэ гавару, после турыстаф прыходзится убираць. Жгут кастры, ламают дзярэўя, ветки аставляют, бутылки. Вот толька недавна навели зьдзесь парадак.******

-- Н-да. Дзействицельна. Вижу, -- буркнуў Ёська. – У нас, правда, были другие сведения.*******

-- Якія “сведения”?

-- База злоснага самагонаварэния.*******

-- Гм-м, -- хмыкнуў Рубайла, дэзінфармацыя, значыцца, введение в заблуждение парцийных органаф. Нада бы разабраться. Самагонаварэние у нас на церыторыі калхоза даўно изжыта.********

-----------------------------------------

* -- Вось бачыце. *(Ламаная рус.)*

** -- А мы не маглі б праехаць за шлагбаўм?
-- Ну, хіба што шлагбаўм ламаць. Але гэта ж ня справа.
-- А я думаю, трэба паспрабаваць, (...) а потым на месца паставім. *(Ламаная рус.)*

*** -- Навошта, мы з вамі людзі моцныя, з камуністычнай загартоўкай. (*Ламаная рус.)*

**** -- Так, я таксама так думаю. *(Ламаная рус.)*

***** -- (...) Прыгожы лес. Трэба аглядзець мясцовасьць. *(Ламаная рус.)*

****** -- А што тут пясок? *(Ламаная рус.)*
-- Дык я ж кажу, пасьля турыстаў прыходзіцца прыбіраць. Паляць вогнішчы, ламаюць дрэвы, галінкі пакідаюць, бутэлькі. Вось толькі нядаўна навялі тут парадак. *(Ламаная рус.)*

******* -- М-так. Сапраўды. Бачу. (...) У нас, праўда, былі іншыя зьвесткі.
-- Якія “зьвесткі”?
-- База злоснага гнаньня самагонкі. *(Ламаная рус.)*

******** (...) увядзеньне у зман партыйных ворганаў. Трэба б разабрацца. Гнаньне самагонкі ў нас на тэрыторыі калгаса даўно аджыло. *(Ламаная рус.)*

Тут ушчэнт прыгнечаны Карамазаў, які глядзеў на ўсё выпучанымі вачыма, падаў голас:
-- Угу. Да-да. Как гаворит Тарапунька-Штэпсель, “из жыта”, “из жыта”, не из сахара, а “из жыта.”*

Тады Рубайла гэтак спакойна кажа, кідаючы вокам на Ёську:
-- Ну, эци шутачки не па дзелу, таварыщ Карамазаф. Здесь сер’ёзный вапрос нашэй парцийнай палицики, с каторым мы разьберомся. А шутачки будут патом,** -- і Рубайла холадна паглядзеў на Карамазава.
-- Да, серьёзный вопрос, -- адказаў “Карамаз”, -- только парция здесь ни при чем.***
-- Как “это ни пры чом”, таварышч? – падняў галаву Ёська. – Высокае должнасное лицо парции прыезжает па сигналу, и “парция ни пры чом”? Очэнь инцерэсна разговарывает месная савецкая уласьць.****
-- Я не это хотел сказать, -- захваляваўся “Карамаз”.
-- А што вы хацелі сказаць?
-- Я имел в виду, что партия не имеет отношения к этому преступлению.
-- Какому “преступлению”?
-- К самагонаварению.
-- Эта мы без вас знаем,***** -- абсёк Ёська незадачлівага Карамазава, выгляд якога быў жаласны.
-- Вы знаеце, Иосиф Викенцьевич, -- падхапіў тэму Рубайла, -- в нашэм общэстве ещо нет-нет да паяўляются разные дзеструкциўные элементы, готовые клеветаць на парцию и савецкую уласьць. Как гаварытся, печальна, но факт. Са сваей стараны даважу да сведзения, что мы усилим васьпитацельна-идзеалагичэскую работу на сяле. Правильна, таварыщ Дзесюкевич?****** – зьвярнуўся Рубайла да сакратара партарганізацыі калгаса.
-- Правильна. Нада. Абязацельна усилим,******* -- паддакнуў Дзесюкевіч.

Калі вярнуліся ў мястэчка, Рубайла стаў запрашаць Ёську да сябе ў госьці.
– Прыглашаю, Иосиф Викенцьевич, па старой дружбе, пасидзим, пагаварым, с жэной пазнакомлю (я слышал, вы ужэ давно жэнаты), вспомним былые года. Да, вот ещо. Помнице такога далгавязава чудака Шляхту?

----------------------------------

* -- Угу. Так-так. Як кажа Тарапунька-Штэпсэль, “з жыта”, “з жыта”, але ня з цукру, а “з жыта”. *(Рус.)*

** -- Ну, гэтыя жарцікі не па справе, таварыш Карамазаў. Тут сур’ёзнае пытаньне нашай партыйнай палітыкі, зь якім мы разьбяромся. А жартачкі будуць потым. *(Ламаная рус.)*

*** -- Так, сур’ёзнае пытаньне (...) толькі партыя тут ні пры чым. *(Рус.)*

**** -- Як гэта “ні пры чым”, таварыш? (...) Асоба высокай пасады партыі прыяжджае па сігналу і “партыя ні пры чым”? Вельмі цікава размаўляе мясцовая савецкая ўлада. *(Ламаная рус.)*

***** -- Я ня гэта хацеў сказаць (...)
-- А што вы хацелі сказаць?
-- Я меў на ўвазе, што партыя ня мае дачыненьня да гэтага злачынства.
-- Якога злачынства?
-- Да гнаньня самагонкі.
-- Гэта мы бяз вас ведаем. *(Рус. і ламаная рус.)*

****** -- Вы ведаеце, Іосіф Вікенцевіч, (...) у нашым грамадзтве яшчэ няма-няма, ды зьяўляюцца розныя дэструктыўныя элемэнты, гатовыя паклёпнічаць на партыю і савецкую ўладу. Як кажуць, шкода, але факт. З свайго боку даводжу да ведама, што мы ўзмоцнім выхаваўча-ідэалагічную працу на сяле. Правільна, таварыш Дзесюкевіч? *(Ламаная рус.)*

******* -- Правільна. Трэба. Абавязкова ўзмоцнім. *(Ламаная рус.)*

******** -- Запрашаю, Іосіф Вікенцевіч, па старой дружбе, пасядзім, пагаворым, з жонкай пазнаёмлю (я чуў, вы ўжо даўно жанаты), успомнім былыя гады. Так, вось яшчэ. Памятаеце такога даўгавязага дзівака Шляхту?

-- Помню эта дзермо. Нацыналисьцичэский прыдурак.*
-- А он цепер прэдседацель калхоза. Далеко не пашол.
-- Знаю. И не пайдзёт. Таких далеко не пущают.
-- А он, вродзе, был неплахой парэнь?
-- Жаль, што я тагда его не убил и мала стукнул. Щас этава нацыанальнава дзерма снова появилась, воду муцят.
-- Я слышал, што он как будта исправился. Камунист, прэждзе усево.
-- Да никакой он не камунист! Падла нацыанальная, толька скрывается.
-- Я вижу, Викенцьевич, не любице вы этава чэлавека.
-- Я ваабщэ не люблю усех таких. Я бы их усех сабрал и рэшыл праблему. Большэ бы их не было.
-- Ну, так што, Викенцьевич, па старай дружбе зайдзём ка мне, пасидзим, пагаварым, а?
-- С удавольствием, но дзела, дзела, Петрович. У нас, в ЦэКа, сам панимаеш, лынды не бьют. Да, ещо вот што. А этат Шляхта случайна к цебе не заезжал после ВПШ?* – і Ёська гэтак падкрэсьлена глядзіць на Рубайлу.
-- Пасьля ВПШ – нет. Заежджал у этам гаду праездам, на ходу. Но пагаварыць не удалась, -- кажа абыякава Рубайла. – Паэтаму и спрашываю, можэт што знаеце.
-- Н-да, н-да, -- забубніў Ёська, -- урэдны ціп.**

Рубайлу так і не ўдалося зацягнуць Ёську за стол і пагаварыць на цікавыя тэмы. Але наконт Рамука ён зразумеў, што хмары гусьцеюць не над ім, Рубайлам, а над Рамуком. “Адкуль што бярэцца. Хаця зразумела, адкуль бярэцца”, -- думаў Рубайла. Калі засеклі, то будуць трымаць на цалёўніку і пасьвіць усё жыцьцё.

* * *

Зімой на нейкай міжраённай нарадзе старшынь калгасаў жартаўнікі падвялі да Рубайлы нейкага груватскага тыпа гадоў сарака сарака пяці з добрай камплекцыяй і бычынай шыяй. Выглядалі яны побач, нібы браты адных бацькоў. “Пазнаёмцеся, во”, -- загадкава кажуць жартаўнікі.
-- Рубайла, -- падаў руку Рафал.
-- Дзюбайла, -- адказвае тып.
Жартаўнікі захіхікалі, а дзядзькі глядзяць адзін на аднаго і неўзабаве самы пачынаюць сьмяяцца.
-- Ну, то замачыць трэба знаёмства, -- кажа Дзюбайла.
-------------------------------------
* -- Памятаю гэтае дзярмо. Нацыналістычны паўдурак.
-- А ён цяпер старшыня калгаса. Далёка не пайшоў. *(Ламаная рус.)*
-- Ведаю. І ня пойдзе. Такіх далёка не пускаюць. *(Ламаная рус.)*
-- А ён быў як бы ня дрэнны хлапец?
-- Шкода, што я тады яго не забіў і мала стукнуў. Цяпер гэтага нацыянальнага дзярма ізноў зьявілася, ваду каламуцяць.
-- Я чуў, што ён як быццам выправіўся. Камуніст, перш за ўсё.
-- Ды ніякі ён не камуніст! Падла нацыянальная, толькі хаваецца.
-- Я бачу, Вікенцевіч, ня любіце вы гэтага чалавека.
-- Я ўвогуле не люблю ўсіх такіх. Я б іх усіх сабраў і вырашыў праблему. Болей бы іх не было.
-- Ну, дык што, Вікенцевіч, па старой дружбе зойдзем да мяне, пасядзім, пагаворым, а? *(Ламаная рус.)*
-- З задавальненьнем, але справы, справы, Пятровіч. У нас у ЦэКа, сам разумееш, лынды ня б’юць. Ага, яшчэ вось што. А гэты Шляхта выпадкова да цябе не заяжджаў пасьля ВПШ? *(Ламаная рус.)*

** -- Пасьля ВПШ – не. Заяжджаў у гэтым годзе, праездам на хаду. Але пагаварыць не ўдалося (...) таму і пытаю, можа што ведаеце.
-- М-так, м-так (...) шкодны тып. *(Ламаная рус.)*

Аказалася, што Дзюбайла недалёкі сусед Рубайлы, якога толькі што прыслалі з ці то з Ашмянскага раёна ці з Івейскага раёна кіраваць асобным калгасам. Тым часам старшыню, што быў тут перад Дзюбайлам, паслалі ў раён на месца Дзюбайлы. Гэта звычайная зьява ў намэнклятурнай сістэме. Дзюбайла мясцовы чалавек, занадта добра зжыўся з калгасьнікамі. Ён добра выпіваў, але і добра трымаўся. Стандарт. Калгас быў сярэдненькі. Дзюайлу перавялі, відаць, таму, што ня ўжыўся з раённым партыйным начальствам.

На яго месца прыбыў нейкі “Сьмірноф”, рыжы тып зь бялёсымі вейкамі, якімі ён часта моргаў. Сабралі сход калгасьнікаў, інструктар райкама партыі па калгасах прадставіў новага старшыню і прапанаваў прагаласаваць. Усе прагаласавалі, і справу скончылі. І вось тут нарадзіўся мясцовы праўдзівы анэкдот. Таварыш “Смірноф” паклікаў старшыню парткама, сакратара сельсавета, свайго намесьніка і мясцовага брыгадзіра ў “чайную” “символически отметить событие”*. Селі за стол. “Смирноф” кульнуў чарку і нешта папярхнуўся ды закашляўся. “Ня ў тое горла, -- кажа, -- пайшло”.

А тут буфетчыца Альдона глядзіць і кажа афіцыянтцы гэтак у паўголаса: “Во, гляньце, мае вы, той Дзюбайла адно горла меў і ўсё прапіў, а гэты дык ажно два горлы мае”.

Крылатыя словы хутка паляцелі ў сьвет. Усе сталі казаць, што прысланы “мангол” два горлы мае. А таго Сьмірнова Хведара Рамдракавіча так і празвалі “Хведзька два горлы”. Ён, праўда, і піў у два горлы, пакуль яго ні перавялі ў чарговы калгас.

* * *

Як толькі Ёська ад’ехаў з раёна, Рубайла час не губляў. Тут жа загадаў адвезьці жонцы першага сакратара райкама партыі бочачку мёду на дванаццаць літраў і назаўтра сам паехаў у раён. Пагаварыў з другім сакартаром райкама Круцем. Круць пра сапраўдную мэту прыезду Ёські нічога ня ведаў. ”Ну, зразумела, -- думае Рубайла, -- чые тут вушы тырчаць”, -- і расказаў пра “кляўзьніка” Карамазава, які праз галаву райкама займаецца паклёпніцкай дзейнасьцю на раён. З Глінкай адбылася больш дэталёвая размова. Рубайла яшчэ і з пракурорам крыху перамовіўся. Рафал ішоў, як танк: вытурыць і распляскаць гада.

Неўзабаве “Карамаза” засеклі на нейкай “мякіне (якую яму падстроілі), далі вымову па партыйнай лініі, потым другую вымову і перавялі ў Райспажыўсаюз перакладаць паперкі.

Рафал сур’ёзна задумаўся над умацаваньнем пазыцыяў. Перадавіком ён ужо даўно зрабіўся, трымаў пераходны Чырвоны Сьцяг, меў кучу граматаў, мэдалі. Але для цьвёрдай гарантыі недатыкальнасьці патрэбнае было званьне “Героя Сацыялістычнай працы”. Тут і балван Ёська спатрэбіўся б. Але Лапця Рубайла не ўламаў нават у госьці зайсьці. Ды й небясьпечна з дурнем справу мець, тым больш з такім хрыстапрадаўцам. Цяпер якраз Паўлюк Барэйша прыязджаў, прасіў, каб сына Лёню на працу ўзяў. У гэтых абставінах вельмі ж непатрэбна яно для Рубайлы. А тут на шчасьце гэты Рыгор Дзюбайла падкруціўся. Рафал пазваніў новаму знаёмаму і кажа:

-- Ну, як там у цябе? Ачомаўся ўжо? Агораўся?

-- Нармальна, -- адказвае Дзюбайла.

Рафал запрасіў Дзюбайлу ў нядзелю ў госьці. Той з задавальненьнем прыехаў. Выпілі амаль паўвядра гарэлкі на дваіх і пра ўсё дамовіліся. Рыгор возьме

---------------------------------------
* “сымвалічна адзначыць падзею” *(рус.)*

хлопца на чыстую працу ў кантору рахункаводам “і пайшлі “яны” ўсе, -- як любіў выказвацца Дзюбайла, -- у задніцу”.

Цікавая была і сама размова двух калгасных мужоў. Любімым прыслоўем Дзюбайлы было “бляха-муха”, кшталту: “Еду гэта я тады, Рафале, пасьля нарады, ноч, поле, фары уключыў, гляджу – бляха-муха! Воўк бяжыць...” і гэтак далей.

Гаварун ён быў ня горшы за Рубайлу, але ні ў што ня верыў і нічым не праймаўся. Ягоная задача ў жыцьці – плысьці і не ўтапіцца, і ня сунуць нос, куды ня трэба.

Пасьля першых трох-чатырох кілішкаў, як і ва ўсіх сур’ёзных мужчын, пачыналася размова пра палітыку.

-- От ты мне скажы, Рыгору, -- пачынае Рафал, -- што гэта вакол творыцца і куды гэта ўсё прыйдзе?

-- У задніцу, бляха-муха, -- адказвае Дзюбайла, -- я ўжо даўно бачу.

-- Дык думаеш, што камунізм не пабудуем? – пытае Рубайла, жуючы агурок.

-- Які камунізм, чалавеча, ты з быка зваліўся? Ты што, зь вёскі? – усклікае Дзюбайла.

-- Але ж, братка, пішуць, гавораць і не перастаюць, што камунізм пабудуюць.

-- Го! Гавораць. І я гавару, дзе трэба. Мне што – шкода? Ня станеш гаварыць, будзеш зямлю рыць.

-- Ну, от цяпер і глядзі: камунізм будуем і куды ня кінь, усюды гэтыя маскоўскія манголы сядзяць.

-- Чыя ўлада, той і сядзіць, Рафале. Але найгоршыя бываюць свае, бляха-муха, за нішто прададуць. Дэфэктны народ, бляха-муха, не пільнуе свайго. Быў у нас такі байструк, падрос, пачаў крыжы ламаць. З войска вярнуўся, дык, як той баран, варот сваіх не пазнае, матку родную ня чуе. І што ты думаеш? Дуб дубам – цяпер у ЦК залез.

-- Яго прозьвішча не Гарох, часам? – уставіў Рубайла.

-- Гарох, бляха-муха! О, дык і ты ведаеш.

Так яны выйшлі на Ёську і пачалі зьдзіўляцца, што сьвет цесны.

-- Ну, дык маладыя ўжо крыху за сваё шавеляцца, -- кажа Рубайла.

-- Эт! – махнуў рукой Дзюбайла. – Усё гэта дзярмо! Да першага павароту. А потым прададуць адзін аднаго, бляха-муха, і пабягуць маскоўскім манголам у задніцу цалаваць. Калі так ня ёсьць, то так будзе, бо бацькі такія. Перад палякам каркі гнулі, цяпер пад манголам поўзаюць. Дзярмо народ! Прапашчы і дурны.

-- Ну, а жонка як? – пытае Рубайла.

-- Што “жонка”?

-- Жонка разумная?

-- Жонка файная, ня жалюся. Рыхтых твая Яніна. Заатэхнікам у мяне.

-- Ну, дык ня ўсё так кепска і з народам, браце мой, -- рагоча Рубайла. – Жонкі добрыя – надзея ёсьць. За надзею, Рыгорка! – усклікае Рубайла, наліваючы кілішкі.

-- За надзею, бляха-муха! – раве Дзюбайла і куляе чарку.

* * *

Усю рэшту жніўня Рамук ня мог вырвацца ў Менск, куды яго ўжо цягнула, як магнітам. Лена запоўніла ўсё яго ўяўленьне. Здавалася, што ў душы гучэла нейкая Боская музыка. Тонкі бэзавы пах яе валасоў, яе аблічча, калі ён пацалаваў яе пухлы раток, адчуваньне дзівоснага сьветлага сна напаўняла яго істоту нейкай бязважкасьцю існаваньня, быццам нічога няма, і толькі ён і Лена ў дзіўнай прасторы, што пахла бэзам, якая абвалаквала яго, нібы аура нябеснага духа.

Не, усё ж такі каханьне – гэта, напэўна, хвароба. Рамук трымцеў, нібы падключаны ў электрасетку, і не было такой волі, каб сябе адключыць. Часам ён

крыху супакойваўся і пачынаў рацыянальна думаць, як уладкаваць далей адносіны зь Ленай і іхняе жыцьцё. Тут шмат пра што варта было б зь ёй пагаварыць. Але навошта ж гнаць час, калі каханьне такое прыгожае.

У пачатку верасьня ён размаўляў зь Ленай па тэлефоне. Лена і Лёля атрымалі разьмеркаваньне ў менскія школы настаўніцамі нямецкай мовы. Акурат пачаўся тэатральны сезон у Вялікім тэатры Опэры і балету, і Лена прапанавала схадзіць паслухаць опэру. Пра ўсё дамовіліся, але перад самай той нядзеляй Лена тэлефануе да яго і кажа:

-- Мілы Роме, ёсьць іншая прапанова. Мы з Лёляй запрашаем цябе да нас у госьці. Тата і мама будуць вельмі радыя. Мы зь Лёляй столькі ім нагаварылі пра цябе.

-- А як жа опэра?

-- Опэра вечарам, а мы запрашаем цябе днём на 15 гадзін. Ну, згаджайся ж хутчэй, а то нам ня церпіцца.

-- Згаджаюся, -- кажа Рамук.

Вечарам у суботу Рамук пайшоў да дырэктара школы Мікалая Альховіка. Трохі пагаварылі і Рамук кажа ягонай жонцы:

-- Таня, выручай. Трэба вельмі шмат, бярэмя белых і блакітных астраў. Толькі ты можаш дапамагчы. (Таня, замест вырошчваньня гародніны, амаль увесь свой агарод выкарыстоўвала пад кветкі, была вялікім аматарам і знаўцам кветак. Якраз пачаўся сезон астраў.)

-- Ого! Што здарылася, Раман Васілевіч? Можа, закахаліся? – сьмяюцца Таня і Мікалай.

-- Закахаўся, -- кажа Рамук.

-- Праўда?

-- Праўда. Я няшчасны. Усё баліць і, здаецца, ужо дурэю, зьяжджаю з глузду.

-- А-я-я-я-яй, -- завохкала, сьмеючыся Таня. – Трэба ратаваць васпана. Добра, што прызнаўся.

Велізарнае бярэмя белых і блакітных астраў Рамук умясьціў у вядро з вадой і паставіў на ноч у веранду. Вядро было эмаляванае блакітнае, і Рамук убачыў, што ўсё прыгожа выглядае (як адмыслова). Так і павязе для Лены.

На раніцы Рамук убіўся ў сьветлы гарнітур, белую кашулю і блакітны шаўковы гальштук зь белымі палоскамі, абуў сьветла-шэрыя туфлі, і нават папырскаў сябе Дзінтарасам – нейкім “хвойным лесам”. Паглядзеў на сябе ў люстэрка. Нічога асаблівага. Зь люстэрка на яго пазіраў чарнавалосы высокі мужчына з цёмна-карымі вачыма колеру густога піва і трохі грубаватымі прадаўгаватымі рысамі твару. Высокі адкрыты лоб надаваў адчуваньне высакародзтва, але квадратны падбародак і тоўстыя губы гаварылі больш пра волю жаўнера-ваяра, чым пра тонкую душу. Аблічча, праўда, бывае часам даволі абманлівым і ў грубай форме жыве высокі дух.

У 14.45 Рамук ужо пад'ехаў да паштамта, дзе чакалі яго Лена і Лёля. Паненкі селі ў машыну і разам заехалі ў двор. Рамук ня стаў чакаць ліфта і пайшоў на трэці паверх, трымаючы ў руках вядро з астрамі, шчодра загорнутае ў белую матавую капіравальную кальку, так што паненкі ўвесь час гадалі, што гэта ён нясе.

-- Дары прыроды, -- кажа Рамук.

-- Цікава, -- усклікнула Лёля, -- відаць капуста з калгаснага поля. Не! Агурочкі маласольныя! Ах, як люблю! Не. Тут нешта незвычайнае. Грыбы? А можа парсючок у галярэце? Не. Хутчэй за ўсё індык, нашпігаваны грыбамі. Ах, Ромчык, індык – гэта такая матэрыя...

Іх сустрэла мама Прузына Мікалаеўна, жанчына сярэдняга росту з ласкавым усьмешлівым тварам і высока паднятай галавой. Яна чакала госьця і была апранута па-сьвяточнаму, але без прэтэнзіяў: карычневая сукенка у высакароднай

гаме і лёгкі прыталены сьветлы сачак кафейнага колеру, чорныя туфлі на сярэднім абцасе.

Усе гэтыя дэталі Рамук стаў заўважаць, назіраючы за Ленай і Лёляй. Ён адчуваў, што яны выхаваныя ў разуменьні гармоніі, стылю апрананьня, што для жанчыны заўсёды немалаважна дзеля ўспрыняцьця сваёй асобы.

Рамук прывітаўся і папрасіў дазволу разгарнуць прэзэнт. Жанчыны акружылі яго і з цікаўнасьцю назіралі, што будзе, ахаючы і охаючы. І вось калі ён раскрыў букет – усе былі ўражаныя ад нечаканасьці і ад характва астраў, ад такой іх колькасьці і гармоніі. А Рамук:

-- Гэта мілым жанчынам Прузыне Мікалаеўне, Лене і Лёлі ад аршанскай зямлі, шчыра і ад душы.

-- Ах, як цудоўна! Ах, як прыгожа! Якія астры! Ох, які букет. Ромчык, вы такі вынаходнік! Ах, як дзівосна!

Усё гэта выказвалася ўсімі шчыра і з энтузіязмам. Букет урачыста ўнесьлі ў пакой і паставілі на высокі журнальны столік перад вакном.

Нейкі час усе любаваліся. Потым Прузына Мікалаеўна спытала, як Рамук даехаў, паказала яму ванны пакой і прапанавала асьвяжыцца з дарогі.

-- Дзяўчаты, прыслугоўвайце госьцю, -- сказала мама Прузына і выйшла на кухню. Праз хвіліну Лёля выходзіць з драўляным па-мастацку выразаным падносам.

-- Ромчык, гэта брусьнічны сок для рыцара зь вялікай і доўгай дарогі.

-- Татачка, -- чуваць голас Лены у другім канцы, -- госьць прыехаў і хадзі паглядзі, што ён прывёз.

Голас бацькі:

-- О-о... Фантастычна! Шляхта несьмяротная!

Мужчыны павіталіся і пазнаёміліся. Аляксандар Якубавіч Равіч – бацька – быў высокім чалавекам гадоў шасьцідзесяці зь вельмі жывымі вачыма піўнага колеру і энэргічным аблічам. Праз чорныя валасы ўжо прабівалася сівізна. Выглядаў Равіч такім жылістым, падцягнутым дзядзькам, але адначасна выразна нязмушаным чалавекам з сьціплымі арганічнымі манерамі, уменьнем сябе трымаць і гаварыць.

Рамук пачаў трохі разглядацца па пакоі і зьвярнуў увагу на карціны на сьценах. На адной (алейны жывапіс на палатне) былі чырвоныя віленскія дахі і воблачнае неба над Вільняй. Рамук жывапісам крыху цікавіўся і ўмеру магчымасьці разьбіраўся. У кожным разе мог адрозьніць мастака добрага ад слабога. Карціна рабіла ўражаньне сваім мажорным ладам і яркімі мазкамі.

-- Гэта арыгінал. Сучасны беларускі мастак, -- кажа Равіч. – Камісія ацаніла, але не закупіла. Дык потым я прыватна купіў проста з выставы. Хацеў падтрымаць хлопца. Але твор добры. А Вільня, пане Рамане, -- гэта для нас нешта значыць.Праўда?

-- Быў там нядаўна зь Ленай і Лёляй. Яшчэ цяпер пад уражаньнем, -- кажа Рамук.

-- Пра Вільню ў мяне яшчэ ёсьць што паглядзець, -- кажа Равіч, і яны перайшлі ў другі пакой, які, відаць, быў хатнім кабінэтам намміністра. Тут дзьве сьцяны, што насупраць, былі занятыя стэлажамі зь нізу да верху (амаль да трох мэтраў) напакаванымі кнігамі. На сьценах, дзе вакно і там, дзе дзьверы, віселі жывапісныя карціны і фатаграфіі колеру сэпіі ў пашпарту і ў рамках за шклом. Фармат фота 13х18. Перпендыкулярна да вакна (але з праходам) стаяў вялікі стол з арэхавага дрэва. Уся мэбля была яшчэ з 50-х, сьветлая арэхавая і салідная са згладжанымі кантамі. На стале – папкі з паперамі, кнігі, пішучая машынка “Рабатрон” (мажліва трафейная), пісьмовы прыбор, фатаграфіі Лены і Лёлі ў дзяцінстве, бюст Купалы, выразаны з дрэва нейкім народным майстрам, і ... невялічкі бюст Леніна з танаванага гіпсу пад бронзу.

Равіч заўважыў позірк Рамука на Леніна і махнуў рукой.

-- Ну, гэта таксама трэба. Дык вось, зірніце на гэтыя фатаграфіі Вільні. Што скажаце?
-- Вельмі старыя фота, зьнятыя даўно.
-- Так. Зьнята яшчэ перад 1-й Сусьветнай вайной. Гэта фатаграфія Яна Булгака, арыгіналы, друк на брома-срэбранай паперы. Выпадкова, яшчэ ў 50-х, купіў у Вільні ў букіністаў. А вось там, -- Равіч паказаў пад столь, -- рэдкі здымак. Не паверыце – гэта Булгак з Фердынандам, зьнятыя, відаць, у Багданаве таксама перад 1-й вайной.

Рамук прыгнечана слухаў і думаў: "Божа, пра што ён гаворыць? Я ж нічога ня ведаю! Хто такі Булгак? Хто Фэрдынанд?"

Равіч здагадаўся пра стан Рамука па яго маўчаньні і патлумачыў пра Яна Булгака і Фэрдынанда Рушчыца.

-- Дык вось, уяўляеце, я з гэтым Булгакам быў асабіста знаёмы. Мы добра зналіся. Супэрфатограф. У жыцьці гэта быў такі шляхціч беларускі. Тыповы. Клясыка. Вы ж паглядзіце на яго. Выдатна гаварыў па-беларуску, а вершы пісаў па-польску. І ўсё пра сваю Наваградчыну. Звыклая зьява. Краёўцы. Рушчыц таксама беларушчыны не цураўся. Тут яны цалкам разумеліся. Былі найлепшымі сябрамі. Булгак унікаў палітыкі. Гаварыць нават не хацеў пра палітыку. Проста баяўся гэтай тэмы.
-- І чаму так было? – пытае Рамук. – Ён жа быў ні адзін такі.
-- А вось я вам скажу, -- адказвае Равіч. – Як я думаю, не было асяроддзя. Увесь беларускі рух, агулам быў даволі левы і ськіваваны на сялян. Нават нашыя хадэкі на сялян арыентаваліся. Наша шляхта ў беларускім руху была рэвалюцыйнай і прасялянскай, пачынаючы ад Каліноўскага. У нас не было тады такога шырокага беларускага эстэцкага культурнага асяроддзя, якое было б сьведама беларускім і стаяла б па-над палітыкай, жывучы ў маёнтках і Парыжах. Гэта ўсё вынік зьнішчэньня маскоўцамі беларускага набілітэту. Яго ўжо амаль не існавала як сацыяльнай групы. Былі толькі адзінкі: Магдалена Радзівіл, Раман Скірмунт, Ігнат Буйніцкі, Вайніловічы, ну і яшчэ некалькі. Астатнія зьбяднелыя роды пайшлі ў рух, у барацьбу і загінулі, хто ў турме, хто ў Сібіру, хто на пласе, хто з куляй у патыліцы, пане мой.

Ну, вось Браніслаў Тарашкевіч. Мы зь ім добра зналіся. Ахвяраваўся чалавек. Ня кожны тое мог. Ды й іншая гэта ўжо справа. Тое, што выхадцы са шляхты пайшлі ў беларускі рух, нават камуністычны, шляхта-камуністы, -- гэта ня значыць, што барацьба была шляхецкай. Яна была беларускай, але ў грунце – сялянскай, бо найперш абапіралася на сялян.

А ў Польшчы іншая карціна. Палякі здолелі захаваць сваю верхавіну ў рэчышчы польскай ідэі. Таксама касьцёл дапамог. А нашу Вунію фізічна вынішчылі цалкам. Эўропа паняцьця ня мае, што такое гэтая мангольская Масква.
-- Проста мы бліжэй геаграфічна да Расеі, чым палякі, і маскалі тут больш падстрыглі, чым у Варшаве, -- выказвае сваю думку Рамук.
-- Гэта праўда, -- згадзіўся Равіч, -- цяпер трэба ствараць нанава. Не стварыўшы нацыянальнай эліты, найперш інтэлігенцыі, -- не падымемся. Цяпер ужо не расстрэльваюць, дык трэба рабіць у дзьве рукі. Ці васпан згодны са мной?
-- Татачка, паважаны Роме, просім да стала, -- кажа Лена, увайшоўшы. – Наперадзе ў нас абед, бяседа і опэра. Сёньня такі цудоўны дзень!

Стол быў прыгожа абстаўлены. Белыя сурвэткі, белы фарфор, гарэлі сьвечкі. Але пачалі па-сялянску, з гарачай капусты з грыбамі. Такой смачнай Рамук даўно ня еў. Потым хуценька зьмянілася карціна, і на стале зьявілася вялізная (ня тое слова), агромністая смажаная гусь зь яблыкамі, запечаная ў духоўцы.

Тут ужо за справу ўзяўся сам бацька Равіч.

-- Гусь, спадарства, гэта як парсюк, патрабуе ўвагі пры разборцы. – Вялікім нажом з касьцянымі тронкамі Равіч нарэзаў кожнаму, хто што хацеў, як прафэсіянал па гусях усяроўна, так файна ў яго пайшло. Зьявілася чырвонае віно, кругі сялянскай кілбасы і клёцкі з таркаванай бульбы, аблітыя гарачым сьвінным тлушчам з дробна рэзанымі скваркамі і засмажанай цыбуляй, потым гарачы бігас, запраўлены грыбамі і падсмажаны ў цукру вараны гарбуз на завяршэньне.

З усім управіцца начыста было, вядома, немагчыма, але Рамук патрохі паспрабаваў усяго і ўсё хваліў, разумеючы, што тут былі вялікія стараньні жанчын.

Яшчэ яму спадабалася, што не было ніякіх намэнклятурных прадуктаў са спэцразьмеркавальнікаў для камначальства, якіх простыя людзі ніколі ня бачылі (рознай там ікры, балыкоў, асятрынаў ды заморскіх пладоў). Равіч на пасадзе віцэміністра мог усё тое мець. Але на стале было толькі сваё свойскае, чаго можна было дастаць, назьбіраць у лесе, вырасьціць на дачы, купіць на рынку, і нават у краме. Прынамсі ў Беларусі, зь якой, праўда, дзерлі ўсё ў галодную Расею, але нешта (што магчыма) усё ж заставалася.

Калі прыбралі і заслалі белым абрусам вялікі абедзены стол, Равіч адвёў Рамука ўбок да журнальнага століка з астрамі, які быў цяпер увесь устаўлены бутэлькамі ды разеткамі з цукеркамі ды арэшкамі.

-- Дык што з васпанам будзем піць? Тут каньяк, гарэлка “Polska wodka wyborowa”, савецкі партвейн.

Такое для Рамука было ўжо нечым (ці дакладней – зусім) забытым. Ён наліў сабе “Немеш Кадар”, якое прадавалася тады ў БССР у кожнай прадуктовай краме і было між іншым найвыдатнейшым салодкім віном.

-- Лена і Лёля, вы дазволіце вам наліць выдатнага віна? – зьвярнуўся Рамук да паненак.

-- Мы дазваляем нам наліць выдатнага віна, о, Рамэа, вы такі далікатны, -- зашчабятала Лёля, робячы кніксэн, -- і мы вып’ем за сьветлую будучыню, якая сёньня вечарам нас чакае.

-- Нас чакае Леанкавала, спадарычня, -- узьнёсла дэкламуе Лена. – І не забудзьце падрыхтаваць хустачку, каб горкія сьлёзы не стварылі вам клопатаў.

-- Віват Янаш Кадар! – усклікае Лёля, падымаючы бакал.

-- Немэш! – сьмяецца Лена.

-- Янаш таксама чалавек.

-- Ага, і яшчэ не на шыбеніцы, -- уставіў Рамук.

-- Ой, пане Рамане, так драстычна*, -- з папрокам мовіць мама Прузына.

-- Выбачайце, я падумаў, што ён зрабіў злачынства, калі Надзя павешаў.

-- У нас сваіх хапае, пане Рамане.

-- Дык от пра Тарашкевіча мы гаварылі, -- уключыўся тата Равіч. – Мы тады, праўда, ня надта разьбіраліся. Але калі выйшла кніга Аляхновіча, то тады ўжо не разумець – значыць розуму ня мець. Між іншым Захад так нічога і не зразумеў. Дык вось ці ведаеце, што пры абмене Аляхновіч спаткаўся з Тарашкевічам на мяжы?

-- Я ня ведаю і пра кніжку таксама, -- кажа Рамук.

-- Мне Аляхновіч сам казаў, -- працягвае Равіч, -- ён ідзе сюды, а Тарашкевіч туды. Франук толькі пасьпеў яму сказаць: “Бронісь, куды ты йдзш? Па сьмерць?” Іх тут жа разьвялі.

А кніжка? Кніжка Аляхновіча арыштаваная, як шмат што беларускае. Гэта “У кіпцюрах ГПУ”. Цяпер тут маскоўцы носяцца са сваім Салжаніцыным, што пра ГУЛАГ піша. Як былы падпольшчык скажу: гэта цёмны конік. Ці ні з таго ж ГПУ. Але

-------------------------
* рэзка *(паланізм)*

справа ня ў гэтым. У 30-х Аляхновіч як вязень ГУЛАГа першы пра ўсё напісаў і скалануў Захад (пераклалі на галоўныя эўрапейскія мовы, сем перакладаў). Так што ГУЛАГ быў апісаны яшчэ перад вайной і на Захадзе ведалі.
-- Татачка, а раскажы Раману, як Грамаду грамілі, -- кажа Лена, прысеўшы каля бацькі.
-- Ну, гэта ўжо палякі. Цікава тое, што, аказваецца, яны супраць беларусаў каардынаваліся з НКВД. А нас, капэзэбоўцаў, дык, фактычна, бальшавікі і нішчылі. Выклікалі ў СССР і “секір-башка”. Альбо палякаў натраўлівалі. Пляваць ім было, гэтым крамлёўцам, на камунізм. Галоўнае – беларусаў ліквідаваць.
-- Зь іх мала хто ацалеў, -- кажа мама Прузына. – Адзін Арэхва застаўся ды Прытыцкі. Дык на іх гэтыя і цяпер касавурацца. Але зубоў ня маюць. А нашых хадэкаў вынішчылі да аднаго. Прытым забівалі нашых ксяндзоў расейцы разам зь немцамі. Абое рабое. Немцы ж гэтыя былі супраць касьцёлу, так як і бальшавікі, ксяндзоў вынішчалі. Гадлеўскага расстралялі. Гэта ж была фігура, моц.
Л е н а:
-- Яго расстралялі, бо не хацеў падняць руку для “Гайль Гітлер!”
Р а м у к:
-- Можа, варта было падняць?
П р у з ы н а:
-- Ён, пэўня, думаў, што за гэта яго не расстраляюць?
Р а в і ч:
-- Ён ня быў жаўнерам, а перш за ўсё – ксяндзом. Для яго “гайль” было маральным выбарам, а для жаўнера-салдата маральны выбар – гэта зьнішчыць ворага. Дзеля гэтага ні ”гайль”, ні “слава Сталіну” ня маюць значэньня. Гэта ўжо тэхналёгія, а не мараль. Усё ж такі наша заходнебеларуская школа камунізма нешта значыла ў палітыцы.
-- Ох, Алесю, усіх пазабівалі са школай і бяз школы, абы беларусы, -- кажа мама Прузына.
-- От тое ж і яно, Прузя. Каб не разумелі б таго, то, можа, мы з табой і разам не былі б, і не спаткаліся б нават.
-- Дык выходзіць.., -- разважае Рамук, -- што галоўнае?
-- Выходзіць так, пане Рамане, -- кажа Равіч, -- пакуль будзе існаваць Масква і Расея, датуль галоўным для нас (для ўсіх нас) будзе Беларусь, беларусы і беларуская мова. Усё астатняе ідзе потым. Такая логіка гэтай нашай цывілізацыйнай вайны з Масквой. Камунізм тут ня сутнасьць. Так сабе, форма імпэрыі і мэтад рэпрэсіяў іншых народаў. Мы гэта яшчэ у трыццатых бачылі. Расею ніхто ніколі не перайначыць. Расею трэба толькі ліквідаваць. Гэта арда, варварская псіхалогія, нявольніцкая агрэсіўная мэнтальнасьць. Немагчыма зрабіць з малпы чалавека, а з расейцаў эўрапейцаў. Усяроўна будуць хлусіць, хаміць, красьці, забіваць і на ўвесь сьвет гадзіць.

Рамук маўчаў, крыху прыгнечаны пачутым, абдумваючы ўсё ў галаве. Фактычна, ён думаў дакладна гэтаксама. І яго дзядзька Аляксандра таксама.
-- Нажаль мала хто тое разумее і мала хто ведае, -- кажа ён. – Людзі асьлеплі.
-- Трэба, каб ведалі і разумелі. Інакш ня вылезем зь няволі.
Р а м у к:
-- Жыцьцё кароткае.
Р а в і ч:
-- Для ворагаў Беларусі яно таксама кароткае.
Л е н а:
-- А мне здаецца, што яно такое доўгае-доўгае. Не магу ўявіць, што мне некалі можа быць шэсьцьдзесят гадоў.

Л ё л я:
-- Калі нам, сястрычка, стукне па шэсьцьдзесят, тады будзе наша шчасьце.
Л е н а:
-- Цікава. Чаму гэта ў шэсьцьдзесят гадоў нам будзе шчасьце?
-- А тады, а гэта будзе, уяўляеш, у 21 стагоддзі. Жах! Як далёка! Дык вось, тады будзе вольная шчасьлівая і незалежная Беларусь, найлепшая і найбагацейшая краіна ў Эўропе. І ня будзе ўжо СССР, ня будзе ні КПСС, ні балваноў Леніна, ні маскалёў, а на месцы крывавай Масквы будзе плюскацца вялікае салёнае мора. Гэта сьлёзы людзей, нявінна забітых маскалямі, закатаваных і замардаваных пакутнікаў прасочацца скрозь зямлю, выйдуць з падземных азёр сьлёз і затопяць гэтае д’яблава месца Шатана, і пахаваюць яго навечна. Амэн.

Настала кароткая маўчанка. Тады Равіч кажа:
-- Наконт мора – ня ведаю, хоць бальшавікі ў 1941-м, каб спыніць Гітлера, і затапілі вёскі вакол Масквы разам з народам, але тое, што СССР зьнікне, то можа тое яшчэ і мы з мамай убачым.
-- Каб жа так сталася, Алеська, то, можа, й жыцьця ня шкода. Але ня ведаю. Пэўна, не дажывем, -- кажа мама Прузына.
Л е н а:
-- Як татка кажа, так і будзе. Вы малаверы. А як мы назавем тады праспэкт Леніна?
Л ё л я:
-- А назавем мы яго “Ленін праспэкт”, у гонар маёй любімай сястрычкі Лены. Віват! – усклікае Лёля.

Усе засьмяяліся. У гэты час Лёля глядзіць на гадзіньнік і ўсклікае:
-- Ах! Ах! Скора шэсьць. Ой! Лена, бяжым! – і паляцела.

Лена таксама паднялася, адставіла бакал зь віном:
-- О, Матко! Бяз чвэрці шэсьць. У нас жа опэра!
А Р а м у к:
-- Дык жа гадзіну часу маем яшчэ.
-- Вы жартуеце, Рамане. Жанчыне, каб сабрацца ў тэатр, трэба дзьве гадзіны, а ў нас толькі трыццаць хвілін.

Тым ня менш роўна праз трыццаць хвілін Лена зь Лёляй былі гатовыя на выхад. На іх былі глыбокага цёпла-чырвонага колеру сукенкі з высакароднага шарсьцянога матэрыялу, на ножках бліскучыя вішнёвага колеру туфлікі на высокім абцасе, у руках тэатральныя сумачкі такога ж колеру і бліскучасьці, як туфлі, а ў вушах прыгожай формы з завітком залатыя завушніцы. Проста і прыгожа. Нічога лішняга.

Рамук не стрымаўся і выгукнуў:
-- Фантастычна! Можа ў такім прыгожым атачэньні і я не прападу.
-- Ах, Ромчык, што вы гаворыце. Вы наш маяк. Вы наш філяр, пілон, трон моцнага дрэва, а мы зь Ленай, як галінкі асеньняй рабіны па баках ствала.

Яны сядзелі ў шостым радзе партэра насупраць сцэны (гэта, дарэчы, найлепшы рад і месца ў менскім опэрным тэатры дзеля ўспрыняцьця спэктакля). Пасярэдзіне крыху правінцыйны Рамук у сваім сьветлым гарнітуры з загарэлым абветраным тварам і ўзьнятай галавой, падстрыжанай пад бокс (ну, бокс жа, панове, бокс!), а паабапал яго дзьве фігурыстыя прыгажуні ідэнтычныя, як кроплі вады. Публіка часам бесцырымонна азіралася на гэтую прыгожую групу. Некаторыя ўсьміхаліся.

Рамук неўпрыкмет разглядаўся па баках. У гэтым тэатры ён быў толькі адзін раз. Глядзеў балет Генрыха Вагнера “Сьвятло і цені”. Танцы яму спадабаліся

надзвычай. “Спорт вышэйшага класу”, -- думаў ён. Асабліва ўразіла танцорка Парошына ў галоўнай адмоўнай партыі. Але ад сюжэту Рамук крывіўся. Ну і тандэт!

Рамук чым далей жыў на сьвеце, тым больш яму не падабаліся ўсялякія антырэлігійныя прыдумкі, асабліва ў мастацтве.

“Паяцы” зрабілі на Румука надзвычайнае ўражаньне, асабліва заключныя партыі і сцэны. Гэта быў бліскучы спэктакль. У тракце гучаньня “Сьмейся, паяцо!” ён зыркнуў на Лену. А ў яе сьлёзы на вачах. Глядзеў на Лёлю – тое самае. “Поўны сінхрон, -- падумаў Рамук, -- зараз і сам заплачу.”

Пасьля спэктакля яны яшчэ трохі пастаялі ў файе, абменьваючыся думкамі. Некаторыя наведнікі, праходзячы побач, віталіся зь Ленай і Лёляй, кідаючы позіркі на Рамука.

-- А вам спадабалася? – пытае Лена ў Рамука.

-- Ведаеце, я ўражаны, -- адказвае Рамук, і сам ня ведаю, чаму.

-- Ня ведаеце, чаму? – перапытвае Лёля.

-- Так, ня ведаю, бо сюжэт прымітыўны, сантымэнтальны і дурнаваты, а душа трымціць.

-- Таму што опэра. Гэта музыка, -- зь веданьнем прадмета пачала тлумачыць настаўніца Лёля, -- плюс выдатнае выкананьне.

-- А я думаю, тут яшчэ суперажываньне чалавечага лёсу, -- выказалася Лена.

Быў цёплы верасьнёвы вечар. Пешшу, размаўляючы, яны дайшлі да цырка і потым праехалі пару прыпынкаў тралейбусам да паштамта.

Калі ўвайшлі ў памяшканьне, Прузына Мікалаеўна вітае і кажа:

-- Ну, як, цурэчкі*, сьлёзкі былі?

-- Мы былі стрыманыя, -- адказвае Лёля.

-- Але трошкі, відаць, былі, -- устаўляе Рамук.

-- Ромчык! Вы, аказваецца, падглядвалі.

-- Я не падглядваў. Проста мне было прыемна глядзець на сцэну і не на сцэну.

-- Лена, чуеш? Ах, які тонкі падыход! Ромчыку на нас было прыемна глядзець.

Мама Прузына прапанавала Рамуку ня ехаць на ноч, а пераначаваць у іх і выехаць рана. Але Рамук не згадзіўся. Ноч – не перашкода, а ў сем нуль-нуль ён мусіць быць у канторы.

Прузына Мікалаеўна запрасіла ўсіх на гарбату за вячэрні стол. Пасьля гарбаты ўсе цёпла разьвіталіся. Усе Равічы запрашалі, каб Рамук, будучы ў Менску, абавязкова тэлефанаваў і заходзіў, што яму будуць радыя, што ёсьць пра што беларусам пагаварыць.

Паненкі праводзілі Рамука да машыны. Тут Лена адчыняе другія дзьверы і кладзе на сядзеньне вялікую бухматую ільняную торбу з вышыванкай. Рамук абураецца:

-- Лена! Ізноў?

Л е н а:

-- А гэта вяльможнаму пану ад вяльможнай спадарыні Прузыны Равіч-Валентыновіч у дарожку: кілбаска, гуска, рыбка і Немэш Кадар. І ня ўздумайце пярэчыць. Інакш будзеце мець справу з намі.

А тут Л ё л я:

-- Так. Будзеце мець справу з намі.

-- З вамі?

-- З намі.

------------------------

* дачушкі (польск.)

-- Ну, то тады няма выхаду, -- кажа Рамук. – Капітуляцыя. Прузыні Мікалаеўне найлепшыя зычэньні.

Так скончыўся для Рамука гэты верасьнёвы, цёплы, прыгожы дзень. Нечым вельмі родным веяла яму ад гэтай сям'і, нечым такім, што, як і ён, жыве ў стане ўнутранай эміграцыі ў сваёй краіне. Як добра, што ён спаткаў гэтых ласкавых паненак і пазнаўся з гэтымі людзьмі. Таксама і гэтак Беларусь жыве, думаў Рамук. Як шмат ён страціў! Як шмат ня ведае. Як шкода часу, патрачанага на пазнаньне непатрэбшчыны, дурноты і хлусьні. Толькі ж ужо цяпер ня будзе сумненьняў: "Мы знаем, што трэба рабіць".

* * *

Верасень – пара капаньня бульбы ў Беларусі. На вёсцы вельмі шмат працы. У калгасах не хапала працоўных рук. Дапамагалі студэнты і школьнікі. Нават заняткі ў інстытутах перапыняліся. Усе на бульбу!

У Рамука таксама студэнты. Адхіліцца немагчыма. І з кожным днём, як настальгія, смокча яго жаданьне бачыць Лену. Нешта тут вельмі глыбока зачапіла Рамукова сэрца.

У нядзелю ён прачнуўся рана-рана. Ляжаў у цемнаце і мроіў пра Лену. Стараўся прыдумаць нешта рацыянальнае зь іхнымі дачыненьнямі, але нічога яшчэ не прыдумвалася. Сон адляцеў, як ні было. Рамук устаў, пахадзіў па хаце, паглядзеў на гадзіньнік – роўна пяць раніцы. За вакном цемра і белы туман. Ну што ён тут будзе сёньня рабіць! Цэлы дзень думаць пра яе? Рамук пагаліўся, папырскаў на сябе "хвойным лесам", апрануўся і выйшаў на двор. Адчыніў брамку і выглянуў на вуліцу. Цемра і белае "малако". Рамук вярнуўся ў двор, залез у "газік", уключыў запальваньне, завёў матор і паехаў. І толькі ўжо прадзіраючыся ў малочнай імгле на шашу ўсьвядоміў, што едзе ў Менск.

У сталіцу дацягнуўся позна, каля адзінаццаці. "Газік" – гэта ня "Волга", 80 *км* максімум, а ў тумане яшчэ менш. У адзінаццаць туман разьвеяўся і засьвяціла сонца. Рамук пакінуў машыну на плошчы Леніна каля Педінстытута, пашпацыраваў па плошчы, падыйшоў да Дому кіно (былы касьцёл Сымона і Алены), паглядзеў на чырвоныя вежы без крыжоў, пакруціўся, глянуў на аб'явы перад фасадам: "У 12.00 кіналекторый..." і г. д. Далей чытаць ня стаў. Рамук прысеў на лавачку з другога боку вуліцы насупраць фасаду, знайшоў у кішэні дзьве капейкі, каб пазваніць з тэлефона-аўтамата, і задумаўся.

Неяк усё несур'ёзна выглядае. Яна ж разумная, здагадаецца, што "кліент сьпёкся" і не валодае сабой. Жанчыны такіх не паважаюць. Версію ён прыдумаў, але што тая версія, для каго? От жа праўда, што каханьне часам робіць людзей дурнымі. Поўная асталопаўшчына. Рамук аж злавацца на сябе пачаў. Ёлкі-палкі! Старшыня калгаса, гаспадар, сур'ёзны чалавек... Не, ну вы бачылі такога дурня?! Словам, у галаве ў Рамука быў поўны разброд. "Чалавек слабы", -- уздыхаў у думках Рамук, не шкадуючы сарказму супраць сваёй асобы.

Гэтак, рэгулюючы ў думках змаганьне разумнага Рамука з дурным Рамуком, ён глядзіць перад сабой і бачыць, як адчыняюцца дзьверы Дома кіно і на вуліцу выходзіць ... Лена. Тут абодва Рамукі ў яго галаве і анямелі. Праўда, разумны Рамук тут жа насьцярожыўся: Лена гэта ці Лёля? Але было ўжо позна. Паненка яго заўважыла, погляды іх спаткаліся, і па вачах Рамук зразумеў, што гэта Лена.

-- Ну і што вы там так доўга капаліся, Алена Аляксандраўна? – прамовіў Рамук, як ні ў чым ні бывала. – Мне ўжо надакучыла вас чакаць.

У гэты момант ён паверыў у свой лёс.

-- Ой, Роме, Рамане! – усклікнула Лена, -- вось гэта казка. Ты праўда мяне чакаеш? Адкуль ты даведаўся, што я тут?

-- Унутраны голас прывёў мяне па тваіх сьлядах.

-- Ой, Ромчык, як добра! Як добра, што мы спаткаліся.

Лена падышла да Рамука і разглядае яго, быццам ня верыць.

А Рамук:

-- Каго любіш?

Лена сьмяецца і сваё пытае:

-- Узаемна?

-- Узаемна, -- кажа Рамук.

Яны прайшлі на плошчу і прыселі на лавачку, акружаную прысадамі з кізілавых кустоў. Аказваецца, што ў таты-Равіча нейкі “аўрал” у міністэрстве, і Лена да раніцы сядзела з бацькам, дапамагала яму пісаць даклад. Дапамога яе заключалася ў друкаваньні тэксту на машынцы. Але гэта заняло амаль цэлую ноч, і Лена яшчэ толькі прачнулася ды выйшла ў Дом кіно дастаць білеты на кіналекторый па фільмах Таркоўскага, які пачнецца ў 12.00. Лёля з мамай Прузынай у 6.10 раніцы паехалі ў Вільню на “Чайцы”* ў касьцёл. Стомленую Лену нават не будзілі, а бацька паехаў у Міністэрства. Заўтра пленум ЦК і ўсе навокал, як прынята ў гэтай сістэме, стаяць на вушах. Ні субота, ні нядзеля тут ня лічыцца.

Лена спытала, як гэта Рамук апынуўся ў нядзелю ў Менску. А Рамук і кажа, што ўсё проста. Ён захацеў убачыць яе. Прыехаў, прысеў на лавачку насупраць Дома кіно і стаў чакаць. Адчыніліся дзьверы і выйшла Лена.

-- Ты жартуеш?

-- Я кажу чыстую праўду. Мне здаецца, што нягледзячы ні на што, нейкая сьветлая сіла дапамагае мне цябе ўбачыць.

-- Тады ў сапраўднасьці гэта выглядае так: “сьветлая сіла” дапамагае нам адзін аднаго ўбачыць.

-- Тады вось што, -- кажа Рамук, -- прапаную адкінуць Таркоўскага зь яго завумнымі практыкаваньнямі (гэта дзясятая справа) і паехаць па Беларусі. Паглядзім на Айчыну. У нас цэлы дзень наперадзе.

-- Згода! Выдатна! -- узрадвалася Лена, -- будзем глядзець на тое, што стварыў Бог.

Лена зайшла ў дом, напісала запіску бацьку, сабралася і яны паехалі.

Рамук кіраваўся па Маладзечанскай дарозе, якую добра ведаў. На хвіліну спыніліся ў Красным, паглядзелі на касьцёл і паехалі далей. Потым павярнулі на Плябань, спыніліся каля руін плябанскага касьцёла. Выгляд яго быў страшны: абшарпаныя сьцены бяз даху і высокі абабіты франтон, які, здавалася, вось-вось абваліцца. Руіны касьцёла выкарыстоўвалі для трэніровак спарцмэны-альпіністы, прыязджалі сюды зь Менска, убівалі штыры ў мур і лазілі па сьценах.

-- А тут, Рамане, маліліся паўстанцы Каліноўскага.

-- Адкуль гэта вядома?

-- З польскай даваеннай літаратуры. Мне тата казаў. Ён ведае ўсё. Тут у ваколіцах недзе пахаваны кіраўнік паўстанцкага атраду Юльян Бакшанскі.

-- Ведаеш, што я думаю. У наступны раз пасадзіць Аляксандра Якубавіча ў машыну і паезьдзіць зь ім па ваколіцах, пра якія мы ня ведаем.

-- О, гэта было б цудоўна.

Яны пераехалі на другі бок чыгункі. Адчыніліся далягляды. Зьлева ў далечыні ўзгорак, купка дрэў, старыя могілкі, што засталіся зь мінулага стагоддзя і зарасьлі кустамі. Справа, далей высокая доўгая гара, пераслая маладым хвойнікам. Гэта ці то падложжа старога замку, ці то былое гістарычнае гарадзішча. Так выглядае. Далей управа сенажаць, стары сад і цячэ рачулка, агінае гару. І называецца гэтае велічнае ўзвышэньне “Сьвятая гара”. А над усім тым асеньнія

---------------------------

* Цягнік “Менск-Талін” выязджаў на раніцы, вяртаўся вечарам. *(Аўт.)*

жоўтыя воблакі, падсьвечаныя верасьнёвым сонцам.

Рамук прыпыніўся і моўчкі глядзеў на сонечны далягляд. Яшчэ ў сухой траве чуваць было, як сакаталі конікі. Цёплы верасень. Першыя павуцінкі бабіна лета лятуць праз дарогу.

-- Успамінаецца Якуб Колас, праўда, -- азвалася Лена, гледзячы на сінія далі.

-- Але. Менавіта Колас,-- разважае Рамук, -- ніхто лепш за яго не адчуваў і не апісаў нашыя далягляды.

-- А вершы, якія сьветлыя вершы, напоўненыя сумам растаньня. Колас геній. Праўда, Роме? Лена ціха дэкламуе:

Белыя валокны
Сьцелюцца над долам,
Не сьпяваюць птушкі,
Сьціхнуў лесу шолам.

Сьцелюцца валокны,
Тчэцца павуціна –
Блізка, блізка восень,
Смутная часіна!

Зажурыцца неба,
Схованае ў хмары,
І агорнуць сэрца
Нейкі жаль і мары.

Рамук павольна паехаў палявымі дарожкамі між узгоркаў, парослымі сасняком, чырвонымі асінамі, жоўта-зялёнымі бярозкамі ды старымі хвоямі над сінімі валунамі, пакрытымі лішайнікам і ссохлай травой. Навокал жоўтыя пожні, залатыя іржышчы жыта, пшаніцы, ячменю, і толькі позьні авёс яшчэ шмат дзе стаяў на вялікіх абшарах.

Дарожка пятляла, як стужка, між узгоркаў і гор. Чародкі шпакоў узьляталі над іржышчам. Шмат іх было. Цэлыя хмары зьбіраліся ў вырай. Часам здавалася, што яшчэ быццам лета. Але гэта толькі яго адгалоскі ў россыпах палявых рамонак на западзінах і ўзвышшах ды рэдкіх запозьненых васількоў. Ужо рабіны над крушнямі ружавеюць і ськідае дзічка свае плады.

Дарожка забегла ў тупік. Тут паміж парослых гор над ручаінай яна скончылася, а далей відаць было гактары тры сенажаці зь няскошанай атавай і кавалак загаранага поля з тлустай рудой ральлёй.

Рамук спыніўся ў цяньку пад адзінокай хвояй ля падножжа стромай гары, парослай рэдкімі соснамі ды бярозамі. Па схілах гары перасьпелы авёс. Па ўзьмежку з карлікавымі дзічкамі і камянямі Рамук стаў падымацца на верх гары. Раптам яго зьбянтэжыла цішыня. Ён рэзка абярнуўся – а дзе ж Лена – і спаткаўся зь ёй твар у твар за паўмэтра ад сябе. Яна ціха ішла за ім, нібы цень.

Лена весела сьмяецца, гледзячы на спалоханы твар Рамука.

-- Я цень твой бацькаў, о Гамлет задуменны! – усклікае Лена. – Ты пра мяне забыўся, Ромчык? Не ўзаемна? – заліваецца сьмехам Лена. – Ох, пэўна іскра зьнікла, -- і сьмяецца сабе. – Гэта ж трэба – прывёз і забыўся.

-- Ды не забыўся ж якраз, а кожную секунду памятаю. Адным словам –

Ой, каля млына
Цьвіла каліна,
А дзе ж мая міла,
Што мяне не забыла?

-- Во, во, правільна – “не забыла”, а то некаторыя забываюцца.
-- Але мы такіх ня ведаем, праўда?
-- Праўда, Рамусёк, сьвятая праўда.

Тут “Рамусёк” нечакана для сябе і паненкі згроб Лену ў абдымкі і пачаў цалаваць. А бедная Лена (хаця чаго гэта яна “бедная”) задрыжэла, як асінка на ветры. Зямля захісталася і закружылася для абодвух.
-- Ой, Ромчык, -- кажа неўзабаве Лена, -- дай жа аддыхацца, сэрца дрыжыць, зараз выскачыць. Ой, да цябе і выскачыць.

Але гэты гад “Ромчык” і слухаць не хацеў, так яму спадабаліся тыя пацалункі.

Нарэшце крыху апамяталіся, сталі азірацца наўкола ды размаўляць.
-- Добра жыць на сьвеце, -- кажа Рамук, да якога стала вяртацца пачуцьцё гумару.
-- О, пэўна, што добра, -- сьмяецца Лена, -- а хто кажа, што дрэнна.
-- А будзе яшчэ лепей, -- кідае праз плячо Рамук, караскаючыся пад гару.

З гары адчыніўся далягляд дзівосны, як казка. Гэта Менскае ўзвышша, якое потым перацякае ва ўзвышша Ашмянскае і Лагойскае. Хвалістая зямля, марэнныя ўзгоркі, парослыя хвоямі ў абрамленьні іржышчаў, узаранай зямлі, асеньніх лугоў з коньмі на папасе, чародамі рабых кароў і стракатаньнем далёкага трактара. Хвойныя горы чаргуюцца, хвалююцца, нібы хвалі, зьбягаюць у далячынь, у сонечную смугу, у густое паветра, робяцца сінімі і фіялетавымі, і гэтая сінь чым далей, тым сьвятлейшая аж да гарызонта. І на самым небаспадзе ледзь віднеецца блакітнай сьвежай празрыстай стужкай, нібы мара з каляровага сну. Глядзіш – і чуецца музыка. Яна гучыць у сэрцы і ў галаве, у ветры і воблаках, ва ўсім целе... Бацькаўшчына, мілая і каханая.

Рамук і Лена прыселі на гары ў сухую траву пад вялікім сінім каменем. Шшу-у-у, шшу-у-у, -- шумела старая хвоя, згукваючыся з сакатаньнем конікаў у траве: шшу-у-у.

Яны доўга моўчкі глядзелі на далягляд, перажываючы адно і тое ж. Яны адчувалі сваю тоеснасьць між сабой і прыродай, і тым, што гэтая прырода для іх азначае.

Жоўтыя асеньнія воблакі, нібы воўна, плылі над даляглядам на лазурова-блакітным небе. Рамук адкінуўся на траву і глядзеў у нябёсы.
-- А ўяві, Лена, калі б не развейваліся блакітныя промні ў паветры і неба было б чорным – космас над намі і зоркі мігцяць, і сонца, як жар.
-- Тады было б уражаньне, што мы вісім над безданьню, -- прамовіла Лена. Яна памаўчала, гледзячы на воблакі і лазуровы блакіт, -- гэта было б жахліва. Гаргона-Мядуза.
-- Мы і цяпер над безданьню, -- разважае Рамук, -- але нас трымае наша Зямля, каб мы не зваліліся ў холад. Вось ужо сапраўды – мы яе дзеці. Мы чуем яе прыцягненьне.
-- Дзіўна, -- адказвае Лена, -- я ніколі не задумвалася над гэтым, а цяпер чую: яна сапраўды трымае мяне. І толькі таму, што неба блакітнае і ня бачна зор, мы не ўсьведамляем таго.

Настала маўчанка. Лёгкі ветрык ледзь чутна дыхаў у твар, амаль бязгучна трапятаў у асіне і зьбягаў у вершаліны хвой, разгуляўшыся ў вышыні. Шу-у-у, шу-у-у, шу-у-у, -- шумела высокая хвоя.
-- У шуме хвой, -- адзываецца Лена, -- чуецца шэпт вечнасьці. І слухаць іх можна вечна, -- дадае памаўчаўшы.
-- І яшчэ ў шуме хваль, -- кажа Рамук, -- толькі мора ў нас няма.
-- Наша мора – гэта наша зямля, -- адказвае Лена. – Пад вечным небам.

Рамук прыўзьняўся. Усьміхаючыся, яны глядзелі адзін аднаму ў вочы.

-- Лена, прашу цябе, -- неяк вельмі сур'ёзна загаварыў Рамук, -- пад вечным небам... пад вечным небам... Прашу цябе ... давай будзем разам навек. Я буду надзейным мужам. Вер мне – (Лена заплюшчыла вочы) – я вельмі, я вельмі кахаю цябе. Давай будзем.
-- Я веру табе, Рамане. Усё ўзаемна. У нас было так мала часу, толькі два месяцы.
-- Таму што гэта лёс.
-- Калі ў нас будзе шчасьце, то пасьля сьмерці, на нябёсах, мы станем адной душой.

Рамук паглядзеў на воблакі, што плылі над імі.
-- Мы станем адной душой тут, на зямлі, любая і каханая.

Рамук пахіліў Лену на траву і стаў яе цалаваць далікатна і пяшчотна ў вусны, вочы, шчочкі, вушкі і шыю, узяў яе руку, пацалаваў у далоньку і прыціснуў да губ.
-- О-ой, Ро-о-о-оме, -- толькі змагла прашаптаць Лена. Тут "Роме" ўзбадзёрыўся і пачаў цалаваць паненку ў адкрыты разрэз сукенкі, гладзіць яе плечы і грудзі, ад чаго бедная Лена (хаця, ізноў жа, а чаго яна "бедная") уся задрыжэла, як лісток, а нахабны Рамук у гэты мамэнт кладзе руку на яе прамежнасьць. Тут абодва, відаць, адчулі, як круціцца Зямля з захаду на ўсход. ("От і вер пасьля гэтага мужчынам", -- сказала б Ася Дарагакупецкая.)
-- Роме? Чуеш? Ты можаш выслухаць маё жаданьне? -- пытае Лена дрыжачым голасам.

Рамук узьняў галаву і глядзіць на яе.
-- Мілы Рамане, мы скора, вельмі скора станем мужам і жонкай, будзем разам навек... Мой любы, як было б добра, каб першы раз, што запомніцца мне на ўсё жыцьцё, каб першы раз адбылося б на шырокім шлюбным ложы, белым, як сьнег, і ўбраным кветкамі белых астраў, каб стаялі букеты на стале і падваконьніку, каб пахла бэзам у пакоі і ціха-ціха гучэла музыка аб нашым каханьні.., каб не пад каменем, не супраць запаведзяў.., не на траве...

У вачах яе стаялі сьлёзы ад пачуцьцяў і ўзбуджанага лібіда, ад сораму і страху, што ён не зразумее яе.
-- Я не адштурхоўваю цябе, мілы мой рыцар. Усё зраблю, як ты скажаш.., толькі пачуй мяне...

Рамук ня тое, што быў ашаломлены. Увесь юр яго выпарыўся, як ветрам зьнесла. У каторы раз ён адчуў сябе ніжэйшым і прымітыўным перад ёй – прыгожай, шчырай і высакароднай. Лапаць ён, а ня Шляхта. Гэтыя словы "не пад каменем", "не на траве" дзяўблі яго ў сьвядомасьці, як скасабочаная кружэлка. Рамук сядзеў і не варушыўся. Маўчаньне зацягнулася і пагражала ўжо чымсьці нядобрым. Але раптам Рамук павярнуўся да Лены і ўсьміхнуўся, а потым загаварыў (усё ж такі гумар яго не пакінуў):

Я бальны бескрыдлаты паэт
На хвіліну забыў сваё гора.
Можа верш маяго жыцьця сьпет,
Дык няхай вам хоць песьня гавора,
Як бальны бескрыдлаты паэт
На хвіліну забыў сваё гора.*

-------------------------------
* Цытата зь верша М. Багдановіча. *(Аўт.)*

Ах, як усхапілася Лена, як зразумела, як запляскала ў ладкі, як узрадавалася і загаварыла.
-- Брава, Ромчык! Брава! Люблю цябе, міленькі, люблю! Ах, як добра! Ах, як прыгожа! Ах, як у нас усё будзе хораша! І колькі шчасьця і сьвятла. Ля-ля-ля-ля-ля! – Лена замахала рукамі і закружылася ў танцы.

Тады гэты “Ромчык” таксама ўсхапіўся, згроб Лену на рукі і панёс уніз проста праз нязжаты авёс, імкнучыся яшчэ і падкідваць паненку ў гару. Гэтыя высілкі заканамерна спарадзілі ў яго дзелавітае пытаньне:
-- І колькі?
-- 72.
-- Э, глупства! Можна гнаць да дзевяноста. Я – за.

Дзіўная, мушу сказаць, звычка існуе ў мужчын. Ім у нейкі мамэнт конча трэба схапіць дзяўчыну і панесьці яе на руках. Нічога благога тут няма. Хай носяць сабе, калі ахвота. Але, як казаў Рафал Рубайла, чым лепшая жанчына, тым цяжэй падняць. Гэтае выслоўе ўскочыла ў галаву Рамуку і не вылазіць.
-- О, не, о, не, я не дазволю каханаму мужу надрывацца! – сьмяецца Лена. – А ты, мой міленькі, а ты, мой любенькі, нясі, нясі мяне, не паваліся, -- і ножкамі ў паветры трапеча і сьмяецца, рагоча, аж заліваецца.

У Менск вярнуліся каля шостай вечара. Лена пазваніла з тэлефона-аўтамата бацьку. Рамук зайшоў разам зь Ленай, каб павітацца з Равічам і ад’ехаць. Якраз зазваніў тэлефон. Гэта Лёля пазваніла з вакзала, што яны ўжо з мамай прыехалі ў Менск. Звычайна цягнік “Чайка” прыходзіў запозна, пасьля 20-й гадзіны, але на гэты раз яны аўтобусам даехалі да Ашмян. З Ашмян да Маладзечна, і з Маладзечна электрычкай у Менск. Такі атрымаўся хуткасны ваяж.

Рамуку прышлося застацца і пачакаць Лёлю з Прузынай Мікалаеўнай. Неўзабаве дзьверы адчыняюцца, і на парозе ўзьнікае Лёля.
-- Ах, Рамэа! – усклікае Лёля, -- як добра, што вы ў нас. Мы вас так даўно ня бачылі, што думалі ўжо нават пачаць злавацца. Ажно вы, такі мілы, пазбавілі нас ад гэтага непрыемнага пачуцьця.
-- Вітаем, вітаем, пане Рамане, -- кажа Прузына Мікалаеўна, -- як добра, што мы сёньня раней прыехалі і вас убачылі. Мы зараз будзем вячэраць, піць гарбату і смакаваць віленскі торт. Ох, як толькі мы яго давезьлі!

Усе сабраліся ў залі за авальным сталом. Гаварылі пра Вільню, зноў пра Тарашкевіча, Адама Станкевіча, Яна Пазьняка, Рыгора Шырму, Максіма Танка і Забэйду-Суміцкага.
-- Ведаеце, -- кажа Равіч, -- некаторыя экспэрты ставяць Забэйду-Суміцкага трэцім тэнарам у сьвеце пасьля Каруза і Собінава. А я вось што вам скажу. У нас сёньня ёсьць тэнар, які абставіў іх усіх, і ніхто ў сьвеце пра тое ня ведае.
-- Так-так, -- кажа Лена, -- гэта праўда.
-- Ой, хто гэта, што мы ня ведаем? – усклікае Лёля.
-- Зіновій Бабій, саліст нашай опэры.

Запанавала цішыня.
-- Гэта магутны тэнар, -- урачыста аб’яўляе Равіч, -- і выкананьне “ад клясы”.
-- Мне дык цяжка параўноўваць, -- кажа Лёля. – Карузу я толькі ў дзяцінстве чула ў нейкім трафейным кіно, а Собінава па савецкім радыё ў катастрафічна дрэнным запісе.
-- Але паверце мне, -- кажа Равіч, -- Бабій тэнар і сьпявак экстра-клясы. Уся яго бяда, што ён сьпявае ў Менску, у Беларусі, а не ў Маскве. Масква не дае яму ніякага ходу ў шырокі сьвет, ніякіх замежных гастроляў, ніякіх выездаў, бо ў Маскве такога, як ён, не было і няма. Ня будзе ж Масква масьціць славу Беларусі. Гэта, скажу я вам, трагедыя вялікага таленту. Ён вялікі тэнар, а пра яго мала ведаюць,

мала пішуць (бо часам ня здольныя аценіць). А ў тэатры зайздрасьць супраць яго. Вынік празаічны – Зіновій пачаў піць. Сьпіваецца самабытны талент.
-- Татачка, а як жа ваша міністэрства? – усклікае Лена.
-- Усім начхаць. Яны Зыкіну слухаюць і “Валенкі”. А міністар увогуле балерын любіць. У іх свой падыход да мастацтва.

Потым яшчэ гаварылі пра архітэктуру Вільні і Менска, пра Сыракомлю ды Марцінкевіча. А Равіч расказаў, як узрывалі Даміниканскі касьцёл і кляштар у Менску ў 1950 годзе.

Засядзеліся позна. У перапынку Рамук выйшаў зь Ленай на балькон і кажа:
-- Леначка, канкрэтная прапанова: у наступную нядзелю я прыязджаю і афіцыяльна прашу тваёй рукі ў бацькі і маці. Папярэдзь іх, калі ласка. Ці ты згодна на тое?
-- Ох, выпрабаваньне, -- усьміхаецца Лена. – І што далей?
-- Далей праз тыдзень ЗАГС.
-- І ўсё?
-- А што яшчэ?
-- Ты ж усё ведаеш, Рамане. Забыўся пра самае галоўнае.
-- Што я забыўся? – зьбянтэжыўся Рамук.
-- Шлюб адбываецца ў нябёсах.
-- А-а-а... Прабач. Я згодны. Ну, вядома ж, я не бязбожнік ужо. Я ахрышчаны каталіком. Я цябе ... шаную цябе.
-- Гэта мусіць адбыцца толькі ў Вільні. Папярэдне трэба будзе дамовіцца. Тут цяпер ужо ня проста. Трэба ўмець. Папрашу маму і Лёлю. Рамане, -- Лена неяк ні то гарэзна, ні то загадкава заўсьміхалася, -- ты павінен ведаць, што я абсалютна здаровая асоба, мне нічога не баліць, у родзе не было ні дурняў, ні вар’ятаў, але шмат было агрэсіўных ваяроў і змагароў. У мінулым годзе на апошнім курсе інстытута я ўступіла ў кампартыю, у КПСС, адзіная на ўсім факультэце.

Узьнікла маўчаньне. Такое ўражаньне, што Рамука стукнулі кувалдай па галаве.
-- Тата параіў і дапамог, -- працягвала Лена. – Яго прынцып такі: калі зараз ня будзем у кампартыі, то апынімся на нізах грамадзтва. Нельга дапусьціць, каб беларусы сталі нізам, а манголы верхам.

Рамук і сам так думаў і казаў, і таго трымаўся, але у чарговы раз адчуў сябе зьбянтэжаным ад нечаканасьці, бачачы спакойную волю і сьветлы розум сваёй каханай. Аказваецца, што, закаханы па вушы, ён яшчэ проста недаацэньваў яе.
-- А як жа касьцёл?
-- Богу Богава, а каралю каралёва. Я не прадаю душу (ні я, ні тата). Але аб нас нельга выціраць ногі. Мы ня будзем у іх людзьмі другога гатунку. Ты сам дакладна думаеш таксама, -- працягвае Лена, памаўчаўшы. – Я ж ведаю. Ну скажы, што так. – Лена з замілаваньнем глядзіць на Рамука.
-- Цяпер я зразумеў, -- кажа Рамук, -- што ты ёсьць Дар Божы. Мне нават страшна да цябе дакрануцца. Я буду насіць цябе, як крыштальны посуд, як Грааль, і зьдзьмухаць пылінкі, і каб нідзе нішто на цябе ...

Лена засьмяялася і наблізіла далонь да яго вуснаў.
-- Ромчык, мілы, а пацалуй мяне ў далоньку.

Рамук асекся і цалуе далоньку Лены.
-- Во, раток заняты, -- усьміхаецца Лена, -- і не кажы ні пра посуд, ні пра крышталь. Гэта ты мой Дар Божы, Ромчык, ты! Які ў нас сёньня шчасьлівы Боскі дзень! Праўда?
-- Праўда. А будзе яшчэ лепей!
-- Віват! – залiваецца сьмехам Лена.
-- Тройчы віват! Перамога за намі.

* * *

З бульбай управіліся. Там пайшлі буракі, морква. Усё ўрадзіла. Праўда, радасьці мала. Усё пойдзе ў Маскву. Рамуку і мэдаля не дадуць, хіба грамату ці якую іншую савецкую прыдумку.

Неяк у чацьвер вечарам на хатні тэлефон Рамука пазваніў Рубайла. Размова гэтых двух спадароў пачыналася даволі арыгінальна, па прынцыпу сапсаванага тэлефона і тычылася сур’ёзных жыцьцёвых спраў.

-- Рамук, -- загрымеў Рубайла, -- прыязджай, не пашкадуеш. Я сваё слова стрымаў. Шэсьць дзевак, братка.

-- Якіх шэсьць дзевак?

-- Слухай, ты не валяй Маньку! Тут ужо не адкруцішся. Словам, прыязджай на агледзіны і на выбар.

-- Растлумач, пра што ты гаворыш.

-- Ну, тады слухай. Шэсьць дзевак, братка, адна ў адну. Праўда, значыцца, так: дзьве пышныя, дзьве сярэднепышныя і дзьве проста дзеўкі, але файныя. Дзьве (каторыя пышныя) па дзесяць класаў, дзьве, каторыя сярэдняпышныя, -- заатэхнікум і медвучылішча, дзьве “проста дзеўкі” – вышэйшая адукацыя (аграном і галоўны лекар шпіталю). Праўда, 30 гадоў, але баба, што трэба: і прыгожая, і разумная, і замуж хоча. Зрэшты, братка, прыгожыя ўсе. А з розумам ужо сам разьбярэшся. Так што давай, братка, скора, а то сьскіснуць. Пачнем з пышных, як ты і хацеў. Я ўжо іх папярэдзіў. Рамулька, браце, адну завуць Кася – “касіў Ясь канюшыну”! Збылася мара паэта, як па задніцы плясьнеш, то йшчэ назаўтра дрыжыць.

Пакуль Рубайла гаварыў, Рамук успомніў тую даўнюю гаворку за сталом напаўжартам і ўсур’ёз. Мінула два месяцы, а быццам два гады. Так усё перамянілася. Перамяніўся і сам Рамук. Якая там “пышная”! Хіба ў гэтым справа. Усё перакулілася дагары нагамі.

-- Рафал, слухай. Я яшчэ раз пераканаўся, што ты надзейны чалавек і сапраўдны сябра. Рафале, я зьбіраюся тут жаніцца. Закахаўся, як школьнік старэйшых класаў. Ды так, што нават, каб быў султанам, усяроўна жаніўся б на адной. Распускай тую шасьцёрку. Адбой. Прабач. Ну, так сталася.

-- Рамук! – зароў Рубайла. – Гэта такія дзеўкі! Такія дзеўкі! Я іх усіх абнадзеіў.

-- Навошта ты іх абнадзеіў?

-- А каб выпендрываліся, братка. Конкурс. Хай шавеляцца. Ну ты мяне падвёў! Без нажа зарэзаў.

-- Рафале, спакойна! Ты ж геній. Ты геній сацыяльнага сьвету. Знайдзі ім шэсьць хлапцоў і пажані. Век памятаць будуць. Што табе адбудзе?

-- Рамук! Ты мне сябра ці ня сябра? Ты што вырабляеш?! Як я дзеўкам у вочы глядзець буду? Ёлкі-палкі, лес зялёны! Галоўны лекар шпіталю, блін!

-- Пры чым тут блін?

-- Ды ты нічога не разумееш! Ты ад жыцьця адстаў.

-- Слухай, Рафале, гэта анёл, гэта казка, а не дзяўчына!

-- Ну, казка ні казка, а ўсё ёсьць і ў галаве, і ў лытках, і лечыць добра, ніхто ня жаліцца, ніхто не памёр.

-- Слухай, што ты вярзеш?

-- Ну, тое, што ты кажаш.

– А што я кажу?

-- А я што кажу?

-- Ціха! Чакай, -- кажа Рамук, -- пра што мы гаворым?

-- Пра дзевак гаворым, ёлкі ў лесе, ты што, з быка зваліўся?

-- Рафал, распускай дзевак. Я сам тут знайшоў сабе дзеўку. Зразумеў?

-- Ён сам сабе знайшоў – віншую! А мне што тут зь дзеўкамі рабіць?
-- Рафале, казка пра папа з сабакам. Выдай іх замуж.
-- Ну, уліп я з табой, братка, уліп! Гэта ж падрыў аўтарытэту! Я ж тут ня цюцька, ня баба з рынку, а? Што ты нарабіў?!
-- Рафале, прабач. Але слухай. У першую суботу кастрычніка прыязджай да мяне ў госьці з жонкай. Запрашаю. Да гэтага часу мы зь Ленай возьмем шлюб. Будзе вузкае кола сяброў. Так вырашылі. Пагаворым. Яна свая. Лепш за нас разьбіраецца. Ну, чакаю цябе, Рафал.
-- Ды ўжо прыеду, -- прабурчэў Рубайла. – Такія дзеўкі, халера, такія дзеўкі!..

* * *

Далей усё пайшло па плану. Рамук папрасіў у Равічаў рукі Лены, заказалі пярсьцёнкі і сталі рыхтавацца да Вільні. Там справа склалася складана. Законы былі не на карысьць маладых, а КГБ імкнуўся шчыльна кантраляваць касьцёл. Спрытная Лёля (трэба аддаць ёй належнае) заплаціла вялікія грошы “на косьцюл сьвенты”, і гэта вырашыла справу. Ні Лене, ні Рамуку пра тое не сказалі.

Калі маладыя сталі на калені перад алтаром, Рамук раптам адчуў, як гарачая хваля запоўніла яго істоту, узьнікла адчуваньне чагосьці вельмі важнага, што адбываецца недзе там і тут адначасна. Душа напоўнілася нейкім іншым і нібыта знаёмым быцьцём.

Рамук асьцярожна зірнуў на Лену. Губы яе шавяліліся, вільготныя вочы ўзьнятыя ўверх да Укрыжаваньня. Аблічча яе было прыўкрасным. Нішто так ні ўзвышае чалавека, як чыстая малітва да Бога, як вера ў вечнае існаваньне добрых, сьветлых прыгожых душ.

Зь Вільні прыехалі рана, яшчэ не было і 15-й гадзіны. Пасьля кароткага ўрачыстага сямейнага абеду, дзе ўсе віншавалі Лену і Рамука, маладыя, селі ў вядомы ўжо “газік” і паехалі ў калгас да Рамука. Самае пікантнае, што Лена сюды ехала першы раз, пагадзіўшыся на любыя ўмовы. Традыцыя абавязвае. Але ёй было трошкі трывожна. Усё ж такі яна расла, жыла і выхоўвалася ў гарадзкіх абставінах, і шмат што ёй тут будзе незнаёма. Тым ня менш яна гатовая была на ўсё.

Рамукова цэнтральная сядзіба калгаса – гэта было такое тыповае колішняе мястэчка з разбуранай цяпер царквой і касьцёлам. На абшарпаным франтоне касьцёла бяз даху ўмясьцілася бусьлянка. Мястэчка было добра-такі запушчаным, але дзе-нідзе парадак ужо быў відаць, найбольш каля школы, сельсавета, клубу, канторы калгаса, шпіталю, аптэкі, пошты, амбулаторыі. Пад вокнамі расьлі жоўтыя юргіні і іншыя кветкі, дзе-нідзе астры.

Рамук быў купіўшы за бясцэнь “бросавую” хату ў тых, хто перасяліўся ў горад, адрамантаваў яе, зрабіў ванную, санвузел, кухню, газ, перабраў і пераклаў печы, -- словам, зрабіў усё, як трэба для цяперашняга чалавека, і жыў адзін. Дык, як мы ўжо ведаем, некаторыя маладзіцы і дзеўкі пра тое любілі пагаварыць. Але Рамук быў стойкі (хаця ведаем мы ўжо ягоную стойкасьць).

Рамук адразу заехаў у школу да Альховікаў і забраў у Тані апошнія белыя і ружовыя астры. Ён пазнаёміў Альховікаў зь Ленай і сказаў, што яна настаўніца нямецкай мовы. Тут Альховік узрадваўся, бо нямецкую мову ў школе выкладаў настаўнік геаграфіі. Профільнай “нямчуры” ў школу не прыслалі.

Лена ўвайшла ў Рамукову хату, стала пасярэдзіне і разглядаецца. Хата была, што называецца, “на два канцы” і пасярэдзіне кухня. Праўда, палову аднаго канца займалі ванная, складзік і санвузел, затое другі канец быў прасторны (недзе

пад 50 мэтраў квадратных) і служыў Рамуку жыльлём, спальняй, гасьцінай і кабінетам адначасна. Тут Рамук пасьпеў толькі паставіць вялікі драўляны сасновы двухспальны ложак і складную шырму (для цнатлівай жонкі) з узорамі лятучых буслоў і вясеньніх краявідаў. У пакоі было чатыры вакны з цюлевымі гардзінамі, але бяз штор. Рамук жыў адкрыта. Кожны мог бачыць вечарам пры сьвятле ягоную прысутнасьць у хаце і назіраць, што ён там робіць. Для Лены гэта здалося вельмі дзіўным. Але потым аказалася, што хата мае акяніцы, якіх яна адразу не “зафіксавала”. Рамук тут жа зачыніў іх, пакінуўшы адно вакно, што выходзіла ў куст бэзу.

-- Біттэ, фраў, кірхэ ўнд кюхэ*, -- кажа Рамук, адчыняючы кухню.

-- Унд кіндэр, -- сьмяецца Лена. – Эс лебэ унзэрэ гайлігэ цукунфт!**

Рамук паказаў Лене кухню, і яна стала рабіць гарбату, а Рамук заняўся сур’ёзнай справай. Ён разаслаў белы, як сьнег, ложак, панатыкаў за плечыкі і дзе магчыма белых астраў, расставіў букеты на падваконьніках. Вялікі букет з ружовых астраў паставіў на стол, засланы белым абрусам. Потым ён уключыў радыёлу і паставіў кружэлку зь “Лявоніхай”, адрэгуляваў ціхенькі гук і пайшоў на кухню.

Яны напіліся гарбаты. Рамук частаваў Лену яшчэ антонаўкамі, цукіні, мёдам з вашчынай і калінавым сокам, на што Лена сказала, што калінавы сок яна каштуе ўпершыню і для яе гэта сельская экзотыка. А потым Рамук і кажа:

-- Мілая, любая Лена, ты ёсьць мая каралеўна, і тваё слова для мяне значыць. Прашу зайдзі ў нашу сьвятліцу рыцара Раймонда Шляхты, які будзе сьцерагчы твой гонар і свабоду ўсё адмеранае нам жыцьцё.

-- О, цікава, і што нам прыдумаў мілы рыцар Раймонд Шляхта, сьмяецца Лена і ідзе ў сьвятліцу, спыняецца пасярэдзіне і разглядаецца наўкола. Рамук уключае “Лявоніху” і прытанцоўвае сабе.

-- Цікава, ці гэта я сёньня буду адзін танцаваць, ці разам? Во пытаньне, сказаў прынц Гамлет.

-- Разам-разам-разам! – аж закрычала Лена. (Ох, трэба было яе бачыць!) Яна кінулася Рамуку на шыю і павісла на ім. І так ён кружыў яе па сьвятліцы, абымаючы і цалуючы.

А што было потым, спадарства, я ня ведаю, бо пры гэтым не прысутнічаў. Можа, яны абмяркоўвалі міжнароднае становішча, можа, разважалі пра опэрную музыку, мо гаварылі пра капаньне бульбы ў калгасе – хто яго ведае. Чаго ў сьвеце ні бывае і пра што толькі ні гавораць у ложку добры муж з каханай жонкай. Так гэта яно ёсьць, панове.

* * *

Праз два дні, у сераду, была працэдура ў Палацы шлюбаў у Менску на вуліцы Камуністычнай. Усё адбылося фармальна прыгожа. Былі запрошаны толькі сваякі і некалькі сяброў з абодвух бакоў. Пасьля Палацу шлюбаў усе сабраліся ў Равічаў і адзначылі гэтую знакамітую падзею. Найбольш радавалася Лёля. Яна то гаварыла кароткія сьпічы, то чытала вершы, то абдымала і цалавала сястрычку і “Ромчыка”, уздымаючы ўсіх сваёй весялосьцю. А потым Лёля іграла на фартэпіяна (спэцыяльна дастаўленым сюды з пакоя Лены і Лёлі) то фугі Баха, то нейкі “уан-стэп”, то “Лявоніху”. Пачала нават першыя акорды “Мы выйдзе шчыльнымі радамі”, але Равіч тут жа зрэагаваў: “Лёля, гэта не цяпер, а зараз паланэза”. Тут мала хто зразумеў, пра што справа, і ўсе слухалі паланэза Агінскага.

---------------------------------

* -- Калі ласка, спадарыня, царква і кухня. *(Ням.)*

** -- І дзеці... Няхай жыве наша сьвятая будучыня! *(Ням.)*

У суботу Равічы заказалі амаль палову залі ў вялікім рэстаране "Журавінка", сабралі знаёмых, калег з усіх бакоў і наладзілі вясельны вечар. Відаць, найбольшая пакута ад гэтага ўсяго была для маладых. Але выцерпелі з годнасьцю. Назаўтра нядзеля, дык адсыпаліся ўсе да паўдня.

Устаўшы, Рамук, які схуднеў ад свайго шчасьця і клопатаў зь ім зьвязаных, кажа Лене, што ў наступную суботу да яго ў калгас прыязджае Рубайла, а на нядзелю там прызначаецца стол і зборка для ягонай радні і сяброў. Усім Равічам трэба быць там, каб пазнаёміцца.

Аляксандар Якубавіч адразу сказаў, каб не разьлічвалі на яго. Ёсьць шмат чаго за тое, каб яму ў такую даль ня ехаць. Рамук пагадзіўся і сказаў, што ў такой сытуацыі пазнаёміцца можна і ў іншых абставінах.

У пятніцу Лена ўзялася была за падрыхтоўку стала да нядзелі, але Рамук запярэчыў. У нас, кажа, мядовы месяц і не сьпяшайся ўлазіць у быт. Ёсьць каму дапамагчы. Ён запрасіў суседку Стасю і яшчэ адну кабету, такую Валянціну з палявой брыгады. Гэтыя жанчыны падрыхтавалі, што трэба.

* * *

Рубайла прыехаў у суботу пасьля абеду адзін, без Яніны. Пазнаёміўся зь Ленай, пагаварылі, пасядзелі за сталом. Потым Рамук з Рафалам паехалі ў поле "паглядзець на зямлю". Спыніліся на ўзьлеску, прыселі на паваленае дрэва.

-- Ну, я табе скажу, Рамук, і дзе ты такую каралеўну знайшоў. Цяпер такіх жанчын і ня водзіцца.

-- Водзіцца, -- адказвае Рамук, -- трэба месцы ведаць.

-- Ну, хіба што. Словам, віншую, дай, Божа, шчасьця. Пытаньне: ці прыяжджаў Лапаць?

--Не.

-- Ну, то прыедзе. Што я пра яго думаю. Такіх балваноў у ЦК не павінны браць. Яго прасунуў КГБ, бо гэбэ ня мае права падслухоўваць тэлефоны і размовы кіруючых цэкістаў, таму трымае там сваіх стукачоў.

-- Але кожнаму цэкісту, пачынаючы ад намесьнікаў загадчыка аддзела, даюць гэбоўскае афіцэрскае званьне на выпадак вайны. КГБ знаходзіцца поўнасьцю пад кантролем ЦК.

-- Гэта яшчэ невядома, хто каго кантралюе, братка. Але добра, ня буду гадаць. Хаця мой нюх яшчэ мяне не ашукваў. Лапця да мяне фармальна праслаў ЦК (што ў гэтым выпадку не тыпова), але па сутнасьці яго накіраваў КГБ, і інтарэс гэбоўскі ня столькі да мяне, колькі да цябе, бо ты ў іх на ўліку, а працуеш на кіроўнай пасадзе і носіш партыйны білет.

Яны, відаць, хацелі зразумець, чаго ты прыязджаў да мяне, а мяне спляжыць праз самагонку і ўзяць на кручок.

Цяпер во пускаюць чуткі-плёткі, што быццам бы нейкія адшчапенцы хочуць падарваць КГБ у Баранавічах. Гэбістам цяпер няма чаго рабіць, а трэба ж рухацца па службе, зоркі на пагоны хапаць. Вось і прыдумваюць. Ня выключана, што нейкага арганізуюць, як некалі ў Менску, а мо' і пасадзяць.

-- У Менску ж тады, як мы былі ў ВПШ, пасадзілі аднаго. Радыёглушылкі хацелі падарваць.

-- Тут, братка, схема простая: агент сам ініцыюе падрыў. Знаходзіць двух, гатовых да справы. Ужо група. Яны пачынаюць падрыхтоўку. Тады агент іх здае. Бедалаг садзяць у турму, а ўвесь аддзел КГБ атрымлівае зоркі на пагоны.

Тут тое самае. Ім хочацца падымацца па службе, павышацца ў званьнях. Таму я кажу: будзь гатовы, прышлюць. Я ўвогуле думаю, што Лапцю там далі ўжо

пагоны. Ты разумееш, яго не пазнаць. Бяз хвігі не да носу. Мяне ледзь прызнае. Важны такі. Мала гаворыць.
-- Ёсьць трохі самвыдату нашага, беларускага, -- кажа Рамук. – Возьмеш?
-- Вазьму, але распаўсюджваць ня буду. Перакіну хіба на іншых. Ёсьць пару маладых, але іх лепей не ўключаць. Небясьпечная публіка.
-- Але і там мусіць быць.
-- Там і праваляць, братка. Яны яшчэ без мазгоў. Ім жа трэба засьвяціцца!
-- Ня кожны здольны на доўгую жмудную працу, -- разважае Рамук. – А не стварыўшы асяроддзя і сваіх людзей на сваіх месцах, нічога само не паедзе. Трэба школы захаваць. Маючы патрэбных людзей, можна супрацiўляцца.
-- Ведаеш, -- мяркуе Рубайла, -- калі лагічна пракруціць палітыку і сытуацыю з эканомікай, то рана ці позна сістэма ўсё задушыць. І нас з табой таксама.
-- Пэўня, калі зыходзіць зь вечнасьці сістэмы. Рафале, гэтая каланіяльная сістэма ня можа існаваць доўга. Мы ня ведаем, калі дакладна, але ёй прыйдзе канец. І вось тут выйграе той, хто будзе найлепш падрыхтаваны да канца сістэмы. Мы з табой, спрачаючыся, таўчэм ваду ў ступе. Уся бяда ў тым, што ў выніку прапаганды гэтае грамадзтва настроілі на вечнасьць і ўсясільнасьць СССР. І таму, практычна, мала хто рашаецца нешта рабіць. Прапаганда зацямніла рэальнасьць. Вось чаму я на маладых і дурных, як ты кажаш, гляджу ўсё ж з увагай і рацыянальна, бо яны хоць не баяцца. Дарэчы, і мы з табой яшчэ маладыя.
-- Ага. У душы, -- устаўляе Рубайла.
-- Цяпер глядзі, ці ведаеш ты гэтыя кніжкі?

Рубайла чытае: “Што трэба ведаць кожнаму беларусу”; Ластоўскі: “Гісторыя Беларусі”, 1910 год.
-- Гэта ж старыя кніжкі. Дзе гэта ты дастаў?
-- У Вільні ў букіністычнай кнігарні. Там нават ёсьць “Гісторыя беларускай крыўскай кнігі” Ластоўскага. Тут яна пад забаронай.
-- Трэба перазьняць, -- кажа Рубайла.
-- Зраблю. Я ўжо дамовіўся тут з хлапцом праз фізрука. Ён у дзясятым класе і добра фатаграфуе, мае “Зэніт”. Дык ён, як прачытаў, сам папрасіў, каб перазьняць і мець сабе копію.
-- Дык хай бы і мне зрабіў, даю яму грошы на паперу. А “Самвыдат” чый?
-- Скажу шчыра – адзін артыкул мой, другі зь Менску праз пятыя рукі. Ёсьць там такі хлапец Барэйша, выгналі з БДУ.
-- Во, братка, сьвет цесны! – усклікае Рубайла, -- павярнуцца няма дзе. А як наконт ідэнтыфікацыі?
-- Будзь спакойны. На гэта асобная машынка. Дарэчы, тут ужо мне Лена дапамагла.
-- Ты пра такога Дзюбайлу часам ня чуў? – пытае Рубайла.
-- Не. А што?
-- Зьявіўся тут адзін. Хацеў мяне перапіць. Дудкі.
-- Шпег?
-- Ды не. Свой “ругацель”. Назіраю. Ведаеш, “на нашай бязрыбе і жаба кандыбе”.

* * *

У нядзелю выдаўся рэдкасна цёплы і сонечны кастрычнецкі дзень. Да сярэдзіны дня сабраліся ўсе запрошаныя Шляхты: бацька Базыль, маці Леакадыя і дзядзька Аляксандра. Ад Равічаў Лёля і мама Прузына. А яшчэ Рамук запрасіў Альховікаў, Кур’яновіча і дырэктара СДК (сельскі Дом культуры, клуб) Леаніда Івуця, які быў сакратаром партарганізацыі, чалавек памяркоўны, разумны і ня шкодны, прыхільнік Рамука.

Бацькі Рамука былі ўжо даўно на пэнсіі, але выглядалі надзіва маладымі. Базыль Шляхта высокі ў карычневым крэмпленавым касьцюме-тройцы ў палоску, белай кашулі і пад карычневым гальштукам-матыльком. Чорныя валасы, як і ў Рамука, былі коратка падстрыжаныя "вожыкам" і на ўвесь твар віселі абвіслыя чорныя вусы. Не хапала толькі ланцужка ад кішэннага гадзіньніка ў жылетцы і чорнага кацялка ці "канацьe" на галаве. А так -- жывы партрэт спадара пачатку стагоддзя. Але, нягледзячы на свой крыху экстравагантны выгляд, бацька-Базыль быў чалавекм надзвычай простым у абыходжаньні і далікатным.

Маці Леакадыя – усьмешлівая жанчына з сумнымі вачыма, апранутая ў цёмна-сіні касьцюм і белую блюзку, часта, нібы папярэджваючы неразуменьне, казала "выбачайце", "калі дазволіце", "мне вельмі прыемна", "калі ласка", "дзякую", "ня шкодзіць", "няма клопату", "усё так хораша" і г. д.

Неяк крыху асабняком выглядаў дзядзька Аляксандра, малодшы брат Базыля. Апрануты ў шэры пакамечаны касьцюм, сівы, як лунь, ён выглядаў замучаным і старым. Толькі вочы яго, жывыя і разумныя, выяўлялі яшчэ моцны бадзёры дух.

Рамук вельмі ўзрадваўся, убачыўшы дзядзьку. Яны абымаліся, пляскалі адзін аднаго па плячах, радасна гаварылі. Відаць было, што Рамук вельмі любіць дзядзьку Аляксандру.

Усе ўжо ведалі, што ён быў асуджаны саветамі на 25 гадоў і 22 гады адбыў у страшным лагеры на Калыме, адкуль жывымі не вярталіся. Тут, ведаючы тое, адносіліся да Аляксандры з увагай і павагай.

Сядзелі за сталом да вечара. Пілі за шчасьце Рамука і Лены, шмат гаварылі на розныя тэмы. Аказалася, што тут сабраліся падобныя па духу людзі. Ніхто не заглыбляўся надта глыбока ў ацэнкі, пазьбягаючы спрэчак, разумеючы ня толькі блізкасьць, але і рознасьць прысутных. Усім было цікава.

Лена шчыра пашкадавала, што асьцярожны бацька Равіч адмовіўся ад гэтай паездкі. Зрэшты, ён лепш разумее, што трэба рабіць.

Усе разьехаліся вечарам, акрамя бацькоў Рамука і дзядзькі Аляксандра. Ім не было куды сьпяшаць. Усе ўспадабалі Лену і калі глядзелі на абодвух маладых і ўзьнёслых, то вочы бацькоў аж сьвяціліся радасьцю, цёплая ўсьмешка не зьнікала з вуснаў, а дзядзька Аляксандра, паназіраўшы за Ленай, увогуле быў на сёмым небе ад радасьці за пляменьніка.

* * *

Падышоў кастрычнік, і пачалася вучоба на ўсіх мастацкіх катэдрах. Вельмі хвалюючая пара, калі студэнты зьяжджаюцца ў свой інстытут пасьля лета, спатыкаюцца, абымаюцца, радуюцца спатканьнем і працягу навучаньня.

Хлопцы сабраліся на катэдры жывапісу і абмяркоўвалі лета. Не было яшчэ Бальцэвіча, Юргеля і Брылеўскай. Аж тут зьяўляецца Людвіся загарэлая, сьмяецца, здароўем пырскае і пружыніста падскоквае, як мячык.

-- Вітаю жывапудлаў! – усклікае весела з парога. – Хлопцы, як вы ўзмужнелі, якія вясёлыя! Віталька, ты зух! Цалую ўсіх!

-- Увага! – крычыць Хведар, -- усе цалуем Людвісю! "І толькі адзін раз", -- чуецца голас. – "І толькі члены прафсаюза", -- дадае нехта.

Словам, сьмех і рогат. О, студэнцтва! Беларускае студэнцтва! Незабыўная пара.

Прыйшлі Антось Бальцэвіч зь Юргелем. Зноў усе крычэлі, пераабдымаліся, перажартаваліся.

Калі ўсё крыху выраўнялася і пачаліся спакойныя размовы, Антось і кажа:

-- Сябры, хлопцы, дзяўчаты, у нядзелю а 18-й усе зьбіраемся ў майстэрні на вышыні. Будуць новыя людзі з Акадэміі Навук з Маладзечна, з Баранавічаў, прыедзе Ермаковіч – наш гісторык і паэт. Так. А пропо і нотэ бэнэ* – гарэлкі ня несьці, толькі вінаграднае віно. Хто прынясе – таму штраф і пакараньне.
-- Правільна! – устаўляе Юргель, -- прымусім усю гарэлку выпіць самаму і пакінем на вуліцы ў гарызантальным стане.

Калі пасьмяяліся, Антось кажа:
-- Нясіце прапановы, што зрабіць да Новага года. У мяне ўжо ёсьць.
-- Што ў цябе ёсьць?
-- Перасоўная мастацкая выстава па гісторыі Беларусі і беларускі спэктакль.
-- Спэктакль! Цікава, ты што, каго з акцёрскага хочаш падключыць? Зь іх нічога ня будзе.
-- Самы паставім.
-- Ну, фантазіі.
-- Можа і фантазіі. Але калі добра абмяркуем, то ўбачым, што не такія ўжо гэта і фантазіі.
-- І які спэктакль?
-- Нейкую кароткую п’есу.
-- Якую?
-- “Прымакі”.
-- Не, хопіць п’янства!
-- “Зьбянтэжаны Саўка”?
-- Трэба падумаць.
-- “Паўлінку”, -- кажа Брылеўская.
-- Не пацягнем.
-- А ты што думаеш?
-- “Міхалку” Далецкіх. Вельмі сьмешная і п’янства няма.
-- Першы раз чуем пра такую п’есу, -- пачуліся галасы.
-- На зборцы можам пачытаць – урвецеся ад сьмеху.

Калі ўсе разышліся, дык засталіся толькі Бальцэвіч і Брылеўская. Уражаньне, што яны нібы пільнавалі адзін аднаго.

-- Эх, Людвіся, Людвіся!
Як тут ні круціся,
Як гарох у полі,
Каб жа мая воля, -- бубніць Антось, зьбіраючы мальбэрт.

-- Ну і што б зрабіла твая воля?

-- Мая воля – песьня ў полі,
Што з душы плыве міжволі.
Душа мая, як ястраб дзікі,
Усё рвецца, рвецца на прастор...

-- Нешта ўсе павар’яцелі на Багдановічы.
-- Ёсьць ад чаго. Ніхто ж па-сапраўднаму ня ведаў, пакуль цяпер ня сталі выдаваць.
-- А і праўда цікава. Уся наша моладзь, значыцца, наша нармальная беларуская моладзь цяпер чытае Багдановіча, ведае і цытуе.
-- Ага, нават “Пагоню”, хаця яе і не надрукавалі, -- тонка нагадаў пра сябе Антось.
-- Што б гэта значыла?

----------------------------------
* А між іншым, майце на ўвазе *(высл.)*

-- А гэта, як каханьне, Людвіся. Вось я гляджу на цябе і здаецца, як цецярук, толькі і паўтараў бы: “Людвіся, Людвіся ды Людка, Людка, эх, каб быў я тутка!” Так і з Багдановічам. Людзі адкрылі генія, і чытаюць яго ўзахлёб.
-- Няўдалае параўнаньне.
-- Удалае. Мы з табой ужо амаль два гады знаёмыя, можна сказаць, сябры, але толькі цяпер мне закружылася галава.
-- Гэта яна ў цябе сама закружылася?
-- Сама.
-- Ну, то добра, бо раней бывала чалавеку без яго самога галаву кружылі. А ў цябе во, сама закружылася. Поступ. Ты робішся файным хлопцам.
-- Ад гэтай Асоль я, відаць, ужо ня збаўлюся. Усё жыцьцё падсьміхаць будуць. Я да яе нават не дакрануўся, Людвіся Казіміраўна.
Людвіся весела сьмяецца:
-- Во, паведаміў. Хто б сумняваўся. Добра яшчэ, што аплявухі не атрымаў. А то тут ёсьць у нас такія пакрыўджаныя.
– Я ж табе ня здрадзіў, Людвіся, -- пачаў тут казаць Антось, як на духу. – Мне асьляпіла яе зьнешняе хараство, але аказалася, што яно пустое і ў сапараўднасьці нават не хараство, і я гэта зразумеў без аплявух. Яна кахае толькі сябе. І тады я ўбачыў іншае хараство, сапраўднае, людзкае і жывое. І гэта ты, Людвіся. Як ёсьць, так і кажу. Дык не ў хараstве справа, а ў чалавеку. Ты мне да душы, Людвіся, і гэтым ты для мяне прыўкрасная. Я ж не лавелас, я шчыры перад табой.
-- Ой, Антоська, ты мяне ўразіў. Маеш ужо тры балы. А з гэтай Асяй тут проста жарты. Не ўспрымай сур’ёзна.
-- Людвіся.
-- Што?
-- Падкінь мне адразу сем балаў. Калі б я вымяраў, то адразу б табе сто залічыў.
-- І што б было?
-- Што б было? Стаў бы песенькі сьпяваць:

Гэй, ляці, кабыла,
Хоць ты падарвіся,
Бо мяне чакае
Там мая Людвіся.
Гэй, ляці ж, кабыла,
Па пнях, па каменьнях,
Бо мяне чакае
Уся ў пламеньнях.*

-- Ах, ха-ха-ха, -- сьмяецца Людка. – Я таксама яго люблю.
-- Праўда?
-- Што “праўда”? А-а-а, Антоська вушкі разьвесіў. Я Багушэвіча люблю, усё, што ён напісаў, люблю.
-- Між іншым, шляхта Бальцэвічы з Багушэвічам добра зналася. Можа, тая Людвіся якраз з Брылеўскіх паходзіць?
-- Хітры ты малец, Антось, ой, хітры! Ты што рабіў летам?
-- Быў у вёсцы, дапамагаў бацькам па гаспадарцы, нават хадзіў за іх у калгас, дапамагаў дзялянку вырабляць.
-- Во, табе. І я таксама. Буракі палола. Пытаюць, дзе загарэла? Кажу – “у Гаграх”.
-- Цяпер ты бачыш, што мы адно, і нам наканавана быць разам.

------------------------------
* Цытата з верша Ф. Багушэвіча *(Аўт.)*

-- Антось, сьціхні! Вы ўсе хлопцы хітруны і ашуканцы. Ведаем мы вас. Пара во дадому ехаць. Толькі папутчыкаў не чуваць.
-- Чуваць, чуваць. Яшчэ як чуваць, -- дадае Антось.

* * *

Сьвет сапраўды бывае цесны, бо пратаптаныя дарогі часам скрыжоўваюцца там, дзе ня трэба. Так было і зь Ядзяй Халявай, дачкой таго самага дырэктара малаказавода, якога Рубайла забясьпечваў зусім не малаком.

У школе Ядзя была харошай дзяўчынкай і добрай вучаніцай, вучылася на "чатыры" і "пяць", удзельнічала ў віктарынах па рускай літаратуры. Беларускую літаратуру ў школе не любіла, бо там альбо -- "бо я мужык, дурны мужык", альбо "дурны мужык, як варона". Дык Ядзі хацелася быць далей ад мужыкоў, тым больш дурных. А тут па-руску -- "Каралева Марго", "Кансуэла", "Мадам Бавары", прыгожае жыцьцё, якога Ядзі таксама хацелася, як падрасьце.

Дык вось з гэтай дырэктарскай дачкой была такая гісторыя. Пайшла яна па камсамольскай лініі. Паехала ў Менск, вучылася ва ўнівэрсітэце на журфаку, была там камсоргам унівэрсітэта, мела прывабную зьнешнасьць, фігуру, трохі розуму і трапіла пасьля ўнівэрсітэта ў Менскі гаркам камсамола загадчыцай арганізацыйнага аддзела. Гэта, спадарства, у тыя часы намэнклятура і амаль "фігура". Прытым журналістыку яна не кідала і час ад часу пісала пра шкоду нацыяналізму, асабліва "беларускага". Неўзабаве яе павышаюць на пасаду сакратара гаркама па ідэалогіі. Гэта ўжо ня жарты. Амаль што ўлада, хоць і камсамольская.

А быў тады у БДТМІ на пятым дыпломным рэжысёрскім курсе такі Міша Бабіцкі, чалавек з гумарам, разумны, дасьціпны, здольны і, як казалі тады, "ушлы" (гэта значыць "зух"). Гэты Міша (па ацэнках партбюро інстытута) "попал под влияние националистической идеологии"*.

Міша быў арыгінал. Любіў павязаць гальштук-матылёк і курыць люльку. Пра сябе казаў, што ён ёсьць нашчадак гэрбоўнай шляхты і мае прыдомак "Барсук", бо быццам бы некалі ягоны продак Бабіцкі, нейкі Масюта, ехаў пад Воршу маскаля біць і спыніўся ў лесе адпачыць, каня навязаўшы. Раптам зь лесу выскоквае барсук і ляціць яму проста пад ногі хавацца. Аж тут сьледам за барсуком воўк ляціць, пашчу ашчэрыўшы. Масюта пішчаль схапіў, кнот падпаліў, порах на брамку сып, цэлься, цынгель цісьні, ды як смальне, аж лісты зь бярозы пасыпаліся. Калі дым разьвеяўся, глядзіць – ні ваўка, ні барсука. От з таго часу і атрымаў Масюта прыдомак "Барсук", значыцца стаў Барсук-Бабіцкі.

"Дзівак твой Масюта, -- казалі сябры, -- мог бы ўзяць яшчэ і ваўка ў прыдачу: Барсук-Воўк-Бабіцкі – гучэла б салідна." На што Міша адказваў, што воўк тут нічога ня значыць, а барсук шукаў схрону ў ягонага продка, і продак, як сапраўдны рыцар, абараніў барсука. Тут учынак годнага чалавека.

Бабіцкі гаварыў усюды толькі па-беларуску, рускую мову лічыў кандовай, адсталай і ненатуральнай. Асобы прасьцейшыя часам задавалі Мішу пытаньні наконт мовы, выказвалі нават незадавальненьне і дрэнныя меркаваньні. На што Міша, пыхкаючы люлькай, мог сказаць: "А ты ўвогуле маўчы супраць мовы, лапаць ты, чмут непадсяваны, цёмны, як бутэлька, гаварыць па-чалавечаму не навучыўся, а яшчэ пярэчыш разумным людзям."

"Лапаць" і "чмут непадсяваны" звычайна выпадаў у "асадак", тым больш, што камплекцыя і кулакі ў Мішы былі вышэй за сярэднія. Тым часам Міша

--------------------------------
* "трапіў пад уплыў нацыяналістычнай ідэалогіі". *(Рус.)*

аддаляўся, пускаючы дым колцамі. Пару разоў яму, праўда, прыходзілася даваць у нос занадта някемлівым, але да сур'ёзных канфліктаў не даходзіла. Мішу ведалі, гопнікі сілу паважаюць.

У інстытуце партыйныя начальнікі былі ім вельмі не задаволены. І вось аднаго разу Міша атрымлівае позву зьявіцца ў Гаркам камсамола ў пакой нумар "N" а 14-й гадзіне пэўнага дня. Міша пакруціў позву ў руках і выкінуў у сьмецьце.

Ну, навошта ж яму ісьці ў Гаркам камсамола, Міша ня член КПСС і з камсамолам "страціў сувязь". Але позвы зьяўляліся зноў. Міша яшчэ некалькі разоў атрымліваў паштоўкі і выкідваў у сьметніцу, прыгаворваючы: "Пішы-пішы, пакуль не надакучыць".

Увогуле, трэба было ведаць вольны дух БДТМІ у пачатку 60-х.

Неўзабаве пасьля чарговай паштоўкі Мішу выклікалі у рэктарат і сакратар па навуковай частцы, нейкі малапрыкметны ў інстытуце тып пачынае чытаць Мішу мараль, што той ігнаруе волю Гаркама ВЛКСМб і што, калі ён туды ня зьявіцца, ягонымі паводзінамі займецца рэктарат.

Міша рашыў зьявіцца. У 14.00 ён быў у прыёмным пакоі нумар N. Дзьверы былі адчыненыя і нікога не было. Міша пахадзіў па прыёмнай, узяўся за ручку дзьвярэй, дзе было напісана, што там сакратар Гаркама па ідэалагічнай працы Ядзьвіга Баляславаўна Халява. Дзьверы былі зачыненыя.

Забягае маладая дзяўчына-сакратарка. Яна не пасьпела адчыніць рот, як Міша гэтак строга:

-- А дзе гэта вы ходзіце, а?

-- А я здесь вот выбежала тольки на минутку па дзелу*, -- спалохана пачала апраўдвацца сакратарка.

-- Наступны раз не выбягайце, -- салідна заўважае Миша. – А дзе таварыш Халява?

-- Ана задзержывается, но вот-вот должна быць.**

-- Я Бабіцкі, Барсук-Бабіцкі, -- кажа Міша. – У мяне спатканьне з таварыш Халява ў 14.00. Цяпер 14.06.

-- А-а. Вы Бабіцкі, -- рэзка перамяніўся тон сакратаркі і стаў халодна-высакамерным. – Прысажывайцесь и падаждзице. Вас прымут***.

Праз нейкі час заходзіць "таварыш Халява", праходзіць у кабінет. Сакратарка ідзе да яе, тут жа выходзіць і кажа Мішу: "Захадзице".****

Тут мушу патлумачыць. У тыя часы калі хтосьці са звычайных людзей (ня важна, хто) трапляў у партыйна-начальніцкія кабінэты, то мог зьдзервянець ад страху, на пытаньні адказваў, як школьнік, і далоні ў яго пацелі. Такое было.

Ідэалалагічныя начальніцкія кабінеты дзейнічалі магічна і прыгнятальна, паралізоўвалі волю наведвальнікаў. Апаратная намэнклятура тое ведала.

-- Зараз 14 гадзін 12 хвілін, -- гаворыць Міша з ходу. – Чаму вы спазьніліся на працу?

Вочы Ядзьвігі Баляславаўны акругліліся і ў іх мільганула разгубленасьць.

-- Эта не вашэ дзела.*****

-- А чыя гэта справа? Першага сакратара? Ці, можа, бюро Гаркама, калі кіруючыя супрацоўнікі Гаркама прагульваюць працоўны час? Вы дзе гэта былі, у краме, у кіно?

------------------------

* -- А я тут во выбегла толькі на хвілінку па справе. (*Ламаная рус.)*

** -- Яна затрымліваецца, але вось-вось павінна быць. *(Ламаная рус.)*

*** -- Прысядзьце и пачакайце. Вас прымуць. *(Ламаная рус.)*

**** "Заходзьце". *(Ламаная рус.)*

***** -- Гэта ня ваша справа. *(Ламаная рус.)*

-- Не вашэ дзела! Как вы себя ведзёце в учрэждзении?*
-- Я правільна сябе паводжу. А вось вы спазьніліся на дванаццаць хвілін каштоўнага працоўнага часу і нават за гэта прабачэньня не папрасілі, і мой творчы час змарнавалі.

Чыноўніца, здаецца, ашалела ад нечаканай сытуацыі. Але ўсё ж справілася з сабой.
-- Ну, ладна, я извиняюсь, канечна. Задзержалась па дзелу. Знаеце, вы абразованый чэлавек и должны панимаць, што наша саветская дзействицельнасьць удзеляет асобае внимание в обласци творчэства и идзеалогии. Эта очэнь атветственная обласць дзеяцельносци, -- працягвае Ядзьвіга Баляславаўна, крыху нэрвуючыся. Яна адсоўваецца з крэслам ад стала, каб саўладаць з сабой (Міша папсаваў ёй увесь сцэнар), закідвае нагу на нагу, прымаючы непасрэдную позу для размовы. – И вы должны панимаць, што парция и камсамол не могут прахадзиць мима разных абщэственных идзеалагичэских вывертав в срэдзе творчэскай инцелигенции, -- працягвае Халява, -- асобенно нацыаналисьцичэского толка. Нацыанальные атнашэния – эта ваабщэ очэнь тонкая мацерыя абщественного састаяния.**

Чыноўніца зьмяняе позу нагі, закідвае ўжо левую на правую, і так "непринуждённо",*** размахваючы рукой, далей працягвае ўводную частку сваёй размовы з нацыяналістам.

Міша мала слухае і разглядае субяседніцу, яе блюзку з карункамі, дзелавую прычоску, нос, упіліўся ў калені. Чыноўніца заўважыла і зьняла нагу з нагі. І тут гэты нахабнік і мача Бабіцкі гэтак будзёна, нібы хвалячы парасон ці новую сукенку, кажа:
-- У вас вельмі прыгожыя калені, Ядзьвігя Баляславаўна.
-- Вы што эта себе пазваляеце!**** – прамаўляе гэтакім мэталёвым крэшчэндa абураная чыноўніца.
-- Я нічога не дазваляю. Я проста заўважыў, як вы паказвалі свае калені, і адзначаю, што яны прыгожыя.
-- Вы наглец! Вы грубиян!*****
-- Я не нахабнік і не грубіян. Я вельмі прыемны чалавек. Я чалавек мастацтва і цаню хараство.
-- Я вас сейчас выганю!******
-- Дык а навошта вы мяне паклікалі?
-- Не для таво, штобы выслушываць вашы пошласьці!*******
-- Якія "пошласьці"! Вялікія паэты пісалі вершы. Багдановіч, Шэкспір апявалі красу...
-- Прэкрацице! – закрычала Ядзьвіга Баляславаўна. – Знаеце што, -- раззлавана

--------------------------------
* -- Ня ваша справа! Як вы сябе паводзіце ва ўстанове? *(Ламаная рус.)*
** -- Ну, добра, я выбачаюся, вядома. Затрымалася па справе. Ведаеце, вы адукаваны чалавек і павінны разумець, што наша савецкая рэчаіснасьць надае асаблівую ўвагу ў вобласьці творчасьці і ідэалогіі. Гэта вельмі адказная вобласьць дзейнасьці. (...) І вы павінны разумець, што партыя і камсамол ня могуць праходзіць міма розных грамадзкіх ідэалагічных вывертаў у асяроддзі творчай інтэлігенцыі, (...) асабліва нацыяналістычнага кшталту. Нацыянальныя дачыненьні – гэта ўвогуле вельмі тонкая матэрыя грамадзкага стану. *(Ламаная рус.)*
*** "нязмушана" *(рус.)*
**** -- Вы што гэта сабе дазваляеце! *(Ламаная рус.)*
***** -- Вы нахабнік! Вы грубіян! *(Рус.)*
****** -- Я вас зараз выганю! *(Ламаная рус.)*
******* -- Не дзеля таго, каб выслухіваць вашыя пошласьці! *(Ламаная рус.)*

зашыпела чыноўніца, -- я сейчас наберу номер, сюда вайдут людзи, и я скажу, что вы прыставали ка мне. И вас уведут, куда нада. Поняли?!*
-- На гэтым ваша каръера скончыцца, -- адказвае Міша. Вы нічога не дакажаце. А я скажу, што вы назойліва заманілі мяне ў свой кабінет і спакушалі мяне. Будзе “шкандаль”. А партыя ня любіць “шкандаляў”, праўда?
-- Ухадзице атсюда. Разгавор акончэн.**

І тут “ліцэдзей” Міша сеў на коніка. Ён рашыў яшчэ дадаць.
-- Дарэмна, Ядзьвіга Баляславаўна, вы так строга. Я вельмі таленавіты рэжысёр, -- сьціпла кажа Бабіцкі, -- праз пару гадоў маё імя будзе зьзяць на старонках савецкага друку і сусьветнай прэсы. Мы маглі б з вамі абмеркаваць уплыў буржуазна-нацыяналістычнай ідэалогіі на творчую інтэлігенцыю нефармальна і з веданьнем справы.
-- Вот кагда станеце великим, тагда и прыдзёце. А сейчас ухадзице. Убирайцесь. Вы г-но сабачае!***

Апошнюю фразу Халява сказала (неяк у яе выскачыла) лексічна па-беларуску з аўтэнтычным пранонсам і смачнай артыкуляцыяй кароткага “ў”.
-- Брава! – карцінна прадэкламаваў Бабіцкі. І далей па-расейску: “Вот он, момент истины! У вас возродилось националистическое сознание!”****

Калі потым Міша расказваў пра тое сябрам-студэнтам (а ён класны апавядальнік з уменьнем падрабляць галасы) – усе клаліся са сьмеху. А Валеры Раеўскі з рэжысёрскага, які рагатаў больш за ўсіх, потым кажа:
-- Рызыкоўныя штучкі. Калі б такое сатварыў твой продак Масюта, то меў бы яшчэ і сабачы прыдомак.

Урэшце, так нічога і не настругалі партворганы гэтаму “нацыяналісту”, лавеласу і бабніку Бабіцкаму. Міша скончыў інстытут, абараніў дыплом і потым недзе зьнік, прапаў у нетрах тэатральнага гета і савецкага кіно. Так часта бывала са студэнцкімі геніямі, калі яны траплялі ў рэальны творчы і чужы савецкі сьвет.

Што да Ядзьвігі Баляславаўны, то неўзабаве яна выйшла замуж за нейкага гэбіста-лубянца і выехала ў Маскву, дзе працавала ў нейкай маскоўскай газэце і часта пісала опусы супраць “нацыяналізма”, “и в частности, белорусского”.*****

* * *

У нядзелю была поўная “Вышыня” людзей. Ужо ўсе зьехаліся пасьля лета ў Менск і жыцьцё ў горадзе заўважна ажывілася. Сёньня быў рэдкі госьць Яўген Ермаковіч, гісторык. паэт і публіцыст. Прыйшло некалькі сяброў з акадэмічнага асяродка: Максім Рачкоўскі -- дасьледчык літаратуры Заходняй Беларусі і два Алесі – Алесь Басько і Алесь Чаплінскі. Адзін фізік-ядзершчык, піша дысертацыю; другі – гісторык-археолаг, таксама працуе над дысертацыяй, дасьледуе жалезны век у Беларусі. Зьявіўся нават “сур’ёзны комік” Міша Бабіцкі. Ён яўна быў уражаны тым шматлюдным інэлектуальным зборам, які ўбачыў на сходцы.

Мастакі ўспрымалі Мішу станоўча і з гумарам. Некаторыя дасьціпныя пасьмейваліся, вось бы, маўляў, зьвесьці яго з Асяй Дарагакупецкай, якая якраз удала паказалася ў выставе дыпломных прац і проста блішчэла ў інстытуцкім

------------------------------------

* -- Спыніцеся! (...) Ведаеце што (...), я зараз набяру нумар, сюды ўвойдуць людзі, і я скажу, што вы прыставалі да мяне. І вас вывядуць, куды трэба. Зразумелі?! *(Ламаная рус.)*

** -- Ідзіце адсюль. Размова скончана. *(Ламаная рус.)*

*** -- Вось калі станеце вялікім, тады і прыходзьце. А зараз зыходзьце. Выносьцеся. Вы г-но сабачае. *(Ламаная рус.)*

**** -- Вось ён, момант ісьціны! У вас адрадзілася нацыяналістычная сьведамасьць! *(Рус.)*

***** “і ў прыватнасьці, беларускага” *(рус.)*

сьвеце. Цікава было б паназіраць, як бы тут адбывалася “аньнігіляцыя матэрыі”. Але калі іх зьвялі, Міша закурыў люльку і не праявіў ніякай актыўнасьці, толькі лыпаў на Асю вачыма.
-- Ну, дык што ж ты, Міша? – падсьмейвалі яго гумарысты, -- такое хараство на цябе глядзела.
-- Не ў маім гусьце, -- сур’ёзна адказвае Міша. – Гэта дэкаратыўная жанчына. Яна пасуе для шыкоўнага інтэр’ера з пілястрамі і кандэлябрамі, а я чалавек бруку, вольны шпільман і менестрэль.

Цяпер “чалавек бруку” сядзеў моўчкі і засяроджана слухаў, што хто казаў. На пачатку выступаў Чаплінскі, расказваў пра новую інтэрпрэтацыю этнагенэза беларусаў, пра працы і канцэпцыю расейскага археолага Валянціна Сядова, пра балцкі субстрат і т. п.

Усе слухалі вельмі ўважліва. Канцэпцыя не пакідала каменя на камені ад расейскай антынавуковай міфалогіі пра міфічнае “дрэвнерусское государство”, “триединство” і т. п. Асабліва зацікавіла ўсіх тое, што беларусы, украінцы і маскоўцы адносяцца да трох розных рас, а са славянскага ў расейцаў засталася толькі груваcткая мова, моцна зьмененая старабаўгарскім лінгвістычным уплывам. Заўважылі таксама, што савецкі афіцыёз гэтага Сядова ня любіць і крытыкуе.

Тым часам Чаплінскі расказаў пра адну зьяву, пра якую ніхто ня чуў. Нядаўна на партыйным сходзе Аддзяленьня Гуманітарных навук Акадэміі Навук БССР выступаў нейкі палкоўнік КГБ Федзькін. Гэты Федзькін распавядаў, што ў Менску і ваколіцах зьявіліся фашысты, што яны апранутыя ў галіфэ і “национальные рубахи”*, носяць свастыку, зьбіраюцца групамі і, што характэрна, -- сьпяваюць беларускія песьні. Палкоўнік расказаў, як у адным раёне ў час афіцыйнага савецкага мерапрыемства фашысты прайшлі шыхтамі перад сотнямі савецкіх людзей “и скрылись”**, “ибо все опешили”.***

Мала хто ўспрымаў сур’ёзна гэтую “качку”. Хаця, па гёбэльсаўскай логіцы, мусілі б успрыняць. “Пытаньне ў іншым, -- кажа Чаплінскі, -- навошта такое распаўсюджвае палкоўнік КГБ на партсходах? Што гэта абазначае?”

Усе задумаліся. Тады Чаплінскі кажа:
-- Я думаю, што рыхтуюць правакацыі і рэпрэсіі супраць беларусаў. Проста так гэтакае не прыдумляюць.

Потым гаварыў Ермаковіч. Гэта ўжо быў старэйшы чалавек, даўно за шэсьцьдзесят. Кожны раз ён прыязджаў нараніцы з Маладзечна, цэлы дзень працаваў у менскіх бібліятэках і архівах, пісаў альтэрнатыўную гісторыю Беларусі. Ён вельмі слаба бачыў, насіў акуляры-лінзы 28 дыёптрыяў. Гэтая акалічнасьць дазволіла гэбістам выкрасьці і зьнішчыць ягоныя дасьледваньні.

А было так. Аднойчы Ермаковіч прысеў на лавачку ў скверы “Дзяржынскага”, насупраць будынка КГБ, паставіў побач партфэль з рукапісамі (працай апошніх гадоў) і пачаў чытаць газэту, разглядаючы літары з адлегласьці пяці сантыметраў. Агент, які за ім сачыў, проста прайшоўся за сьпінкай лавы, падхапіў партфэль і зьнік у натоўпе.

Прапаў вынік шматгадовай працы паўсьляпога навукоўца. Удар быў страшэнны. Іншы б заламаўся. Але Ермаковіч усё ж страпянуўся і, адпакутваўшы за страту, пачаў усё спачатку.

Моладзь успрымала яго настойлівасьць як подзьвіг.

---

* “нацыянальныя кашулі” *(рус.)*
** “зьніклі” *(рус.)*
*** “бо ўсе аслупянелі” *(рус.)*

Сёньня Ермаковіч чытаў свае патрыятычныя вершы, афармленыя ў маленькія кніжачкі пад назвай “Голас Беларусі”, надрукаваныя на машынцы. Ён прынёс некалькі такіх кніжыц і раздаў прысутным.

Ермаковіч расказваў пра Вялікае Княства Літоўскае, пра ролю Войшалка ў стварэньні дзяржавы, пра дзейнасьць іншых князёў, распавядаў пра культурызуючы прыклад Вільні, пра яе ролю ў цэнтралізацыі старажытнай Беларускай дзяржавы, нават выказаў фантастычную ідэю аб адраджэньні новай Беларусі як Вялікага Княства Літоўскага і аднаўленьні вялікакняскай беларускай дынастыі. Гэта ўсіх вельмі ажывіла. Вялікае Княства ў кожнага жыло ў душы. Яно было для маладых рамантычным вобразам нацыянальнай свабоды.

Бальцэвіч казаў пра планы канкрэтнай дзейнасьці мастацкай групы ў “Вышыні”:

1) стварыць перасоўную мастацкую выставу (15-20 прац) па гісторыі Беларусі і вазіць па сельсаветах там, дзе можна дамовіцца зь мясцовымі ворганамі ўлады;

2) паставіць беларускі спэктакль і адначасна з выставай даць прадстаўленьне. Разам з выставай прачытаць кароткую лекцыю па гісторыі беларускай культуры.

Усе падтрымалі. Найбольш сумненьняў было са спэктаклем. Але і тут зышліся на “Міхалцы” Далецкіх. Калі Антось прачытаў усім тэкст п’есы з копіі на фотапаперы, Брылеўская заахвоцілася іграць ролю Юлькі. Дамовіліся пра рэпетыцыю проста тут, у майстэрні. Антось выклікаўся быць пастаноўшчыкам. Вызначыліся па гістарычных тэмах, акварэлях і эцюдах. Збоку люба было назіраць іхны энтузіязм. Рая Каліноўская з музычнага вучылішча (яе прывёў нехта з мастакоў) выклікалася на выставах паіграць на скрыпцы беларускія мэлёдыі. Прапанова ўсім спадабалася.

Пасьля перапынку – вольная сфэра. Дасталі віно, яблыкі, сыр, кілбасу, нават цукеркі для паненак. Тут найбольш цікавымі апавядальнікамі-гумарыстамі былі Пётра Грак з графічнага аддзяленьня і Алесь Чаплінскі. Гэты, як трошкі папіў віна, расказваў пра свае сямейныя прыгоды, як ён, местачковы хлапец, прыехаўшы ў Менск, за дзяўчатамі ўвіхаўся і ў якія гісторыі ўліпаў. Усе надта сьмяяліся зь яго самакрытыкі.

Алесь вучыўся ў асьпірантуры, валодаў выключнымі ведамі па беларускай гісторыі і адчувалася, што канцэптуальна гэта быў беларус-крэмень з лагоднай і адначасна гумарыстычнай паставай.

З Алесем здарыўся казус, зь якога ён сам пазьней доўга сьмяяўся. З гумарыстычным чалавекам сьмешнае і адбываецца. Алесь быў з заходніх раёнаў, здаецца, са Смаргоншчыны. У 1950-х гадах беларуская моладзь з заходніх вобласьцяў Беларусі, якая на дух не ўспрымала маскалёў, што толькі ні рабіла са сваім здароўем, каб не ісьці ў акупацыйнае савецкае войска. І табаку пілі, і пальцы адсякалі, толькі каб ня трапіць у “бальшавікі”. Усё гэта трывала, паступова зьмяншаючыся, амаль да пачатку 1960-х гадоў. У 1960-х якраз не хапала прызыўнікоў, і грэблі ўсіх. Гэтак і Алеся забіралі, проста з асьпірантуры. І тут Алесь пайшоў на рызыкоўны крок: паставіў на выпрабаваньне сваё здароўе.

У халодны асеньні дзень, калі йшоў дождж са сьнегам і дзьмуў шалёны вецер, Алесь пайшоў у інтэрнацкі душавы пакой, раcпрануўся, парасчыняў вокны і стаў пад халодны душ. Вецер заносіў праз вокны сьнег і сьвістаў, а на падваконьніку сядзеў у зімовым паліто Алесь Басько і ўсё прыгаворваў: “Ну, можа ўжо хопіць, Алесь, а то каб не памерці. Можа, хопіць, а?”

Чаплінскі стойка мок пад халодным душам на скразьняку, пакуль ні пасінеў і ледзь вылез з кабіны на халодны вецер. Басько адвёў яго (бо ледзь ішоў) у пакой, паклаў у ложак, накрыў коўдрай, побач паклаў асьпірын і тэрмомэтр.

Назаўтра Басько ня змог нават зайсьці да Чаплінскага, бо раптам захварэў: кашаль і тэмпература 39 градусаў. А Чаплінскі... Чаплінскі прачнуўся сьвежы, як агурочак, у целе лёгкасьць і бадзёрасьць. Пайшоў адведваць хворага Басько. Назаўтра Чаплінскага загрэблі ў ваенкамат і адправілі “служыць” недзе на поўнач СССР на “казіны рог”. От нядаўна Алесь акурат адтуль вярнуўся жывы і здаровы і зноў пачаў вучобу ў перапыненай асьпірантуры.

* * *

Да Калядаў былі ўжо гатовыя выстава і спэктакль, які атрымаўся на дзіва жывым. Студэнты выкладваліся, імправізавалі, устаўлялі “адсябеціны” – проста бліскучы спэктакль атрымаўся. Сьмешна было ўсім, нават самым артыстам. (Тут мастакі далі фору “акцёрышкам”.)

На выставе (найбольш акварэлі і жывапіс) у асноўным былі помнікі архітэктуры, гарады, памятныя мясьціны.

Антось паехаў у Маладзечанскі раён і дамовіўся аж у трох мясьцінах – у двух сельсаветах і ў Маладзечна на нейкай вытворчасьці – аб выставе і спэктаклі.

Усё рабілася на працягу аднаго дня. У мястэчках у нядзелю, а на фабрыцы – пасьля працы. Хлопцы казалі, што памылка, пасьля працы ніхто не застанецца, пабягуць дадому.

Якраз з фабрыкі і пачалі. З раніцы ў невялікай зальцы (максімум на 100-150 месцаў) разьвесілі на сьценах свае творы. Прыйшлі дзеячы з партбюро, усё аглядзелі, ім нават спадабалася, падбадзёрылі моладзь, сказалі, аднак, “толька слишкам многа старыны и культавых сааружэний”*. “Принимаем замечание”, -- адказаў Антось, -- сейчас мы работаем над молодёжной тематикой”**. Дзеячы з партбюро пайшлі задаволеныя.

Наўзьдзіў набілася поўная заля рабочых і яшчэ стаялі ў праходах. Антось вёў жорстка. Тры хвіліны на выступ сабе і тры Брылеўскай. (Няма чаго рабочых людзей мучыць.) Толькі канкрэтна, коратка і па справе. Выставай зацікавіліся ня надта (але глядзелі). Чакалі тэатра.

Трэба сказаць, што нашы самадзейнікі тут выклаліся. Публіка часам рагатала да сьлёз.

Па сканчэньні Брылеўскай паднесьлі кветкі, а ўсім вялікі торт і каробку цукерак. Ніхто не чакаў такога прыёму і посьпеху. Усе былі, як на крыльлях.

-- Ну, што, хлопцы-дзяўчаты, -- гудзіць Юргель, -- ператвараемся з мастакоў у актораў. Можа адчынім тэатр, а?

Да новага году зьезьдзілі і выступілі яшчэ ў сельсаветах. Там таксама студэнтаў добра прымалі, але больш стрымана. Людзі як бы троху напалоханыя. Але вочы ва ўсіх сьвяціліся радасна. Нашыя вяскоўцы не такія раскаваныя людзі, як у горадзе. Дзейнічае пэўны народны этыкет.

Пасьля новага году пачаліся экзамены (зімовая сэсія), і ўсе пагрузіліся ў вучобу. Вучоба вучобай, але Бальцэвіча выклікалі ў рэктарат, дзе сядзеў сакратар партарганізацыі. Распытвалі, “куды” і “зачэм”*** езьдзілі студэнты, “кто разрэшыл”**** і т. п. “Значыцца, -- падумаў Антось, -- “тёмные силы нас злобно гнетут”,***** -- другі раз, відаць, ня ўдасца.”

Дуброва прапанаваў на травень падрыхтаваць грандыёзную маёўку ў

--------------------------------

* толькі занадта шмат старыны і культавых пабудоў. *(Ламаная рус.)*

** “Прымаем заўвагу (...) зараз мы працуем над маладзёвай тэматыкай.” *(Рус.)*

*** навошта *(ламаная рус.)*

**** хто дазволіў *(ламаная рус.)*

***** “цёмныя сілы нас злосна гнобяць” *(рус.)*

Вязынцы на радзіме Купалы, так бы мовячы, для сваіх, ці бо – самы для сябе з патрыятычнымі вершамі і сьпевамі, каб сабраць жывую сьведамую моладзь, каб нарастаў нейкі агульны хрыбетнік.

Антось зразумеў задуму Дубровы, але памеркаваўшы, кажа, каб ён катэгарычна не называў месца падзеі, каб слова “Вязынка” нідзе ніколі не гучэла. Рот на замку. Інакш будзе правал. “Гаворым пра Ласі, -- настойваў Антось. – Гэта прыгожае месца пад Маладзечнам, палі, лясы, горкі, пералескі.” На гэтым і пагадзіліся.

Потым прапанову абмеркавалі “на Вышыні” (гэта значыць у майстэрні пад дахам). Вырашылі рыхтавацца. Дуброва кажа Антосю, што падрыхтуе лекцыю пра Бел-Чырвона-Белы Сьцяг Беларусі і пра гэрб “Пагоня”, зробіць выявы і прадэманструе ўсім, бо ніхто ж толкам нічога ня ведае. Трэба разьвівацца. Але пра гэтую задумку каб да пары ніхто ня ведаў, бо тады (як вымкне) нічога не атрымаецца і за гэта арыштуюць. Антось кажа, што задума небясьпечная, але Дуброва пярэчыў, што дзеля гэтага і трэба схавацца ў “лясы-пералескі” ды бярозы пад выглядам маёўкі і пікніка, а на справе правядзем важную асьветніцкую акцыю для моладзі.

Недзе каля 10-га травеня, калі ўжо распусьцілася маладое лісьце і зацьвілі сады, а на ўзьмежках, газонах, палянах і пустэчах жаўцеў дыван адуванчыкаў, у лясах бялелі курасьлепкі і сінелі пралескі, студэнты сабраліся на вакзале з заплечнікамі і сумкамі. Меркавалася чалавек сто пятьдзесят будзе. Абыйшлі ўсіх больш-менш сур’ёзных хлопцаў і дзяўчат ва ўсіх інстытутах, хто дзе калі каго ведаў як нармальных беларусаў, без савецкай дурноты ў галаве.

Рэальна прыйшло роўна сорак пяць асобаў. З акадэмічнага асяродка не прыйшоў ніхто. Затое амаль уся “Вышыня” была ў зборы.

Антось усё да дэталяў прадумаў і забясьпечыўся абяцьньнямі Дубровы і сваіх, што будуць выконваць каманды. Антось разумеў, што разам едзе і агентура, таму ніякай канкрэтыкі наперад. Выходзім у Ласях. І ўсё. Пра гэта будзе паведамленьне. Але больш ніхто нічога ня ведае.

Праехаўшы Радашковічы, перад Вязынкай Антось і Андрэй скамандавалі:

-- Увага! Тут усе выходзім!”

-- Стоп! Стоп! – закрычалі некаторыя, -- гэта ж не Ласі.

-- Усе выходзім! – голасна паўтарыў Антось, -- жыва!

Усе вышлі на перон.

-- Стаяць, пакуль адыйдзе! – камандуе далей Антось.

Як толькі электрычка ад’ехала, Антось крычыць:

-- Усе за мной бегма! Хутка! – і пабег першы ў бок па дарожцы праз масток ля Купалавай хаты і далей у поле і пералескі.

Трухалі хвілін пяць-шэсьць. Кароткая перадышка на хаду – і зноў бягом. І так на працягу амаль паўгадзіны, чаргуючы падбег і хаду. Некаторыя пачалі сьмяяцца, некаторыя пытацца, што за марафон?

-- Усё. Ідзем пешшу спакойна, -- кажа Антось, -- у канцы ўсё растлумачу.

Ніхто ж ня ведаў, нават Дуброва, што Антось папярэдне прыяжджаў сюды сам з секундамерам, вызначыў маршрут і месца, дзе адбудзецца маёўка. У апошні момант сказаў пра тое Дуброву, што выхад будзе раней, у Вязынцы, і бягом ад чыгункі, у бок далёкіх пералескаў і лесу.

Разброд, вядома ж, быў (розныя людзі), але хвілін праз сорак усе спыніліся ў вельмі прыгожым месцы на шырокай зялёнай паляне сярод бярозавага гаю, паабапал якога расьлі вялікія, гадоў па дзьвесьце, дубы. Пад дубамі моц белых пралесак-курасьлепак. Сонечны дзень. Усе паськідалі заплечнікі і стомленыя паляглі на паляне. “Ух, ты! – чуліся воклічы. – Як прыгожа! Цуд!”

-- Во-во, -- адзываецца Антось, -- наша зямля – гэта цуд, браточкі. Нічога лепшага на сьвеце няма. Цяпер слухайце. Мы выйшлі раней на сем прыпынкаў, бо цалкам магчыма, што ў Ласях нас ужо чакалі міліцыя і гэб'ё. Мы не даехалі 18-20 кіломэтраў, з'эканомілі мінімум 15 хвілін адрыву. Мы чакалі, пакуль цягнік ні ад'едзе, каб шпегі, якія ехалі з намі ў вагоне, не заўважылі, куды мы пойдзем і не паведамілі па рацыі міліцыі. Мы беглі, каб адарвацца як найдалей ад чыгункі. 15 хвілінаў – гэта час, за які тут маглі зьявіцца «мянты» на машынах. Трэба было зрабіць так, каб яны нас не заўважылі, не дагналі і ня ведалі, дзе нас шукаць. Паведамляю, што нам усё ўдалося. Мы за чатыры з паловай кіломэтры ад чыгункі. Кругом гаі, палі, лясы і пералескі, шырокіх дарог няма. Жыве Беларусь! Ці вы ведаеце, што абазначае “Жыве Беларусь!”?
--Ведаем, -- пачуліся галасы.
-- Падыміце рукі, хто ведае.

Паднялі прыблізна трэць прысутных.
-- “Жыве Беларусь!” – гэта наш нацыянальны кліч. Ён афіцыйна ўжываўся ў Беларускай Народнай Рэспубліцы. Зь ім ішлі ў бой і на сьмерць слуцкія паўстанцы, змагары з чужынскай навалай у 1920 годзе. Адказваць трэба – “Слава Айчыне!”

А н т о с ь:
-- Жыве Беларусь!

У с е:
-- Слава Айчыне!

А н т о с ь:
-- Слава Айчыне!

У с е:
-- Жыве Беларусь!

Усім стала весела.
-- Выдатна, -- кажа Антось, -- хапаем з паўслова. А ці ведаеце, што такое Беларуская Народная Рэспубліка?
-- Ведаем.
-- Падыміце рукі, хто ведае.

Паднялі палова прысутных.
-- Ці ведаеце, хто такія слуцкія ваяры?

Адазвалася некалькі маладзёнаў. Далей было тлумачэньне, што такое БНР і Слуцкі збройны чын, які ёсьць наш нацыянальны гэрб і сьцяг.

Маёўка пачалася. Калі Антось усё расказаў, Дуброва кажа:
-- А цяпер падымем наш сьцяг і адчынім сход сьвята. Жыве Беларусь!
-- Слава Айчыне!

Хлопцы разгарнулі Бел-Чырвона-Белы Сьцяг, прымацавалі на бярозу, і ён затрапятаў на ветры. Усе глядзелі зачараванымі вачыма і пачалі пляскаць у далоні, а некаторыя ўсклікаць “Жыве Беларусь!”

Паміж бярозамі расьцягнулі намаляваны на палатне гэрб “Пагоня”.
-- Гэта наш сьвяты гістарычны нацыянальны гэрб Беларусі, -- пачаў Антось, -- гэта “Пагоня”. Падыміце рукі, хто тое ведае.

Паднялі амаль усе.
-- Выдатна! Тады не тлумачым.

Хлопцы нацягнулі паміж бяроз шырокую зялёную палатніну, каб дзяўчаты, што мелі народныя строі, маглі схавацца за яе і пераапрануцца. Усіх такіх дзяўчат, што мелі беларускае адзеньне, назьбіралася пяць асоб, разам з Брылеўскай. Калі яны выйшлі з-за шырмы ў беларускіх народных строях, нібы каралеўны, хлопцы ашаломлена паразьзяўлялі раты, запляскалі ў далоні і загукалі “Жыве Беларусь!” Ды “Слава Айчыне!”. Кветкі свабоды прарасталі голасна і бурна.

Анатоль пытае ў Дубровы:
-- Калі была каманда выходзіць з вагона, ты не заўважыў, хто крычаў “стоп, гэта не Ласі”?
-- Крычалі некалькі. Двух заўважыў.
-- Паназірай.

Пачалі чытаць патрыятычныя вершы. Найбольш гучэў Багдановіч, Купала, Колас, Багушэвіч. У перамежку дзяўчаты сьпявалі народныя песьні і вясьнянкі, кружыліся ў карагодзе.

У час, калі якраз кружыўся карагод, Антось пачуў нейкі стрэкат. Зірнуў уверх. Высока над імі кружыў гелікоптэр і акурат пачаў зьніжацца. Усе ўсё зразумелі, паўскоквалі і пачалі крычаць ды махаць кулакамі ў неба, пасылаючы праклёны гелікоптэру. Некаторыя напалохаліся.
-- Сябры, -- крычыць Антось, -- слухаць усім каманду. Спакойна зьбіраемся. Сабраць рэчы і запакаваць. Тры хвіліны на зборку.

Антось падышоў да Віталя Барэйкі, якога ўжо раней папярэдзіў пра магчымасьць экстраардынарнага дзеяньня.
-- Віталь, складзі сьцяг і гэрб у торбу, прыкрый па дарозе кветкамі і зараз жа рві лесам, толькі лесам (не выходзь на поле) у бок станцыі Дубравы. Гэта адсюль на поўнач кіламэтраў восем-дзевяць. Там сядзеш на электрычку ў Менск толькі пад вечар. Выйдзеш у Масюкоўшчыне. Адтуль аўтобусам. На Цэнтральны ня едзь. Усё. З Богам! Пайшоў!
-- Я думаю – трэба дваіх.
-- Хто?
-- Тут Косьцік, меншы брат.
-- Давай! Пагналі.

Усе сабраліся. Дзяўчаты засталіся ў строях, не пераапрануліся. Іх відаць будзе за пяць кіломэтраў. Гелікоптэр у гэты час адляцеў, і гэта была дрэнная прыкмета.
-- Дзяўчаты, пераапраніцеся. Хутка. Дзьве хвіліны.
-- Ну, ты што, Антось, -- кажа Брылеўская. – Мы не жаўнеры. Нам паўгадзіны трэба.
-- Жартуеш?
-- Мінімум дзесяць хвілін.
-- Не. Адбой. Слухайце ўсе. Мы былі на маёўцы. Сьпявалі, танцавалі, пілі-елі, сьвяткавалі сьвята перамогі, якое было ўчора. Цяпер ствараем дзьве групы. Адна – дзесяць чалавек – ідзе зь Юргелем наперад. Слухаць яго. Другая – са мной. Выходзім усьлед праз пяць хвілін. Трымаем дыстанцыю трыста мэтраў. Усе ідзем на станцыю Радашковічы. Адсюль сем кіломэтраў. Не выходзім на поле. Толькі лесам. Перабег праз поле малымі групамі. Усё. Фэлька, пайшлі.

Але было ўжо позна. Пачулася гудзеньне машын. Адна выехала проста на паляну. З “газона” выскачылі “мянты” з сабакамі і з аўтаматамі. Афіцэр стрэліў у паветра са свайго пісталета.
-- Стаяць! Фашысцкія морды! Стаяць!
-- Гэта хто тут “фашысцкія морды”, ты, герой – дверь закрой?* -- закрычала на яго Брылеўская.

З усіх бакоў беглі міліцыянеры і акружалі маёўку.
-- Малчаць! -- вызверыўся на Людвісю маёр.
-- Во, гляньце на яго, -- кажа Людвіся, -- ён думае, што ён у кіно, пісталетам на дзяўчат махае. Я пытаю, хто тут “фашысцкая морда”? Можа ты? Адказвай, што

------------------------
* дзьверы зачыні *(рус.)*

маўчыш?
-- Гдзе флаг фашысцкій?*
-- Гляньце, сьмяецца Людвіся, -- ён жа неадэкватны. У яго галюцынацыі. Яму мроіцца “фашысцкі сьцяг”. Ну, і дзе тут “фашысцкі сьцяг”, таварыш ендзерал? Ну, дзе? Пакажы мне.
-- Абыскаць!**-- крычыць маёр.
-- Што-о-о! – узвысіла голас Брылеўская, -- каго “абыскаць”, мяне? Хто вам даў права на вобшук, вы, героі “дней маіх суровых”? Што вы тут выказваеце, о, Цыцэрон? Можа, вы тэкст пераблыталі?
-- А ўсё ж такі дзіўнае ваша захаваньне, таварыш маёр, -- азваўся Антось. – Найперш, навошта вы стралялі? Гэта так можна па статуту ўжываць табельную зброю? Гэта так можна палохаць людзей?
-- Я никаво не пугаю. Я спрашываю, чэво вы здесь сабрались?***
-- Мы вам патлумачым. Але найперш адкажыце, дзе вы тут убачылі “фашысцкія морды”?
-- Я так не гаварыл. Я спрашываю, гдзе фашысцкий флаг?****
-- Ну, і дзе “фашысцкі сьцяг”? Пакажыце нам.
-- И пакажам.
-- Пакажыце, чакаем.
-- Вы усе задзержаны. Едзем в атдзеление – там разберомся.*****
-- Вы ня маеце права нас затрымліваць, -- кажа Антось, -- з нашага боку не было ніякіх супрацьпраўных дзеяньняў. Прытым гэта не грамадзкае месца, а поле і лес. Гэта з вашага боку ёсьць парушэньне нашых правоў і недатыкальнасьці.
-- Мы вашы права не нарушаем, мы вас задзержываем.******
-- А гэта і ёсьць парушэньне закона з вашага боку, -- пярэчыць Антось. – Вы ня можаце нас затрымліваць без прычыны. І любы пракурор вам такое не прапусьціць.
-- У Вязынке аграблен магазин. К нам паступили сведзения, что вор скрывается срэдзи вас. Нада праверыць.*******

Усе зарагаталі. Пачаліся рэплікі і жарты.
-- Дык забярыце злодзея, калі ён тут і калі вы яго ведаеце, і правярайце, -- кажа Антось, -- але навошта вы нам усім пагражаеце?
-- Нам нада выяснить.********
-- Вам пракурор “выясьніць”, што так рабіць нельга і супрацьзаконна.

У маёра скончыліся аргуманты. Тут да яго падыйшоў нейкі ў цывільным і пачаў нешта ціха казаць на вуха. Маёр выпрастаўся, стаў такім пруценькім і суровым.
-- Так, -- скамандаваў ён, -- взяць усех и пагрузиць в машыны. Испалняць!********* – гаркнуў маёр на мянтоў.
-- Усім сесьці на траву, -- скамандаваў Антось. – Хай нясуць. Сьведкаў дастаткова.

---------------------------------
* -- Дзе сьцяг фашысцкі? *(Ламаная рус.)*
** -- Абшукаць! *(Ламаная рус.)*
*** -- Я нікога не палохаю. Я пытаю, чаго вы тут сабраліся? *(Ламаная рус.)*
**** -- Я так не казаў. Я пытаю, дзе фашысцкі сьцяг? *(Ламаная рус.)*
***** -- Вы ўсе затрыманыя. Едзем у аддзяленьне – там разбяромся. *(Ламаная рус.)*
****** -- Мы вашыя правы не парушаем, мы вас затрымліваем. *(Ламаная рус.)*
******* -- У Вязынцы абрабавалі краму. Да нас дайшлі зьвесткі, што злодзей хаваецца сярод вас. Трэба праверыць. *(Ламаная рус.)*
******** -- Нам трэба высьветлиць. *(Ламаная рус.)*
********* -- Так, (...) узяць усіх і пагрузіць у машыны. Выконваць! *(Ламаная рус.)*

Міліцыянеры падыходзілі па два, па тры, бралі кагосьці і адносілі ў машыну. Машын было поўна, у тым ліку дзьве вялікія, тыпу колішніх “санітарак”, толькі чорныя.

Усіх адвезьлі ў міліцыю ў Маладзечна. Сказалі пакінуць рэчы ў адным пакоі і прайсьці ў другі. Студэнты адмовіліся пакідаць рэчы, запатрабавалі пракурора і адваката. Моладзь трымалі да вечара. Калі мінула тры гадзіны пасьля затрыманьня, Антось кажа, што па закону міліцыянты ня маюць права іх трымаць больш за тры гадзіны пасьля затрыманьня і высьвятленьня асоб. Гэта парушэньне.

-- І такіх парушэньняў ужо зроблена шмат, -- кажа Антось. – Мы ўсё гэта фіксуем і пададзім на вас у суд. З нашага боку няма складу парушэньняў, а з вашага ў дачыненьні да нас ёсьць. Пратакол вы не складаеце, бо няма пра што. А навошта вы нас тут трымаеце і зьневажаеце?

Тут падыйшоў той, у цывільным, і зноў нешта пашаптаў маёру.

-- Бальцэвіч, прайдзице в кабинет номер два,* -- кажа маёр.

-- Навошта?

-- Мне нада задаць вам некатарые вапросы.**

-- Задавайце тут, -- кажа Антось.

Словам, была камэдыя. Пры савецкай акупацыі міліцыя яшчэ вымушана трымалася законаў і пабойвалася камуністычнай партыі.

Вечарам усіх выпусьцілі без складаньня пратакола і без капаньня ў рэчах.

Назаўтра ў інстытуце толькі і гаварылі, што пра падзеі ў Вязынцы. Асабліва зьдзіўляў усіх гелікоптэр. Ніхто ж ня ведаў (нікому не казалі), што з гелікоптэра заўважылі Сьцяг і ўвогуле, што той Сьцяг там быў.

-- Ну, што скажаце? – пытае Антось, калі сабраліся ў інстытуце.

-- Вайна, панове, вайна супраць нас усіх, -- выказаў сваё рэзюмэ Фэлікс Юргель.

-- І от цяпер, дарэчы, успомніце трызьненьне таго палкоўніка Федзькіна.

Усе ажывіліся. “Сапраўды”, “вось табе і дурнота”, “што вытвараюць”, -- пасыпаліся рэплікі.

-- Гэта ж гляньце, во! – усклікнула Людвіся. – Яшчэ нічога няма, а яны ўжо наперад назоў прыдумалі, турмы шыкуюць – фашыстаў будуць хапаць.

-- Бо гэта сатаністы, -- азваўся маўклівы дагэтуль Росьцік Жагота. Ён быў у Вязынцы, і тое, што адбылося, перавярнула яго сьведамасьць. -- Людзі так сябе не паводзяць. У іх бесаўскае думаньне.

* * *

Мінуў травень і пачалася летняя сэсія. Нешта цяжка ішло ў Антося па “эрзац-прадметах”. Па гісторыі КПСС камуніст ганяў яго амаль гадзіну. Антось быў добра падрыхтаваны і, практычна, адказаў на ўсе пытаньні. Выкладчык нешта думаў-думаў – узяў і паставіў яму “тройку”.

-- А чаму “тройка”? – пытае Антось.

-- Эта для вас очэнь харошая ацэнка, -- кажа камуніст, -- магло быць хужэ.***

Дзіўны адказ. Пазьней Антось даведаўся, што загадана было паставіць “двойку”. Выкладчык пашкадаваў яго і “не исполнил приказ.”****

---------------------------------------------

* – прайдзіце ў кабінет нумар два *(ламаная рус.)*

** -- Мне трэба задаць вам некаторыя пытаньні. *(Ламаная рус.)*

*** -- Гэта для вас вельмі добрая адзнака (...) магло быць горай. *(Ламаная рус.)*

**** “ня выканаў загад.” *(Ламаная рус.)*

Студэнты разумелі, што супраць актывістаў ідзе таемная вайна. Але ўсё ж такі вучэбны год усе закончылі без адчувальных страт.

Пачалося лета – узьнёслая пара. Наперадзе канікулы – вольнаму воля.

-- Дык што, Людвіся, так і паедзем зноў кожны ў сваю хату палоць буракі? – пытаецца Антось у Людвісі Брылеўскай.

-- Прапануй лепшае, -- адказвае Людвіся.

-- Прапаную паехаць разам да тваіх бацькоў, каб яны на нас паглядзелі.

-- А далей што?

-- А далей – паедзем да маіх бацькоў, каб яны таксама на нас паглядзелі.

-- А потым што?

-- А потым, мілая Людвіся, ты ж ведаеш, як хораша, моцна і сур'ёзна я цябе кахаю.

Гэта сапраўды было так. Пасьля Вязынкі яны так зблізіліся, што, здаецца, ужо жыць адно без аднаго не маглі. Людзі яны ў душы былі местачковыя і шляхетныя, і каханьне іхняе было своеасаблівым, надзейным і прыўкрасным. Людвіся з выгляду была дзяўчынай зграбнай і прыгожай, пра якую ў народзе кажуць “дзеўка, як рэпа”, “кроў з малаком”, плюс заўсёды добры настрой і вясёлы характар. Усё гэта рабіла яе вельмі прывабнай, сяброўскай і “сваёй”.

Пра Антося і казаць шмат ня трэба. Хлапец быў не па гадах сталы і талковы. Без ваганьня браў на сябе выкананьне любых задач, калі яны адпавядалі ягоным поглядам і каштоўнасьцям. Хлопцы яго паважалі як надзейнага чалавека і добрага сябра, пераймалі ад яго  патрыятызм і крытычныя адносіны да савецкай рэчаіснасьці. Антось не імкнуўся камандаваць і быць першым. Але само сабой атрымлівалася, што хлопцы яму давяралі і абапіраліся на яго. Ён ніколі не адмаўляўся нешта агульнае ўзяць на сябе.

Можна было б шмат расказаць пра шчырае, здаровае і прыгожае каханьне Антося і Людвісі, часам пра камічныя завіхрэньні ды пра ласкавыя пачуцьці, без непаразуменьняў, без дакораў. Яны былі нібы створаныя адно для другога – павага і каханьне, каханьне і любоў, з гумарам ды сьмехам, весела і сур'ёзна.

Сацыяльныя ўмовы пад савецкай акупацыяй былі, можна сказаць, не для сям'і і не для каханьня. На перашкодзе -- пытаньне жыльля і быту, немагчымасьць зарабіць грошай, каб палепшыць гэты свой быт, які часьцей за ўсё быў залежны ад улады і незалежны ад грошай (якіх не было). Савецкая сістэма была рэгламентавана так, каб чалавек самастойна не разьвіваўся.

Схемы разьвіцьця асобы вызначала акупацыйная ўлада. Яна (гэтая схема) была больш шырокай, чым пры немцах, але аднабаковай, фальшывай і стоадсоткава русіфікаванай.

Ужо ў мядовы месяц пасьля жаніцьбы іхняе прыгожае каханьне сутыкнулася з гэтым сваістым савецкім бытам, спараджаючы неверагодныя выпадкі, дзе толькі прыроджаны гумар і здаровы дух ратаваў абодвух ад сур'ёзных канфліктаў са зьнешнім сьветам.

Пажаніўшыся, яны нанялі адзін пакой у незнаёмай сям'і (муж, жонка, дзіця), якая жыла ў трохпакаёвай кааператыўнай кватэры ў так званым “панэльным” доме з тонкімі сьценамі. Калі ноччу ў кватэры такога дома нехта ўключае сьвятло, то пстрыканьне ўключальніка чуваць ва ўсе канцы ў суседзяў па доме. Гаспадары кватэры былі людзьмі памяркоўнымі, на суботу-нядзелю зьяжджалі на дачу і ніякіх прэтэнзіяў да Антося з Людвісяй ня мелі.

Ну, пэўня, мядовы месяц. Хто ж яго ня памятае. Антося і Людвісю пачуцьці так прыцягвалі адно да аднаго, што як абдымуцца, то ўжо й расстацца ня могуць, не нацалуюцца, не намілуюцца. Ад шчасьця яны нібы прыдурэлі і голасна выяўлялі

свой стан каханьня і захапленьня. Людка ў сваім стылі лямантавала, нібы ў лесе: ”А-ёй-а-я-ёй, ой-ой, ах-ах, ох-ох!” (Ну як тут ні крычаць, калі само крычыцца!)

Дуэт у два галасы. Цэлая арыя. Ды што арыя – опэра! А ў перапынках Людка Антося абымае і прыгаворвае: “Ах, Антоська! Ой, Антоська! Як добра быць жонкай і мужам! Ах, як добра! Ну, скажы, што добра! Ну, скажы!”

“Добра! От добра! – пацьвярджае “Антоська”, -- было добра і будзе добра,” – і хапае Людку ў абдымкі ды “ха-ха-ха”, ды “о-хо-хо” і г. д. А часам Людка нават сьпяваць пракідалася: “Цячэ вада ў ярок, цячэ вада ў ярок, кладачку занясло”. І гэта сярод ночы. Словам, стан, які перажывалі шмат якія шчасьлівыя пары і здаровыя сем’і.

Гэта стан раскошы. Інтымнае жыцьцё, інтымны стан каханьня – гэта Богам дадзеная свабода дзеля двух людзей, якой яны могуць валодаць нават у няволі. Толькі трэба ўмець яе берагчы, гэтую свабоду, бо ніхто, акрамя дваіх, якім яна дадзена, нічога не павінен ведаць.

Ноччу, насьмяяўшыся, накрычаўшыся, нарадваўшыся, Людвіся клала галоўку на пляча Антося і тут жа ціха засынала. Так і прачыналіся яны, абняўшыся. Першы расплюшчваў вочы Антось і, затаіўшы дых, дзівіўся на спакойнае і прыгожае ў сьне аблічча Людвісі. Яна ціхенька дыхала і ўсьмешка часам блукала ў яе вуснах. А Антось думае: “Божа, як я яе люблю”. І якое дзіўнае ёсьць жыцьцё.

Сапраўднае каханьне прыйшло толькі як пажаніліся. Так усё нібы проста, спакойна, але ўзьнікла адчуваньне адной душы і нейкага нязьведанага ніколі замілаваньня.

Людвіся раптам расплюшчвае вочы, нібы і ня спала, усьміхаецца і:

-- Антоська, любы мой, каханы! Ой, прабач, я табе ручку адціснула. І ты цярпеў? Ой-я-ё-я-ёй!

-- Я не цярпеў. Мая ручка цябе кахае, і ёй было добра, Людка, мая найлепшая!

І так яны шэпчуцца, абымаюцца, глядзяць адзін на аднаго з замілаваньнем, аж пакуль ні падымуцца. Тады Людвіся лётае то на кухню, то ў пакой, то ў ванну, рыхтуе сьняданак і падпявае: “Ля-ля-ля-ля-трам-лялям-тралялям”.

Так доўжылася тыдні два, можа болей. Аднойчы на раніцы ў нядзелю, пасьля бурнай ночы са сьпевамі і охамі – званок у дзьверы. Гаспадары былі на дачы. Пайшоў адчыняць Антось. На пляцоўцы стаяла баба гадоў пад пяцьдзесят у зашмальцаваным халаце і ў шлёпанцах на босую нагу. Фігура яе была прастакутнай, як торфабрыкет, твар абураны, а вочы поўныя іроніі.

-- Вы чэво эта там ароце усю ноч! Спаць не даёця. Людзям на работу нада. Міліцыю пазаву.*

-- Выбачайце, мы ня ведалі, што вам чуваць, выбачайце, -- прамямліў зьбянтэжаны Антось і ціхенька зачыніў дзьверы. А баба там яшчэ нечым пагражала.

-- Што там, Антоська? – сонна спытала Людвіся.

-- Баба прыходзіла.

-- Якая баба?

-- Зьнізу.

-- Чаго.

-- Цікавілася, як праходзіць наш мядовы месяц.

Людвіся ўзьняла галаву.

-- І што?

-- Сказаў, што выдатна праходзіць.

--------------------------------------------

* -- Вы чаго гэта там гарланіце ўсю ноч! Спаць не даеце. Людзям на працу трэба. Міліцыю паклічу. *(Ламаная рус.)*

-- Правільна! – рагоча Людвіся. – Ох, Антоська, пагоняць нас адсюль.
-- Нічога, -- кажа Антось, -- нам бы ноч пратрымацца і дзень прастаяць.

Папаўзьлі чуткі па пад’езьдзе. Бабулькі на лавачках як па камандзе змаўкалі, калі Антось і Людвіся праходзілі каля іх. А потым абмяркоўвалі гэтую падзею. Антось зразумеў, што жыльлё трэба зьмяніць, бо сытуацыя камічная. Рашэньне прысьпешыла падзея, якая магла ўжо выклікаць гамерычны рогат усяго дома.

Аднойчы Антосю і Людвісі павялося так добра, што стары драўляны ложак ня вытрымаў і з грукатам зламаўся. Абодва скаціліся на падлогу. Прытым гук быў такі: “р-ра-рах-ба-бах!” Гэта як удар Пяруна сярод ночы.

На раніцы баба ўжо стаяла пад дзьвярыма. Выгляд яе быў абураны.
-- У вас совесьць есьць! Вы што, лашадзей туда завели? Или у вас иппадром? Вы што разaраецесь! Как не стыдно!* і г. д.
-- Извините, -- кажа Антось, -- мы скоро уезжаем. Потерпите немножко. В жизни всякое бывает.** Антось разумеў, што ён у сьмешным стане і загаварыў з бабай парасейску. Баба зьдзіўлена змоўкла і неяк няўцямна паглядзела на Антося.
-- Вы мяне ізьвініця, канешне, -- адазвалася раптам кабета, -- палагаднеўшы ў аблічча, -- я таксама шаную нашу беларускую мову. Я вас не асуджаю, але ж вы разумееце, у якім доме мы жывем – усё чуваць. Трэба неяк прыстасоўвацца. Ну што тут зробіш. Мы ж вас не выганяем.
-- Дзякуй за разуменьне, -- кажа прыемна зьдзіўлены Антось, -- мы нешта прыдумаем.

А вечарам, калі Антось, вяртаючыся з інстытута, падымаўся па сходах, насустрач яму йдзе муж суседкі Віцька-сантэхнік, крыху віпіўшы і вясёлы.
-- Добры дзень, -- кажа. Слухайце, вы там маёй Веркі не палохайцеся, яна добрая баба. Гэта яна можа ад зайздрасьці гавора. Давай, брат, крычы і гані да перамогі, -- рагоча Віцька. І ўжо зьнізу ўдагонку: -- Ну, праўда, каб ня так гучна, вядома.
-- Трэба зьяжджаць усё ж, -- кажа Антось Людвісі, -- бо ўвесь дом рагоча. Нямашка тут ужо нам свабоды.

-- А вось і я так думаю, -- падхоплівае Людвіся, -- калі нехта суне нос у чужыя інтымныя адносіны, то гэта ёсьць пакушэньне на людзкую свабоду.
-- Людзі тут у доме не благія, -- зазначае Антось, -- проста мы гэтую нашу свабоду ня можам абараніць, бо жывем, як у бубне.
-- А цікава Бог стварыў, -- раздумляе Людвіся, -- як толькі зьбіраюцца муж і жонка ды па ўзаемным каханьні, у іх адразу ўзьнікае свабода. Свабода – гэта іхны інтымны сьвет. Праўда, цікава?
-- Геніяльна! – падхоплівае Антось, -- але як толькі пачаць паказваць ды расказваць пра сваю свабоду іншым, яна зьнікае. І выходзіць, што таямніца ёсьць крэпасьць свабоды на дваіх. Інтымны сьвет непарушны. Нават у рабстве ён ёсьць вольнай тэрыторыяй.

Людвіся запляскала ў ладкі.
-- Ах, як разумна! Як хараша мы гаворым!
-- Хараша, бо правільна, -- падсумоўвае Антось.
-- Такім чынам мы маем ідэалогію, якая вызначае нашу матывацыю пераезду на іншую кватэру, -- сьмяецца Людвіся.

--------------------------------
* -- У вас сумленьне ёсьць! Вы што, коней туды завялі? Ці ў вас іпадром? Вы што вырабляеце! Як ня сорамна! і г. д. *(Ламаная рус.)*
** Выбачайце (...) мы скора выязджаем. Пацярпіце трошкі. У жыцьці ўсяляк бывае. *(Рус.)*

Антось і Людвіся тэрмінова зьехалі ў прыватны сэктар: зьнялі пакой з асобным выхадам у прыватным доме. Плаціць трэба было ў два разы болей, і абодва пачалі старацца, каб знайсьці якую-небудзь мастацкую “халтуру” і зарабіць грошай. Часу на “любошчы” паменела (хаця свабода была непараўнальная), і што там ужо яны вытваралі ад шчасьця – ніхто ня ведае. Пазьней Людвіся нарадзіла сыночка Янку. Жыцьцё ператварылася ў радаснае, але цяжкое выжываньне. А тут яшчэ інстытут, які трэба скончыць. І, як часта бывае (чаго некаторыя ня цэняць і не разумеюць), сяло, сельскія бацькі ратавалі сваіх дзяцей, што паехалі па адукацыю ў сьвет па годнае месца пад сонцам.

* * *

Бэлтушка ўжо была на пэнсіі. Грошай не хапала, і яна ўсе сілы ўкладвала ў свае “соткі”, у свой гарод і грады. Карову яшчэ трымала і кожнае лета адпасвала бычка ці цялушку, якіх здавала потым на мяса і мела трохі прыбытку.

З таго часу, як прыязджаў Юзік з Жанай і Груняю, Зося яго і ня бачыла. Паехаў – і як у ваду ўтапіўся. Ні вестачкі, ні лісточка ні ад яго, ні ад Груні, ні ад Жаны. Увогуле, так яно ня можа быць, каб Юзічак не напісаў ні слова пасьля жаніцьбы. Раней, бывала, і з войска лісты слаў. Але калі тое было. “Тут нешта не ў парадку”, -- думала Бэлтушка. Ад кожнага бычка яна адкладала сыну грошы, бо дапамога ніколі не зашкодзіць. А тут ужо другі год – і ад яго ні слыху, ні дыху.

Паступова Зося пераконвалася, што нешта здарылася зь яе Юзікам, можа якое няшчасьце, можа бандыты забілі. Калі настала другое лета, то перад касавіцай, у больш-менш вольны на сяле час, Бэлтушка вырашыла паехаць у той Менск і шукаць свайго сына, бо гэта ня жарты, сьвет зрабіўся вялікім і чужым. Раней ніхто нікуды і зь мястэчка не выязджаў, а цяпер во палова людзей недзе разьехалася, няма ні маладых, ні дзяцей, ні радасьці, ні весялосьці.

Бэлтушка пагаварыла з Казюком і Лаўрэнам. Дзядзькі ня раілі ехаць у Менск. “Юзік, -- кажуць ёй, -- начальнікам стаў, а такія не прападаюць. Жыве недзе сабе і грошы лічыць.”

Зося ўсё ж наважылася ехаць шукаць, бо ня мог жа ён не аказацца. “Ня трэба таго рабіць, -- кажуць дзядзькі, -- акажацца, яшчэ, толькі на дарогу патрацішся.”

Бэлтушка зайшла да Касьцецкіх пажаліцца.

-- Мая ж ты Лёнячка, -- кажа, -- гэта ж другі год вестак ня маю, пэўня нешта сталася. Ня ведаю, што рабіць.

-- Я б дык да яго напісала, -- раіць Лёня Касьцецкая, -- альбо нават і зьезьдзіла б. Трэба ж ведаць.

-- А мая ты, дык жа адрасу ня маю, ня ведаю, дзе ён і што.

-- Дык ён табе ня даў адрасу?

-- Не-а.

-- То дзе ты яго там будзеш шукаць.

-- О, я ведаю. Я так яго ў Вільні знайшла.

-- Як?

-- Праз міліцыю.

-- Ну, хіба што.

Калі Зося пайшла, увайшла Ваньдзя.

-- А цётка чаго прыходзіла?

-- Не супакоіцца ніяк са сваім байструком. Хоча ў Менск паехаць шукаць. Няма зьвестак. Ня піша.

-- Шкода мне Бэлтушку, мама.
-- Тут нічым не дапаможаш. Мяне толькі зьдзіўляе, што такі балван – і ў Менску начальнікам стаў. Не магу паверыць.
-- І ніхто ня верыць, але думаю, што такое можа быць. Паглядзі, колькі балваноў навокал зьявілася. Адзін наш Хведзька чаго варты.

Ваньдзю было не пазнаць. Яна даўно замужам за настаўнікам школы. Двое дзетак. Працуе галоўным аграномам калгаса і фактычным намесьнікам старшыні. Сьмірнова (“Хведзька – два горлы”) ніхто сур’ёзна не ўспрымаў. Дзе што – да галоўнага агранома. Толькі і чуваць “Ванда Францаўна” ды “Ванда Францаўна”. Усе яе паважалі, хаця свайму сярод сваіх у начальстве было цяжэй, чым іншаму чужому. Такая ўжо прырода, відаць, у нашых сельскіх людзей.

* * *

Бэлтушка ўсё ж вырашыла ехаць у Менск і шукаць сына. Села на аўтобус, едзе сабе і думае, во як добра стала жыць пры Брэжневе, ня тое, што пры Хрушчове. Усюды аўтобусы. Куды хочаш – туды і даедзеш. У крамах усё ёсьць: хлеб, масла, цукеркі. Калі гэта было, каб Зосі можна было чыкаляды купіць. Жыўнасьць можна трымаць, і касіць прасьцей стала. Ужо так не ганяюць.

Прыехалі на аўтавакзал, і Бэлтушка адразу пачала пытацца, дзе тут міліцыя. Так і гэтак, кажа, зьнік сын, ні слыху, ні дыху. Бэлтушцы далі ліст паперы і сказалі запоўніць графы: імя, прозьвішча зьніклага, год нараджэньня і г. д. Бэлтушка як умела, так і напісала. Пры гэтым спытала, ці няма ў іх паперы, каб польскімі літарамі.
-- Здесь Белоруссия, бабушка,* -- адказаў лейтэнант.
-- Беларуся, -- паўтарыла Бэлтушка, -- дык, можа, па-беларуску ёсьць?
-- Мы ў Савецким Саюзе, бабушка, нада па-руски.
-- Нас дык пісаць па-польску вучылі, дык цяжка патрапіць, -- адказвае Бэлтушка.

Міліцыянер пачытаў паперу.
-- А гдзе работал сын**?
-- Ня ведаю, мой ты сынок, -- кажа Бэлтушка, -- але начальнікам у Менску.

Якім – яна ня ведае. Адрасу ня ведае.
-- Гм.., задумаўся малады мент і бярэ тэлефонную кніжку. У кнізе некалькі Гарохаў, адзін Вікенцевіч. Звоніць. У слухаўцы жаночы голас. Міліцыянер прадставіўся лейтэнантам Кухцікам, высьветліў, што гаворыць з жонкай Гароха Жанай Барысаўнай Бабень-Гарох. Працоўны тэлефон Іосіфа Гароха Жана адмовілася даваць, “иба муж не разрэшает, эта закрытый целефон”.***
-- Скажыце, -- працягвае міліцыянер, -- а ваша свекроф, эта Зофья Викенцевна Пуцюль?

Слухаўка заціхла, а потым:
-- Так, Зося Пуцюль.
-- Прыезжайце, пажалуста, и заберыце яё. Ана у нас в атдзелении, вас разыскивает.****
Але Жана сказала, што яна ня можа, бо занятая, але пазвоніць мужу, і муж забярэ.

--------------------------------
* -- Тут Беларусь, бабуля *(Рус.)*
** -- А дзе працаваў сын? *(Ламаная рус.)*
*** “таму што муж не дазваляе. Гэта схаваны тэлефон.” *(Ламаная рус.)*
**** -- Прыязджайце, калі ласка, і забярыце яе. Яна ў нас у аддзяленьні, вас расшуквае. *(Ламаная рус.)*

Бэлтушка чакала ў аддзяленьні да вечара. Нарэшце, усё ж такі Ёська прыехаў.

-- О, гэта ты? – сказаў ён, убачыўшы матку. – Ну, пайшлі.

І яны выйшлі. Міліцыянеры ў прыёмнай толькі пераглянуліся.

-- Што за чмут, -- кажа адзін, -- нават не павітаўся.

-- Ну, ты даёш, мамаша, ну ты даёш! – пачаў Ёська на вуліцы, -- как снег на галаву. Нада жэ прэдупрэждаць!*

-- Дык адкуль жа, Юзя, я ж твайго адрасу ня маю.

-- А я разве не давал?**

-- Не, Юзянька, не даваў.

-- Гм... А я думал, што давал.

Жана спаткала Бэлтушку воклічам:

-- О, сколька лет, сколька зим! Как мы рады вас видзець!***

Бэлтушку напаілі гарбатай, нарэзалі сухой кілбасы і сыру.

-- Мама, а ты надолга к нам? – пытае Ёська, -- иба я чэлавек сейчас занятый. Но ты аставайся, сколька нада. Проста меня усё ўрэмя не будзет дома.****

-- Я тожэ с утра да вечэра, -- кажа Жана. – Дзецей вот у нас пака нет.*****

Бэлтушка ад'ехала назаўтра. Дома ж бо карова, куры, сьвінчо, сабака. За ўсім паназірае Лёня Касьцецкая. Але ж дамовілася не на доўга.

Жана купіла Бэлтушцы мяккія дамашнія тапачкі і доўгія баваўняныя панчохі, дзьве пары. Зося была задаволена, што аж дзьве пары, якраз на восень прыдасца ў касьцёл хадзіць. Галоўнае, што Юзік ёсьць жывы і здаровы. Ну, а што ён нелюдзь крыху, дык хто-хто, а яна ведае. Чаго ж тут на яго крыўдзіцца. Такі ўрадзіўся. Іншым ня будзе.

* * *

Мінула восень, зіма. Ёська не пісаў і не адпісваў. Часта, седзячы дома адна, Бэлтушка задумвалася над сваім жыцьцём. Тэлевізара яна ня мела, часам па вечарах слухала радыё, якое было ў кожным доме, і глядзела ў вакно на далёкія вербы і лес. Часам, калі было надта ціха, яна гаварыла пацеры і чытала старэнькую польскую кантычку, якую ў маладосьці некалі купіла ў Вільні ля Вострай Брамы. Там былі ўсе-ўсе галоўныя малітвы і шмат чаго цікавага. Некалі яна прачытала надта для сябе важнае, што жанчына збаўляецца ў сваіх дзецях. За добрых дзяцей Бог дасьць ёй збаўленьне ад грахоў, і будзе яна са сьвятымі ў Раі. Гэта яе моцна ўразіла. Сьведама ці падсьведама, але памятаючы пра гэта, яна ўвесь час, а фактычна, усё сваё жыцьцё, старалася выгадаваць сына добрым чалавекам. Як умела, так і старалася, гатовая нават пакласьці за сына сваё жыцьцё.

Не, яна не гадавала яго дзеля сябе. Неяк нават не задумвалася над гэтым. Як будзе, так і будзе. Бог не дапусьціць – сьвіньні не зьядуць. Але добра, каб Юзік стаў справядлівым чалавекам, і каб яго паважалі. Яна вельмі радавалася, што сын стаў начальнікам, бо начальнікаў слухаюць, баяцца і паважаюць. Але нешта не знаходзіць яна спакою. Нешта ўсё ня так, неяк не па-людзку. Найгорш -- служыць бальшавікам, прызнаў чужых, гнобіць сваё. Ці ж справа толькі ў начальстве? Каб

------------------------------

* -- Ну, ты даеш, мамуля, ну, ты даеш (...), як сьнег на галаву. Трэба ж папярэджваць. *(Ламаная рус.)*

** -- А я хіба не даваў? *(Рус.)*

*** -- О, колькі летаў, колькі зім! Як мы радыя вас бачыць! *(Ламаная рус.)*

**** -- Мама, а ты надоўга да нас? (...) бо я чалавек цяпер заняты. Але ты заставайся, колькі трэба. Проста мяне ўвесь час ня будзе дома. *(Ламаная рус.)*

***** -- Я таксама з ранку да вечара (...). Дзяцей вось у нас пакуль няма. *(Ламаная рус.)*

хоць трошкі было сэрца! Яна ніколі ня бачыла, каб ён некага любіў. І што трэба Богу – начальства ці спагада, улада ці любоў?

Можа таму, што была ў яе хаце заўсёдная адзінота, асабліва вечарам і ў ранку, можа таму, што спакваля падбіралася старасьць, думкі наведвалі Бэлтушку ўсё больш трывожныя.

На Вялікдзень, як заўсёды, Зосю запрашалі да сябе дзядзькі Казюк і Лаўрэн. Яны ніколі не дазвалялі ёй заставацца адной ні на Каляды, ні на Зьмёртвыхустаньне Хрыстова.

На другі дзень Вялікадня Бэлтушка сабрала чырвоныя яйкі і цэлую булку ў кужэльную сурвэтку і пайшла да местачковага старога ўжо ксяндза. Ксёндз Багінскі жыў у хляве, прыстасаваным пад хату і жыльлё. Бальшавікі забралі плябань пад сваю ўстанову, а ксяндза выгналі на вуліцу. Спачатку ён жыў па людзях, а потым местачкоўцы дапамаглі яму ўладкавацца ў хляве. А яшчэ засталіся ксяндзу склеп і гумно.

Ксёндз быў у закрыстыі. Гаспадыня ўзяла ў Бэлтушкі сурвэтку з гасьцінцам і правяла яе ў касьцёл, паведаміўшы ксяндзу.

-- Чаго ты хочаш, Зося? – спытаў ксёндз. У бытавых дачыненьнях ён часта “розмавял по-просту”.*

-- Хачу споведзі і навукі. Хачу дапамогі, ойчанька, бо мне цяжка.

Ксёндз уважліва паглядзеў на Бэлтушку і кажа: “Ідзі за мной”. Ён прайшоў у касьцёл, зайшоў у адчыненую спавядальню і сказаў, каб Зося малілася. Бэлтушка памалілася, і тады ксёндз строга: “Кажы”.

-- Ойчанька, -- пачала Зося, -- ксёндз ведае пра мой грэх. Я пакаялася, што мне будзе за гэта?

-- Невем. Дэцыдуе только пан Буг**.

-- Мой грэх стаў маёй доляй, і я старалася ўсё жыцьцё, каб сын вырас добрым чалавекам.

-- Ежэлі ест добрым чловекем, бэндзе для цебе збавене.***

-- А калі ня стане ён добрым чалавекам, а я старалася?

-- Втэды задэцыдуе літосьць Боска. Але жадна добра чынносьць не пшэпадне.****

-- Дзякуй, ойчанька, -- і Бэлтушка пераxжагналася. А ксёндз кажа (на гэты раз зноў “па-просту”):

-- Мілая Зося, рабі добрыя справы, не чакаючы ўдзячнасьці. Вер у вялікую дабрыню і ласку Божую. Ня бойся. Не сумнявайся.

* * *

Тым часам вернемся ў інстытут. У апошні дзень заканчэньня летняй сэсіі ўсе вырашылі сабрацца вечарам у “Вышыні”.

Перад зборкай глядзелі з вакон студэнцкага інтэрната на вуліцы Бабруйскай, як адбывалася штогодняе “аўтадафэ свабоды”. “Вышыня” ў гэтым ня ўдзельнічала прынцыпова. А сутнасьць заключалася ў тым, што студэнты, сьпіхнуўшы з плячэй экзамены па гісторыі КПСС, навуковаму камунізму і палітэканоміі, спальвалі падручнікі і кнігі па гэтай тэматыцы і вадзілі карагоды вакол кніжнага вогнішча, выкрыкваючы абы што. “Вышыня” называла гэтакі пратэст дзікім варварствам, бо

----------------------------

* “размаўляў па-просту” *(польск.)*

** -- Ня ведаю. Вырашае толькі Гасподзь Бог. *(Польск.)*

*** -- Калі ён ёсьць добры чалавек, то будзе табе збаўленьне. *(Польск.)*

**** -- Тады вырашыць Літасьць Божая. Але ніякі добры ўчынак не прападзе. *(Польск.)*

спальваць кнігі нельга. Гэта архіў гісторыі.

Каб сабрацца ў "Вышыні", былі ўрачыстыя і радасныя нагоды. Найперш пасьпяховае заканчэньне сэсіі. Другое – гэта жаніцьба Алеся Чаплінскага. Маладая яго жоначка Юля – студэнтка медінстытута – была побач і вялікімі зьдзіўленымі вачыма з захапленьнем назірала за тым, што адбываецца. Было ўсім відаць, што каханьне тут сьветлае і шчырае. Чаплінскі выглядаў такім салідным і самадастатковым з сваім заўсёдным сур'ёзным гумарам, а Юля глядзела яму ў раток і ўспрымала, відаць, калі не як Бога, то як прарока і вялікага чалавека. Пры ўсім пры гэтым арыгінал Чаплінскі сказаў Юлі сакрамэнтальнае паведамленьне, пра якое пазьней сябры даведаліся. Ён сказаў, што вельмі моцна кахае і шануе Юлю, але Беларусь перадусім, і гэта ёсьць ягоны выбар і абавязак.

Кемлівая Юлька ўсё зразумела і кажа, што ў такім разе для яе ёсьць гонар стаць жонкай такога шчырага шляхціча, як рыцар Алесь. Чаплінскі толькі пакруціў галавой, бо ведаў, што тут няма ніякай іроніі (хоць гучэла пакручаста), і не знайшоўся што адказаць.

Юля была шчырай адкрытай дзяўчынкай, сіратой, бацька і маці (Паўлюк і Рэгіна Далівы з Вярэнава) памерлі ў маскоўскім ГУЛАГу яшчэ да 1956 года, і яе маленькую выхоўвалі дзядуля з бабуляй і цётка замест мамы.

Па вайне, калі зноў пачалі людзей арыштоўваць, хапаць і вывозіць, Далівы прадбачліва (мелі ж бо паўтары валокі зямлі) адвезьлі сваё дзіця (што й паўгода ня мела) далей ад няшчасьця да жончыных бацькоў аж за Вільню ў мястэчка Шумск. Калі потым пры вывазе сям'і энкавэдзісты недалічыліся дзіця, яны паставілі Даліваў "да сьценкі" ("Где ребёнок, панская морда?!")*. Паўлюк з жонкай цьвердзілі, што дзіця памерла. Але сельсавет таго не пацьвердзіў, і энкавэдзісты разюшыліся, пачалі Паўлюка з Рэгінай біць ("сознавайтесь дряни").** Тады, відаць, самы вопытны з маскалёў, кажа: "А покажитека, где похоронили!".***

У прысутнасьці старшыні сельсавета Павялі Паўлюка на могілкі, а там бачаць непадалёк дзве сьвежыя дзіцячыя магілкі з малюсенькімі крыжыкамі. "Тут", – кажа Паўлюк і паказвае на адну зь іх.

– Да? А рядом что?**** – пытае энкавэдзіст.

– У Ранцэвічаў дзіця памерла.

– Да? – азваўся энкавэдзіст і глядзіць на старшыню сельсавета Тоўсьціка.

– Да-да, – заківаў галавой Тоўсьцік, – недавна пахаранили.

– А мы вот сейчас проверим, – кажа энкавэдзіст. -- Принесите лопату. – Копай! -- і кідае Паўлюку рыдлёўку, – советскую власть не проведёш.****

Паўлюк пачаў капаць. Калі рыдлёўка зашкрабала аб вечка труны, энкавэдзіст здумеўся, а потым скамандаваў:

– Даставай гроб! Открывай! – Сьлёзы пацяклі ў Паўлюка з вачэй. – Открывай!***** – зноў крыкнуў энкавэдзіст.

Паўлюк падважыў рыдлёўкай вечка і адчыніў труну. Ў труне ляжала дзіцятка ў белай кашульцы з васковым тварыкам, у ручках быў абразок Маткі Боскай

-----------------------------------

* "Дзе дзіця, панская морда?" *(Рус.)*

** "прызнавайцеся, дрэні" *(рус.)*

*** "А пакажыце, дзе пахавалі!" *(Рус.)*

**** -- Так? А побач што? (…) Так?
-- Так-так, (…) нядаўна пахавалі.
-- А мы вось зараз праверым (…) Прынясіце рыдлёўку. Капай! (…) Савецкую ўладу не абдурыш. *(Рус.)*

***** -- Даставай труну! Адчыняй! (…) Адчыняй! *(Рус.)*

Вострабрамскай, а каля вушка прытуліўшыся, ляжаў маленькі буры плюшавы "місь".* Паўлюк пачаў жагнацца і маліцца.

– Закрывай, мля! – вылаяўся энкавэдзіст, – павярнуўся і пайшоў прэч, пакінуўшы канваіра з Паўлюком. Тоўсьцік паплёўся за энкавэдзістам, часам разгублена азіраючыся.

Прадбачаньне лёсу было відаць яшчэ і ў тым, што таго Койту (Каетана) Ранцэвіча і сям'ю неўзабаве саветы таксама вывезьлі і ўсе яны апынуліся побач з Далівамі ў Карлагу. Койта выжыў і ў 1957 годзе вярнуўся на радзіму. Ён то і расказаў пра ўсю таямніцу той гісторыі.

Відаць Бог дапамог Паўлюку ў розуме, а Юльцы ў лёсе. А сталася так, што пасьля таго як Далівы адвезьлі малую Юльку ў Шумск, у шматдзетных Ранцэвічаў якраз памерла дзіця. Паўлюк быў на пахаваньні і тут акурат прышла яму ў галаву думка. Вечарам ён пайшоў на могілкі выкапаў неглыбокую ямку, насыпаў курганок, утыркнуў невялічкі крыжык і зрабіў такім чынам імітацыю дзіцячай магілкі. Пра ўсё папярэдзіў Рэгіну.

Па іх прыехалі праз тыдзень. Вось тут і адбылося тое, на што разьлічваў фатальны і разумны Паўлюк. Ён паказаў энкавэдзісту магілку Юлькі, але на самой справе там было пахавана дзіця Ранцэвічаў, а імітацыя другой магілкі была ўспрынята як магілка Ранцэвічавага дзіцяці і Тоўсьцік пацьвердзіў факт яго сьмерці.

Зь Юлькай разумны Паўлюк спланаваў усё як належыць. Найперш пераканаў жонку (якая не пагаджалася) як трэба зрабіць. Цесць Яўхім Мяйштовіч служыў арганістым у касьцеле. Дзед яго удзельнічаў у паўстаньні Каліноўскага, быў сасланы ў Сібір, там і памёр. Фальварак дзедаў рэквізавалі, зямлю забралі ва ўласнасьць Расейскай імпэрыі, шляхецтва («дваранства» па новай назве) ліквідавалі. Нашчадкі засталіся з гонарам і ўспамінамі, але без зямлі, сталі арандатарамі. Бацька Яўхіма, Яўстах Мяйштовіч, вывучыў сына пры Польшчы на арганіста і дакупіў ужо быў тры гактары зямлі. Але гэта мізэр, бядота. Паўлюк быў упэўнены, што цесьця з прычыны тае бядоты бальшавікі ня вывезуць, арганістых і ксяндзоў пакуль таксама не вывозіліі, толькі ціснулі і нерухомасьць адбіралі.

У Яўхіма акрамя дачкі чарнявай прыгажуні Рэгіны было яшчэ трох сыноў. Старэйшы Збыслаў (Збысь) трымаў пры Польшчы і потым вайной нейкую кавярню ў Вільні і пры наступленьні саветаў уцёк зь немцамі ў Польшчу. Сярэдні Вацлаў (Вацюк)) перад самай вайной, як падрос, круціўся каля "Зуброў" ("Віленскіх кансэрватараў"),** думаў, што яго прозьвішча абавязвае, але нікуды не прабіўся. Вайной ускочыў у "белыя"*** і загінуў пад Дзявенішкамі, дзе саветы іх выпадкова натрапілі і зьмясілі ўшчэнт. Але пра тое ў Шумску ніхто ня ведаў. Мяйштовічы маўчалі.

Тым часам малодшы сын Гальяш, як і прыгажуня сястра Рэгіна чыталі за немцамі "Беларускі голас"**** і нават аднаго разу езьдзілі ў Вільню на беларускую імпрэзу. (Там якраз Рэгіна з гэтым Паўлюком Далівам з Вярэнава і пазналася.) Гальяш тым часам разам з ашмянскімі хлопцамі езьдзіў таксама ў Менск, уступіў у

-----------------------------

* "мядзьведзік" *(аўт.)*

** Віленская краёвая шляхецкая партыя ў перадваеннай Польшчы. Выступала за аўтаномію Заходняй Беларусі і адраджэньне Вялікага Княства Літоўскага. *(Аўт.)*

*** Польская партызанка, кіруемая з Лёндына, так званая "Армія Краёва" *(Аўт.)*

**** Беларуская газэта, выдавалася ў Вільні за часы нямецкай акупацыі; рэдактар Францішак Аляхновіч. *(Аўт.)*

СБМ* і хацеў нават паехаць ў Нямеччыну, дзе немцы абяцалі вучобу і службу ў Люфтваффе, але матка Міхаліна стала крыжам на парозе і не пусьціла, казала, што калі ён яе не паслухае, то яна памрэ.

Гальяш жыў пры бацьку з маладой каханай жонкай Марыляй (з Руткевічаў, пабраліся за год да канца вайны), гадавалі дачушку, якая цяпер толькі што пачынала вучыцца хадзіць. Вось тут якраз і прыехалі разумны Паўлюк з Рэгінай, які пры цешчы толькі і паўтараў, што, маўляў, «мая Рэня дык лепш за ўсіх, такіх і на сьвеце няма», дык цешча аж млела ад радасьці. Словам Паўлюк угаварыў цесьця і, галоўнае, сваю файную цешчу Міхаліну Мяйштовічыху з дому Рэкецяў, каб узялі пакуль што "на схоў" немаўлятку Юльку, бо тут жа так – альбо будзе, альбо ня будзе, альбо вывязуць, альбо не, як Бог дасьць.

Тады цешча Міхаліна будзе так казаць:

– Страшна падумаць, Паўлючок, але што рабіць, калі, ня дай Бог, здарыцца горшае.

– Не бядуй, Паўлюк, – уступае тут Гальяш, калі "горшае", то мы з Марыляй будзем даглядаць як сваё пакуль ты ня вернешся, але, думаю, цябе праміне, ты ж нідзе нічога.

Але здарылася ня толькі горшае, але найгоршае. У той самы час, калі вывезьлі Даліваў, схапілі Гальяша. Дакапаліся пра ягоны ўдзел у СБМ. Далі 25 гадоў лагеру ў Сібіру. Апошняе слова Гальяша на зачыненым судзе было такое:

– Прашу дазволу напісаць запіску жонцы.

Суддзя ўзьняў галаву. У вачах яго мільгануў такі гарэзны злосны агеньчык.

– И что бы ты хотел ей написать?**

– Каб не марнавала жыцьцё, выходзіла замуж.

– Суд не разрешает писать, – мэталёва прамовіў суддзя, – она тебя, предателя, и так ждать не будет.***

Нейкім чынам Мяйштовічы ўсё ж даведаліся пра гэтае апошняе Гальяшова слова.

– Як уважаеш, так і рабі, Марыля, сказаў тады Яўхім, – жыцьцё ж адно. Мы цябе не асудзім.

Марыля, якая плакала бяз сьлёз і моўчкі хадзіла, як цень, выціснула з сябе толькі два словы: "Буду чакаць". І дадала: "Хоць да сьмерці".

Паўстала пытаньне, як парадзіць зь Юлькай. Як бы гэта яе законна аформіць, каб не дакапаліся "адкуль што". Ў Шумску не атрымаецца нічога, разумеў Яўхім, патрэбны быў «надта свой» чалавек. На шчасьце такі чалавек знайшоўся.

Яўхім і Марыля зь Юлькай на руках паехалі ў Ашмяны (а гэта побач). Там ў шпіталі галоўным лекарам быў добры сябра Яўхіма яшчэ зь віленскіх студэнцкіх гадоў такі Гарбатоўскі Ян Фролавіч. Словам, той Гарбатоўскі зрабіў усё як трэба і не вагаючыся. Выдаў медычную даведку аб нараджэньні ў ашмянскім шпіталі дзіцяці ў Марылі Мяйштовіч. Праўда, памаладзілі Юльку амаль на паўгода. (Потым Яўхім з тым Янам яшчэ і каньячку пакаштавалі, успамінаючы былыя гады.)

У Шумску Марыля закутала ў белую коўдрачку Юльку, павязала ружовай стужачкай і пайшлі з сьвёкрам Яўхімам ў сельсавет дзіця рэгістраваць. Старшыня сельсавета такі Гіруць з-пад Ліды шчыра зьдзівіўся. "Во! – кажа, -- і як гэта Марыля пасьпела так незаўважна? Віншую. Ад імя сельсавета віншуем".

----------------------------------

* Саюз Беларускай Моладзі – патрыятычная арганізацыя моладзі за часы нямецкай акупацыі. *(Аўт.)*

* І што б ты хацеў ёй напісаць? *(Рус.)*

** Суд не дазваляе пісаць (…) яна цябе, здрадніка, і так чакаць ня будзе. *(Рус.)*

Так Юлька Даліва стала Юляй Мяйштовіч.

Хто моцна чакае, той можа дачакацца. Гальяш вярнуўся ў 1961, амаль праз пятнаццаць гадоў, пасівелы, з запалымі, але жывымі вачыма, з шнарамі на аблічча (парэзалі крымінальнікі). Шчасьце Марылі немагчыма было апісаць, яна адразу нават самлела. Гэта тое самае як убачыць, вярнуць каханага чалавека з таго сьвету, адкуль ніхто не вяртаецца . А ён вярнуўся… Абодвум ім падыйшло ўжо пад сорак і жыцьцё пачыналася зноў.

Вось тады Юлька, ўжо паненка, пра ўсё і даведалася. Гэта яе так страсянула, што дзяўчынка стала на калені і пачала цалавць рукі Марылі. “Мамусячка”* Марыля, дзякуй, дзякуй за любоў, люблю мамусячку, бабулячку, дзядулю, люблю вас, люблю”, -- і сьлёзы бягуць. Ўсё скончылася ўсеагульнымі сьлязьмі радасьці. Нават ня хуткі на сьлёзы Гальяш прасьлязіўся.

Паўлюк Даліва памёр у лагеры ад запаленьня лёгкіх ўжо пасьля сьмерці Сталіна. З Рэгінай здарылася трагічная гісторыя. Начальнік караула “Еремеев” (высокі рабы маскаль), будучы пад хмяльком, паклікаў яе да сябе і прапанаваў палавое сужыцельства за прадукты. Рэгіна адмовіла.

– Да, вообще-то, чего я тут с тобой, казой разговариваю, мля.** – Начальнік схапіў Рэгіну і пакаціў на падлогу, скруціў рукі, задраў спадніцу, сарваў трусы, наваліўся на яе ўсім целам, дыхаючы сівушным перагарам проста ў твар. Рэгіна нават не крычала. Яна канвульсіўна рэзка спружылася, прыўзьнялася і цапнула энкавэдзіста зубамі за горла. Прытым схапіла мёртвай хваткай, як бульдог. Энкавэдзіст хрыпеў, малаціў яе кулакамі па галаве, сьцякаў крывёй, яго апанаваў жах. У апошні мамэнт ён дацягнуўся да кабуры, выцягнуў наган і чатыры разы стрэліў Рэгіне ў галаву. Мазгі жанчыны пырснулі на сьцяну, але зубы мёртва трымалі гвалтаўніка за горла. Ахоўнікі, якія на гукі стрэлаў ускочылі ў памяшканьне, сілай расьціснулі сківіцы мёртвай Рэгіне і пацягнулі, ашалелага ад жаху энкавэдзіста ў медчастку. Але ніхто яму там ўжо не дапамог. Акачурыўся ад страты крыві, балявога сіндрому, страху і гістэрыкі, што памрэ.

Гэты выпадак тады скалануў зэкаў, неяк нават падтрымаў на духу. Паўлюк, калі даведаўся, моцна перажыў. Потым сказаў сабе і Койту Ранцэвічу, што, калі выйдзе на волю, то покі жыць можна, будзе забіваць энкавэдзістаў. Не дажыў і ня выйшаў.

Такая вось сямейная гісторыя гэтай мілай Юлькі, дзяўчынкі з адкрытым аблічча, прыгожымі вачыма і крыху зьдзіўленым позіркам.

Тым часам зборка на “Вышыні” працягвалася. Усе віталі маладую пару, Алеся і Юльку, зычылі шчасьця і ўсялякіх добрасьцяў.

З новых людзей прысутнічаў такі Зыгмунт Анцыпа, мужчына гадоў трыццаці пяці, студэнт з рэжысёрскага факультэта, які нейкім чынам перайшоў у БДТМІ з маскоўскага ГИТИСа. Там ён не прыжыўся і цяпер усяляк іранізаваў з маскоўцаў і іхных звычак. Зразумела было, што там ён прыйшоўся “не ко двору”. Тут жа, у Менску, як бы ўсё добра, але Зыгмунт трапіў ня ў добры час. Сама цяпер пачаўся рмазгром інстытута. У мінулым годзе зьнялі (дакладней, зьелі) чарговага рэктара, вядомага беларускага мастака і на яго месца прыслалі палкоўніка КГБ, нейкага Захарава. А той яшчэ (каб мець больш грошай) пачаў чытаць студэнтам гісторыю расейскага тэатра. (Гэта было “нешта”!) “Шчасьце яшчэ, што не беларускага”, –

-----------------------------------------

* “мамулячка”, “матулячка”, “матусячка” *(паланізм)*

** -- Ды ўвогуле, чаго я тут з табой, казой, размаўляю, мля! (рус.)

сказаў Дзіма Савёнак з акторскага, які езьдзіў разам у групе зь “Міхалкам” Далецкіх.

У інстытут набілася розных “зампалітаў” і “вэтэранаў партыі” па “хозчасти”*. Словам, як у песьні пяецца, “стала весяло”, ці, як кажуць, ня ўсіх дурных вайна пабіла. У выніку на Анцыпу паглядалі скоса, бо рэктар-палкоўнік адразу зафіксаваў “чуждый язык”, “в котором кроется националистическая тенденция и зараза”**.

Хведар Мялешка іранізуе на гэты выпадак, што з імем Зыгмунт раней маглі б увогуле расстраляць. “Так, але добра яшчэ, што не Адольф”, -- успрымае іронію Анцыпа. Мяркуючы па размове, ён здаўся ўсім вельмі талковым чалавекам, тым больш, з жыцьцёвым вопытам і тое, што прыяцель Чаплінскага.

А Чаплінскі выдаў навіну, ад якой усе схамянуліся. Аказваецца, яны з Зыгмунтам знайшлі магілу Юльяна Бакшанскага і яшчэ трох паплечнікаў Каліноўскага, якія загінулі ў сутычцы з маскоўцамі пад Маладзечнам. Інсургенты атраду Бакшанскага прывезьлі чатырох забітых у Плябань, ноччу адпелі з ксяндзом і пахавалі на могілках. Гэтыя закінутыя могілкі, на якіх ужо сто гадоў не хаваюць, якраз і знайшлі нашы рэжысёры-археолагі і там, у ламаччы і кустах, адшукалі рэшткі помніка з памятнай плітой пахаваных. Тут непадалёк у 20-30-х гадах праходзіла акупацыйная мяжа рыжскага падзелу Беларусі паміж саветамі і даваеннай Польшчай. Якраз палякі ў той час і азнакавалі магільным помнікам пахаваньне забітых паўстанцкіх змагароў. Потым ужо другія саветы ў 1939-м, ці можа нават трэція саветы ў 1944-м разбурылі гэтую магілу. І вось цяпер сябры “Вышыні” тое знайшлі. Ёсьць імёны і даты.

-- Добра, -- кажа Антось, які любіў браць быка за рогі неадкладна і цяпер, -- што будзем рабіць?

-- Трэба хутка і незаўважна паставіць там наш помнік, -- сказаў Зыгмунт.

Усе пагадзіліся, але некаторыя пачалі казаць, што помнік зьнішчаць і згадзяць. Саветы яго не пакінуць.

-- Трэба такі помнік, каб ня зьнішчылі рукамі. Вядома, калі прышлюць танк, то нічога ня зробіш, -- дадае Зыгмунт.

-- Трэба велізарны камень і надпіс выбіць на камені, -- прапануе Юргель, -- тады ня зьнішчаць. Без магутнай тэхнікі, ва ўсякім разе.

-- Я думаю, што трэба зрабіць усё схавана і не даваць шырокай інфармацыі, -- прапанаваў Дуброва. – Пройдзе час, і ўсё будзе ўсім вядома, а цяпер трэба ўлічваць абставіны.

-- Перш, чым казаць пра праект помніка, трэба паехаць на месца і паглядзець, -- кажа Юргель. – А тут во канікулы.

-- Сябры, прапаную каваць гарачае жалеза, -- заклікае Антось. Маем вопыт, калі нешта адкладвалі, абавязкова была страта альбо нуль. У нас яшчэ некалькі дзён у Менску. Прапаную пасьлязаўтра паехаць на месца з інструмэнтам, высячы кусты, працерабіць зарасьнікі і паглядзець пляцоўку, што там можна зрабіць. Калі возьмемся, то трэба будзе вырашыць усё за лета і закончыць да кастрычніка.

Найперш трэба знайсьці падхадзяшчы камень. Потым яго прывезьці. Затым выбіць тэкст, потым інсталяваць на магіле і затым аформіць мэмарыяльную тэрыторыю (падыходы, дарожкі і т. п.). Патрэбныя людзі і магутная тэхніка. Людзі (мастакі, скульптары) у нас ёсьць. Пытаньне ў тэхніцы. Пытаньне для нас цяжкое.

Е р м а к о в і ч:

-- Ёсьць шанец. Аб тэхніцы буду дамаўляцца я праз Маладзечанскі гаркам партыі.

-------------------------------

* “гаспадарчай частцы” *(рус.)*

** “чужую мову, у якой хаваецца нацыяналістычная тэндэнцыя і зараза”. *(Рус.)*

-- Вы што, Яўген Ігнатавіч? – кажа Дуброва, -- яны ж як даведаюцца, то нас і раздушаць!
Е р м а к о в і ч:
-- Усё будзе. Перакананы. Бяру на сябе. У Гаркаме ёсьць свой чалавек. Але пра ўсё дамовімся на месцы. Можа там і камень не патрэбны будзе, а, скажам, нейкая пліта ці канструкцыя.
-- Ну, то што – едзем? – пытае Антось.

Усе пагадзіліся, і праз дзень з сякерамі, нажамі ды граблямі амаль уся "Вышыня" вываліла з электрычкі каля Плябані. Нават Рая Каліноўская, надзеўшы рабочыя пальчаткі, прыехала цягаць кусты. Праца аказалася нялёгкай, і прышлося шчыраваць амаль цэлы дзень. Высеклі "дзіч", падгрэблі магілкі і ўбачылі, што варыянт з каменем самы аптымальны.

Расклалі вогнішча і сабраліся перакусіць. Завіхаліся Юля зь Людвісяй. На сурвэце зьявіўся вялікі кавалак сала, які спаткалі радаснымі воклічамі, пасыпаліся анекдоты пра сала.

Сала летам – рэдкасьць. Яго наразалі ласкуткамі, страмлялі на завостраныя альховыя і крушынавыя пруткі-калочкі і смажылі на вагні. Сала, падсмажанае такім чынам, якое сквірчыць і пахне дымам, надзвычай смачны дэлікатэс. Беларусы тое ведаюць.
-- Ах, Людвісячка, якая ты слаўная! – усклікае Мялешка, -- як ты гэтым салам разумееш і ведаеш душу беларускага народа, -- кажа Хведар, жуючы гарачую скварачку.
-- Здорава! – кажа Фэлька Юргель, -- але ёсьць адно "але".
-- Няўжо ёсьць "але"? – перапытвае Антось.
-- На жаль, ёсьць, -- маркотна паўтарае Фэлька.
-- Людвісячка, -- працягвае Антось, -- тут Фэлька кажа, што "але" ёсьць. Паглядзі там у торбе, можа і праўда ёсьць.

Людвіся глядзіць у торбу.
-- А во, і праўда ёсьць! Адкуль ты, Фэлька, ведаў? – і дастае бутэльку гарэлкі з самаробнай этыкеткай, на якой каліграфічна напісана "Божыя сьлёзы". А ў нізе дробнымі літарамі: "Бакштанскі народны камбінат".
-- Ну, жартаўнікі вы, хлопцы, -- сьмяецца Людвіся. – І хто гэта толькі ўпакаваў? Усім па напарстку!

На ўсю грамаду яно так і атрымалася.
-- Яўген Ігнатавіч, як будзе з тэхнікай – кран і машына? – пытае Антось.
-- Я ўжо ўчора гаварыў – будзе.
-- Неверагодна! – пляскае ў ладкі Брылеўская. – Яўген Ігнтавіч, вы цудатворца!
-- Значыцца так, -- кажа Ермаковіч, -- тут зьбег шчасьлівых абставінаў. Я б сказаў, унікальных абставінаў. Трэці сакратар гаркама партыі Вячаслаў Антонавіч Ляшковіч (гэта ідэалогія і культура) ёсьць нармальным чалавекам, ведае беларускую гісторыю, культуру, чытае кнігі і спрыяе беларускай культурнай справе. Чалавек ён пазытыўны, што, самы разумееце, рэдкасьць у гэтай сістэме. Дык вось, ён абяцаў дапамагчы. А калі абяцаў, то будзе зроблена. Гэта рэальная ўлада.

Цяпер трэба мець групу пошуку каменя і дапамогу па транспартыроўцы і інсталяцыі, ну, і ўсё, што трэба.
-- Брава! – усклікае Людвіся.

Ермаковічу зноў запляскалі ў ладкі.
-- Цяпер трэба вызначыць групы, дні і тэрміны, і агульнага кіраўніка ўсёй справы.
-- Ну, дык ты ж узяўся, Антось, -- кажа Мялешка, -- цягні і кіруй.
-- Хлопцы, мне няёмка вам тое казаць, але я не змагу, прынамсі да верасьня. Адпусьціце мяне і Людвісю. Ну ... разумееце.., -- пачаў таптацца Антось, -- нам тут у

гэты вольны час трэба будзе шмат чаго важнага зрабіць, бо потым ужо стане цяжэй. А працай няхай Хведар пакірує і усе, хто застанецца ў Менску. Ну, вы ж зразумейце!
-- А мы ўжо даўно “зразумейце”, васпане. Так што восеньню аднымі “Божымі сьлёзамі” не абыдзешся, -- іранізуе Юргель.

Што было потым з Антосем і Людвісяй мы ўжо ведаем. У верасьні, праўда, ён ня толькі з жонкай мэблю ламаў, але і езьдзіў яшчэ са скульптарам Шурам Шэмбелем выбіваць тэкст на камені. У сярэдзіне верасьня ўсё было гатова. Па дыяганалі ад каменя-помніка на рог могілак да дарогі была вымашчана дарожка з бардзюрамі і ўтрамбавана галькай і галечным пяском. Выглядала сьціпла, манумэнтальна і цудоўна. Усё згарманізавана з пpасторай закінутых могілак. Пад велізарным шматтонным каменем (перш, чым яго ўсталяваць) хлопцы выкапалі камэру і паклалі туды асколкі ад польскага помніка, разьбітага бальшавікамі, зь імёнамі паўстанцаў.

Як і першы раз у ліпені, з боку ля могілак у пералеску “вышынскія” расклалі вогнішча, смажылі сала і паднялі чаркі за вечную памяць герояў, палеглых за волю, незалежнасьць і шчасьце Айчыны.

Вярнуліся ў Менск і не маглі расстацца. Усё размаўлялі. Тады Антось і кажа:
-- Ідземце ўсе ў “Вышыню”. Будзе працяг.

Па дарозе купілі трохлітровую бутлю чырвонага віна пад этыкеткай “ГАМЗА”, бо ў “Вышыні” дзейнічаў закон: моцных напояў у майстэрню не прыносіць і не ўжываць.
-- Ведаеце, што я думаю, -- кажа Юргель, разьмясьціўшыся на ўслончыку ля вакна, -- вось мы амаль што таемна зрабілі добрую справу. Ніякай інфармацыі пра гэта нідзе ня будзе, бо нельга. Праміне гадоў сорак, ну, ад сілы пяцьдзесят, разваліцца савецкая Арда і якія-небудзь піянеры-сьледапыты, а то і ўвогуле прыдуркі знойдуць у зарасьніках наш помнік і пачнуць чырыкаць на ўвесь двор, якое яны зрабілі вялікае гістарычнае адкрыцьцё, знайшлі пахаваньне паўстанцаў Каліноўскага. А? Як вы на гэта?
-- Добра было б, вядома, каб знайшлі разумныя, -- кажа Ясюк Рабцэвіч.
-- Няхай сабе і дурні, абы ні разбурылі, -- дадае Дуброва.
-- А я думаю пра іншае, -- уключаецца Хведар, -- што праз год у нас дыпломныя працы, і мы ... і мы, сябры, разьедземся і зьменшая нашая “Вышыня”.
-- Хве-е-едар! – ківае галавой Антось, -- гэта немагчыма ўжо слухаць. Што за мінорныя мэлёдыі. На “Вышыню” гэта непадобна. Ніякага пэсымізму! Ніякага мінору! Ніякага слёзакапства! Жывем весела! І першай вясёлай навіной, якая мусіла б вас развесяліць, ёсьць наступная. Цяпер верасень. А ў жніўні я, Антось Бальцэвіч, і яна, -- Антось бярэ за руку Людвісю, -- Людвіся Брылеўская, заключылі законны шлюб па каханьні на ўсё жыцьцё. Наліваем віно.
-- О-о-о-а! Кансьпіратары! “Віват!” – крычаць усе. Віншуем і шчасьця жадаем!

А Антось зь Людвісяй стаяць за рукі пабраўшыся, вясёлыя – рот да вушэй. Людка – кроў з малаком і Антось – шыракаплечы дзяцюк, чорны, як грак, а вочы сінія, нібы ўльтрамарын на квадратным абліччы.
-- Чаго гэта ў цябе валасы чорныя, а вочы сінія, -- падазрона бывала пытаецца Людка, -- ты, можа, цыган?
-- Гэта наша шляхецкая парода такая, -- важна адказвае Антось.
-- А наша шляхецкая парода Маскву разграміла, -- парыруе Людвіся.
-- А ты мая Людка любенькая.
-- А ты мой Антоська міленькі.

Між іншым, пра сваё паходжаньне Антось гаварыў скупа і, практычна, не закранаў гэтай тэмы. Дзед ягоны, Ігнат Бальцэвіч, быў беззямельным шляхцічам і

арэндаваў засьценак. Прапрадзед Антося Станіслаў удзельнічаў у паўстаньні Каліноўскага, быў сасланы ў Сібір, фальварак і зямля канфіскаваныя. Гэтак ягоныя нашчадкі сталіся беззямельнымі арандатарамі. Калі прышлі бальшавікі, яны схапілі дзеда Ігната і пасадзілі ў турму НКВД у Берасьцейскую крэпасьць. У 1941-м, калі немцы стукнулі па саветах, энкавэдзісты пачалі забіваць вязьняў, а вязьні сталі "разьбягацца", і дзед Ігнат уцёк. У турме маскалі яго катавалі, адбілі ныркі і вантробы. Дзед доўга не пажыў і памёр у 1943-м. Яго дзяцей – Язэпа (бацьку Антося) і трох дочак саветы пасьля вайны ўжо ня рушылі. Іх запісалі да беззямельных "крестьян". Язэп у 30-х гадах два гады адвучыўся ў Беларускай гімназіі ў Вільні. Усе веды пра Беларусь Антось пабраў ад бацькі і з бацькавых збораў кніжак, дзе былі амаль усе творы ксяндза Адама Станкевіча.

Усе глядзяць на шчасьлівую пару і радасна ўсьміхаюцца.

-- Але ж ты кансьпіратар! – усклікае Мялешка, -- цэлы дзень маўчаў і толькі цяпер сказаў.

-- Ведаеце, проста не хацеў на могілках пра гэта казаць. Неяк не стасавалася. А цяпер вось кажу. Мы ўжо заканчваем мядовы месяц, я вам скажу, поўны прыгод. Ад душы жадаю ўсім жаніцца. Хлопцы, жаніцеся, не пашкадуеце. От за гэта і вып'ем.

-- А між іншым, Антось, я табе скажу, як мы жэнімся, прынамсі я. Але гэтак і усе, -- працягвае тэму Віця Рашчынскі. Знаёмлюся гэта я, значыцца, з прыгожай дзяўчынай дзе-небудзь на танцах, у рэстаране, на валейбольнай пляцоўцы, ці на забаве. Усё добра. Трохі гаворым. Яна на мяне няўцямна глядзіць, і я яе праводжу, куды яна дазволіць. І тут яна кажа:

-- А што эта вы разгаварываеце на беларускам языке? Вы, наверна, учыцель беларускава языка? Вам так нада, да?*

І тады працяг прыблізна такі: "А вы из какой деревни, мадэмуазэль, позвольте узнать? Ах, деревня Казючики! Очень мило. Вон, видите, ваш троллейбус отъезжает? Поспешите, еще успеете. И не споткнитесь на шпильках, пожалуйста**.

Такіх жаніцьбаў, Антоне, у кожнага з нас ужо было па добрым дзясятку. Тут сацыяльная праблема, сябры, пра якую ніхто не гаворыць. Сутнасьць яе ў тым, што нармальнаму маладому беларусу ў горадзе ўжо нельга нармальна ажаніцца. Ну, ні з дурніцамі ж – "пачэму разгаварываеце".Тут сям'і не атрымаецца. Ёсьць вопыт і практыка. Гэта бяда, братове. Вось вам рэальны вынік савецкай палітыкі, якая вядзецца супраць нас. І таму... І таму – наліць бакалы! Вып'ем за нашага любімага і адданага сябра Людвісю Казіміраўну Бальцэвіч-Брылеўскую як за ўзор сапраўднай беларускай дзяўчыны і цяпер слаўнай жонкі нашага вернага таварыша Антося. Віват!

-- Віват! – усклікнулі ўсе. Хто сьмяяўся, а хто задумаўся.

-- А між іншым, тое, пра што казаў Віця, -- гэта нацыянальная праблема цэлага пакаленьня, -- працягвае тэму Зыгмунт, -- вынік савецкай русіфікацыі і зьнішчэньня нацыяў. Наш вясковы чалавек – добры чалавек, проста выдатны ў традыцыйнай вясковай сістэме жыцьця, каштоўнасьцяў і дачыненьняў, у сваёй сувязі з зямлёй. Добрыя, мудрыя людзі. Калі ж такога вясковага беларуса вырваць з коранем і зьмясьціць у акупаваны горад, які, практычна, яму чужы, тады ўся яго сістэма культуры разбураецца ушчэнт, і ён пачынае, як умее, сацыяльна і нават біялагічна

--------------------------------

* -- А што гэта вы размаўляеце на беларускай мове? Вы, напэўна, настаўнік беларускай мовы? Вам гэтак трэба, так? *(Ламаная рус.)*

** -- А вы зь якой вёскі, спадарычня, дазвольце даведацца? Ах, вёска Казючыкі! Вельмі міла. Вунь, бачыце, ваш тралейбус ад'язджае? Пасьпяшайцеся, яшчэ пасьпееце. І не зачапіцеся на шпільках, калі ласка. *(Рус.)*

прыстасоўваецца да чужых абставінаў. Вось тады і зьяўляюцца такія сацыяльныя дзікуны, якія пытаюць, "а пачэму разгаварываеце..."
-- Але ж у другіх народаў было інакш, сялянства свайго ня выраклася, -- заўважае Мікіта Рагоза.
-- Там, дзе гэта было, -- адказвае Зыгмунт, -- існавала прыватная ўласнасьць, людзі ёй валодалі, мелі частку свабоды і годнасьць асобы, якую дае ўласнасьць. Усё гэта адчыняла магчымасьць зьвязваць сябе з нацыяй, з усім грамадзтвам ды культурай. У нашым жа выпадку абрабаваныя людзі без зямлі, без уласнасьці, растаптаныя псіхічна, акупацыйнай школай, калгасьнікі, але не сяляне, работнікі з псіхалогіяй бяздомных. Ад іх нечага і патрабаваць цяжка, бо акупанты ўсё адабралі. Вось і праблема стварэньня беларускай сям'і ўзьнікла. І найперш у эліце грамадзтва, у людзей, якія ўсьведамляюць адказнасьць перад нацыяй. І ведаеце што? Сацыяльна вырашыць яе ў маштабе нацыі немагчыма, не ліквідаваўшы савецкую палітыку русіфікацыі. Тым часам у палітыцы СССР русіфікацыя – гэта галоўная задача. Не пабудова камунізма, у які яны, практычна, ня вераць, а русіфікацыя. Камунізм – гэта толькі форма такой вычварэнскай палітыкі.
-- І заўважце, -- дадае Ермаковіч, -- гэтая палітыка ёсьць асаблівая і асабліва жорсткая найперш для беларусаў і ўкраінцаў. Чаму? Таму што бяз Беларусі і Украіны СССР існаваць ня можа, а сама Расея ператворыцца ў адсталую краіну трэцяга сьвету і раскрадзецца.
-- Я зьдзіўляюся толькі, што гэтыя масква-манголы тое разумеюць, -- уставіў Чаплінскі.
-- А ведаеце што, Алесь, -- запярэчыў Ермаковіч, -- мы тут прыніжаем рэальных этнічных манголаў. Манголы стварылі найвялікшую імпэрыю ў гісторыі чалавецтва. Арганізавалі ваенна-дзяржаўную сістэму, і яна жудасна існавала некалькі стагоддзяў. Прытым манголы ня ўмешваліся ў культуру, мову і рэлігію заваяваных народаў. Тут рацыянальная палітыка для такой імпэрыі. Манголы палітычна ня моцна душылі маскоўцаў, сачылі, галоўнае, каб правільна і своечасова плацілі ясак і дзяліліся жонкамі з ханам (жыць хацелі, дык дзяліліся). Тым часам маскоўцы грызьлі адзін аднаго, як зьвяры, прадавалі манголам і змагаліся за доступ да асобы вялікага мангольскага начальства, каб нагадзіць суседу і зьнішчыць яго. Так жа было ўвесь час. Так яны Ноўгарад выразалі і абязлюдзілі. Манголы ж ноўгарадцаў не зьнішчалі. А вось калі імпэрыя разваліласяя, то Маскоўская арда і падгрэбла ўжо тое, што валялася на дарозе.

Увогуле, ведаеце, калі паглядзець на гісторыю Маскоўшчыны – гэта нейкая дзікая анамалія ў цывілізацыі, нейкае скопішча жорсткасьці і бессэнсоўнага разбурэньня, зьнішчэньне ўсяго. Іхныя паводзіны, дзеяньні іхных цароў цяжка лагічна патлумачыць. Гэта псіхалогія нейкага агрэсіўнага маніфэстуючага рабства, дзе ўвесь сьвет разглядаецца як вораг іхняга існаваньня.

Ведаеце, Фэлікс, вы кажаце, што савецкая Арда скончыцца праз сорак-пяцьдзесят гадоў. Мне як гісторыку здаецца, што яна ня скончыцца ніколі. Будзе вечна стаяць па горла ў крыві і толькі зьмяняць імпэрскую скуру.
-- Для нас вельмі важна перамяніць наш унутраны псіхалагічны стан грамадзтва. Інакш ня будзе нават супраціўленьня, -- заўважае Антось.
-- Жыцьцё кароткае, -- кажа Мялешка.
-- А ведаеце што, хлопцы, бярэмся за працу. Пачнем рабіць – і ўсё стане зьмяняцца, -- выказвае сваё меркаваньне Людвіся. – Цяжкасьцяў шмат, страхаў яшчэ больш, але нам ня страшна. Як піша адзін наш рамантычны пісьменьнік, "і адзін можа". А нас шмат. Хлопцы, лёд растане перад нашым гарачым духам!
-- Во-во! – усклікае Ермаковіч, -- бярыце прыклад з нашых беларускіх жанчын. Сьведчу, пажыўшы нямала: такіх жанчын нідзе няма на сьвеце. А мы так прывыклі,

што часта іх ня цэнім. Слухайце, во: наліце бакалы. Прапаную зноў выпіць за нашу слаўную Людвісю і яе слаўнага мужа Антося, -- завяршыў свой сьпіч Ермаковіч.

І гэтак у такіх размовах і разважаньнях яшчэ доўга плыла гаворка ў майстэрні “Вышыня”, і ўсе былі шчасьлівыя ад адчуваньня шчырага адзінства сяброў.

* * *

Кастрычнік. Пачаўся вучэбны год у мастакоў. Пераддыпломны год. Вольнага часу амаль не было. Неяк у “Вышыню” заехаў Барэйша, які ўладкаваўся рахункаводам у калгасе, як казаў, нейкага “ругацеля”-старшыні, але ў прынцыпе добрага дзядзькі. Самае цікавае (распавёў Барэйка), што ў калгасе зьявіўся беларускі машынапісны самвыдат, і ў яго такое адчуваньне, што “ругацель”-старшыня пра тое ведае і маўчыць. На яго думку, магчыма, завозяць якія-небудзь студэнты. Але калі з гэтым каго зловяць ці здадуць, то ўсе падазрэньні пасыплюцца на яго, на Барэйшу. Таму ён вырашыў, што пара рваць, і прыехаў у Менск шукаць дапамогі ў тытулаваных пісьменьнікаў, бо пачаў пісаць вершы і яго заўважылі. Мінула ўжо амаль два гады, як яго выгналі з БДУ, і ён хацеў бы рызыкнуць уладкавацца ў Берасьцейскі педінстытут пераводам.

Самае дзіўнае, што, нягледзячы на зьверскія вердыкты супраць яго, хаджэньне па аўтарытэтах праз тры месяцы дало плён і яму дазволілі “перавесьціся” з даздачай пэўных прадметаў, але толькі на першы курс. Ну, гэта тое, што трэба. Такім чынам, з наступнага вучэбнага сезона ён зноў пачне вучыцца ўжо ў Берасьці, калі, вядома, зьбегам абставінаў яго ні заграбуць у калгасе таго “ругацеля”. Такую інфармацыю мелі “вышынскія” пра Барэйшу.

Самвыдат на Берасьцейшчыне іх вельмі зацікавіў. Тэксты, якія прывёз Барэйша, яны нават пусьцілі ў Менску, зрабіўшы некалькі фотакопіяў, а Ермаковіч адвёз у Маладзечна, Вялейку і Смаргонь.

Мастакі “Вышыні” ўжо дамовіліся, што як толькі абароняць дыпломы, то створаць нефармальную мастацкую суполку “Адраджэньне”. Праўда, гэтае слова негалосна забаронена па палітычных матывах. Але нейкага афіцыйнага дакуманта аб забароне, ці ліста, ці пісьмовага акта ніхто не спатыкаў. Для саветаў тое ня мела ніякага значэньня, але мастакі меркавалі, што будзе легальны шанец пазмагацца. Антось ужо падрыхтаваў аргумэнты.

У пэрспэктыве ён бачыў “Адраджэньне” ня толькі як мастацкую суполку, але і як культурна-асьветніцкую напоўлегальную арганізацыю. Каханьне і шлюб з Людвісяй давалі яму крылы. Здавалася, што ўсё можна зрабіць і ўсё перамагчы.

* * *

Першы дзень сьнежня пачаўся з трагічнай падзеі, якая, як сьнег на галаву, абрынулася на ўсю “Вышыню”. У майстэрню вечарам прыбег Дуброва:

-- Хлопцы, бяда! Загінуў Ермаковіч. Яго зьбіў аўтамабіль.

-- Дзе зьбіў?

-- На вуліцы ў Менску.

-- Дапільнавалі-такі, д’яблы! – з горыччу вымавіў Зыгмунт, -- сьляпога чалавека.

-- Падрабязнасьцяў ня ведаю, -- кажа Дуброва, -- быццам бы пераходзіў на чырвонае сьвятло.

-- Гэта на яго не падобна, -- кажа Антось.

Усе спусьціліся ўніз, шукаць на вуліцы тэлефонную будку, каб патэлефанаваць жонцы Ермаковіча. Жонка, Макрына Янаўна, усё пацьвердзіла. Ён ішоў з бібліятэкі на электрычку з сваім нязьменным партфелем і рукапісам.

Потым высьветліліся акалічнасьці. Аказваецца, машына наехала не ў пачатку перахода, а ў канцы яго, калі толькі загарэлася чырвонае сьвятло, і

Ермаковіч ужо амаль што перайшоў вуліцу, але быў яшчэ з краю на праезнай частцы. Гэтая акалічнасьць мяняла справу. Значыцца, усе машыны стаялі перад пераходам, і як толькі запалілася зялёнае сьвятло, нехта зразу рвануў на Ермаковіча, які ўжо, фактычна, перайшоў вуліцу. Гэтага "нехта" могуць нават і пасадзіць дзеля выгляду, але тое нічога ўжо не адменіць. Забойства адбылося. Ермаковіч не жыве.

У "Вышыні" ніхто не сумняваўся, што тут намеранае забойства беларускага вучонага і дзеяча. Звычайны стыль гэбісцкай маскоўскай банды.

-- Гэта ў іх тыповы мэтад, -- сцьвярджаў Зыгмунт, -- суд, абавязкова ў суд! Усё будзе даказана!

Не давалася веры, што Ермаковіча ўжо няма. Не дапісалася гісторыя Беларусі. Ён сам стаў яе гісторыяй. "Вышыня" амаль у поўным складзе паехала ў Маладзечна на пахаваньне. У царкве адпяваць адмовілі. Умяшалася ўлада, і сьвятар напалохаўся (ці зрабіў выгляд). Улады, відаць, баяліся (ці ім загадалі баяцца), што будзе шмат людзей і каб што ня ўзьнікла. Поп віляў нават калі яго запрасілі ў дом нябожчыка, казаў, што ім "не разрешают"* і т. п. Справу вырашыла дыпламатыя Зыгмунта і грашовая сума. Адпелі ўсё ж у царкве. Антырэлігійная пазыцыя акупацыйных уладаў была такой агрэсіўнай, што некаторыя людзі пабойваліся нават нябожчыкаў хаваць па абраду.

Пасьля адпяваньня і пахаваньня ўсе сабраліся за жалобным сталом на памінальную вячэру. За памінальным сталом волі словам не даюць. Абстаноўка была прыгнечанай. Людвіся, аднак, усюды была сабой.

-- Людцы, што ж гэта робіцца, а? – казала яна. – Забіваюць лепшых беларусаў. Мусіць быць пакараньне арганізатарам забойства. Мусіць быць справядлівасьць. Людзтва ня можа жыць без справядлівасьці.

-- Вы знаеце, -- азваўся чалавек у шэрым касьцюме на рагу стала, -- скарэе усево эта несчастный случай. Прэскорбна, но таких случаев многа. Каму нада была убиваць скромнава и инцилегентнава Еўгения Игнатавича? У эта трудна паверыць.**

"Вышынскія" потым спрабавалі гаварыць з удавой Ермаковіча наконт сьледзтва і суда. Але Макрына Янаўна настолькі заламалася ад свайго гора, што ні чаму ня верыла і ні на што не спадзявалася. "Яны ўсё жыцьцё нас мучылі, -- кажа, -- вось Яўгена і замучылі. Хай яны паздыхаюць. Яўгена ўжо не падымеш".

Назаўтра, пасьля пахаваньня Яўгена Ігнатавіча, "вышынскія" сабраліся пад дахам. Прышло шмат. Ермаковіч быў чалавекам вядомым і трагічная забойчая яго сьмерць усіх уразіла.

Пасярэдзіне на маленькім століку, засланай льняной сурвэткай з народным арнаментам, стаяла налітая да паловы чарка гарэлкі, пустая талерка і відэлец, побач абразок Жыровіцкай Божай Маці і партрэт Яўгена Ігнатавіча з жалобнай стужкай. Царкоўная сьвечка гарэла роўным агнём.

Гаварылі мала. Успаміналі нябожчыка, яго словы ды справы. Толькі Зыгмунт зьвярнуўся наўпрост:

-- Антось! Сябры. Гэта вельмі сур'ёзна! Мы ня дзеці. Нас не ашукаць. Але рабем высновы. Галоўнае – не баяцца. Асьцярожна і адважна. Я так думаю.

-----------------------------

* "не дазваляюць" *(рус.)*

** -- Вы ведаеце (...) хутчэй за ўсё гэта няшчасны выпадак. Жалобна, але такіх выпадкаў шмат. Каму трэба было забіваць сьціплага і інтэлігентнага Яўгена Ігнатавіча? У гэта цяжка паверыць. *(Ламаная рус.)*

-- Твае словы, Зыгмунт, могуць стаць цяпер дэвізам нашых паводзінаў. “Асьцярожна і адважна!” – паўтарыў Антось. – Вельмі слушна. Змагацца і не баяцца. Працаваць сьмела.

Паволі наступаў змрок. Кароткі зімовы дзень. Паволі дагарала сьвечка Яўгена Іванавіча. Ніхто не запальваў сьвятло. Размаўлялі ў змроку пра мінуласьць і будучыню, пра Каляды і Новы год, пасьля якога стане павялічвацца сьветлы дзень.

* * *

Лена пераехала да Рамука адразу пасьля ўсіх фармальнасьцяў і, не адкладваючы нічога, акунулася ў новае, незнаёмае і, як аказалася, ня простае для яе жыцьцё. З школай не было праблем. Там прыходу Лены толькі ўзрадаваліся, бо “нямеччыхі” не было і прадмет выкладалі іншыя настаўнікі на падмене.Такім чынам Лена атрымала ўвесь камплект лекцыяў і ўзялася за працу.

-- Мілыя хлопчыкі і дзяўчынкі, -- сказала яна ў пятым класе, -- з пятага класа мы будзем вывучаць з вамі нямецкую мову ў нашай беларускай школе. У краіне яшчэ існуе шмат цяжкасьцяў, і мы ня маем, на жаль, нямецка-беларускіх падручнікаў і карыстаемся пакуль што нямецка-расейскімі. Але я буду вам расказваць, як нямецкая мова перакладаецца па-беларуску і як па-руску. Гэта дапаможа нам лепш засвоіць нямецкую мову і ўбачыць, як стасуюцца мовы паміж сабой.

Альховік крыху напалохаўся ад такой сьмеласьці новай настаўніцы, бо, як чалавек разумны, выдатна бачыў, што праз вывучэньне нямецкай мовы пры дапамозе расейскай у школе праводзіцца хітрая і подлая русіфікацыя ведаў дзяцей. І гэта афіцыйная пазыцыя.

Але Лена пераканала дырэктара, што праграма не зьмяняецца, а ў методыцы настаўнік мае пэўную (хоць і абмежаваную) свабоду. Альховік і сам быў “за”, але, як усялякі дырэктар савецкай школы, проста баяўся начальства, якое, як правіла, выбрыквала вельмі прадказальна.

Пасьля новага году, асвоіўшыся, Лена арганізавала беларускі драматычны гурток са старшакласьнікамі. Недзе да красавіка, праз тры месяцы, адолелі пастаноўку “Пінскай шляхты” Дуніна-Марцінкевіча. Прытым Лена арганізавала так, што вучні былі як бы самы і пастаноўшчыкамі, прыдумвалі мізансцэны, касьцюмы, гэгі, трукі і т. п. Рогату было поўна. Прыстаў Кручкоў прыязджаў на ровары, калі прамаўляў, часам узлазіў на стол, меў агромністыя вусы, а калі прысуджаў 25 лозаў без дывана, то чэрці з хвастамі цягнулі вялікае бервяно, на якім была намалявана голая задніца і бізунамі хвасталі па бервяну, танцуючы твіст і чарльстон. З гэтага бервяна і чарцей быў найбольшы рогат. Але па гэтай сцэне потым засядаў педсавет і вырашыў, што ўсё ж такі рабіць такую сцэнаграфію з голай задніцай непэдагагічна, тым больш пад забароненыя буржуазныя танцы.

Лена казала, што дала вучням свабоду творчасьці і што сцэна не выглядае непрыстойнай, але па-народнаму сьмешнай і што чэрцям якраз твіст і падыходзіць.

Усё ж такі з гэтым бервяном прышлося разьвітацца. На заканчэньне школьнага года “Пінскую шляхту” паказалі ізноў. На гэты раз, танцуючы весела “Лявоніху”, бізуна чэрці давалі жывому чалавеку, шляхцічу па ролі. Але на мяккае месца ў яго прывязана была агромністая падушка, па якой чэрці пад гукі “Лявоніхі” гасілі з усяе сілы. А шляхціч то плакаў, то сьмяяўся, то адпускаў рэплікі, што напіша на гэтых чарцей “у райкам парціі”. На што чэрці крычалі:

Пішы-пішы, яшчэ дадзім,
Найясьнейшая карона
Наш адзіны гаспадзін.

А станавы прыстаў Кручкоў, начапіўшы густыя чорныя бровы і навешаўшы мэдалёў на сурдут, залазіў на стол, як на трыбуну, даставаў з кішэні паперу і чытаў голасам Брэжнева: “Да здравствуют наши советские женщины!”*

Рогат быў неверагодны. Пасьля гэтага спэктакля Альховік паклікаў Лену ў кабінет, шчапіў рукі, як у касьцёле, і залемантаваў:

-- Алена Аляксандраўна, паважаная, харошая, прашу вас, не паказвайце больш гэтую пастаноўку! Колькі разумнікаў на сьвеце! На нас усіх чарцей павешаюць, дакладуць у РАНА, у райкам партыі, і, самы разумееце, што пачнецца!

Лена паабяцала, што будуць рыхтаваць з вучнямі цяпер “Ідылію” Дуніна-Марцінкевіча і там зусім іншы стыль і, напэўна, будуць іншыя фантазіі.

Алена Аляксандраўна адразу стала вельмі знакамітай асобай ў школе, ды і ў мястэчку. Вучні яе палюбілі, а старшакласьнікі былі проста закаханыя. Школьны год закончыўся пазытыўна, і Лена з радасьцю глядзела ў будучыню.

Рамук цудоўна разумеў, што Лена без прывычкі, ды яшчэ загружаная ў школе, ні кухню, ні догляд дому не пацягне. Ён дамовіўся з адной жанчынай, Нінай Пятровіч, якая выйшла на пэнсію ў 55 гадоў, каб яна дапамагала яму ў доме за аплату. Ніна варыла абеды і пратала дом. Гэта, фактычна, давала магчымасьць Лене паўнацэнна працаваць у школе.

Зь верасьня яна пайшла ў дэкрэтны адпачынак і ў канцы кастрычніка нарадзіла двух хлопчыкаў. Вось табе й генэтыка! Рамук не хадзіў, а лётаў ад шчасьця. Прыехалі Прузына Мікалаеўна і Лёля. Усе аж кудахталі ад радасьці, быццам гэта былі першыя дзеці, што нарадзіліся на сьвет. Але ж прырода мацярынскай жаночай любові, панове, гэта нешта Боскае!

Рамук звоніць Рубайлу і крычыць у слухаўку:

-- Рафал. Навіна. Шляхты паболела на двух рыцараў – рыцар Лявон і рыцар Пётра.

-- Ну, то віншую, братка, -- гудзіць Рубайла. – Нам рыцары ох як патрэбныя. А то вакол адна чэрнь назьбіралася. Перадай Лене мой рубайлаўскі паклон.

Прузына Мікалаеўна і Лёля угаварылі спачатку Лену, а потым Рамука, каб на зіму Лена пераехала да іх у Менск. Усё ж камфортныя і медыцынскія ўмовы лепшыя, і для малышоў больш бясьпечныя. Рамук пагадзіўся і перавёз Лену зь немаўлятамі да лета ў Менск да бацькоў. Адразу вырашылі, што ў дэкрэце Лена застанецца на год (гэта значыць восем месяцаў за свой кошт).

* * *

Як Лена ад’ехала, ня стала каму друкаваць “самвыдат”. Сам Рамук на машынцы друкаваў павольна, ды й часу не было, а так увогуле, дык і багі могуць гаршкі абпальваць.

Апошнім часам на тэме “самвыдата” яны зблізіліся з Кур’яновічам. Баксёра гэтая тэма, што называецца, забрала. Ён ня ведаў страху і, відаць, не ўяўляў рэальна, што за распаўсюд “самвыдату” можа быць.

Аднойчы ён кажа Рамуку:

-- Васілевіч, ёсьць магчымасьць дастаць стары сьпісаны з балансу рататар. За грошы, вядома, але невялікія.

Яны перагаварылі і Рамук кажа: “Давай”.

Кур’яновіч даведаўся пра агрэгат у нейкай праектнай установе праз “гаспадарчую частку”, якая займалася сьпісваньнем маёмасьці. І хоць усе рататары ўсюды былі на ўліку ў КГБ, але тая акалічнасьць, што сам загадчык гаспадарчага

--------------------------------
* “Няхай жывуць нашыя савецкія жанчыны!” (Рус.)

аддзелу быў гэбістам (так было прынята ў СССР), то маніпуляцыя ўдалася нібы дзеля дапамогі калгасу (але ў рэальнасьці тут былі толькі грошы і бутэлька). Фармальна рататар нібы ўтылізавалі рашэньнем камісіі па сьпісаньні.

Патрэбна была машына, і Рамук сам паехаў з Кур'яновічам на калгасным "газоне" ў Воршу, паразмаўляў з загадчыкам гаспадарчай часткі, заверыў яго, што рататар "очень необходимая вещь для нужд колхоза"*, што "умные люди всегда договорятся"**. І неўзабаве рататар ужо быў у гаражы Рамука.

Але што цікава. Аказалася, што гэта быў дапатопны, відаць, з пачатку стагоддзя міміограф, на якім, магчыма, яшчэ эсэры і бальшавікі друкавалі свае пракламацыі. Тут ён ацалеў, аж пакуль спрытны начальнік "хозчасти"*** Івакін ні "утылізаваў" яго, каб дастаць новы ды сучасны. Убачыўшы такі музэйны хлам, Рамук заўважыў пра тое Івакіну і атрымаў яшчэ дзьве пачкі васкавой паперы за дадатковую плату.

"А ўвогуле, хабарнікі пры акупацыйным рэжыме – карысная катэгорыя", -- думаў Рамук. Ён ведаў гісторыю з бацькавым знаёмцам, у якога ў 1942 годзе немцы хацелі вывезьці дачку на працу ў Нямеччыну. Хапіла кавалка добрага сала адпаведнаму швабу, каб той выкрэсьліў дачку са сьпісу.

Прывёзшы прыладу, Рамук неадкладна сам вымураваў сьценку ў адну цагліну, якая адгарадзіла частку прасторнага гаража пад рататар. Дзьверы часова закрыў вялікім лістом ДСП, на які накалоў розныя схемы, мапы, дыяграмы, а зьверху прыбіў палічку для інструмэнтаў. Кур'яновічу ён давяраў, але шукаў іншае месца, куды можна было памясьціць рататар. Агрэгат ня мусіў быць на яго тэрыторыі. Але пошукі надзейнага месца пад рататар зацягваліся.

Вясной Рамук ужо аддрукаваў першы невялікі наклад – па 20 экзэмпляраў розных падпольных артыкулаў, якія, дарэчы, неяк хутка і незаўважна разышліся.

І тут здарылася тое, пра што папярэджваў Рубайла. Прыехаў "Лапаць". Вельмі дзіўны быў гэты візіт. Нічога канкрэтнага. Незразумела, чаго візітовіч хоча і чаго дамагаецца.

Паехаў у школу, сустракаўся з камуністамі, казаў пра ідэалагічную агрэсію імпэрыялізму, і гэта ўсё на яго лапцевым узроўні. Альховіку паведаміў, што зараз адзначана актывізацыя розных няўстойлівых элементаў сярод моладзі, якія трапілі на вуду буржуазнай прапаганды і т. п.

Альховік адразу ўбачыў узровень "інструктара", як толькі той адчыніў рот. Потым Ёська пацікавіўся ў Альховіка, чым займаюцца школьнікі старэйшых класаў, ці няма сярод іх буржуазных "веяний"**** і г. д.

Калі Альховік расказаў пра тое Рамуку, той зразумеў, што нешта знайшлі ў школьнікаў (магчыма, "Гісторыю Беларусі" Ластоўскага) альбо пра нешта даведаліся ад стукачоў. Гэта ўсё маглі зьвязаць зь ім і зь Ленай. І вось нюхаюць. Але навошта прыслалі Лапця? Ён жа дурны.

Пазваніў Івуць і кажа, што прыехаў інструктар з ЦК КПБ: праверка працы партарганізацыі. Чаго хоча – невядома.

-- Ён, відаць, сам ня ведае, чаго хоча, Леанід Іванавіч, -- адказвае Рамук, бо дурны, як корак з цёмнай бутэлькі. Я гэтага лапця ведаю. Вы мне скажыце, ён сюды прыйдзе?

-- Ня ведаю. Я кажу, што каб партсход сабраць з нагоды яго прыезду (ніхто ж не папярэдзіў), дык ён адказвае, што пакуль ня трэба.

------------------------------

* "вельмі неабходная рэч для патрэбаў калгаса" *(рус.)*

** "разумныя людзі заўсёды дамовяцца." *(Рус.)*

*** гаспадарчай часткі *(рус.)*

**** "павеваў" *(рус.)*

-- Ну, так, зразумеў.
-- А што вы зразумелі, Раман Васілевіч?
-- Скажы дурню Богу маліцца – ён лэб разаб'е. Я думаю, нічога сур'ёзнага, Леанід Іванавіч. Нехта нешта напісаў у ЦК, магчыма. Вось яны імітуюць працу.
-- Але, слухайце, у нас ніколі нікога не было з вобласьці, ня тое, што з ЦК.
-- Я ж кажу – імітуюць працу. Так бы мовячы, "пайшлі ў народ".

Але неўзабаве "імітатар" зьявіўся. Пад кантору пад'ехала чорная райкамаўская "Волга" і зь яе вышлі Ёська і Івуць.

Трэба сказаць,што да гэтага часу Ёська высока ўзвысіўся ва ўласных вачах. Збылася мара, якая дзяўбла яго ўсе астатнія гады. Трапіўшы шчасьліва і нечакана ў маленькі кабінецік ЦК, пазнаёміўшыся з такім значным чалавекам, як Ніканаў, ён вырашыў ізноў паспрабаваць зьмяніць сваё прозьвішча на "чэловечэское". Спачатку сказаў пра тое Ніканаву. А той у адказ:
-- Нет вопроса. Хоть завтра. Таварищ Машеров ведь тоже себя облагозвучил.*
-- Как? – зьдзівіўся Ёська.
-- А так. Был Машэра, стал Машеров.**
-- А ведзь я тожэ, чтобы эта аблагазвучыць, таварышч Никанав.***

Словам, літаральна праз тыдзень Юзік Гарох стаў Иосифом Гороховым з націскам на першым складзе. Ёська быў на сёмым небе ад радасьці і нечаканасьці, што так хутка ўсё пайшло. Збылася мара ідыёта. Ён глядзеў на сябе ў люстэрка і паўтараў "Горохов", "Горохов".

Ёську мроілася, што цяпер яму хутчэй дадуць званьне, пра якое казаў Ніканаў, і ён будзе, скажам ... о-о ... цяжка ўявіць ... капітан "Горохов". Ды не. А каб гэта во ... маёр "Горохов". Ёська аж заплюшчыў вочы ад задавальненьня. Ён стаў нават хадзіць неяк больш упэўнена. Неяк нібы нават паспакайнеў. Маўляў, "Иосиф Горохов" ідзе. "Машеров", "Горохов"... гучыць. Ёську аж расьпірала ад велічы.

Рамук з кабінету ня выйшаў. Чуваць было, як у прыёмнай спыталі яго. І адразу адчыніліся дзьверы, уваходзяць Ёська з Івуцём. Рамук стаяў ля вакна.
-- Здрастуйце, -- кажа Ёська сур'ёзна. – О, знакомый таварыщ.****

Рамук паздароваўся за руку з Івуцём, не падаючы рукі Ёську, і кажа:
-- Сядайце. – Сам сеў за стол і глядзіць на іх.
-- Ну, как дзела? Как движэтся пасевная? Какие вапросы?***** -- пачаў Ёська.

Рамук маўчыць і глядзіць на Івуця. Івуць:
-- Гэта, Васілевіч, інструктар ЦК КПБ таварыш Горахаў, па заданьні ЦК знаёміцца з нашым калгасам.
-- Чым цікавіцца таварыш інструктар? – пытае Рамук, гледзячы на Ёську.
-- Да вот, слабавата здзесь, вижу, у вас, и дзисцыплина храмает. Пры прэжнем прэдседацеле была большэ парадка.******
-- Што цікавіць, пытаю, -- паўтарыў пытаньне Рамук.

---------------------------

* -- Няма пытаньня. Хоць заўтра. Таварыш Машэраў жа таксама сябе абдобрагучыў. *(Рус.)*

** -- Як?
-- А так. Быў Машэра, стаў Машэраў. *(Рус.)*

*** -- А я ж таксама, каб гэта абдобрагучыць, таварыш Ніканаў. *(Ламаная рус.)*

**** -- Добры дзень, (...) О, знаёмы таварыш. *(Ламаная рус.)*

***** -- Ну, як справы? Як рухаецца пасяўная? Якія пытаньні? *(Ламаная рус.)*

****** -- Ды вось слабавата тут, бачу, у вас, і дысцыпліна кульгае. Пры папярэднім старшыні было больш парадку. *(Ламаная рус.)*

-- Ваабщэ та, растление маладзёжы. В школьникав абнаружылась буржуазная растлицельная лицература.*

Рамук маўчыць.

-- И эта всё на церыторыи вверэного цебе калхоза.**

Рамук маўчыць.

-- Ты что-небудзь об этом знаеш?

-- Не.

-- Вот видзиш. Ты дажэ аб этам не знаеш.**

Рамук маўчыць.

-- Эта, канечна, плоха. М-да, я вижу, эта цебя дажэ не инцерэсует.***

Рамук маўчыць.

-- М-да, ладна. Паэтаму я с табой гавару. Я абнаружыл у цебя ашыбачнае атнашэние, и эта как раз можэт быць связана с растлением маладзёжы. Вазможна, непрэднамерэнным. Пачэму ў цебя усе лозунги, наглядная агитацыя на беларускам языке? Как эта панимаць? Зачэм тащыць этат атжывшый язык, на каторам нельзя выразиць ничэво чэлавечэского? Пачэму ты не атвечаеш на вапросы инструктара ЦК парции? ****

-- Ты некалі схапіў аплявуху за такія словы. Можаш яшчэ схапіць, інструктар Цэка.

-- Толька ты забыл, чэм эта кончылась.*****

-- Не забыў. Ты ўсе свае пытаньні задаў? Я пытаю, ці ўсе пытаньні задаў?

-- А ты мне ня тыкай. Я інструктар, а ты калхозьнік.

-- Значыцца, пытаньняў няма. Аўф відэрзээн.****** Едзь назад і скажы там, каб больш цябе і такіх, як ты, нікуды не пасылалі.

Івуць разгублена круціў галавой, напалохана кідаючы позіркі то на Ёську, то на Рамука. Рамук устаў з-за стала, узяў слухаўку, набраў нумар.

-- Віктар, пад’язджай. Едзем, -- і выйшаў з кабінэта.

* * *

Гэта ўсё савецкая фантасмагорыя, чытацелю. Далей было яшчэ цікавей.

Ёська быў помсьлівы і ніякіх крыўдаў не забываўся. А тут такая непавага да яго, інструктара ЦК КПБ Горахава. І ў Ёські зайграў, абудзіўся стары казьліны імпэт. Ён сказаў Івуцю, што Шляхта ня варты, каб быць у партыі, і калі ён, Івуць, яго ня выключыць з шэрагаў КПСС, то тады ён, Горахаў, выключыць яго, Леаніда Івуця, і што ён “Горохов” паставіць, маўляў, гэтае пытаньне ў ЦК КПБ. Ёська надзьмуваўся перад Івуцём, выстаўляў сябе начальнікам і закусіў цуглі.

-- Пакажыце мне личнае дзела камуниста Шляхты, -- запатрабаваў Ёська ў Івуця.

Івуць зьбянтэжана замітусіўся, але адчыніў шафу і пакапаўшыся дастаў шэрую тэчку з надпісам "Райманд Васілевіч Шляхта".

---------------------------------------

* -- Наогул то, разбэшчаньне моладзі. У школьнікаў выявілася буржуазная, разбэшчваючая літаратура. *(Ламаная рус.)*

** -- І гэта ўсё на тэрыторыі даверанага табе калгаса. (...)

-- Ты што-небудзь пра гэта ведаеш? (...)

-- Вось бачыш. Ты нават пра гэта ня ведаеш. *(Ламаная рус.)*

*** -- Гэта, вядома, кепска. М-так, я бачу, гэта цябе нават не цікавіць. *(Ламаная рус.)*

**** -- М-так, добра. Таму я з табой гавару. Я выявіў у цябе памылковыя адносіны, і гэта якраз можа быць зьвязана з разбэшчаньнем моладзі. Магчыма, не знарочыстым. Чаму ў цябе ўсе лозунгі, наглядная агітацыя на беларускай мове? Як гэта разумець? Навошта цягнуць гэтую аджылую мову, на якой нельга выказаць нічога чалавечага? Чаму ты не адказваеш на пытаньні інструктара ЦК партыі? *(Ламаная рус.)*

***** -- Толькі ты забыўся, чым гэта скончылася. *(Ламаная рус.)*

****** -- (...) Да пабачэньня. *(Ням.)*

-- А пачэму не в сейфе? -- строга спытаў Ёська.
-- Невмещается, -- прамямліў Івуць, -- маленький сейф.
-- Маленький? Так паставце бальшой, -- адчаканіў Ёська, -- Усему учить нада? А почэму "дзела" написана па-беларуски? Вы што, не знаеце палицики парции в нацыаналнам вапросе?

Івуць маўаўчаў. Крымінальная натура Ёські пабуджала яго да помсты і самасцьвярджэньня.

Ёська даведаўся, дзе жыве Рамук, пад’ехаў да яго дома і ўбачыў Шляхту на вуліцы. Ён адпусьціў машыну назад, падышоў да Рамука і кажа, гэтак крыўляючыся і маніпулюючы растапыранымі пальцамі:
-- Ваабщэ та мала я цебя, прыдурка, тагда праучыл. Видна нада павтарыць учэние.*
-- Зараз паўторым, -- кажа Рамук, -- вунь там, -- і паказаў за хату, дзе пачынаўся выган і пералескі.

Зайшлі за хату.
-- Шчас ты будзеш ползаць, сапля нацдэмавская**, – кажа Ёська, ськідае пінжак і намерваецца біць Рамука. У гэты ж час Ёська атрымлівае ад Рамука левым простым і правым сярповым. У Ёські аж галава матлянулася. Але стаіць, і хоць бы што. Ёська махнуў рукой. Рамук ухіліўся і пасьля гэтага зноў было па Ёську, і даволі моцна двойчы: левы просты, правы сярповы, левы просты, правы сярповы. Усе ўдары дасягнулі мэты – па сківіцы і барадзе. А Ёська нават не здрыгануўся. Галава ягоная была, як з чыгуна, а ўся стотрыццацікілаграмовая маса амартызавала моцныя ўдары Рамука. Рамук яшчэ пару разоў стукнуў па гэтай чыгуннай галаве з вылупленымі вачыма – нуль эфекту. Ёська раптам азьвярэў, зароў і кінуўся на Рамука, каб схапіць, згрэбці і зьнішчыць, як пыл. Ён ганяў Рамука, як мядзьведзь зайца па выгане. Рамук на момант нават разгубіўся, бо разумеў, што калі Ёська схопіць яго, то паламае яму косьці, ці калі задзене сваім кулаком, што падковы гне, то прыб'е.

Тут Ёська з разгону скочыў на Рамука. Рамук не пасьпеў ухіліцца і раптоўна прысеў, потым імгненна, амаль інстыктыўна, рэзка выпрастаўся зьнізу ўверх і так урэзаў галавой Ёську пад бараду, што той на імгненьне замёр, як у запаволеным кіно, ногі яго ў каленях сагнуліся і задрыжэлі. Рамук тут жа адпрацаванымі ўдарамі правёў два сярповыя – зьлева і справа.

Твар Ёські стаў азызлы, ён рухнуў на дол усёй сваёй тушай і захрыпеў. Поўны накаўт.

Рамук вярнуўся дадому, сеў у свой “газон” і паехаў у поле.

* * *

У нядзелю пазваніў Рубайла.
-- Ну, што ў цябе? Лапці сплялі?
-- Сплялі.
-- Ну, я ж казаў. І што?
-- Набіў морду.
-- Зноў? Ну, слухай, Рамук, цяпер гэта так не пакінь. У суд, сволач! Ён не павінен там, у ЦК сядзець. Во брыда!

--------------------------------
* -- Наогул, мала я цябе, паўдурка, тады правучыў. Відаць, трэба паўтарыць вучэньне. *(Ламаная рус.)*
** -- Зараз ты будзеш поўзаць, сьліна нацдэмаўская. *(Ламаная рус.)*

-- Што ты гаворыш, Рафал? Гэта яму набілі морду.
-- Хто?
-- Той самы.
-- Не паверу. Жартуеш?
-- Але ж ты ведаеш, што я ніколі не маню.
-- Вось гэта яно, братка! О-ё-ёй!
-- Усё будзе “яно”, Рафал. Скора паеду па Лену, яна ў Менску, і скокну на пару гадзін да цябе.
-- Буду рады. Але слухай, мне затармазілі маё “геройства”. Я перакананы, што Лапаць нагадзіў.
-- Цалкам магчыма. Ён жа цяпер “Горохов”. Ну, але потым пагаворым, што з тым рабіць.

* * *

Лена чакала прыезду Рамука і рыхтавалася ў дарогу. Яна крыху пакруглела, як звычайна бывае пасьля пароду, нават рухі яе сталі яшчэ больш прыгожымі і пластычнымі. У яе прачнуўся такі мацярынскі інстынкт, што яна ўся стала ўвасабленьнем маці і расцьвіла, як яблыня вясной, уся сьвяцілася любовяй і цеплынёй. І голас яе стаў нейкі больш глыбокі і аксамітны, і, здаецца, усё яе ўспрыняцьце сьвету перамянілася. Сьвет стаў для яе, нібы стары знаёмы, і яна ведае, што ад яго чакаць. Нездарма кажуць, што жанчына рэалізуецца як жанчына толькі пасьля таго, як народзіць. Тады сталее яе псіхіка і цела, і дух, паляпшаецца здароўе і нават нэрвы знаходзяць спакой.

Рамук глядзеў на Лену часам шырока расплюшчанымі вачыма. Яму нават цяжка было паверыць у свой лёс, што Бог даў яму тое, чаго ён жадаў, пра што марыў у маладых летуценьнях. Але найбольш яго ўражвала і хвалявала цяпер містыка Ленінага вобразу. Гэта было нешта як бы вельмі знаёмае. Асабліва калі ён аднойчы прыехаў у Менск і вырашыў сфатаграфаваць на памяць Лену разам зь немаўлятамі на колерную стужку “Орвоколёр”. Лена апранула доўгую ў цёплай колернай гаме чырвоную сукенку, павязала на шыю бежавы шаўковы шаль, ў дробныя кветачкі і арабескі, на які спадалі яе залацістыя валасы, і ўзяла хлопчыкаў на левую і правую рукі, усьміхаючыся ў аб’ектыў. Рамук быў уражаны яе харастввом. “Ого! Прыўкрасная матрона!” Ён тое сказаў і Лене, а яна весела сьмяялася.
-- Ты ведаеш, Ромчык, а матронай быць яшчэ лепш.
-- Я таксама так думаю, -- кажа Рамук, -- хаця як для мяне, то добра ўсё, што ёсьць з табой і што тваё.

Вярнуўшыся ў калгас, ён неяк вечарам лістаў альбомы жывапісу, якія Лена прывезла для факультатыўных заняткаў у школе. І раптам ён убачыў такое, што яго аж скаланула. Ён разглядаў выяву Сіксцінскай Мадонны Рафаэля і ўбачыў, што гэта Лена. Рыхтык Лена. Толькі Лена вясёлая, а Мадонна Боская. У Рамука аж сэрца забілася. Нават нейкі містычны жах праняў. Аж думкі зьмяшаліся ў яго галаве. Рамук доўга ня мог супакоіцца, ня ведаючы, што думаць. Нарэшце ён неяк астыў ад свайго містычнага ўзбуджэньня і пачаў разважаць спакойна. Урэшце ж Рафаэль пісаў Матку Боску таксама зь нейкай рэальнай італьянскай жанчыны. Такіх прыкладаў шмат. Тут, дарэчы, даволі тыповы зьнешні вобраз, толькі дух не тыповы, нябесны. Таму жанчын, падобных да Мадонны, не пазнаеш. Але Лена зь дзецьмі... Ну, ён жа, Рамук, пазнаў яе ў Мадонне, пазнаў! Зрэшты, усё гэта “ад галавы”. Няма чаго мроіць там, дзе трэба рэальна глядзець. Лена поўная зямнога шчасьця, а хараство Мадонны духоўнае. Мадонна нясе Сына ўсяму чалавецтву. Вось жа і нашыя хлопчыкі вырастуць для Беларусі. Тут Рамук быў упэўнены у Лене, як у самым сабе.

* * *

Рамук аддрукаваў на ратататары яшчэ зь дзясятак асобнікаў артыкулаў і брашур “самвыдату” і зьбіраўся адвезьці ў Менск. Ён хацеў таксама пагаварыць зь Лёляй, якая завяла знаёмства зь нейкім Анцыпам і хацела расказаць Рамуку пра “цікавыя рэчы”, але калі ён будзе ў Менску.

Пачаўся чэрвень. Стаялі гожыя летнія дні. Рамук заправіў “газон” і пасьля абеду ў суботу думаў ужо накіравацца ў Менск. Калі ён выехаў на шашу, яго спыніла міліцыя, прытым гэта была не ДАІ. Міліцыянеры сказалі Рамуку вярнуцца і ехаць за імі, бо ў ягоным доме павінны быць праведзеныя сьледчыя дзеяньні. “Цікава. Субота, сярэдзіна дня”, -- падумаў Рамук, пакуль што нічога ня цямячы. Каля дома стаяла міліцэйская машына, трох міліцыянераў і два ягоныя суседы.

Адзін з міліцыянераў прадставіўся маёрам Хомічам і сказаў, што супраць яго ўзбуджана справа па факту хуліганства і нанясеньня цялесных пашкоджаньняў з расстройствам здароўя грамадзяніну Горахаву Іосіфу Вікенціевічу і што ў сувязі з гэтым яны павінны зрабіць ператрус яго сядзібы на прадмет зброі і іншых забароненых прадметаў. Пры гэтым маёр спаслаўся на санкцыю пракурора. Суседзі пакліканы ў якасьці сьведкаў.

Рамук усё зразумеў, у тым ліку і сваю пэрспэктыву. “Вось табе і Лапаць, -- падумалася, -- дадуць яму пагоны, а мне тэрмін.”

Рамук спадзяваўся, што элемэнтарны, нават лапцюжны, гонар не дазволіць Гароху зьвярнуцца ў міліцыю. Але справа, як кажуць, сама стварылася і пайшла найгоршым шляхам. Удар галавой быў настолькі моцны, што чыгунная сківіца Ёські трэснула, і ён трапіў у шпіталь. Ёська паведаміў, што яго ўдарыў Раман Шляхта, помсьцячы за студэнцкі канфлікт. Ягоны куратар ад КГБ Ніканаў настаяў, каб Ёська напісаў заяву ў міліцыю аб прыцягненьні да адказнасьці Рамана Шляхты. Усё астатняе разьвівалася ўжо па гэбоўскім сцэнары. Пры ператрусе знайшлі ратататар, васковую паперу, паліграфічную фарбу, незарэгістраваную друкарскую машынку, некалькі экзэмпляраў ”самвыдату”, копію і арыгінал “Гісторыі Беларусі” Вацлава Ластоўскага. Рамуку аб’явілі, што ён затрыманы, і павезьлі ў раён.

Рамука прывезьлі ў Воршу, завялі ў камэру для затрыманых і зачынілі дзьверы. Дзьве трэці камэры займаў так званы “палок” – вялікі дашчаты подыюм, кшталту клубнай сцэны, пафарбаваны чырвона-карычневай фарбай. Гэта былі агульныя “нары”. Тут маглі ўмясьціцца чатыры чалавекі (а калі сьціснуць, то і пяць). У нагах быў умывальнік і справа тое, што на флоце называюць “гальюн” альбо “ачко”. У камэры нікога не было. Але праз нейкі час, над вечар, прывялі яшчэ п’яніцу, які быў на добрым падпітку і абяцаў усіх мянтоў “решить”.*

Заснуць на голых дошках не ўдавалася, хоць п’яніца хроп, хоць бы што, як тут і быў. Рамук разумеў, што ён ужо ня выйдзе. Прышыюць антысавецкую прапаганду, плюс злоснае хуліганства, і дадуць гадоў восем-дзесяць, а то і больш, колькі захочуць. Гэта яго неяк ня надта хвалявала. Усе думкі круціліся вакол Лены і малышоў. Калі хто ўжо і ведаў, што такое шчасьце ў каханьні, то гэта Рамук. Мінула амаль два гады, як яны пабраліся зь Ленай, а яму яшчэ ўсё як бы і ня верылася, што вось яна, ягоная мара, побач зь ім, глядзіць на яго ласкавымі блакітнымі вачыма, абымае яго за шыю і шэпча: “Ромчык, міленькі, каб ты ведаў, як я цябе кахаю... І ўсё жыцьцё буду, і нават на небе, калі мы з табой ужо тут не застанемся, я цябе там кахаць буду”. А той “Ромчык” гатоў быў Лену толькі на руках і насіць, як мог, ствараў ёй умовы, каб яна працавала ў школе, займалася б з вучнямі любімай справай, ня мела б цяжкіх клопатаў дома.

---------------------

* “забіць” *(рускі жаргон)*

Але Лена, выхаваная, як думаў Рамук, у цяплічных умовах, ведала па хаце і па сям'і ўсё, чаго й Рамук ня ведаў, якога жыцьцё пацерла, асабліва ў юнацтве. Рамук здагадваўся, што ўсё гэта плён выхаваньня Прузыны Мікалаеўны і ўвогуле традыцыяў іхняй сям'і. Але ўсяроўна Рамук не даваў Лене загразнуць у хаце, наняў "памочніцу" і глядзеў за жончыным жыцьцём, як клапатлівы муж.

А калі Лена нарадзіла яму блізьнят, то Рамук ужо не хадзіў, а падскокваў, так радасьць яго расьпірала. Лена быццам паднялася ў воблакі, такая зь яе атрымалася ўзьнёслая і шчасьлівая мама. Адкуль што ўзялося. Яна ўся сьвяцілася і жыла гэтымі сваімі любенькімі маленькімі ромчыкамі. Трэба было тое бачыць. І яно ўсё кружылася перад вачыма ў сьвядомасьці.

Заснуць Рамук ня мог, як ні стараўся. Яго хвалявала толькі адно, калі пасадзяць надоўга (а так будзе), дык каб толькі Лена не зламалася, каб не было ў яе роспачы і безуцешнага жалю. Вядома, Рамук тут прычынай. Шчасьце толькі пачыналася. Але Лена – гэта ня толькі жонка каханая, яна ягоны аднадумца, таварыш і сябра ягоны. Тут ня будзе папрокаў. Толькі Рамуку ад гэтага разуменьня ніякай палёгкі. Як уявіць Лену ў сьлязах, дык аж сэрца разрываецца ад любові і жалю.

Пад раніцу ён усё ж крыху заснуў. Зайшоў міліцыянер і сказаў: "Шляхта, на выхад з рэчамі". Рамука пасадзілі ў закратаваную будку і павезьлі. Ехалі доўга, некалькі гадзінаў, і Рамук зразумеў, што вязуць у Менск.

У Менску хапун заруліў праз нейкія брамы і неўзабаве спыніўся ў двары КГБ. Рамука адвялі ва ўнутраную турму КГБ (так званую "амерыканку") і замкнулі ў камэры-адзіночцы.

На допытах гэбісты раскалваліся, так ім хацелася выявіць і стварыць антысавецкую групу (за групу больш узнагарод). З гэтага, аднак, у іх нічога не атрымалася. Пробвалі катаваць, заціснулі пальцы у дзьверы, паролі аголенымі электраправадамі, а потым, калі надзелі на галаву гумовы супроцьгаз, перакрылі паветра і доўга трымалі, Рамук страціў прытомнасьць і ледзь ні памёр. Аблівалі вадой, ціскалі ў грудзі, і Рамук ачнуўся. Гэбісты крыху супакоіліся і далей ня катавалі. Відаць, зьмірыліся, што "групы" ня будзе.

Дапыталі мноства асобаў, у тым ліку і Рубайлу ў якасьці сьведкі. Нічога не зьвязалі і не скляпалі. Толькі свайму стукачу на пэнсіі, што аддаў Рамуку сьпісаны ратататар, надавалі па шапцы. Тут Рамуку не было патрэбы нічога хаваць, бо на агрэгаце быў напісаны інвэнтарны нумар і зразумела было, адкуль ён у Рамука. Ды й той Івакін іхны сабака.

У допытах таксама былі асаблівыя моманты. (Гэбісты зьвярталіся да Рамука то на "вы", то на "ты", у залежнасьці ад задумкі і ад настрою.)

-- А почему вы против советской власти?* – задае пытаньне адзін з гэбістаў.

-- Вы банкруты, панове, -- спакойна кажа Рамук. – Камунізм абяцалі – не пабудавалі. Замест багацьця тавараў – дэфіцыт. У выніку пачалі рыхтаваць паварот сібірскіх рэк "вспять".** Гэта вас і пахавае. Вам падабаецца, каб вамі кіравалі ідыёты, -- сьцяг у рукі і ў тупік. А мне хопіць.

Рамук разумеў, што ў любым выпадку яму дадуць максімум і таму сваёй пазыцыі не хаваў.

-- В тридцатые годы вас бы расстреляли, гражданин Шляхта,*** -- строга вымавіў адзін з гэбістаў, што іграў ролю "дрэннага гэбіста", нейкі маёр Суровцев.

----------------------------------

* -- А чаму вы супраць савецкай улады? (Рус.)

** "насуперак" (рус.)

*** -- У трыццатыя гады вас бы расстралялі, грамадзянін Шляхта. *(Рус.)*

Рамук прамаўчаў.
-- Ты не беларус, -- працягваў дрэнны гэбіст. – Белорусы – это советские люди. Ты белорусская свинья, пазор народа.*
-- Вы знаете, Раймонд Васильевич, -- адразу ўключыўся “добры гэбіст”, нейкі маёр Паўлаў, -- ведь партия -- живой организм, живые люди, и никто не гарантирован от ошибок. Никто же не делает во вред себе. Время такое. Партия переживает временные трудности в капиталистическом окружении, -- пачаў плесьці ялейную дэмагогію “добры гэбіст”. – Бывали ведь трудные годы послевоенной разрухи (окончилась Великая Отечественная война), годы послевоенного строительства, это ведь были героические будни всех советских людей. Мы преобразили мир, советские космические ракеты бороздят Вселенную, создаётся новая общность людей “советский народ”, успехи социализма поистине грандиозны..,** і г. д. уваходзіў у ролю “добры гэбіст”.

Урэшце рэшт яны паспрабавалі нават банальна вербаваць Рамука, абяцаючы лёгкі прысуд і нават лёгкае ўмоўнае асуджэньне пры “чистосердечном раскаянии”. (“У вас ведь такая красивая молодая жена”***), -- са спачуваньнем казаў “добры гэбіст”.

Рамук маўчаў і ніякіх ацэнак не выказваў, глядзеў на гэбістаў, як на нейкіх бесаў з таго сьвету, якіх ані ў чым нельга паважна ўспрымаць. Ён абыякава, але цьвёрда адмовіўся ад усіх іхных “падкатаў”, не марнуючы лішніх слоў.

Тады “дрэнны гэбіст” едка заўважае:
-- Ну, дело ваше. Должен заметить, однако, что такого предателя и врага народа, как вы, мы закатаем в вечную мерзлоту, туда, где комариный писк, на всю оставшуюся жизнь. Там мошкаре будете пропагандировать белорусский язык. Чего вы здесь все прыгаете, отщепенцы? Белорусии уже давно нет и не будет, перестаньте себе головы морочить. И народа такого нет. Советская власть вас, белорусов, и придумала. А вы вместо благодарности катите на неё, которая вас вырастила, воспитала, выучила, одела, обула...**** – “дрэнны гэбіст” сеў на каня, выстрэльваў фразы, як арэхі лузгаў. Калі ён спыніўся, Рамук суха заўважыў:
-- Панове, колькі мне дадуць і куды пашлюць, ад вас не залежыць і ад вашага допыту таксама. Не марнуйце словы.
-- Да-а-а. Тебе повезло. Не то время. С каким бы удовольствием я всадил бы такому девять грамов в затылок,***** -- прашыпеў “дрэнны гэбіст”. А гэта быў службіст гадоў пад шэсьдзесят. Магчыма, у 30-х ён гэтым ужо і займаўся. Нічога не памянялася ў забойчым ведамстве.

-----------------------------
* -- Ты не беларус. (...) Беларусы – гэта савецкія людзі. Ты беларуская сьвіньня, ганьба народа. *(Рус.)*

** -- Вы ведаеце, Раймонд Васілевіч, (...) партыя ж – гэта жывы арганізм, жывыя людзі, і ніхто не гарантаваны ад памылак. Ніхто ж ня робіць на шкоду сабе. Час такі. Пратыя перажывае часовыя цяжкасьці ў капіталістычным атачэньні. (...) Бывалі ж цяжкія гады пасьляваеннай разрухі (скончылася Вялікая Айчынная вайна), гады пасьляваеннага будаўніцтва, гэта ж былі гераічныя дні ўсіх савецкіх людзей. Мы пераўтварылі сьвет, савецкія касьмічныя ракеты баразнуюць Сусьвет, ствараецца новая агульнасьць людзей “савецкі народ”, посьпехі сацыялізма сапраўды грандыёзныя... *(Рус.)*

*** ... пры чыстасардэчным раскаяньні. (“У вас жа такая прыгожая маладая жонка”.) *(Рус.)*

**** -- Ну, ваша справа. Павінен сказаць, аднак, што такога здрадніка і ворага народа, як вы, мы закатаем у вечную мерзлату, туды, дзе камарыны піск, на ўсё астатняе жыцьцё. Там для машкары будзеце прапагандаваць беларускую мову. Чаго вы тут усе скачаце, адшчапенцы? Беларусі ўжо даўно няма і ня будзе, перастаньце сабе галаву дурыць. І народа такога няма. Савецкая ўлада вас, беларусаў, і прыдумала. А вы, замест удзячнасьці, коціце на яе, якая вас вырасьціла, выхавала, вывучыла, апранула, абула. *(Рус.)*

***** -- Та-а-к. Табе пашанцавала. Ня той час. Зь якім бы задавальненьнем я ўсадзіў бы такому дзевяць грамаў у патыліцу. *(Рус.)*

Рамук не адказваў, абыякава пазіраючы на сьледчых. Ён адразу зразумеў, вырашыў і прыняў, як лёс, -- будзе строгі прысуд на доўгі тэрмін, магчыма, строгі рэжым. Ніякага сэнсу выгаварвацца зь імі не было. Адвакат (іхны ж адвакат) ні ў чым не дапаможа. Усьвядоміўшы ўсё, Рамук супакоіўся і прста цярпеў руціну, стараючыся больш маўчаць. Але ў камэры, на нарах, ноччу ўсплывала ў сьвядомасьці Лена з сыночкамі на руках, ласкава ўсьміхалася любімай усьмешкай і глядзела на яго, глядзела...

Можа, гэта быў сон. Можа, відзеньне – Рамук ня ведаў і не задумваўся. Вобраз не выходзіў з галавы і расслабляў волю. Хацелася шкадаваць самога сябе і ўвесь сьвет.

Рамук усхапіўся, сеў на нарах і кажа: “Лена, мілая, не прыходзь. Дай мне сабрацца з воляю. Дай мне сабрацца, любая. Мы пераможам”. Лёг і заснуў.

* * *

Далей падзеі разьвіваліся хутка. Рамуку прад’явілі абвінавачваньне па некалькіх артыкулах Крымінальнага кодэксу, дзе галоўным было антысавецкая дзейнасьць і прапаганда.

Справа закруцілася энэргічна, жорстка і дзейнічала, як адладжаны механізм.

Лена даведалася пра ўсё ад Тані Альховік, зь якой у школе здружылася. Таня пазваніла і сказала, што Раман Шляхта арыштаваны. Абвінавачваньне – антысавеччына і пабіцьцё функцыянера ЦК партыі.

Для ўсіх Равічаў навіна была настолькі нечаканай, што цяжка было ў яе паверыць. Спакой і рацыянальнае думаньне захоўваў толькі Аляксандар Якубавіч.

Жанчыны былі напалоханыя, шмат гаварылі, хваляваліся. Лена захацела адразу ж ехаць у калгас, потым у міліцыю, у пракуратуру, каб даведацца і спаткацца з мужам. Равіч сказаў, што гэта ўжо амаль бяз сэнсу. У гэтым выпадку нічога ня скажуць і спатканьня не дазволяць.

У калгас Лена паехала зь Лёляй, пакінуўшы дзяцей на Прузыну Мікалаеўну.

У школе заставаліся яшчэ толькі дзесяцікласьнікі, якія здавалі экзамены на атэстат сталасьці. Ні з кім з настаўнікаў Лене пагаварыць не ўдалося. Усе нібы не пазнавалі яе, збольшага маўчалі, праходзілі міма, альбо, убачыўшы, зварочвалі ў бок. Нават Кур’яновіч схаваўся. Альховік, заўважыўшы Лену здалёк, спыніўся, нібы нешта забыўся, павярнуўся і пайшоў назад. Усе расступаліся перад ёй, як вада пад кілем. Таня, праўда, пагаварыла, але вельмі коратка, сказала тое, што па тэлефоне, і адышла. Бацька Равіч папярэдзіў Лену, што так будзе, і Лена цяпер больш зьдзіўлялася прадбачаньню бацькі, чым паводзінам калег.

Дзесяцікласьнікі, асабліва хлопцы, убачыўшы Лену, шчыра ўзрадваліся. Яшчэ з “Пінскай шляхты” яны палюбілі яе, а некаторыя цяпер выказвалі спачуваньне. Хуліганісты Юрка Паўлёнак, у якога ўжо пушок на губе, падышоў і кажа:

-- Алена Аляксандраўна, а Раман Васілевіч герой. Мы – за. Ён як урэзаў таму мардавароту з ЦК, дык той капыты адкінуў.

-- Юрка, я нічога ня ведаю, -- адказвае Лена, -- што тут было.

Хлопчыкі акружылі яе і пачалі наперабой расказваць усе легенды і чуткі, якія яны чулі ад бацькоў. З гэтых легендаў вынікала, што яе муж Раман Шляхта быў шпіёнам амэрыканскай разьведкі і агентам ЦРУ. Па заданьні ЦРУ ён стварыў падпольную друкарню і друкаваў антысавецкую літаратуру з мэтай “свержения советской власти и клеветы на Советский Союз”*. Шпіёнскую дзейнасьць Шляхты

---------------------------

* “зьвяржэньня савецкай улады і паклёпу на Савецкі Саюз”. *(Рус.)*

выявіў супрацоўнік ЦК КПБ Іосіф Горахаў, вядомы дзеяч камуністычнага руху і ідэолаг марксісцка-ленінскай філасофіі. Замятаючы сьляды, шпіён Шляхта вырашыў забіць Іосіфа Горахава. Але Іосіф Горахаў выжыў і цяпер знаходзіцца ў шпіталі на выздараўленьні.
-- Хлопцы, а як вы гэта ўсё ацэньваеце? Вы верыце ў лухту пра шпіёнаў?
-- Што вы, Алена Аляксандраўна, мы ж ня дурні. Гэта яны там, пэўна, ужо з розуму зьехалі. Потым кіроўца гэтага бамбізы Івуцю сказаў, што бамбіза сам нарваўся і хацеў Рамана Васілевіча пабіць. Але атрымаў у пысак і цяпер помсьціцца. А ведаеце, Гэлька Цыкунова з восьмага класа праз вакно бачыла, як мардаварот за Раманам Васільевічам ганяўся і як Раман Васільевіч яму за гэта ўваліў. І ўсе дзесяцікласьнікі радаваліся, што Раман Васілевіч бамбізу з ЦК "уваліў".

* * *

У Воршы Лена нічога не дамаглася ні ў пракуратуры, ні ў міліцыі. Усе былі штучна ветлівымі і перад Ленай нават уставалі ("магія Лены", як жартаваў Рамук), але дазволіць спатканьне ніхто ня мог, бо справа, маўляў, перададзена ў менскі КГБ.

Лена вярнулася зь нічым і з бярэмам чутак. Равіч кажа, што гэтую сытуацыю перарабіць ня ўдасца нават на высокім узроўні. Там, дзе замешана КГБ і ЦК – справа гіблая, зробяць так, як захочуць. Наконт бойкі – гэта ня справа. Максімум – строгая вымова па партыйнай лініі абодвум двубойцам. Для суда тут справы няма. А вось самвыдат і сродкі распаўсюду – гэта ўжо крыж. Тут наварочаюць усяго, чаго й не было. Пасадзяць абавязкова. Ну, хіба згадзіўся б стукаць у КГБ. Але Рамук ня згодзіцца. Ды й гэб'ю тое не галоўнае. Тут магчымасьць атрымаць мэдалі, зоркі і пагоны. Так што рыхтуймася да найгоршага і самага жорсткага.

Лена апусьцілася ў крэсла і сьлёзы паплылі з вачэй. Глядзець на яе было пакутліва. Але Равіч кажа:
-- Дачка! Нашае жыцьцё такое. Рыхтуймася да доўгага плаваньня. Мы мусім перамагчы і даплысьці. І даплывем. І Лявон з Пятрусём даплысьці павінны. Разумееш?
-- Разумею, тата, але цяжка. Наша жыцьцё толькі пачыналася. Яшчэ і шчасьця як сьлед не спазналі...

Далей усё ішло шаблонна па-савецку. Рамука выключылі з партыі на сходзе першаснай арганізацыі. Нечакана з рэзкай крытыкай Рамука выступіў Альховік (вучняў цягалі ў міліцыю, пыталі пра забароненыя кнігі). Альховіка тое не зьберагло. Пазьней яго зьнялі з дырэктара школы і перавялі ў нейкую васьмігодку. Івуцю запісалі папярэджаньне за недагляд у ідэалагічнай працы. Равіча адправілі на пэнсію. Лену выклікалі ў КГБ.

На ўваходзе яе спаткаў гэбіст у цывільным і правёў да дзьвярэй у кабінет. У кабінеце сядзеў расейскай зьнешнасьці суб'ект гадоў пад сорак з даволі спакойным тварам і халоднымі вадзяністымі шэрымі вачыма. На стале з дальняга канца валяліся розныя газэты. На верхняй відаць быў загаловак па-беларуску "Весьнік КГБ". Лена гэта заўважыла і больш ні разу на тыя газэты не глядзела, зразумеўшы пастаноўку сцэны.

Далей пастаноўка працягвалася. Суб'ект загаварыў на даволі някепскай беларускай мове з нязначным расейскім акцэнтам. Ён гаварыў пра ўсё, пераскокваючы з тэмы на тэму. Лена маўчала. Яна прыйшла ў зялёным асеньнім касьцюме з драпавага матэрыялу, у чорным капялюшыку, у чорных тонкіх пальчатках, на руцэ чорная сумачка. Не хапала толькі тонкай вуалі з мушкамі, а то было б, як у галівудзкім кіно.

Гэтую сцэну цікава было назіраць. Лена сядзела і моўчкі глядзела на суб'екта, а той усё нешта гаворыць, стараючыся паказацца перад ёй рэспэктабельным супэрмэнам.
-- Маёр Павел Аляксеевіч Паўлаў, -- прадставіўся раптам гэбіст, нібы успомніў, што забыўся прадставіцца.
-- У якасьці каго я тут знаходжуся? – суха пытае Лена.
-- Проста ў якасьці субяседніка, -- адказвае маёр. – Кадэбэ мае такую функцыю працы – "бяседа" зь людзьмі.
Лена маўчыць, гледзячы на маёра (усё па інструкцыі бацькі). Гэбісту ніяк не ўдавалася ўцягнуць Лену ў размову ні пра культуру, ні пра мову, ні пра школу, ні пра тэатр і т. п. Нарэшце, да маёра дайшло, што гэтая жанчына ўсё разумее.
-- Алена Аляксандраўна, вы член партыі, як вы ацэньваеце антысавецкую дзейнасьць вашага мужа?
-- Хіба ўжо існуе афіцыйны вердыкт, што яна антысавецкая?
-- Ідзе сьледзтва, але ж вы разумееце, пра што я кажу, -- працягвае маёр.
-- Вы вядзеце сьледзтва са мной?
-- Не, мы проста размаўляем.
Маўчанка. Тады маёр зноў:
-- Вы маглі б адказаць на гэтае пытаньне?
-- Не магу.
-- Чаму?
-- Я ня ведаю, чым закончыцца сьледзтва.
-- Вы разумееце, Алена Аляксандраўна, мы можам уключыць вас у якасьці сьведкі па справе, і тады вам прыдзецца адказваць на пытаньні сьледзтва. Мы можам нават залічыць вас у якасьці саўдзельніка.
-- Тады будзе іншая размова, -- суха канстатуе Лена, разумеючы, што маёр яе палохае. Па закону ўсё ня так проста.
-- Вы член партыі, Алена Аляксандраўна. Вам усяроўна ня ўдасца ўхіліцца ад адказу на гэтае пытаньне перад партыяй.
-- Партыя мне такога пытаньня не задае.
-- Задасьць, Алена Аляксандраўна, і прыдзецца адказаць.
-- Зь якой гэта пары КГБ стаў вырашаць за партыю?
-- КГБ не вырашае, але КГБ разумее, -- маёр пачаў злавацца. – Вельмі шкода, што ў вас не атрымалася размова са мной. Шкада, што вы не захацелі зразумець, што КГБ можа ня толькі караць, але і дапамагаць. Мы таксама ня ўсё можам казаць, што думаем.
Лена ледзь ні рассьмяялася.
-- Я думаю, Павел Аляксеевіч, што размова ўжо закончана? – спытала Лена амаль ласкава.
-- На сёньня – так, Алена Аляксандраўна.
Лена ўстала, каб пайсьці і ўсьміхнулася. Тут у яе крыху загаварыла натура Лёлі.
-- А між іншым, газэтку маглі б мне падарыць на памяць аб нашай "бяседзе". Эксклюзіў усё ж. Стане рарытэтам.
-- Якую газэтку? – вырвалася ў маёра.
-- "Весьнік КДБ", аддрукаваны ў адным экзэмпляры.
-- А, так. Так-так. Ведаеце, з прыемнасьцю, але гэта толькі для ўнутранага карыстаньня.
-- Разумею, -- адказвае Лена і выходзіць, не зачыняючы дзьверы. Ужо на лесьвіцы чуе, як маёр бразнуў дзьвярыма, зачыняючы за ёй. Гэбіст, які хацеў быць рэспэктабельным, ня ведаў, што жанчыну трэба правесьці з кабінета за дзьверы, ці

хаця б да дзьвярэй, а Лена машынальна (па выхаваньні мамы Прузыны) гэтыя дзьверы не зачыніла, мяркуючы, што начальнік кабінэту выходзіць сьледам.

На выхадзе паставы стаў патрабаваць ад яе “отношение”*, каб выпусьціць.

-- Паўлаў Павел Аляксеевіч, званіце, -- тонам загаду кажа Лена паставому. Той звоніць. У слухаўцы голас Паўлава: “Выпустить”.**

Што датычыць “партыі”, то “партыя” сапраўды “спытала”. Лену выклікалі на “бяседу” на бюро райкама пазьней, ужо пасьля суду над Рамуком. Задалі тое ж гэбоўскае пытаньне. Павісла пагроза выключэньня з партыі. Лена адказала коратка:

-- Мяне па гэтым пытаньні выклікалі ў КГБ, і я зразумела, што ёсьць людзі, якія хацелі б зваліць на мяне адказнасьць за мужа. Але праўда ёсьць такая, што кожны дарослы чалавек адказвае за сябе.

Як я ацэньваю прысуд майму мужу з абвінавачваньнем у антысавецкай дзейнасьці? Лічу, што прысуд вельмі жорсткі. Характар мужавай дзейнасьці дакладна ацэніць толькі гісторыя.

Каханьне маё да мужа і нашая сям’я непарушныя. Лічу, што зьяўляюся членам КПСС.

Лене хапіла вытрымкі не адказваць на дурныя і подлыя пытаньні, нікога не пакрыўдзіць і не задзець.

Размова на бюро закончылася агульнымі настаўленьнямі. Ніякай справы не пачыналі. Вялікую ролю тут адыграла сама асоба Лены, яе спакой, годнасьць, павага да людзей, уменьне трымацца і нават яе жаночае харство.

Расчараваны сталініст “Куприянов” (трэці сакратар райкама, які найбольш нападаў на Лену), выходзячы з паседжаньня, сказаў голасам амаль ласкавым: “Да, Елена Александровна, времена изменились. Лет 15-20 тому назад были бы вы уже там, где надо.”***

* * *

Невядома дакладна, як ішло сьледзтва з Рамуком, але акрамя яго ніхто моцна не пацярпеў, нават арганізацыя, якая выкінула на звалку рататар, хаця, праўда, вымоваў там настругалі шмат каму.

Судзілі Рамука на зачыненым паседжаньні Вярхоўнага Суда ў Менску. Далі дзесяць гадоў турмы бяз права спатканьняў са сваякамі. Равіч потым тлумачыў дочкам прычыну такой жорсткасьці: “Справа не настолькі ў антысавеччыне, колькі ў беларушчыне. Вось тут Масква зьвярэе і патрабуе расправы”.

Равіч па сваіх каналах даведаўся, дзе і калі будзе суд. (Ніякай інфармацыі пра палітычныя працэсы ў саветах не давалася.) Лена і Лёля пайшлі заранёў за дзьве гадзіны да пачатку. Каля суду нікога не было, толькі там-сям па пэрыметру прагульваліся альбо стаялі міліцыянеры. Сёстры заўважылі, як у двор суду заехаў закратаваны “хапун”, але нічога там ня ўбачылі. А Лёля нават крыкнула: “Роме! Рамане! Мы тут!” Адказу ніякага не было.

“Спадаем”****, -- кажа Лёля, і сёстры зьвярнулі ў прахадны пад’езд. Паглядзелі адтуль – ніхто за імі не пайшоў.

Лена і Лёля спусьціліся па вуліцы ўніз, далей ад суду, у бок трамвайнай лініі, разумеючы, што “хапун” не паедзе праз цэнтар горада, а той жа дарогай, што і заехаў. Сёстры заставаліся там амаль цэлы дзень, і толькі каля пятай гадзіны вечара ўбачылі, як на вуліцу выехаў той “хапун” і накіраваўся па вуліцы ў іх бок.

------------------------

* “адносіны” *(рус.)*

** “Выпусьціць.” *(Рус.)*

*** Так, Алена Аляксандраўна, час зьмяніўся. Гадоў 15-20 таму былі б вы ўжо там, дзе трэба.” *(Рус.)*

**** Зматваемся, уцякаем *(паланізм)*

Яны стаялі і глядзелі. Сэрца ў Лены тахкала ўжо амаль што ў горле, так яна хвалявалася і так ёй хацелася хоць на імгненьне ўбачыць, хоць пачуць свайго любімага, адзінага і каханага.

"Хапун" параўняўся зь імі, і раптам за запыленым закратаваным ваконцам яна ўбачыла, як паказалася чалавечая рука і памахала адтуль.

-- Ромчык! – крыкнула Лена з усяе сілы. – Люблю! Чакаю! Вер мне! Вер мне! Вер мне!.. Ромчык, вер мне!

"Хапун" правурчэў побач і павярнуў управа, пераганяючы трамвай і набіраючы хуткасьць. Сёстры тады яшчэ ня ведалі рашэньня суду. Іх жа на суд не пусьцілі, не дазволілі зайсьці нават у будынак суду. Прыехаўшы дадому, яны даведаліся пра дзесяць гадоў і далі волю сьлязам.

* * *

Ёська быў на сёмым небе ад радасьці. Ськівіца зажыла, а "прэдацель"* Шляхта сядзіць у турме за свой "сабачы язык"**. У ЦК Ёська з апошняга шэрага доўбні клерка ператварыўся ў вядомую асобу. Пра яго мянцілі языкамі ў калідорах і курылках. Гэта ж трэба, выявіў антысавецкую дзейнасьць варожых элемэнтаў. Нават "першы" пацікавіўся, што гэта ў нас за "Горохов такой". І потым дадаў, што "надо продвигать активных и молодых". ***

Неўзабаве Ёську камандзіравалі ў Маскву на ўсесаюзны маладзёвы семінар ідэалагічных працаўнікоў пры ЦК КПСС. Некалькі дзён для цэлай зграі такіх, як Ёська, чыталі лекцыі на розныя тэмы, у якіх Ёська нічога не разумеў, але яму запомнілася, як ён упершыню ў жыцьці ехаў у мяккім спальным вагоне адзін у двухмесным купэ са скуранымі мяккімі канапамі, люстэркамі, халадзільнікам з напоямі, фарфоравым умывальнікам і кандыцыянерам. У такіх вагонах езьдзіла ў Маскву камандзіровачная намэнклятура.

Тут Ёська хутка асвоіўся і адчуў задавальненьне. Яму здалося, што ён ужо стаў вельмі важным, калі яму купілі білет у такі вагон.

У дзьверы пастукалі. Малады падцягнуты, каротка падстрыжаны праваднік прапанаваў кавы і гарбаты. "Пакіньце", -- ляніва кіўнуў Ёська на столік. Праваднік выставіў кубачкі, імбрычкі, цукерніцы, пажадаў прыемнага падарожжа і выйшаў. А Ёська нясьпешна прайшоўся па купэ некалькі разоў, косячыся на сябе ў люстэрка. Самазадавальненьне і спакой завалодалі яго арганізмам.

Але Масква, ведама ж, ня Менск. Ёську адзначылі камандзіроўку, але білета на цягнік у Менск ніхто яму не купляў. Ёська, які ўжо крыху "поднатарел"**** у сістэме, паспрабаваў быў пампаваць правы ў арганізацыйным аддзеле. "У вас есть белорусское постпредство, обращайтесь туда",***** -- адчаканіў яму нейкі злосны хлышч, перабіраючы паперкі.

"А дзе тое яшчэ "пастпрэдства,"****** халера-матары", -- думаў крыху разгублены Ёська. Аж тут падыходзіць нейкая спадарыня, апранутая ў дзелавым стылі, і кажа, што ня трэба ніякага "пастпрэдства". Няхай "таварыш" едзе проста на Беларускі вакзал і зьвернецца ў спэцыяльную касу для дэпутатаў Вярхоўнага Савета і членаў ураду СССР, паказаўшы сваё пасьведчаньне ЦК кампартыі. Ёська

--------------------------------

* "здраднік" *(ламаная рус.)*

** "сабачую мову" *(ламаная рус.)*

*** "трэба прасоўваць актыўных і маладых." *( Рус.)*

**** "навастрыўся" *(рус.)*

***** "У вас ёсьць беларускае "пастпрадсаўніцтва", зьвяртайцеся туды. *(Рус.)*

****** Гэта значыць "пастаяннае прадстаўніцтва" *(аўт.)*

так і зрабіў. Каля касы нікога не было. Пажылая касьерка напружана ветлівым голасам сто разоў папрасіла прабачэньня (што для Масквы наўзьдзіў), бо няма білетаў у аднаместнае купэ, а ёсьць толькі ў двухмеснае. Ёська, які паняцьця ня меў, што ёсьць яшчэ тыя "аднамесныя", штучна ўздыхнуў і, махнуўшы рукой, кажа: "Да ладна ужэ, давайце хоць двухмеснае, што падзелаеш"*.

Трапіўшы ў цягнік, Ёська разваліўся на скураной канапе і, гледзячы ў столь, радасна ні аб чым ня думаў. Тут бяз стуку адчыняюцца дзьверы і на парозе зьяўляецца суб'ект гадоў пяцідзесяці ў шэрым касьцюме, з круглым зямлістым тварам, рэдкай бародкай, вострым носам і прыпухлымі раскосымі мангольскімі вачыма.

-- А вот и попутчики есть, мля, -- закрычаў субъект рэзкім голасам, паказваючы рэдкія, як частакол зубы, з двумя залатымі «фіксамі» -- куда путь держите?

-- Минск, -- буркнуў Ёська.

-- Отлично! Я тоже, мля, к бульбашам собрался, мля. Дарога дальняя, мля, будем знакомы: Владимир Епифанцев, любитель девочек и танцев, мля, -- зарагатаў суб'ект, -- доктор геологии, доцент МГУ. Еду к ним, мля, в Академию, уму-разуму научить придурков, нахрен.**

"Дацэнт-доктар" быў на добрым падпітку. Ёська насупіўся. Гэтага яму яшчэ не хапала.

Тым часам "доктар-дацэнт" імгненна асвоіўся, лексіка яго напоўнілася выклічнікамі, уводнымі незьвязанымі словамі і эўфемізмамі, што па-расейску называецца адным словам "мат". Адлюстраваць яго мову ў арыгінале немагчыма з гледзішча прыстойнасьці і маралі, перакласьці таксама немагчыма, бо няма беларускіх адпаведнікаў, і словы не зьвязаныя з сэнсам сказа. Мова п'янага расейца – гэта нешта асаблівае. У ёй ёсьць толькі ключавыя словы, астатняе – незьвязаная колькасьць пастаянна паўтараемых (ня маючых ніякога дачыненьня да сэнсу і зьместу гаворкі) вульгарных назоваў і абазначэньняў мужчынскіх і жаночых палавых органаў, вытворных ад іх дзеясловаў, азначэньняў і прыметнікаў, пастаяннае называньне палавых актаў распутнага ды збочанага кшталту, пакліканьне на распутных жанчынаў, і асабліва на распусную жанчыну-маці, ці нават "распутную" Багародзіцу і "юрлівага" Бога.

Усё гэта паўтараецца бясконца, бяз сэнсу і выяўляе толькі падсьведамы стан пэрманэнтнай нянавісьці і нематываванай злосьці на ўвесь сьвет і на ўсё асяроддзе. Гэта фэнамэн, які людзям цяжка зразумець і немагчыма перадаць на пісьме ў нармальнай мове.

Улічваючы тое, даю тут толькі адаптаваны пераклад па-беларуску гаворкі доктара-дацэнта, апусьціўшы ўводныя словы.

-- А вы хто будзеце? – спытаў дацэнт Ёську. Камсамол? Школа камунізма? А-а, разумею – ваеннае ведамства.

-- Я інструктар ЦК парціі – з годнасьцю прамовіў Ёська.

-- Ні (...) сабе! А я падумаў, вы сакратар ЦК камсамола. А клічуць як?

-- Иосиф Викенцьевич Горохов, -- панура прамовіў Ёська.

-- Ні (...) сабе! Вы што, пшэк?

-- Сам вы пшэк, -- буркнуў Ёська.

---------------------------------

* "Ды няхай сабе, давайце хоць двухмеснае, што тут зробіш." *(Ламаная рус.)*

** -- А вось і спадарожнік ёсьць, мля, (...) куды шлях топчыце? (...) Выдатна! Я таксама, мля, да бульбашоў сабраўся. Дарога дальняя, мля, будзем знаёмыя: Уладзімер Епіфанцаў, аматар дзевак і да танцаў (...), доктар геалогіі, дацэнт МГУ. Еду да іх, мля, у Акадэмію, гора-розуму навучыць прыдуркаў, нахрэн." (*Рус.)*

-- Ды кіньце, Іосіф (...) я па-сяброўску (...). Гэта жарт і ні (...) больш. Давайце во лепш за знаёмства (...) ды добранька (...) каньячку, а?

Дацэнт адчыніў дыпламат, дастаў пачатую бутэльку, узяў са століка шклянкі і набулькаў па палавіне.

-- Ну, давай (...) за знаёмства і (...) каньяк армянскі (...).

Дацэнт кульнуў, як у халяву.

-- Ух! (..!) Давай каўбаскі (...) у Маскве (...) У Менску лепш (...), адтуль заўсёды вязу (...). Абжыраюць Расею (...). Я (...), між іншым, палякаў паважаю (...). Ты не крыўдуй (...), палякі таксама народ (...), хаця, па-праўдзе кажучы, (...) прыдуркі, ні (...) не разумеюць. Ты мне прабач (...), але палякі (...) ты мне канешна прабач на (...).

-- Я не паляк, -- зноў прабурчэў Ёська, без хаценьня жуючы кілбасу.

-- А я во, рускі (...), карэнны ленінградзец з Масквы (...). Вы не паляк, а Вікенцевіч, ні (...) сабе. Дык хто вы?

Ёська стаў у тупік, думаючы, што адказаць дацэнту пра сябе. Хто ён, Ёська, калі разабрацца, ёсьць. Нарэшце дадумаўся і кажа:

-- Я савецкі чалавек беларускава праисхаждзения*.

-- Ні (...) сабе! – усклікнуў дацэнт. – Гэта ўсё выдумкі палякаў (...). Гэта яны (...) прыдумалі беларусаў і ўсім (...) навешалі. Гэта яны (...) супраць рускіх працуюць(...). І мову беларускую прыдумалі (...) і (...) на ёй. А гэта ўвогуле ня мова (...). А немцы (…) хахлоў прыдумалі, сукі, і мову хахляцкую супраць нас зварганілі (…), мала мы ім, фрыцам (…) навешалі.

-- Да, грубый язык, некрасивый, дзеравенский,** -- пагадзіўся Ёська.

-- Ня тое слова (...), -- падхапіў дацэнт, -- ты толькі рот адчыніў (...), думаю, ні (...) сабе (...), ну (…) “дзяроўня” (...), на якой мове ён гаворыць, (...)?

-- Эта вы што – на каком языке? Вы што, па-руски не панимаеце***? – узбурыўся Ёська.

-- Гэта ты думаеш (...), што гаворыш па-руску (...)? А ты гаворыш (...) ведае па-якому (...), толькі не па-руску. Давай (...) яшчэ па адной на (...), -- забулькаў каньяком дацэнт.

Ёська разьзявіў рот. Ён быў зьдзіўлены, агаломшаны і пакрыўджаны да глыбіні душы, зьняважаны ў лепшых сваіх пачуцьцях.

-- Вы эта што, шуцице, да? Вы эта бросьце. Я знаю, на каком языке гавару****.

-- Вось (...) ён ведае (...), а я ні (...) ня ведаю (...). Ну, добра (...), усё гэта (...). Давай па трэцяй, (...) зь ёй “Я русский бы выучил только за то, что им разговаривал Ленин”***** (...). Усе ідзем да аднаго на (...). Увесь сьвет (...) ужо гаворыць па-руску на (...), усім (…) навешаем (...). Усім упіндзюрым.

Ад пачутага Ёська ўпаў у дэпрэсію. Гэта ж расеяц і яму такое сказаў. Ён глыбока задумаўся і цяжка перажываў. Ох, як узьненавідзеў Ёська сваё паходжаньне. Гэтая “дзярэўня” і дурная матка! Ён адчуў сябе такім няшчасным. І ніхто яму не падказаў, як трэба правільна жыць.

-- Хаця, увогуле, -- працягвае дацэнт, -- чэсна кажучы (...) ты мяне, Іосіф, прабач, але гэтыя беларусы (...) круглыя балваны (...), каб не сказаць – ідыёты (...).

Ё с ь к а: -- Эта как эта?******

------------------------

* -- Я савецкі чалавек беларускага паходжаньня. *(Ламаная рус.)*

** -- Так, грубая мова, штучная, вясковая. *(Ламаная рус.)*

*** -- Гэта вы што – на якой мове? Вы што, па-руску не разумееце? *(Ламаная рус.)*

**** -- Вы гэта што, жартуеце, так? Вы гэта кіньце. Я ведаю, на якой мове кажу. *(Ламаная рус.)*

***** “Я рускую вывучыў бы толькі за тое, што на ёй размаўляў Ленін”. *(Рус.)*

****** -- Гэта як гэта? *(Ламаная рус.)*

Д а ц э н т: -- А так гэта (...) Вы гісторыю ведаеце? Вы ні (...) ня ведаеце. Вось так і беларусы: і ні (...) ня ведаюць і, ведаць, ні (...) ня хочуць!

Іхняя мова самая старажытная (...), дзяржаўная мова ў Літве (...), законы па-беларуску (...) для ўсёй Эўропы на (...) пісалі. Але нам прыдуркі патрэбныя (...). Бяз дурняў мы камунізм на (...) сто год (...) ні (...) не пабудуем на (...).

Слухай, Іосіф, вып’ем за прыдуркаў (...), за тых, што ні (...) ня ведаюць і ведаць ні (...) ня хочуць (...), інакш бы (...) усяму быў бы поўны (...).

Ё с ь к а: -- Што-та не понял, какая ещо Литва?! Мы што, лабусы, што ли? Вы эта бросьце!*

-- І не зразумееце, бacенька мой, -- зарагатаў дацэнт. – Я – Фантамас, сука (...). Няўжо ня ўсёк на (...).

Ёська злосна пазіраў на дацэнта. Ягонае гаварэньне ўжо стала дакучаць. Дацэнт імгненна адчуў перамену настрою ў Ёські, і ўжо гэтак міралюбіва працягвае:

-- Ды (...) зь ім, Іосіф. Ня трэба думаць. Як казаў Бярдзяеў (...), будучыня вызначае сэнс існаваньня на (...). Наша будучыня (...) наперадзе на (...), а Хрушчоў быў (...) маржовы.

“Які там яшчэ “Бярдзяеў”, -- думае Ёська. – Быў жа ў іх у мястэчку першы старшыня калгаса Бярдзяеў – прапойца, як гэты геолаг, і лаяўся, як дацэнт. Пра яго так і кпілі: “П'янтос, хамло і негадзяй, гэты сукін сын Бярдзяй”. А мо’ ён не дацэнт?” – насьцярожыўся Ёська, пазіраючы на асалавелага суседа.

-- Яшчэ па адной (...) апошняй на (...).

Дацэнт зноў набулькаў усё, што засталося, стукнуў сваёй шклянкай ў шклянку Ёські, якая стаяла на століку, і тут жа выпіў, крэкнуўшы ад задавальненьня і на вачах моцна п’янеючы.

Ёська пачаў ужо непакоіцца, што трапіў у дрэннае становішча, бо невядома, што гэты вучоны дацэнт і геолаг можа яшчэ выбрыкнуць.

-- Ты ў савецкай арміі служыў, Вікенцій?

-- Служыў.

-- Калі б ня армія (...), мне быў бы поўны (...). Паважаю (...).

-- Армия – вяликая школа жызьни,** -- мудра заўважыў Ёська.

-- Вось! Вось! – падняў у гару палец дацэнт. – Пасьля арміі (...) я пайшоў у геалогію (...), аб’езьдзіў увесь Саюз на (...). Урал, Саяны, Комі, “где золото роют в горах”,*** на (...). Сьпірту (...) заліся на (...). Усе геолагі (...) глушаць на (...). Але галоўнае (...) – ведай меру, на (...). Інакш – поўны (...). Мы, ленінградзкія, былі (...) не раўня маскоўскім (...). Эх, на (...). Жыцьцё (...) маладое, сука (...), Ленінград, белыя ночы (...), масты…, цёлкі каровістыя (…).

– Я вам спою
Ленинградскую блатную,
Как жили филоны в лагерях, -- засьпяваў раптам дрындзюшным голасам дацэнт-геолаг,
-- А в субботу
Не пойдем мы на работу.
А ў нас субота – каждый день”.****

---------------------------

* -- Нешта не зразумеў, якая яшчэ Літва?! Мы што, лабусы, ці што? Вы гэта кіньце! *(Ламаная рус.)*

** -- Армія – вялікая школа жыцьця. *(Ламаная рус.)*

*** “дзе золата капаюць у гарах” *(рус.)*

**** -- Я прасьпяваю вам Ленінградзкую блатную, як жылі філоны ў лагерах... А ў суботу мы ня пойдзем на працу, а ў нас субота – кожны дзень. *(Рус.)*

Люблю простую рускую песьню, Вікенцій (...), -- шчыра загаманіў дацэнт, -- “душа страдает, а трембита играет” на (...), “а годы летят”, Вікенцій, “наши годы, как птицы, летят. И некогда нам оглянуться назад”*, на (...). Вось такая (...). А бывала, Вікенцій ...

-- Я – Иосиф, -- устаўляе Ёська.

-- Усёроўна, Іосіф (...), усе мы на (...) людзі на (...), чалавекі на (...), рускія, сука на (...) ты канём! Эх, Вікенцій, душа баліць, а жыцьцё бяжыць. Ну і (...) зь ім.

– Когда я был мальчишкой, -- зноў задрындзеў іржавым голасам дацэнт, галава яго матлялася, --

Носил я брюки клёш,
Соломенную шляпу,
В кармане финский нож.
Я мать свою зарезал,
Отца своего убил,
Сестрёнку-гимназистку
В уборной утопил.** --

Вось за што я цябе люблю, Іосіф (...), -- гэта за тое (,,,), што ты ёсьць Вікенцій, сука на (...). Ты мяне зразумеў. Прабач на (...). Рускія не здаюцца на (...), -- мармытаў дацэнт і пачаў ікаць.

Ёська выйшаў у калідор і стаў азірацца па баках. Сялянскі розум яго падказваў, што трэба ратавацца, бо так можна і з ЦК вылецець. Ён падышоў да праваднiка і папрасіў, калі магчыма, перавесьці яго ў іншае купэ. Праваднік (абслуга цягніка была беларуская) паглядзеў на Ёську і ня стаў нават пытацца прычыны, правёў яго ў канец вагона і адчыніў купэ. На канапе пасопваў пасажыр, а на вешаку вісеў вайскові кіцель з пагонамі палкоўніка і пятліцамі танкавых войскаў. Ёська з аблягчэньнем уздыхнуў і выцягнуўся на канапе. Але словы п'янога дацэнта-геолага пра тое, што ён, Ёська, гаворыць не па-руску, не выходзілі яму з галавы.

Прыехаўшы ў Менск і праспаўшы ноч, ён стаў перад люстэркам і, гледзячы сабе ў рот, пачаў паўтараць, як папугай па сорак разоў адно і тое ж: “буряк”, “буряк”, “буряк”, “буряк”, “щяс”, “щяс”, “щяс”, “марков”, “марков”, “марков, маркоў, цьху, марков,”, “ащущение”, “ащущение”, “ащущэние”, цьху, “ащущение” “рябина”, “рябина”, “рябина”, “дрябина”, “дрябина”, “дрябина”, “паряся”, “паряся”, “паряся”, “хрюкать”, “хрюкать”, “хрюкать”, волк, волк. волк, внов, внов, внов, ўнов, цьху, внов, рябой, рябой. рябой, хрен рабой, цьху, хрэн рябой”...

І гэтак часта ходзіць Ёська і бубніць сабе, нават Жана нешта западозрыла. Але маўчала. Ведама, у людзей разумных і геніяльных, як яе муж, усялякае бывае.

* * *

Тое “цікавае”, пра што хацела расказаць Лёля свайму паважанаму швагру Рамуку, было вось што.

Неяк на спэктаклі ў опэрным тэатры, дзе яна была са сваёй калежанкай са школы Альбінай Майхровіч, да яе дзіўна і часта прыглядаўся адзін малады мужчына, даволі высокі, каб Лёля магла зьвярнуць на яго ўвагу. Ён часта пазіраў на яе і нешта крэмзаў у блакноце. Чалавек быў гадоў трыццаці пяці, чорны, коратка падстрыжаны з простакутным, як лапата, але даволі прывабным тварам (як сказаў

-----------------------

* “душа пакутуе, а трэмбіта грае... а гады лятуць, нашыя гады, як птушкі, лятуць. І няма калі нам азірнуцца назад” *(рус.)*

** “Калі я быў хлапчуком, насіў я порткі клёш, саламяны капялюш, а ў кішэні фінскі нож. Я маці сваю зарэзаў, бацьку свайго забіў, сястрычку-гімназістку ва ўборнай утапіў.” *(Рус.)*

бы Хведар Мялешка, у стылі готыкі). Апрануты незнаёмец быў у сьветлы касьцюм, у белай манішцы і пад карычневым гальштукам. Прытым яму, відаць, было загорача, дык у антракце ён свой сьветлы піджак бесцырымонна зьняў і сядзеў у белай шырачэннай штапельнай кашулі нейкага дзіўнага пакрою, нібы з тэатральнага гардэроба XVIII стагоддзя. Ён трымаўся так, нібы ён у гэтай опэры свой чалавек. “Відаць, нейкі непрызнаны “геній” з тэатральнага асяроддзя”, -- падумала Лёля.

У другім антракце ён падышоў да Лёлі, павітаўся па-беларуску і кажа:

-- Выбачайце, хацеў вам паказаць. Ці хоць трохі мне што ўдалося? – і пры гэтым паказвае Лёлі лісток з блакнота з накідам аблічча жанчыны, у якім аддалена Лёля магла пазнаць сябе.

-- Трохі ўдалося. Прытым у вас яна выглядае значна лепей, -- адказвае Лёля.

-- Не, вы ведаеце, я вам скажу, чаму я так уражаны. Значыцца, вамі ўражаны.

-- Вось як? Мне гэта чым-небудзь пагражае? Ці я магу застацца спакойнай?

-- Не, не, паслухайце, я нічога не прыдумваю. Я шчыра. Вы разумееце, на каго вы падобная?.. Толькі ня сьмейцеся, калі ласка. Вы падобная на вобраз з карціны Рафаэля. Мне страшна нават вымавіць, што гэта за вобраз. Гэта найдасканальнейшы абраз усіх часоў і народаў. Гэта эталон мастацтва.

-- Вы другі чалавек у маім жыцьці, які загаварыў пра гэтую карціну і гэты вобраз.

-- А першы хто?

-- Першы – гэта мой тата.

-- А вы падобная на тату ці на маму?

-- Трохі на тату, трохі на маму, але найбольш на саму сябе. Вы ж разумееце, што падабенства да вобразу тут чыста зьнешняе.

-- Ведаеце, я сябрую з маладымі беларускімі мастакамі, хоць я і не мастак, але нас цэлае асяроддзе, якое шануе беларушчыну. Я падумаў, што калі б яны вас убачылі, то, напэўна, творчасьць іхняя з таго мамэнту пайшла б у правільным накірунку.

Лёля засьмяялася. Словаблудзтвы незнаёмца яе зацікавілі.

-- Дык кажаце, вы не мастак?

-- Я ў гэтым годзе заканчваю рэжысёрскі факультэт у БДТМІ. Мяне клічуць Зыгмунт Анцыпа.

-- Вельмі прыемна: Лёля Равіч, -- кажа Лёля. – Ну, што ж, тое, пра што вы гаворыце – і пра беларушчыну, і пра мастакоў, – вельмі цікава.

Гэтак яны пазнаёміліся, сталі спатыкацца і неўзабаве Зыгмунт прывёў Лёлю ў “Вышыню”. Ёй усё там спадабалася. Гэта тое, чаго ёй нeставала – добрай інтэлігентнай беларускай кампаніі, без эстэцтва і пустаты. Яна адразу зышлася з Людвісяй, адчула роднасьць характараў і душ. Вышынскія, іхныя размовы, гумар і дачыненьні былі ёй да спадобы і яна з радасьцю ўлілася ў іхнюю плынь. Вось пра гэтых людзей і хацела Лёля расказаць Рамуку. Але ўсё нечакана і драматычна перавярнулася.

* * *

Мінуў год цяжкай напружанай працы. Нарэшце, абарона дыпломаў, і ўсе яны – Антось, Людвіся, Хведар, Фэлікс, Віця Рашчынскі, Ясюк Рабцэвіч, Мікіта Рагоза – словам, увесь іх “тузін” стануць вольнымі птушкамі. Усе чакалі сваёй волі і палёту ў невядомай і жаданай будучыні. За імі ў інстытуце застаюцца Дуброва і яшчэ некалькі моцных асоб. З маладзейшых беларуская сіла стала перацякаць з жывапісу ў графіку і да прыкладнікаў, асабліва па гісторыі касьцюма, дызайну, тэхнічнай эстэтыкі. Там моладзь была ўжо абазнаная. У іх ужо ёсьць назапашаны грунт і, між іншым, вопыт працы “вышынскіх”. “Вышыня” жыла і павялічвалася. Маладым ужо ня трэба было кожнаму адчыняць тое, што адчынена, вынаходзіць ровар-самакат ды пытаць, што такое “Пагоня”.

Тым часам жыць пад саветамі стала цяжэй. Стала менш нават той абмежаванай свабоды, якая была ў пачатку 60-х. Перасталі прадаваць шмат якія замежныя часопісы ў кіёсках (гэта значыць часопісы з так званага “сацыялістычнага лагеру”), панавылазіла навокал розных партыйных смарчкоў з КПСС, зачынілі апошнія беларускія школы ў Менску і ў гарадах. Тым ня менш, неяк з надзеяй глядзелася ўперад і ўпадніцтва не было. Здаровы дух надзеі прабіваўся, як трава праз асфальт.

Дыпломы абаранілі ўсе. Ды й не было яшчэ такога, каб мастак ды не абараніў бы дыплом. Пасьля абароны быў дзень “разброду”, а яшчэ праз дзень вышынскія сабраліся ў Вышыні.

Набілася столькі людзей, што было цесна, і бальшыня проста стаяла ўздоўж сьцен. Усюдыісная Людвіся дастала недзе ў “марожаніц” папяровых кубачкаў (бо шкляной тары не хапала), усіх абходзіла і прапаноўвала чырвонае віно. Згаджаліся ўсе і папівалі сабе, слухаючы альбо гаворачы. “Жывапудлы” былі ў такім стане, быццам з плячэй звалілася гара. Але адначасна агортваў нейкі некіруемы сум, што скончылася студэнцтва, разьвітваемся са студэнцкім брацтвам, з пыўкраснай парой, якая ніколі ўжо не паўторыцца ў нашым жыцьці.

-- Дарагія сябры, -- голасна кажа Антось, -- слухайце ўсе. Нас тут сёньня сабралася шмат і ўвесь наш мастакоўскі курс. Мы ня раз казалі, што скончым інстытут і не раз’едземся, не разбяжымся, а створым нашу супольную мастацкую плынь “Адраджэньне”. Усялякія арганізацыі цяпер забароненыя. Таму няма нават сэнсу зьбіраць устаноўчы сход, бо нічога ня будзе зарэгістравана і ўзьнікне толькі зачэпка для рэпрэсіяў. Прапанова такая: давайце цяпер вось тут дамовімся і абвесьцім самы сабе, што мы і ёсьць мастацкая плынь “Адраджэньне”, і прызначым групу, якая выпрацуе правілы і мастацкія прынцыпы “Адраджэньня”. Мы абмяркуем іх пазьней, калі будуць напісаныя, а з гэтай хвіліны мы ўжо ёсьць “Адраджэньне” і бярэмся за творчасьць дзеля шчасьця і прыгажосьці нашай Айчыны.

-- У такім разе, -- уносіць прапанову Лёля, -- у плыні “Адраджэньне” павінны ўдзельнічаць ня толькі мастакі, але ўсе актывісты з вольным сэрцам і беларускімі думкамі ў галаве. Што вы на гэта?

-- Брава! – загудзела грамада. – Хай будзе так!

Тады Зыгмунт кажа, што прапанова Антося ёсьць вельмі правільны ў гэтых умовах падыход. Ня трэба пустой фармалістыкі. Зыходзім з рэальнасьці, якая ўжо існуе.

Усе пагадзіліся. Тут жа выбралі групу, якая аформіць на пісьме правілы, мастацкія і культурніцкія прынцыпы супольнасьці. У групу абралі Бальцэвіча, Юргеля, Мялешку, Анцыпу, Чаплінскага. Юргель кажа далей, што тут патрэбны каардынатар супольнасьці. Дык хай будзе Антось Бальцэвіч, бо рэальна ён увесь час такім каардынатарам і зьяўляецца.

-- Выдатна! – усклікае Зыгмунт. – Усё стварылі за дзесяць хвілінаў. Гэта пацьвярджэньне таго, што разумныя людзі шмат не гавораць. І цяпер апошняя прапанова па гэтай тэме: наліць усім віна і выпіць за Беларускае Адраджэньне.

* * *

Пасьля сходу мінула шмат часу. Бальшыня разьехалася на лета, хто куды. У Менску заставаліся толькі менчукі Мялешка, Барэйка і яшчэ пару асоб. Але калі настаў кастрычнік, то аказалася, што недзе толькі трэць мастакоў выехалі на правінцыю. Бальшыня засталася ў Менску і старалася тут зачапіцца, асабліва сябры з малых гарадоў, і тым больш з вёскі, дзе мастаку няма чаго рабіць.

У кастрычніку зноў пачалі зьбірацца ў “Вышыні”, абмяркоўвалі першыя мастацкія працы “Адраджэньня”, планавалі самастойную выставу, але з гэтага

нічога не атрымалася. Выставіцца можна было пад эгідай Саюза мастакоў альбо іншай якой афіцыяльнай творчай арганізацыі. Вырашылі шукаць такую "эгіду", але галоўнае, каб былі творы. Таму вызначылі тэматыку, тэрміны і запрашалі рыхтаваць творчыя працы.

Працягваўся і "самвыдат", куратарам якога сталі Зыгмунт Анцыпа і Алесь Чаплінскі. Але дзейнічаць сталі вельмі асьцярожна, асабліва даведаўшыся пра лёс лёлінага швагра Раймонда Шляхты, пра якога на "Вышыні" ўжо хадзілі легенды. Асабліва ўсіх узбуджала нетыповасьць карціны: старшыня калгаса, камуніст і пайшоў насуперак саветчыны. Гэта ж нейкая белая варона ў нашым побыце.

Антось прапанаваў адзначыць у канцы лістапада зьяву нашай гісторыі, пра якую ў савецкім грамадзтве ўжо ніхто не памятаў і нават у "Вышыні" ня ўсе ведалі. Гэта ўгодкі Слуцкага збройнага чыну, ваеннай акцыі БНР супраць бальшавіцкіх акупантаў у лістападзе 1920 года.

Дуброва прапанаваў зрабіць вялікую расцяжку "Слуцкі Збройны Чын. Слава Слуцкім змагарам!" і павешаць на Круглым пляцы. І што, маўляў, яны ўжо з маладымі ўсё аглядзелі і ўсё зробяць.

-- Тады зборкі тут не павінна быць, -- кажа Антось, -- альбо-альбо. Інакш прыйдуць і забяруць усіх. Мусіць быць гарантавана дыскрэтнасьць і "неправал".

Дуброва, аднак, быў у сваім рэпэртуары і настойваў на расьцяжцы, маўляў, справа новая. Нічога падобнага ў Менску яшчэ не было. Усе ўбачаць. Будуць цікавіцца, што такое "Слуцкі збройны чын"?

-- І ўсё ж такі гэтага рабіць ня трэба, Андрэй, -- кажа Антось. Што такое "Слуцкі збройны чын" пасьля такой расьцяжкі абывацелю "растлумачаць" камуністычныя газэты мільённым накладам, радыё і тэлебачаньне. Ды так "растлумачаць", што горш не прыдумаеш. Ніякай альтэрнатывы камуністычным СМІ не існуе. Няма нават піску. Добрымі намерамі вымашчана дарога ў пекла. Гэтая справа сыграе як грандыёзная правакацыя супраць нас. Яшчэ й пахапаюць. Ім бы толькі зачапіцца.

Але Дуброва даказваў сваё, што патрэбныя рашучыя і відавочныя дзеяньні, каб людзі бачылі, што існуе сіла супраціву.

-- Няма ніякай сілы, -- кажа Антось, -- ёсьць кволенькія парастачкі, якія лёгка затаптаць. У нашых умовах фронды ня мусіць быць. А хто хоча пакрасавацца ў рэвалюцыі, калі ласка, у тэатр, на сцэну ці ў кіно. Там і гледачы ёсьць.

Якраз падышлі Анцыпа з Чаплінскім і, даведаўшыся, пра што гаворка, увалілі беднаму Дуброве так, што той прасіцца пачаў ("Хлопцы, я ж толькі прапанову даў. Ніхто ж нічога ня будзе рабіць" і г.д.)

Вырашылі падрыхтаваць улётку і брашурку пра Слуцкі збройны чын і распаўсюдзіць па пошце па адрасах. Мусіць быць акуратная індывідуальная праца зь людзьмі, а ня выбрыкі дзівакоў.

* * *

Тая размова была ў сярэдзіне кастрычніка. Праз тыдзень Зыгмунту (у яго дома быў тэлефон) патэлефанаваў Чаплінскі з тэлефоннай будкі. Голас быў хрыплы.

-- Зыгмунт, здарылася страшнае няшчасьце. Забілі Антося Бальцэвіча.

Зыгмунт аж асеў у крэсьле.

-- Гэта праўда?

-- Гэта праўда. Учора вечарам у цэнтры, насупраць міліцыі па Інтэрнацыянальнай. Нажом у сэрца. Бандытаў злавілі. Дзеці гэбістаў. Прыехалі з "рашы".

Маўчаньне.

-- Зь Людвісяй бяда. Баюся, каб ні памерла альбо ні звар’яцела. Еду да яе. Пазвані тым, у каго ёсьць тэлефон. Гэта Дуброва, Мялешка, Барэйка, Лёля Равіч. Пра іншых ня ведаю.

Зыгмунт абзваніў, каго можна было. Прасіў праз гадзіну-паўтары ўсім быць у “Вышыні”. Вагаўся, як пазваніць Лёлі. Спачатку вырашыў паберагчы яе і пакуль не званіць. Але тут жа перадумаў.

-- Лёлячка, тут Зыгмунт. Ты сёньня працуеш?

-- Сёньня тры лекцыі. Хутка еду ў школу. А што?

-- А калі будзеш дома?

-- У 14.30.

-- Лёля, то ты ўжо можа ідзі на працу, а то сёньня, кажуць, тралейбусы кепска ходзяць.

-- О-о, які клопат! Але я пешшу іду. Тут блізка.

-- Так. Ну, то можа ўжо выходзь.

-- Паслухай, што гэта ты мяне на працу выманьваеш раней часу, а, Зыгмунт? – Лёля сьмяецца. – Можа, там хто ў кустах схаваўся?

Зыгмунт ужо ня рады быў, што пачаў гэтую няўдалую гаворку дзеля захаваньня яе нэрваў перад лекцыямі. Ён хацеў, каб Лёля хутчэй вышла з дому, каб ніхто не пасьпеў ёй пазваніць перад працай, а ўжо пасьля працы, у 14.30 ён ёй пра ўсё скажа.

Але ягоны супэррацыяналізм аказаўся нікчэмным. Праз дзесяць хвілін зазваніў тэлефон. У слухаўцы голас Лёлі:

-- Зыгмунт! Няшчасьце! Забілі Антося. Божа міласэрдны! Божа літасьцівы, што гэта робіцца!? – чуваць было, як Лёля плача. -- Чаго ты маўчыш? Ты мяне чуеш?

-- Чую, Лёля. Я еду ў “Вышыню”. Трымай сябе ў руках, Лёля, мы не здадзімся, -- сказаў Зыгмунт і паклаў слухаўку, злуючыся на сябе: “Паправіў, называецца, мудрэц самаробны”.

У “Вышыні” сабралася чалавек восем. Падзяліліся на групы. Адна група паехала да Людвісі, іншыя ў міліцыю і ў морг.

Калі Зыгмунт зь Мялешкам увайшлі ў Людвісін пакой, там сядзеў Чаплінскі і яны размаўлялі. Убачыўшы сваіх, Людвіся зноў аблілася сьлязьмі і доўга не магла гаварыць. На раніцы да яе прыехалі зь міліцыі і расказалі, што адбылося, далі адрас морга, аддзяленьня міліцыі і тэлефоны. Людвіся дрэнна памятае, што яны казалі, бо думкі разбягаліся. Трэба ехаць у міліцыю, азнаёміцца з пратаколамі.

Пайшлі з Людвісяй на пошту, далі тэлеграмы яе і антосевым бацькам, каб прыязджалі. Потым выклікалі таксі і паехалі з Людвісяй і яе сыночкам у міліцыю. Пачыталі пратакол забойства і паказаньні сьведкаў. Карціна выглядала так.

На прыпынку тралейбуса двох п’янаватых маладых людзей сталі прыставаць да незнаёмай дзяўчыны і зьневажаць яе. Побач быў “гражданин Антон Бальцэвич”*, які ўступіўся за дзяўчыну. “В возникшей перепалке”** адзін з хуліганаў ударыў нажом “гражданина Бальцэвича в область сердца”.*** “Нападавшие скрылись”.****

Потым, дзякуючы апэратыўнасьці сьведкаў, якія заявілі ў аддзяленьне міліцыі, якое было побач, раён быў ачэплены і забойцаў злавілі. Імі аказаліся

----------------------------

* “грамадзянін Антон Бальцэвіч” *(рус.)*

** “Ва ўзьнікшай перасварцы” *(рус.)*

*** “грамадзяніна Бальцэвіча ў сэрца” *(рус.)*

**** “Нападнікі зьбеглі” *(рус.)*

браты “Грязновы”, “приехавшие из России в гости к родителям, работающим в системе госбезопасности”.*

Зыгмунт спытаў, а што гаворыць дзяўчына, за якую заступіўся Антось? “Девушка разыскивается”,** -- быў адказ.

Пракурор узбудзіў справу па факту забойства, вядзецца сьледзтва.

-- Калі можна забраць цела з морга, -- пытаецца Зыгмунт.

-- Пасьлязаўтра пасьля абеду. Адзеньне можна сёньня пасьля абеду.

-- Едзем на тэлеграф, Людвіся, трэба пагаварыць з бацькамі. Тэлеграмы мала, -- кажа Зыгмунт.

Спачатку пазванілі на пошту ў Лідзкі раён да Людвісіных бацькоў, папрасілі, каб паклікалі Брылеўскіх. Праз паўгадзіны пазванілі зноў. Бацькі былі на месцы. Размова была нядоўгай. Яны ўжо зьбіраюцца.

Потым патэлефанавалі на Гарадзеншчыну ў Гарадзенскі раён бацькам Антося. Прыедзе бацька. Маці занядужыла.

Людвіся трохі неяк нібы атупела, рэакцыі яе былі павольнымі. Яна больш маўчала. Увесь час патрабавала ехаць у морг забраць адзеньне. Зыгмунт інтуітыўна зразумеў, што можа быць страшны псіхічны зрыў. Усе ж ведалі пра іхняе каханьне. Ён зайшоў ў тэлефонную будку і пазваніў у школу. “Лёліта Аляксандраўна вызваліцца праз 30 хвілін”, -- ветліва адказалі ў слухаўцы. Зыгмунт пайшоў шукаць таксоўку. Стаянка была непадалёк, каля ГУМа, але ён не сьпяшаўся, каб пацягнуць час і пазваніць Лёлі. Ужо едучы ў морг зь Людвісяй і Хведарам, ён прыпыніў таксі і выйшаў, каб пазваніць з аўтамата. Лёля была ў настаўніцкай.

-- Лёля, прашу цябе, едзь адразу да Людвісі і чакай нас каля дому. Тут няма ніводнай жанчыны, патрэбна твая дапамога.

У моргу забралі адзеньне ў папяровым мяшку і паехалі да Людвісі. Мяшок трымаў Зыгмунт, седзячы наперадзе. Адзеньне было вільготнае і кроў ня высахла за суткі ў халодным памяшканьні. Лёля ўжо чакала каля дому. Зыгмунт адышоў зь ёй убок.

-- Лёля, я баюся за яе. Забралі адзеньне, трэба яго адразу памыць ад крыві, бо калі зь ім застанецца Людвіся сам на сам, я ня ведаю, што зь ёй можа стацца. Гэта асаблівы выпадак. Ты гэта зрабі. Словам, будзь увесь час зь ёй, не адыходзь.

А Людвіся толькі пра тое і думала. Яна вытрасла адзеньне зь мяшка на падлогу, схапіла акрываўленую кашулю Антося і схавала ў ёй твар, плачучы і выючы наўзбом, цалуючы яго вопратку.

-- Людвісячка, мілая наша, любая, мы з табой, мы заўсёды будзем з табой, -- кажа Лёля, абняўшы Людвісю, -- мы ж твае сябры, глядзі, во тут усе разам з табой. І Антоська наш сябра. Ён ужо на небе з Панам Богам у Царкве Нябеснай. Ён глядзіць на нас і вельмі перажывае, што мы так плачам. Ён хацеў бы, каб мы супакоіліся і ведалі, што жыцьцё вечнае, што ёсьць праўда, справядлівасьць і ўзнагарода за праўду. Ён цяпер заўсёды будзе з намі на небе, будзе зычыць нам развагі і спакою, і мы, каб ён не смуціўся за нас, будзем разважнымі.

Паступова Людвіся сьцішылася і села на ложак. Хведар, лепшы сябра Антося, быў зь Янкам на кухні, расказваў яму пра розныя прадметы і рэчы, пакуль мама вылічала ў пакоі.

Склалі план назаўтра, дзе каго хто возьме з прыезных пераначаваць, як заказаць машыну, труну і ўсё, што трэба. У Менску зачынены ўсе касьцёлы, таму няма сэнсу тут нешта рабіць. Трэба адразу ехаць на Гарадзеншчыну на радзіму

------------------------------------

* ... “якія прыехалі з Расеі ў госьці да бацькоў, што працавалі ў сістэме дзяржбясьпекі” *(рус.)*

** “Дзяўчына расшуківаецца” *(рус.)*

Антося.
-- Людвісячка, -- кажа Лёля, -- я зараз памыю вопратку Антося, бо нельга, каб яна доўга ляжала. А ты якраз пакорміш Яначку. Хведар на кухні ўжо нешта гатуе.
-- Я сама памыю. Сама!
-- Ну, добра, Людвісячка, сама, але давай разам. Я табе дапамагу. Ну, калі ласка.

Жанчыны пайшлі ў ванную. Зыгмунт занепакоіўся. Добра, што Лёля прыехала. Людвісю немагчыма было стрымаць. Яна хацела быць побач з адзеньнем Антося. Лёля на хвіліну нават сама разгубілася і ледзь ні самлела, калі ў ваду апусьцілі піджак і кашулю Антося, і ўся ванна стала чырвонай, афарбавалася яго крывёй.
--А-а-а-анто-о-о-оська-а! – нема закрычала Людвіся, душачыся сьлязьмі. -- Кроў! Кроў! Антоська-а-а!

Усе пачуцьці Людвісі былі на паверхні ў яе жыцьці. Яна проста ня ўмела іх насіць у сабе і, маючы сьветлую, чыстую душу, тым і прываблівала добрых людзей. Яе сапраўды ўсе любілі.
-- Антоська! Антоська-а! Мая кроў, мая...

Лёля абымала Людвісю, гладзіла па плячах, па галаве.
-- Людвісячка, мы адзеньне Антося зараз чысьценька памыем, і яно будзе такім, як было, а крывінка разам з вадзічкай пойдзе ў нашу зямельку, якую ён любіў, і ў нашай зямельцы, напоенай крывёй, будзе і яго крывіначка. Во, глядзі, ужо вада робіцца празрыстай, гэта значыць зямелька прымае сваё. Зараз мы яшчэ выпалашчам, і Антоська, які назірае за намі, будзе рады. Простая справа, а яму радасьць.

Людвіся змоўкла і потым кажа:
-- Лёлячка, якая ты добрая, мудрая і разумная. Дзякуй табе... І вада ўжо празрыстая. І вада цячэ...

* * *

Зыгмунт паходзіў з добрай інтэлігентнай сям’і. Бацька ягоны быў мастаком-графікам, вядомым у Вільні, а маці – скрыпачка, іграла ў віленскай філармоніі. Акрамя ўсяго жыцьцё Зыгмунта добра такі пацерла, і ён разумеў, што няма дробязяў для чалавека ў вялікіх падзеях, асабліва ў падзеях трагічных, калі ўсё самае простае робіцца сымвалам.
-- Хведар, ты сябра Антося, можа, застанешся ноччу. Людвіся ня мусіць быць адна.
-- Ну, вядома, Зыгмунт, я ёй ўжо сказаў, што буду начаваць, во тут, на кухні. І Лёля застаецца. Мы тут вячэру зварым, малога пакормім. Нашыя ўжо ўсе ў Менску.

Назаўтра прыехалі матка Людвісі і бацька Антося і Людвіся нібы крыху паспакайнела. “Вышыня” заказала машыны, вянкі, стужкі, надпісы, труну, чорны касьцюм і адзеньне для нябожчыка і назаўтра паехалі забіраць Антося.

Перад гэтым Юргель і Мялешка хадзілі ў Саюз мастакоў і прасілі дазволу зрабіць у зале Саюза грамадзянскую паніхіду. Кіраўніцтва дазволіла, але праз нейкі час адмяніла сваё рашэньне, спаслаўшыся на тое, што Антось ня быў сябрам Саюзу мастакоў (пры гэтым адводзілі вочы ўбок). Тое ж паўтарылася і ў БДТМІ.

“Што зробіш – “партия всесильна”, а КГБ “тем более”*, -- панура іранізаваў Юргель.

Вырашылі адразу адпраўляцца на Гарадзеншчыну. Картэж выехаў каля 14.30. Ехалі доўга, але пасьля 20.00 былі на месцы. Хата была ўжо прыгатаваная, запрошаныя сьпевакі, якія цэлую ноч сьпявалі малітвы і псальмы на польскай мове

--------------------------------
* “партыя ўсямоцная”, а КГБ “тым больш” (рус.)

(іншых малітваў яны ня ведалі).

Людвіся ня спала ўсю ноч. Моўчкі то сядзела, то стаяла ля труны мужа і глядзела, глядзела на яго ўвесь час з акамянелым тварам.

На заўтра ў другой палове дня быў вынас труны з дому пад пахавальны сьпеў. Потым было адпяваньне ў касьцёле Унебаўзяцьця Найсьвяцейшай Панны Марыі, і з касьцёла, можа, кіломэтры паўтары, хлопцы несьлі труну Антося на руках, мяняючыся час ад часу. Нават стары ксёндз пайшоў у працэсіі і казаў над магілай апошнія малітвы.

"Вышынскія" выказаліся над труной амаль усе. Коратка і без эмоцый. Але плакалі, не хаваючы сьлёз. Настаў самы цяжкі момант – разьвітаньне назаўсёды. Юргель і Мялешка нават падышлі бліжэй да Людвісі, каб быць побач, калі спатрэбіцца.

А Людвіся моўчкі глядзела, асьцярожна правяла рукой па яго руцэ, усьміхнулася і прашаптала: "Антоська". Потым нагнулася, пацалавала Антося ў лоб, выпрасталася, гледзячы ў неба і асунулася на зямлю. Юргель зь Мялешкам ледзь пасьпелі падхапіць яе.

Каля Людвісі была Лёля, мама Людвісі, лекарка, мясцовыя жанчыны. Яна ня чула, як забівалі ў вечка цьвікі, як грукалі першыя камякі мерзлай зямлі аб труну, як засыпалася магіла. Калі вярнулася сьвядомасьць і яна змагла рухацца, хлопцы выраўнівалі рыдлёўкамі магільны грудок і ўкопвалі крыж, дзе было напісана на бляшанай таблічцы: "Антон БАЛЬЦЭВІЧ" і пазначаныя гады яго кароткага жыцьця.

На памінальнай вячэры ўся "Вышыня" сядзела задуменна і моўчкі. Гаварылі, бо трэба, але, зноў жа, коратка. Не прайшло, не мінула яшчэ, значыцца, і ня верылася.

Потым, калі зьмянялі стравы на стале, хлопцы выйшлі на двор, і Зыгмунт, дастаўшы кашалёк, кажа: "Хлопцы, сёньня даём, што маем, а потым зьбярэм". Грошы аддалі Людвісінаму бацьку.

У гэты ж вечар выехалі ў Менск. Прыехалі пасьля поўначы і дамовіліся, што заўтра днём усе зьбіраюцца у "Вышыні".

Сабралася шмат сяброў і тых, што не былі на разьвітаньні з Антосем. Таму зноў пасярэдзіне стаяў столік, пакрыты ільняным абрусам з народным арнаментам, чарка, талерка, відэлец, запаленая сьвечка і фота Антося.

-- Сябры, -- пачаў Хведар, -- памянем душу таварыша нашага Антося. Напачатку малітва.

Устала Лёля і дванаццаць разоў прачытала "Прывітана будзь, Марыя...", перабіраючы ружанец.

-- Вечная памяць, -- сказаў Хведар і падняў чарку. Усе выпілі моўчкі да дна.

Гаварылі пра Антося. Абменьваліся думкамі, зьвесткамі.

-- Сябры, дазвольце мне сказаць, што я думаю, -- адазваўся Зыгмунт. – Я хачу сказаць прамову пра наш шлях. Паважаныя спадарыні і спадары, так казалі нашыя продкі. І так трэба казаць нам. Я аналізаваў і думаў над тым, што адбываецца. А адбываецца пэрманэнтная вайна Масквы супраць нашага народа і нашага існаваньня. Яна адбываецца ў розных умовах і ўсюды, і заўсёды ўжо сотні гадоў і будзе працягвацца, пакуль існуе Масква і ейная імпэрыя. Цяпер няма франтавой вайны, спыніўся актыўны генацыд і рэпрэсіі, але вайна йдзе. Яна йдзе праз удушэньне ўсяго беларускага, усялякага вольнага нацыянальнага разьвіцьця, усялякай вольнай нацыянальнай думкі, таленту, выбітнай асобы, культуры. І там, дзе яны ня могуць задушыць зьяву альбо працэс, там яны забіваюць лепшых людзей. Гэта робяць іхныя нябачныя акупацыйныя ўладныя сілы, навучаныя забіваць. Іхная ўлада ёсьць заўсёды на іхным баку. За апошні час яны забілі Яўгена

Ермаковіча, Антося Бальцэвіча, кінулі ў турму беларуса з Аршаншчыны Раймонда Шляхту.

Як змагацца з ворагамі, калі яны, як быццам, ня бачныя?

Трэба зьмяняць абставіны ў грамадзтве, зьмяняць ідэйнае напаўненьне грамадзтва. Трэба накапліваць супраць ворага разумныя і здаровыя сілы. Мы ня можам адказваць іхным мэтадам. Але, каб і маглі, -- ён тупіковы. І таму будуць ахвяры. Спрут будзе забіраць беларускія жыцьці адно за другім. Адзіны шлях, каб перамагчы спрута, -- гэта змагацца супраць яго.

Наша перавага ў тым, што мы вышэйшыя. Мы – лепшыя. Мы – культурныя. Мы – эўрапейцы. І таму – ня боймася.

Вось ніхто ня чуў пра Раймонда Шляхту, а ён, аказваецца, сапраўдная шляхта. Стаяў за Айчыну і волю. Паслухайце, братове, што я хачу сказаць. – Голас Зыгмунта загучэў, як у прапаведніка, ці, не раўнуючы, ксяндза на амбоне. – Мусіць быць шляхта. Не, не саслоўе. Мусіць быць шляхта духа, гонару і абавязку. Мусяць быць такія людзі.

Ня боймася ахвяраў і пакут, бо мы пераможам. Перамагае тое, што стварае. Зло не стварае. І таму – стварайма! Стварайма творы, рэчы і думкі аб сьветлым нашым духу, аб годнасьці і харастве, аб нашай радзіме, аб нашай культуры і добрых людзях. І гэта хай стане сутнасьцю нашага Адраджэньня.

Пра тое марыў наш дарагі Антось, пра сьветлы шлях, пра сьветлую Беларусь, пра вечную нашу Айчыну.

Падымем чаркі за памяць, за нябесны, зіхатлівы шлях яго душы!

Потым яшчэ было шмат такіх пазыцыйных выступаў сутнасьць якіх найперш была ў тым, каб засьведчыць, што ніхто не скарыўся, не спалохаўся, не заняпаў духам.

Зыгмунт адчуў сытуацыю правільна. Да гэтага вораг быў абстрактны – сістэма, якая душыць і не пускае. Пасьля двух апошніх забойстваў вораг канкрэтызаваўся. Сьведама ці падсьведама вышынскія адчулі, што за беларускую творчасьць, за беларускі талент, за беларускі здабытак культуры, які яны створаць, кожны зь іх гэтай Масквой-Ардой можа быць забіты.

Калі нішчаць нацыю і нацыянальную культуру, тады для нішчыцеляў усё ёсьць палітыка – і гісторыя, і беларуская мова, і мастацтва, і адзеньне, і нават кухня. Нельга, каб творчыя людзі сталі баяцца самых сябе, што і сталася з бальшынёй простага, шэраговага насельніцтва. Вышынскія якраз пра ўсё тое і гаварылі, памінаючы памяць забітага сябра.

Разышліся позна. Зыгмунт з Чаплінскім пайшлі пешкі, каб пагаварыць.

--Я думаю, -- кажа Зыгмунт, -- што за каардынацыю “Адраджэньня” мог бы ўзяцца Хведар Мялешка. І майстэрня на ім.

-- Я таксама так думаю, -- адказвае Чаплінскі, -- але мусіць быць яму сур’ёзная дапамога, нейкая каардынацыйная рада.

-- Згодзен. Цяпер пра Людвісю. Ёй трэба сур’ёзная падтрымка і маральная, і матэрыяльная. Сабраць грошы – гэта не праблема і малая дапамога. Ёй трэба, кроў з носу, выстарацца дзяржаўную кватэру. Чарга ў Гарвыку пятнаццаць гадоў. Яна на чарзе не стаіць (патрэбна была сталая праца і прапіска ў Менску). Становішча гіблае, але ў іх ёсьць кватэрны спэцфонд, рэзэрва. Трэба праз нейкіх афіцыйных дзеячоў паспрабаваць на гэта націснуць. І каб творчыя саюзы дапамагалі. Інакш ей адна дарога: зьехаць зь дзіцём у вёску да бацькоў, працаваць дзе-небудзь у сельскім клубе ці платы фарбаваць. Загіне здольная мастачка. Яе жывапіс класны. Ну, і сяброўка ж наша, і жонка сябра нашага.

-- Чаго ты спадзяешся ад мяне?

-- Пагавары ў Акадэміі. Там ёсьць прыстойныя акадэмікі. Папрасі заступіцца за маладую мастачку. Я яшчэ Лёлю падключу. Можа, у яе што па лініі бацькі атрымаецца. Сувязі ж засталіся.
-- Добра. Паспрабуем.
-- Цяпер пра суд. Трэба будзе рэгулярна хадзіць на паседжаньні суду і не спускаць вачэй, каб не замазалі гэтую справу. Вышку сукіным сынам не дадуць, зразумела, свае ж "драні". Але максімум трэба, каб далі.
-- Зыгмунт, ты мяне зьдзіўляеш. Ты што, наіўны? Гэтай савецкай свалаце нельга верыць ні на каліва, ні на грош! – запярэчыў Чаплінскі. – Ня мае значэньня, колькі яны ім дадуць, хоць 25. Але праз год іх таемна выпусьцяць і нават іншыя дакуманты пад іншыя прозьвішчы выдадуць. Альбо падвядуць пад амністыю.
-- І што нам рабіць?
-- Рабіць можна тады, калі магчыма адсачыць. Тут жа сістэма такіх заглынае – і ўсё, мы іх не знаходзім.
-- Выходзіць – тупік? Забілі і схаваліся?
-- Пажывём – пабачым, розныя павароты бываюць. Яны не павінны пазьбегнуць кары.

* * *

Зазваніў тэлефон. Лена падняла слухаўку.
-- Алё, Лена? Гэта Рубайла. Я ў Менску. Як да цябе заехаць? Адрас?
Лена назвала адрас. Праз пятнаццаць хвілін званок у дзьверы. На парозе Рубайла. Яго трэба было бачыць. У дзьвярах стаяў чалавек-шафа ў расшпіленай дублёнцы, на галаве карычневы фетравы капялюш, ссунуты на адно вуха, чырвоны, разагрэты бадзёры твар, у адной руцэ вядро з накрыўкай і павязанае сурвэтай, у другой – бочка, абвязаная шалікам, каб несьці, пад адной і другой пахай вялікія клункі.
-- Добры дзень у хату, -- загудзеў Рубайла, -- але ж высакавата жывяце, васпані.
-- Дык жа ліфт ёсьць, Рафал Пятровіч.
-- Ліфт ёсьць, але трэцяй рукі не было, каб кнопку націснуць. Гэта во, мая рыбка, табе ад Яніны і Рафала ўсё зь Дзятлавіч прыехала.
У бочцы быў мёд, у вядры квашаная капуста, у адным клунку вэнджаны кумпяк і кавалак сала, а ў другім мяшок чырвоных буракоў.
-- Шкода, гарэлкі не прывёз. Але іншым разам, як Рамук вернецца, прывязу, і мы зь ім дзярбалызьнем.
-- Ох, Рафал Пятровіч, доўга чакаць – дзесяць гадоў.
-- Не бядуй, Лена, -- гудзіць Рубайла, -- раней вернецца. Амністыя стане альбо ўвогуле ўсё перакуліцца дагары нагамі і пачнем спачатку. Усё цячэ, усё рухаецца і ўсё валіцца.
Выйшла Прузына Мікалаеўна. Рубайлу прапанавалі распрануцца, запрасілі за стол, хоць ён аднекваўся, што сёньня павінен пасьпець дахаты, а дзень асеньні і час кароткі.
Гаварылі пра Рамука. Рубайла падрабязна распавёў Лене пра адносіны з Гарохам і што гэта за істота. Папярэдзіў, што ўсё тое ёй варта ведаць, бо тып паталагічна паскудны і кіруемы гэбнюкамі, як зомбі.
-- Падазраю, што за Рамука яму ўжо, відаць, і пагоны далі.
-- Як ён выглядае? – спытала Лена.
Рубайла апісаў.
-- О-о, здаецца, я яго ведаю. Некалі ў тэатры да нас зь Лёляй прыліпаў такі тып. Гаворыць дзікай скасабочанай расейшчынай, так?

-- Так, -- адказвае Рубайла, -- арыгінал яшчэ “тоцкі”. А мне героя соцпрацы прытрымалі. Калі па вялікаму кошту, то падазраю, што ізноў гэты Лапаць тут насаліў. Халера, такі дурны і такі шкодны.
-- Рафал Пятровіч, вы ўжо паасьцеражней будзьце, -- кажа Лена. А то было ў нас двох сапраўдных старшынь на ўсю Беларусь, а цяпер вы адзін засталіся. Адчувайце адказнасьць.
-- Но! Рубайлу яны голымі рукамі ня возьмуць, -- гудзіць Рубайла, -- дулю з макам!

* * *

Ёську сапраўды прысвоілі званьне лейтэнанта. Яго трэснутая сківаца шмат каго падняла ўгару, цэлы аддзел: гэта ж такую справу раскрылі. Пасыпаліся зоркі і званьні. “М-да, дуракам везет”*, -- прабубніў Ніканаў, гледзячы на Ёську.

У ЦК Ёську нічога не сьвяціла, хоць ён у думках на поўным сур’ёзе (і цалкам неадэкватна) прымерваў сябе на 1-га сакратара ЦК і часам задумваўся, што б ён зрабіў, будучы на месцы Брэжнева. Ну, што б рабіў? Рабіў бы тое, што трэба і ўсім зразумела. Найперш непатрэбна ў нашай вялікай краіне рэспубліканскае дзяленьне. Гэта толькі заблытвае палітыку. Рэспубліканскае дзяленьне ліквідуецца. Адпаведна ліквідуюцца ўсялякія недаразьвітыя, штучныя мовы, створаныя палякамі і амэрыканцамі супраць рускай мовы. І яшчэ вельмі важна (ён зьдзіўляўся, чаму савецкая ўлада таго ня робіць), Ёська ліквідаваў бы рэлігію. Каб не было вяртаньня, усе цэрквы і касьцёлы трэба было б разабраць на цэглу, а ксяндзоў і папоў “прыабщыць к абщэственна-палезнаму труду”.**

Усюды мусіла б быць уведзена расейская мова, да якой імкнуцца ўсе народы ў сьвеце, акрамя амэрыканцаў.

У галаве Ёські блукала шмат арыгінальных ідэй. Часам ён выказваў некаторыя думкі сваёй жонцы Жане, але тая, як правіла, нічога не разумела і казала, што для яе гэта вельмі высокая матэрыя.

У Ёські зьявілася адна бліскучая думка, пра якую ніхто не здагадваецца. Яна яго вельмі інтрыгавала. Гэта ідэя папаўненьня бюджэту краіны. Ёська падумаў: “А што калі ліквідаваць катэгорыю пэнсіянераў? Які сэнс для дзяржавы плаціць пэнсію людзям, якія не займаюцца грамадзка-карыснай працай!? І як гэта ніхто такога ня бачыць! Тэхнічна праблема вырашаецца проста і танна. Пасьля дасягненьня пэнсійнага ўзросту і адыходу ад грамадзка-карыснай працы пэнсіянеру робіцца ўкол, пасьля якога ён з радасьцю і спакойна памірае. Памёрлых трэба спальваць у крэматорыях, каб не займаць абшары зямлі карыснай для сельскай гаспадаркі”.

Ёська ня змог зрабіць разьлікі, бо ў яго ад пачатку (яшчэ са школы) праблемы з множаньнем і дзяленьнем, але зразумела, што эканомія для дзяржавы была б каласальная і грамадства даўно магло б жыць пры камунізме.
Пра сваю ідэю ён аднойчы асьцярожна намякнуў Ніканаву. Але той нічога не сказаў, толькі паглядзеў на яго, як дурань.

Ёську ўвогуле падабаўся парадак. Але ён заўважаў шмат непарадку, і гэта яму не падабалася. Сапраўды, калі б ён быў на месцы Брэжнева, то ў перш чаргу навёў бы сапраўдны парадак у грамадстве. Ёськіна рэформа была б простая, як аглобля. Кожнаму чалавеку ад нараджэньня прысвойваецца індывідуальны нумар і выпальваецца на грудзях і плячы. Нумар заносіцца ў дзяржаўную картатэку, і ніхто ўжо ня зможа схавацца ад улады. “Тут рэзка зьнізіліся б крымінальныя злачынствы,

-----------------------
* “М-так, дурням шанцуе” *(рус.)*
** “прыцягнуць да грамадзка-карыснай працы.” *(Ламаная рус.)*

-- думаў Ёська. – Любога чалавека можна б было ўсюды знайсьці, і ніякія фальшывыя дакуманты не дапамаглі б, бо ўлада мела б яго нумар, які падрабіць немагчыма.”

Калі Ёська атрымаў таемнае званьне лейтэнанта, ён па-сапраўднаму адчуў сваю значнасьць у гэтым сьвеце. Яго яшчэ больш стала раздражняць назойлівая ўвага “мамашы” да яго асабістага жыцьця, якое складваецца так пасьпяхова. Яна, вядома, кампрамэтавала яго сваім негарадзкім відам і гаворкай, на якой немагчыма выказаць “умные мысьли”* і на якой не гавораць “в общэстве”**. І ніяк “мамаша” ня можа таго зразумець, што яна цягне яго, Іосіфа Горохова, на ніз, зьневажае яго. А калі ён, Іосіф, палкоўнікам стане? І што – усё гэта цярпець?

“Да-а-а, не пажэлала мамаша окультурытся, не пажэлала”,*** -- думаў Ёська. І цяпер яна стварае яму перашкоды. Усё прыехаць пагражае.

Апошнія год-два пасьля яе прыезду ў Менск Ёська часта атрымліваў ад маці лісты, напісаныя па-беларуску польскімі літарамі (так Бэлтушцы было лягчэй пісаць). Чытаць іх Ёська ўжо не чытаў. Тут яшчэ і тое, што Ёська ня ведаў усіх польскіх літар, а калі б і ведаў, то навошта чытаць пра адно і тое ж.

* * *

Была цёмная-цёмная асеньняя лістападаўская ноч на восеньскія Дзяды і Дзень Задушны. Днём Бэлтушка схадзіла на магільнік да малілаў бацькі і маці, абскубала сухую траву, падгрэбла сьмецьце і вынесла ў яму за мур. Запаліла сьвечкі, калі ўжо сьцямнела, стала на калені, памалілася і павольна пацягнулася да хаты, клыпаючы па дарозе сваёй вуглаватай паходкай. Прышоўшы, Бэлтушка выпусьціла і напаіла карову, потым загнала ў хлеў і насыпала ў цэбар сечкі. Затым накарміла сабаку.

Зусім сьцямнела. Куры даўно ўжо расьселіся на жэрдках у куратніку. Сьвіньня накормлена. Ну, яшчэ кот, які прыходзіць да хаты зазвычай на раніцы – вось і ўся гаспадарка.

Зося лягла спаць, нават не запальваючы сьвятло, рана, недзе каля 18-й. Ёй сьніўся сон, што яе сын Юзік, малы-малы, узяўшы запалкі, падпальвае калгаснае жыта. “Юзік, што ты робіш?! Абсядзь!?” – крычыць Бэлтушка. А жыта ўжо гарыць вялікім агнём, і Юзік уцякае ад яе без аглядкі.

Бэлтушка прачнулася і думала, што б гэта мог абазначаць такі сон? Нядобры, відаць, сон, бо Юзік малы і ўцякаў. А жыта -- дык гэта жыцьцё, а вагонь -- дык гэта злаба-нянавісьць. Бэлтушцы стала нават трывожна, і сон зьнік, не магла заснуць. Яна ўстала, запаліла сьвятло – 23.30.

Зося вышла на двор. Ноч была глухая-глухая, цёмная, як сажа. Дзе-нідзе яшчэ ў хатах гарэла сьвятло, але было надзвычай ціха. У далечыні за рэчкай, дзе могілкі і старыя сосны, дзівоснае відовішча: высокія хвоі, падсьвечаныя зьнізу вагнём сьвечак на могілках, выглядалі ў поўнай чарнаце, як стромкія калоны, філяры харомаў. “Ну, так, сёньня ж яшчэ Дзень Задушны”, -- думае Зося і вяртаецца ў хату. Трывога пра сына не мінала, і нядобры сон стаяў у сьвядомасьці.

Бэлтушка села за стол перад цёмным вакном, у якім бачыла адбітак сябе за сталом, узяла школьны сшытак у лінейку, шарыкавую асадку, якую купіла ў “культмагу”, і пачала пісаць ліст.

------------------------------------------

* “разумныя думкі” (*рус.*)

** “у грамадстве” *(ламаная рус.)*

*** “Та-а-ак, не захацела матуля абкультурыцца, не захацела”. *(Ламаная рус.)*

“Дарагі мой сын Юзік. Піша табе твая мама. У мяне тут усё добра. Дапамагаюць дзядзька Лаўрэн і дзядзька Казюк. На Каляды ў нас, пэўна, будзе ўжо цяліцца карова. От гэта, каб ты быў. Малодзіва будзе, якое ты некалі так любіў. Цялё буду гадаваць да восені, а потым здам на мяса. Гэта падтрымка мне да пэнсіі. Ты не праймайся, я яшчэ даю сабе рады, бо йшчэ й не старая, хоць і на пэнсіі. Толькі надта баляць і адымае ногі. Лекар прапісаў нейкі “кальчык”, але ў нашай аптэцы няма. А Ваньдзя мне заўсёды дапамагае, каб прывезьлі дровы і брыкет.

Юзічак, ты ж глядзі, будзь да людзей добры. Не рабі нікому зла. Ты, як быў маленькі, мог узлавацца. Але ты цяпер ня злуйся. Як ты будзеш добрым, то і мне будзе добра. Твае лісты да мяне не даходзяць. За два гады з таго часу не прынесьлі ніводнага. Я падазраю, што гэта наш паштальён Вінцучок нешта муціць. Дык на весну зьбіраюся зноў убачыць, які ты ёсьць, бо галоўнае быць добрым чалавекам.

На гэтым заканчваю пісаць. Твая мама Зося Пуцюль.”

Зося пісала доўга, павольна, выводзячы літары. Потым склала лісток у канвэрт і падпісала адрас.

За вакном была ноч, але спаць не хацелася. Розныя ўспаміны круціліся ў галаве, плылі ў сьвядомасьці, нібы воблакі. А гэта ж яе жыцьцё. Хлопцы на яе ўвагі не зьвярталі. Хаця не, яны зь ёй гаварылі, як з усімі людзьмі, але ні жартаў, ні кавалерскага інтарэсу. У дзяцінстве яе называлі “клыпа” за яе паходку, а потым (невядома чаму) сталі празьвішчаваць “Б**э**лтушкай”. Але яна ня крыўдзілася нават калі і чула (“Ну, ты скажаш”, -- бывала заўважыць.) Яна ж не зьмянілася, была Зосяй і будзе Зосяй. Затое яна шмат што ўмела рабіць, практычна, усё. І нават мужчынскую працу рабіла. І потым яна нічога нікому не павінна і нікога не абзывала. Як паводле яе, дык кожны сабе пан, і ня трэба да людзей мяшацца.

Старэйшыя местачкоўцы адносіліся да яе станоўча. На вечарынках хлопцы на танец Зосю запрашалі ня часта. Хіба ўжо калі ўсіх лепшых разабралі. Хлопцаў увогуле не хапала, дык танцавалі дзяўчаты з дзяўчатамі.

А тут з нашымі студэнтамі прыехалі зь Вільні нейкія і давай пад патэфон факстрот вытанцоўваць. Дзяўчаты спачатку сьмяяліся з факстрота, а потым нічога – пайшло. Праўда, бяз выбрыкаў. А адзін падышоў да Зосі і кажа гэтак гжэчна па-польску:

-- Но, ходзь потанчымы з тобом. Файне таньчыш. А веш, як называ сен тэн фокстрот? Так і называ сен “Манюсю, ах, фокстрот!..” Але не естэм Манюсем. Мам на імен Вікенці*.

І ахмурыў гэты “Вікенці” (па прозьвішчу Гарох) бедную Зосю за адзін вечар. Нават дабірацца пачаў. Дык яна ня ведала, што рабіць. А Вікенці кажа, што ў Вільню паедзем, будзем у горадзе жыць, у люксусах. Ён, маўляў, тры крамы трымае, мануфактуру прадае.

Потым той “Вікенці”, той Гарох, зьехаў у Вільню разам з тымі студэнтамі, зь якімі і прыехаў. І больш яго ніхто ня бачыў.

Але пазьней дзядзька Казюк езьдзіў у Вільню да таго Гэнюся нібыта швагра свайго і як прыехаў, дык расказваў, што сам у газэце чытаў і пра тое ўсе казалі, уся Вільня гула, што нейкі Гарох сам цэлы польскі банк абакраў сто тысячаў злотых і інкасатара забіў. Дык злавілі аж у Варшаве і будуць судзіць. І што сама Казюка ўстрасянула, што гэта, відаць, той Гарох, які ў мястэчка прыязджаў. Хаця, пэўня,

---

* -- Ну, хадзі, патанцуем з табой. Файна танцуеш. А ці ведаеш, як называецца гэты факстрот? Ён гэтак і называецца “Манюсю, ах, факстрот!” Але я не Манюсь. Мяне завуць Вікенці. *(Польск.)*

мог быць і які іншы Гарох. Невядома. Але вось такое было.

Калі нарадзіўся Юзік, то Зося ўсё гэта зьвязала ў адно і замерла, анямела для ўсіх. Юзіка хацела Пуцюлём запісаць. Але ксёндз сказаў, што мусіць быць бацька, і Зося прызналася.

А як гэтае тое тады атрымалася, яна й сама ня ведае. Спакусіў яе Вікенці, і грэх той расцягнуўся на ўвесь яе лёс. Але Бэлтушка ня жаліцца на лёс. Няма каму. Як ёсьць – так і ёсьць, так і добра. Толькі што будзе потым, што будзе на небе? Яна хацела пайсьці нават у кляштар, стаць законьніцай, але зь дзіцём туды не бяруць. А потым, калі прыйшлі гэтыя з Расеі, ды пачалі зачыняць і бурыць касьцёлы, то які ўжо там кляштар. Затым "калкозы". Хто гэта калі думаў, што прыдзецца палову жыцьця даіць чужых кароў! Толькі і сэнс, каб Юзік стаў добрым чалавекам, каб не папракалі яе людзі, а найгорш – яна сама, бо навошта ж тады яе лёс? І што ні кажы, увесь гэты яе "лёс" круціўся вакол сына. Нічога ў жыцьці больш значнага яна не зрабіла, толькі нарадзіла Юзіка і пусьціла яго ў шырокі сьвет.

І як бы там ні было, жаночая душа патрабуе ласкі ад маці, ад бацькі, ад мужа, ад сына і дачкі. Як мала яе было ў зосіным жыцьці, хіба ў дзяцінстве, і ўжо не засталося зусім. А некалі ж яна стане перад Панам Богам, перад яго алтаром, і што ёй трымаць: ці кару, ці дараваньне? Для нечага ж яна жыла на гэтым сьвеце. Ізноў жа, нават калі проста парахаваць, то выходзіць, што жыла для яго і за яго належыцца ці не належыцца ёй збаўленьне.

Засьпяваў певень. А-ёй, гэта ж ужо раніца! На двары цёмна-цёмна, а певень пяе. Зося вышла на двор. Трохі пахаладала і пацягнула сьвежым паветрам. Зося прынесла са студні вады, распаліла вялікую печ, насыпала паранкі ў вялікі саган і паставіла варыцца. Потым зьліла ваду, патаўкла таўначом у карыце гарачую бульбу, дадала жытняй мукі, перамяшала, выклала ў вядро, дадала ўчарашняга малака, памяшала ўсё гэта рукой, расціскаючы вялікія камякі, і панесла ў хлеў парсюку.

Бэлтушка напаіла карову, нарэзала адной рукой сечкі на старой сячкарні (другой прытрымліваючы салому ў жолабе), сыпнула карове. Куры пазьлятаюць, як разьвіднее, але Бэлтушка паставіла ім сьвежай мешані з крупамі ды вады і зачыніла хлеў.

У хаце Зося замясіла бліны і пякла ў печы, ставячы патэльню чапялой на жар. Цэлую гару бліноў напякла, кладучы на драўлянай дошцы. Паставіла варыцца на абед капусту ў чыгуне ў выпаленую разагрэтую печ і натаркаваную бульбу ў гаршчку, перамешаную са скваркамі. Гэта будзе на абед ужо бабка.

Бэлтушка зачыніла печ засланкай, пакінуўшы яшчэ крыху прыадчынены комін, пакуль ня зьнікнуць сінія ваганькі на вуглях, села за стол і, пераэжыгнаўшыся, з малітвай пасьнедала (як заўсёды адна ў адзіноце) тымі гарачымі блінамі на драўляным донцы, шмаруючы бліны каровіным маслам і макаючы ў сьмятану.

Пачало разьвідняцца. Зося спратала печ і хату, усё павымятала, павыцірала, пайшла ў другі канец і заслала ложак, паліла вазоны і выйшла на двор. Было зусім відна і браўся вецер.

Мястэчка ажыло. Дзе-нідзе брахаў сабака, чуліся галасы, гудзелі машыны. Хоць была нядзеля і, як звычайна ў гэты дзень, ніхто нікуды не сьпяшаўся. А вецер мацнеў, зьявіліся нізкія рваныя хмары, і над Бэлтушкінай хатай зашумела голая ўжо, плакучая старая бяроза, захісталася суччам каржакаватая хвоя з бусьляным гняздом на вяршыне.

Калі прайсьці ад вуліцы ў двор, там далей за плотам пачынаюцца грады, а за градамі выган і ўзаранае поле, і далёкі лес над ракой з высокім берагам, куды якраз беглі, зьбягалі асеньнія хмары. Вецер мацнеў, і Зося ведала, што будзе перамена надвор'я, мо' сьнег, мо' мароз, але ня будзе ўжо гэтай ціхай імжы і слаты.

Вецер дзьме і дзьме, задзімае ў вуглах, калоцячы пасохлыя сьцімбуры счарнелых асеньніх кветак, быльняг, бадыльлё і збуцьвелы палын.

Зося падышла да плоту, абаперлася на яловыя латы і доўга ўзіралася на далёкі лес і чорнае поле. Сьвішча вецер, агаляюцца разрывы ў хмарах, што нізка бягуць. Вей, вецер, вей. Бяжыце, хмары, далёка ў сьветлы сьвет, аднясіце, хмары, за мора маю тугу. Узьвійся, вецер, над папарам, над заснулаю зямлёй, над сінім лесам, над небаспадам!

А Зося глядзіць і глядзіць на гэты знаёмы ёй ад нараджэньня асеньні сьвет, на які ўсё жыцьцё на магла наглядзецца. Шуміць счарнелы палын, шуміць палыночак, як песьня, як далёкая песьня памяці... Гэта ўжо Зося сьпявае, спачатку ціха, а потым на ўвесь голас, як некалі матка Еўка, з самападводкай і прыдыханьнем, на поўныя грудзі, на далёкі лес і ляцячыя хмары.

Ой, палын мой, палыночак,
Палын – горкая трава.
Горчай цябе, мой палыночак,
Ва ўсім полі ды й няма.

Долячка, мая ты доля,
Доля горкая мая,
Горчай цябе, мая ты доля,
Ва ўсім сьвеце ды й няма.

Здавалася, выў, стагнаў і сьпяваў сам вецер. Голас ляцеў зь ветрам у далячынь над палямі і лесам, падымаўся ў самае неба. Касы сьнег прамінуў, нібы шквал. Разрываліся хмары на сінім небе і беглі, ляцелі, уцякалі за лес. Што там? Што там будзе? Чаго яны так імкліва туды бягуць, нібы ў сьне? А мо' гэта анёлы ў хмарах лятуць? А мо' гэта душы забітых спакою ня ймуць? А мо' гэта птахі, нябесныя птахі лятуць над Зямлёй у далёкі нязьведаны край.

* * *

Лена прачнулася рана ад моцнага стуку ў вакне. Спачатку нічога не магла зразумець. Глядзела праз шыбы на цёмнае неба і слухала, як выў за вакном вецер. Потым гучна стукнула фортка. Лена аж здрыганулася. А гэта люфцік быў адчынены, і вецер стукаў ім цэлую ноч.

Дзеці ціхенька спалі. Ім ніпачым ніякія стукі. Мама-Прузына казала, што яны дакладна, як некалі ў калысцы былі Лена зь Лёляй, спакойныя і любяць усьміхацца. Лена накінула шляфрок і падышла да вакна. Толькі-толькі пачало трымцець сьвітаньне. Вецер шкамутаў голыя ліпы на праспэкце і аж сьвістаў за рамамі вакна, блытаючыся ў гзымсах дамоў. Неба трошкі пасьвятлела. Шэрыя рваныя хмары хутка і нізка ляцелі над горадам, выплывалі недзе адтуль, з-за вежаў Чырвонага касьцёла і гмаху Дома ўраду. Яны ляцелі так хутка, як у нейкім драматычным кіно, ілюструючы стан сюжэту. Ніколі ня бачыла Лена такіх нізкіх і хуткіх хмар. Яна не магла адыйсьці ад вакна, не магла адарваць пагляду ад дзіўнага неба. Здавалася, што нешта адбываецца, ці, можа, пачне адбывацца, і душа тое ўспрымала, уздымалася ў адчуваньнях.

Нейкі дзівосны стан. Гэта каб так прырода ўзьдзейнічала на сэрца, быццам нейкі дух спускаецца зь нябёсаў. Можа гэта папярэджаньне надзеі? Можа, што зьменіцца ў гэтым сьвеце, і яна ўбачыць Раймонда? О, якое б гэта было шчасьце! Жыцьцё толькі пачалося. Як ён вернецца, ёй ужо будзе 36 гадоў. У іх яшчэ могуць быць дзеці. Каб толькі вярнуўся жывым.

Якія сьвінцовыя хмары, як дым з фабрычнага коміна клубам, і ляцяць, як чорныя птахі. Што чакае вас, хмары? Што чакае нас? Ужо хлопчыкам будзе па дзесяць гадкоў. Дзяцінства бяз бацькі. Але яны будуць ведаць усё. Кожны дзень буду ім расказваць пра бацьку і разам – чакаць, каб вяртаньне яго ператварыць у шчасьце для іх.

Якія хуткія хмары! Як сьвішча вецер! І пусты праспэкт. Не відаць людзей, і машыны плывуць бязгучна. Усё заглушае вецер. Вецер, вецер, прынясі збаўленьне ад гэтай зморы за вакном, ад гэтых “вперёд к победе”*, ад гэтага “ума чести и совести”**, дзе ні розуму, ні гонару, ні сумленьня. Немагчыма было адарваць погляд ад лятучых хмар. А мо’ гэта сон?

Ціха зайшла Лёля.

-- О, а я таксама яшчэ з ночы стаю ля вакна. Нешта станецца, Лена. Такога неба яшчэ не было над Беларусяй.

-- Жыцьцё толькі пачалося. Будзе лепей, сястрычка. Будзе лепей.

-- Зыгмунт зрабіў прапанову, – кажа Лёля.

(Маўчанка.)

-- А ты?

-- Страшна.

-- Страшна? Чаму? Ён годны чалавек.

-- Таму і страшна.

-- Не разумею.

-- Мы з табой адно, сястрычка, і доля наша, відаць, адна. Толькі ты моцная, а я слабая. Таму і баюся.

-- Зыгмунт надзейны і разумны.

-- За гэта і пасадзяць. У мяне прачуцьцё, як з табой і Раманам.

-- Але нельга баяцца лёсу. Яго трэба прымаць.

-- У мяне няма такога незвычайнага каханьня, як у цябе. Я ня лётаю на крыльлях пачуцьця. Я баюся застацца ўдавой. Я дурная баба.

Сёстры моўчкі глядзелі на трывожнае неба. Нарэшце Лена кажа:

-- Лёля, ты скажы сама сабе, шчыра, па інтуіцыі – ты хацела б мець ад яго дзіця?

-- Ведаеш, ад яго згодная. Калі па адчуваньню, то, відаць, хацела б.

-- Тыды выходзь і ня мучай сябе домысламі. Тваё вялікае каханьне наперадзе. Зыгмунт створыць усё, каб яно было. Можаш не сумнявацца. Яшчэ і жыць без яго ня зможаш.

-- Праўда, сястрычка? – павесялела Лёля.

-- Праўда, кажу табе, што праўда.

-- Ох, ты мая сястрыца разумная! – ужо весела загаварыла Лёля. – Будзем разам саламянымі жонкамі мак таўчы.

-- Ну і няхай! Затое мы пераможам.

-- Ох, пераможам! Толькі жыцьцё нашае, сястрычка, будзе, як віно на палыне.

-- Глянь на неба, Лёля! Гэта ж ня хмары лятуць. Гэта крыльлі нашай надзеі відаць. Сьвішчы, вятрыска, сьвішчы. А мы ня будзем плакаць. Праўда, сястрычка? Мы не заплачам. Мы выцерпім усё. Мы ўсё стрываем. Мы прычакаем. Бог дасьць шчасьце.

На зямельцы роднай
Зацьвітаюць вішні,
На зямельцы роднай

-----------------------------

* “наперад да перамогі” *(рус.) Фрагмэнт заклiка да перамогі камунізма. (Аўт.)*

** “розуму, гонару і сумленьня” *(рус.) Фразы з савецкіх лозунгаў пра КПСС. (Аўт.)*

Палынок расьце.
І бягуць па небе
Хмаркі пуцявіны.
На зямельцы нашай
Сьветлы Бог жыве.

Калі мама-Прузына адчыніла дзьверы ў спальню Лены, то ўбачыла такую карціну: сёстры, абняўшыся, стаялі ля вакна і моўчкі глядзелі ў хмарнае неба.

* * *

Каб ні бацькі, то невядома, як выкруцілася б адна Людвіся з дзіцём. Можа, і мастацтва пакінула б, і жывапіс, бо з жывапісу не пражывеш, дзе няма свабоды. А трэба ж было неяк выжыць, стабільна працаваць. А тут жа сыночак Янка. Яго ж не пакінеш аднаго. Яслі? Няма працы – няма і ясьляў. А дзіцячыя хваробы, прастуды, лячэньне, а дзе жыць, а чым плаціць? А што есьці, а дзіцячае харчаваньне? А дзе, будучы адной і прывязанай да дзіцяці, ўзяць часу на ўсё на гэта? Можна б было зваліцца ў роспач, каб ня тата і мама, каб не трывала яшчэ беларуская сям'я.

Дэкрэтны адпачынак, дзякуй Богу, вялікі, але гэта ёй, фактычна, беспрацоўнай і не сябру Саюза мастакоў, мала што дапамагала. Мама Данускя прыязджала часта на тыдзень-два і падтрымлівала Людвісю, глядзела дзіця. Бацька Казюк, брыгадзір паляводчай брыгады, там адзін упраўляўся і дома, і ў калгасе. І ўсё ж Менск прыйшлося пакінуць.

Брылеўскія ўвогуле былі паважанымі людзьмі ў ваколіцах яшчэ з-за польскіх часоў. Яны былі ня беднай на той час шляхтай, мелі са тры валокі* зямлі і самы ўсё апрацоўвалі. Бацька Казюка, Ляўнарды Брылеўскі, падтрымліваў Беларускую Работніска-сялянскую Грамаду Браніслава Тарашкевіча, і ў 20-х гадах, калі польскія ўлады грамілі Грамаду, Ляўнарды трапіў у польскую турму. Адсядзеў некалькі гадоў. Вярнуўся вельмі злы на палякаў і, шукаючы помсты, зышоўся з КПЗБ У выніку ў сярэдзіне 30-х Ляўнардага замкнулі ў польскі канцэнтрацыйны лягер, створаны акупацыйнымі ўладамі ў беларускай Картуз-Бярозе. Тут была на той час ці ня самая страшная катоўня на сьвеце. Тым ня менш у 1938 годзе (якраз, калі, фактычна, расфармавалі КПЗБ) Ляўнарды вярнуўся адтуль жывым, але ўжо без здароўя. Гэтая акалічнасьць, відаць, выклікала замінку ў саветаў, і ў 1940-41 гг. ягоную сям'ю ня вывезьлі ў Сібір, хоць ён падыходзіў пад вызначэньне "кулак" (ды яшчэ і шляхта). Потым стала вядома, што іх проста не пасьпелі вывезьці.

Калі прыйшлі немцы, год-два было спакойна, працавалі, як і да вайны, на зямлі. Тым часам нехта з суседзяў па злосьці і зайздрасьці, а хутчэй за ўсё будучы ў сувязях зь "белымі" (якія забівалі беларусаў), данёс немцам на Ляўнардага, што ён камуніст, бальшавік і падтрымліваў саветаў. Немцы ня сталі доўга разьбірацца і Ляўнардага расстарлялі.

Гэтая трагічная гісторыя спрычынілася да таго, што калі прыйшлі другія саветы ў 1944 годзе, то сям'ю Брылеўскіх таксама ня рушылі, а Казюка загрэблі ў савецкае войска. Казюку выключна пашанцавала – іхнюю частку адправілі на сельгаспрацы недзе ў Расею. А тут і вайна скончылася. У 1945-м Казюк вярнуўся. Ён насіў, гушкаў, падкідваў на руках дачушку Людвісю, якой ужо споўніўся годзік ад нараджэньня і аж танцаваў ад радасьці, быў шчасьлівы, што жывы, і складаў планы на будучыню з сваёй любай жонкай Данусяй, якая потым народзіць яму

----------------------------------
* валока – прыблізна 21 *га* ў ВКЛ *(аўт.)*

яшчэ двох хлапцоў.

Дануся паходзіла недзе з-пад Індуры з роду Давойнаў. Але сям'ю Давойнаў у 1941 годзе зімой маскалі вывезьлі ў Сібір, і сьлед па іх загінуў. Так што замужаства ўратавала Данусю ад пагібелі, але засталася яна адна з усяго роду дарослай сіратой.

Казюк, год пакруціўшыся ў Расеі, дакладна зразумеў характар новых акупантаў. Гэта ня немцы, праўды тут не шукай. Заб'юць і не папярхнуцца. Таму, калі ў 1949-м годзе пачалі зганяць людзей у "калкозы", Казюк першы ўступіў (разумеючы, што інакш – каюк). У выніку ўсю ягоную зямлю і маёмасьць забралі саветы. Застаўся Казюк толькі з хатай, хлявом, гумном (якое потым таксама забралі) ды з парсюком і каровай, але са сваім жыцьцём, сям'ёй ды ў сваёй краіне. Даверу ў саветаў ён ня меў, але яго пакінулі ў спакоі, а пасьля сьмерці Сталіна ўсё неяк само сабой выраўнялася.

У 49-м сусед-шавец Мар'ян Мішкура, адзіны п'яніца ў мястэчку, які за палякамі аж згінаўся перад Брылеўскімі, спаткаў на падпітку Казюка і кажа:
-- А пан ёсьць здрайца. Пан да саветаў у "калкоз" пайшоў. Замалідую* на пана ў Варшаву. Тут будзе Польшча, і пана заб'юць.

Казюк паглядзеў на п'яніцу і раптам кажа:
-- Мар'ян, ня ведаеш, хто майго бацьку немцам здаў?

Мар'ян спалохана ўставіўся на Казюка. На імгненьне ён навт працьверазеў.
-- Я не здаваў, пся маць! Курва! Мар'ян нікога не здаваў і не здае. Мар'ян – чалавек гонару, пся маць.

Словам, ўсё ўжо было зразумела.

Беларусы, як вядома, людзі з гумарам, часта ў сытуацыях, дзе нікому ня сьмешна. Прыехала савецкае начальства з Гародні праводзіць сход па арганізацыі калгаса. Саветы часта сваю прымусовую палітыку абстаўлялі фальшывымі фармальнасьцямі. Сабралі людзей, і адзін пытае:
-- Так, товарищи колхозники, надо выбрать председателя колхоза. Какие будут предложения?**

Цішыня. Начальнік паўтарыў пытаньне. Зноў ціха. І тут Мікадзім Юркевіч з месца гэдак салідна:
-- Мар'яна Мішкуру трэба.

Людзі заўсьміхаліся, загудзелі, ведаючы жартаўніка Мікадзіма. Гаспадар ён быў так сабе. Амаль ніякі. У сям'і больш браты гаспадарылі. Але музыкантам Мікадзім быў "ад клясы". Іграў на акардыёне на ўсіх вясельлях, часта на вечарынках. Прытым быў вясёлы, сьпяваў прыпеўкі, выпускаў жарцікі і шчыкаў дзевак за ягадзіцы. Дзеўкі, звычайна, давалі Мікадзіму "шляпака" за гэтыя вольнасьці ("А гэта ж, во, гляньце, Мікадзім шчыкаецца.") і весела рагаталі.
-- Мишкура, да? Кто такой?*** -- пытаюцца саветы.
-- Бядняк, -- кажа сур'ёзна Мікадзім, -- беззямельны крэсьцьянин.***
-- Да? – усхапілася начальста. – Советская власть, товарищи, это власть пролетариата и беднейшего трудового крестьянства*****.

Гэта гаворыць такі Карабаеў, шалёны бальшавік з Сярэдняй Азіі. Ён, як узлуецца, заўсёды крычаў: "Там, где Карабаев, там советская власть!"*****

---------------------------------------
* паведамлю *(польск.)*
** -- Так, таварышы калгасьнікі, трэба выбраць старшыню калгаса. Якія будуць прапановы? *(Рус.)*
*** -- Мішкура, так? Хто такі? *(Рус.)*
**** селянін *(рус.)*
**** -- Савецкая ўлада, таварышы, гэта ўлада пралетарыята і найбяднейшага сялянства. *(Рус.)*
****** "Там, дзе Карабаеў, там савецкая ўлада!" *(Рус.)*

Словам, выцягнулі Мішкуру (якраз быў цьвярозы). Начальству ён падыходзіў па ўсіх лініях савецкай палітыкі. Пачалі яго ўгаворваць, абяцаць дапамогу, “движение вперёд”,* падтрымку “парціі” і ... угаварылі.

Мар’ян пагадзіўся і ўзьняў галаву. Першы раз у жыцьці яго так запаважалі, і гэтакае начальства. Кіраваў “калкозам” Мар’ян роўна месяц. За гэты час ён склаў сьпіс ворагаў савецкай “уласьці”, якіх трэба было, на яго думку, вывезьці. Праўда, сьпіс Мар’ян так і ня скончыў, бо пачаўся запой. Мішкуру зьнялі з пасады, калі ён акурат ляжаў пад плотам, а тут начальства прыехала.

Прывезьлі з раёна іншага старшыню “калкоза”, і паступова пачалося новае, савецкае жыцьцё.

* * *

Час пасьля сьмерці Антося быў для Людвісі асабліва цяжкі. Вярнуўшыся з сыночкам да бацькоў у родную хату, яна нібы дагнала мінулае жыцьцё, але ўсё ўжо выглядала інакш. Сапраўдным мінулым стала яе жыцьцё з Антосем. Тут, каб супакоіць душу, Людвіся спрабавала часам пісаць эцюды, калі мама-Дануся (якая дапамагала як магла) займалася сыночкам. І праўда – жывапіс супакойваў.

Людвіся зноў перачытала кніжкі дзеда Ляўнардага, што захоўваліся ў ягоным куфэрку, якія бацька (хапіла сьмеласьці) цудам захаваў і не спаліў, асьцерагаючыся бальшавікоў. Тут, у куфэрку, былі і Ластоўскі, і Багдановіч, і Доўнар-Запольскі, і Купала, і Колас, і Багушэвіч, і ўсе гадавікі віленскага часопіса “Калосьсе” плюс гадавік “Нашай Нівы” за 1911 год. Гэты куфэрак некалі ў школьныя гады стаў для Людвісі яе праўдзівым Беларускім унівэрсітэтам.

Мінула амаль паўтары гады пасьля забойства Антося. Людвіся стала больш маўклівай, часам сьмяялася ў такт сваім думкам і зусім, здавалася б, беспадстаўна магла вымавіць “Антоська”. У яе быў такі стан, быццам Антось пастаянна зь ёй, толькі нябачны. Яна размаўляла зь ім, нешта абмяркоўвала, раілася.

“Глядзі, Антоська, -- казала Людвіся, -- а наш сыночак расьце і на цябе падобны. Як вырасьце, ён будзе якраз, як ты. Ён, як і ты, будзе справядлівым чалавекам. Ён, як і ты, будзе ахвярным для нашай Айчыны. Як будзе добра! Ты вер мне, Антоська, я буду старацца. Наш сын стане вялікім чалавекам. Яго будуць любіць і шанаваць усе людзі. І табе на небе будзе хораша глядзець адтуль на нас усіх.”

А калі Людвіся лыжачкай карміла Янку, то заўсёды прамаўляла: “Гэта за бабулюДанусю, гэта за маму, а гэта за нашага татку Антося. Наш татка жыве на небе. Ён глядзіць на нас, як мы расьцём і радуемся, і яму там так добра”.

Стаяла ўжо глыбокая восень. Пустыя палі, голыя дрэвы. Апошнія лісты на клёнах ля хаты і дзічках на ўзьмежку. Зарасьнікі парудзелага палыну ля драўлянага плоту на былым пажарышчы даваеннай хаты. Летам адтуль даносіўся горкі палыновы пах, церпкі і густы, калі пасьля гарачага дня спадае начная прахалода. Людвіся ўспамінае, што Антоська любіў пах бэзу, пах хвоі, пах шалфею і горкага палыну. “Люблю бэз, бо бэз – гэта пах беларускай жанчыны, -- напаўжартам казаў Антось. – Гэтак пахне дзявочая Беларусь. Хвоя – гэтак пахне ўся наша краіна. А вось палын ... палын – гэта водар свабоды. Ён ня можа быць салодкім, бо за волю кладуць галаву. Ах, Людвіся, які гэта здаровы і моцны пах!”

Аднойчы ў мядовым месяцы Людвіся нарвала зялёнага палыну і вечарам паклала Антосю пад падушку. Дык Антось усё круціў галавой і быў нейкі прасьветлены і ўзьнёслы.

-----------------

* “рух уперад” *(рус.)*

-- Людвіся, -- кажа потым Антось, -- я думаю, што “ім” канец.
-- Чаму ты так пра “іх” думаеш? – уключаецца Людвіся ў гульню слоў.
-- Бо калі жонка прыносіць у ложак пах свабоды, значыцца ў “іх” ніякіх шанцаў, -- і глядзіць на Людвісю.
-- Ах, які ты здагадлівы, які здагадлівы! – рагоча Людвіся.

Вечарам на Дзень Задушны раптам моцна сьцямнела і пачаўся вецер. Дзіўнае адчуваньне: густы, як сажа, змрок і шалёны вецер, што аж вые ў люхтах, і хата, здавалася, уся дрыжыць. Ніколі ня памятае Людвіся такой ночы.

Доўга не магла заснуць і прачнулася рана, яшчэ цёмна. Нешта стукала пад ветрам. Бацька, які ўжо быў устаўшы, сказаў, што вецер адарваў дошку ў шчыце, вось яна і стукае. Днём, як разьвіднее, бацька яе зноў прыб’е.

Людвіся цёпла апранулася і выйшла на двор. Пачынала брацца на сьвітаньне. У разрывах хмар сьвятлела неба і нават на імгненьне відаць былі зоркі. Пастаянна шумеў і сьвістаў вецер, а дрэвы над рэчкай і прысады шумелі так, нібы мора ці далёкі шум вадаспада. Людвіся стаяла пасярод падворка і глядзела ў неба, як зачараваная. Хмары беглі так нізка і так хутка, чаргуючыся, што здавалася, іх можна было дастаць, калі не рукой, то калом ці дзе якой жэрдкай ці латай. Яны сьлізгалі па паветры, як імклівыя рыбы, клубіліся, выпросталіся і ляцелі, як чорныя птушкі, як зграя варон, рваліся на кавалкі і набягалі новыя, то закрываючы, то адкрываючы неба. Хуткасьць іх лёту спараджала нечуваны ўздым душы, неўтаймаваны парыў і чаканьне, што нешта будзе, нешта стане, нешта ўжо ляціць на небе, як коньніца, як пагоня, як марскія хвалі. Немагчыма было адарваць пагляд ад гэтага бурнага неба. Яно ўцягвала, як вір, як магніт. І праясьнялася цемра, і сьвятлелі лятучыя хмары, але не сьціхаў вецер.

Часам Людвісі здавалася, што ўжо нічога няма на сьвеце, ні людзей, ні дамоў, а толькі яна пад гэтым хмарным небам і Антоська там далёка ў бяздоннай вышыні. Яна нават азірнулася, каб пераканацца, што хаты і сьвет яшчэ на месцы.

Там, дзе блішчаць зоркі ў разрывах хмар, там жыве яе Антоська. “Усё будзе добра, Антоська, усё будзе. Сьпі, мой сыночак, сьпі. Хай жыцейка тваё, як дарожка ў жыце, сьцелецца да Айчыны, дзе сьпявае салоўка ў маёвую ноч, дзе на цёплых узгорках сінее бяскрайні лён, і водар палыну на папялішчах хай уздымае дух, хай уздымае дух...

* * *

Як часам бывае ў восень, ноч пачалася раптам, цёмная і ліпкая, нібы матэрыяльнае напаўненьне. Як быццам нічога дзіўнага, але насьцярожыў шалёны вецер, які пачаўся, і нізкія рваныя хмары, якія ляцелі так хутка, што здавалася, апераджалі вецер.

Рубайла пастаяў пасярод двара, пакруціў галавой, гледзячы ў неба, потым пашыбаваў у хату. Ён зразумеў, што ўжо магчыма ноччу, а заўтра абавязкова выпадзе спорны сьнег (хоць ніхто і не чакаў), а далей дасьць мароз.

“У другой брыгадзе раскрытыя бурты, -- думае Рубайла. – Трэба тэрмінова пачаць накрываць з раніцы, калі пасьпеем, бо прападзе бульба.”
-- Рафал, -- азвалася Яніна, -- трэба дровы, што пад грушай, знасіць у дравальку, а то, відаць, будзе вялікі сьнег.
-- Ня трэба, -- адказвае Рубайла, -- ужо ноч на дварэ. Я накрыю брызентам.
-- Я такога ня памятаю, -- кажа Яніна, -- хмары лятуць, як у трубе.

А тут старэйшы Барыска (сыну дзесяць гадкоў):
-- А чаму будзе сьнег?

-- Па небе відаць і па ветры, -- тлумачыць Рафал сыну. – Халоднае паветра ідзе туды, дзе цёплае. І чым халаднейшае паветра, тым большы вецер. От гэты вецер сьнегу ў хмарах і прынясе.
-- Эх, хутчэй бы той сьнег, тата! – усклікае Барыска. – Як пакрые чорную зямлю, дык усё стане сьветла і чыста.
-- Ну, пэўня, што стане, -- адказвае бацька.
-- Я дык зіму люблю, -- працягвае Барыска. – Падабаецца, што ўсё белае.
-- А яшчэ што табе падабаецца? – пытае мама Яніна.
-- А йшчэ на санках катацца. Эх, хутчэй бы!
-- А вершык памятаеш, што мы з табой некалі чыталі напамяць?
-- Памятаю.
-- Можа, пачытаеш нам з татам?
-- Ну, ну, давай, -- азваўся бацька Рафал.

Барыска дэкламуе:

Не сядзіцца ў хаце хлопчыку малому:
Кліча яго рэчка, цягнуць санкі з дому.
-- Мамачка-галубка! – просіць сын так міла.
-- Можа б, ты на рэчку пагуляць пусьціла?
Я ня буду доўга, зараз жа вярнуся,
Трошачкі на рэчцы ў санках паважуся.
-- Ну, ідзі, пабегай, толькі апраніся,
Ды, глядзі, у палонку, сынку, не ўваліся.
Радасьць і раздольле хлопчыку малому,
І не пазайздросьціць ён цяпер нікому!
На плячо – сякерку, саначкі – у руку,
Хлеба ўзяў акрайчык. – Цюцік! – сьвіснуў Жуку.
Пад скарынкай лёду тут жа, каля хаты,
Працякала рэчка скрозь лясныя шаты.
Побач той рачулкі кучы буралому,
І застыла рэчка мёртва, нерухома.
-- Гэй ты, лёд-гвалтоўнік! Што ты вытвараеш?!
Ты нашто вадзіцу крыўдзіш, ушчуваеш?
Дам ёй ход, дарогу, каб на сьвет зірнула!..* – звонка чытаў Барыска. За вакном выў шалёны вецер, і словы хлопчыка зьліваліся з шумам ветру.

Канец тэксту.

*8 верасьня 2015 г.*

-------------------------------------

* Цытата з верша Якуба Коласа *(аўт.)*

## КНІГІ ВЫДАДЗЕНЫЯ Ў ВЫДАНЬНІ «БЕЛАРУСКІЯ ВЕДАМАСЬЦІ» І БВТА

**1. Зянон Пазьняк. Камунізм як форма рускага імпэрыялізму. – Нью-Ёрк, «Беларускае Выдавецкае таварыства ў Амэрыцы» (БВТА), 2000 г.**
**2. Зянон Пазьняк. Новае стагоддзе. -- Варшава, 2002 г.**
**3. Зянон Пазьняк. Гутаркі з Антонам Шукелойцем. -- Варшава, 2003 г.**
**4. Зянон. Вялікае Княства. -- Нью-Ёрк, «Беларускае Выдавецкае таварыства ў Амэрыцы», 2005 г.**
**5. Зянон. Вялікае Княства (2-е выданьне). -- Варшава, «Беларускія Ведамасьці», 2005 г.**
**6. Зянон. Беларуска-Расейская вайна. Belarus is easten outpost. -- Варшава, 2005 г.**
**7. Зянон Пазьняк. Прамаскоўскі рэжым альбо як адбываецца разбурэньне Беларусі. -- Нью- Ёрк, «Беларускае Выдавецкае таварыства ў Амэрыцы», 2005 г.**
**8. Зянон Пазьняк. Прамаскоўскі рэжым альбо як адбываецца разбурэньне Беларусі (2-е выданьне). -- Варшава, «Беларускія Ведамасьці», 2005 г.**
**9. Сяргей Навумчык. Сем гадоў Адраджэньня альбо фрагмэнты найноўшай беларускай гісторыі (1988 – 1995). -- Варшава, 2006 г.**
**10. Галіна Пазьняк. Беларусь у сэрцы. -- Варшава, 2007 г.**
**11. Зянон Пазьняк. Нацыянальныя каштоўнасьці. -- Варшава, 2007 г. (Містыфікацыя. Выдадзена ў Беларусі, 1/16 д.а., 60 с.).**
**12. Зянон. Дарога. -- Варшава, 2007 г.**
**12. Зянон Пазьняк. Развагі. Канцэпцыя новага Беларускага Адраджэньня, кн 1, артыкулы і матэр'ялы (1990—III.1996). -- Варшава, 2007 г.**
**14. Парсіваль (2-е выданьне). -- Варшава, 2009 г.**
**15. Зянон Пазьняк. Нацыянальныя каштоўнасьці. -- Варшава, 2009 г. (1/32 д.а., 192 с.)**
**16. Зянон Пазьняк. Цяжкі час. Канцэпцыя новага Беларускага Адраджэньня, кн 2, артыкулы і матэр'ялы (IV.1996—2002). -- Варшава, 2010 г.**
**17. Зянон Пазьняк. Цяжкі час. Працяг. Канцэпцыя новага Беларускага Адраджэньня, кн 3, артыкулы і матэр'ялы (2003--2010). -- Варшава, 2010 г.**
**18. Сяргей Навумчык – Зянон Пазьняк. Дэпутаты Незалежнасьці. -- Варшава, 2010 г.**
**19. Зянон Пазьняк. Дэклярацыя – першы крок да Незалежнасьці. -- Варшава, 2010 г.**
**20. Зянон Пазьняк. Сэсія Незалежнасьці. -- Варшава, 2011 г.**
**21. Зянон Пазьняк. Незалежнасьць Беларусі. 20 гадоў. -- Варшава, 2011 г.**
**22. Зянон Пазьняк, Валеры Буйвал. Абарона Курапатаў. Народны Мэмарыял. -- Варшава, 2012 г.**
**23. Зянон Пазьняк. Добрая фатаграфія. -- Варшава, 2012 г.**
**24. Галіна Пазьняк. Менскі гарсавет у пэрыяд нацыянальнай рэвалюцыі (1990-1991). -- Варшава, 2012 г.**
**25. Зянон. Тэрра Дэй. -- Варшава, 2014 г.**
**26. Zenon. OJCZYZNA WIECZNA. -- Warszawa, 2014.**
**27. Аўген Калубовіч. Мова ў гісторыі Беларускага пісьменства. (Факсімільнае выданьне. Прадмова да факсіміле – Зянон Пазьняк). -- Варшава «Беларускія Ведамасьці», 2015 г.**
**28. Зянон. Палын-палын… «Беларускае Выдавецкае таварыства ў Амэрыцы» (БВТА), – Нью-Ёрк, 2016 г.**

ISBN: 978-83-935476-8-5

Пазьняк Зянон Станіслававіч
*Кандыдат мастацтвазнаўства*

ПАЛЫН-ПАЛЫН...

*Мастацкая літаратура*

**Зянон. ПАЛЫН-ПАЛЫН…,** беларускі раман з часоў савецкай акупацыі.
Выданьне: "Беларускае Выдавецкае Таварыства ў Амэрыцы", Нью-Ёрк, 2016 г. -- 200 с.
Папера афсэтная (фармат US Letter). Наклад 200 ас.

Дзеяньне рамана пачынаецца ў 30-х гадах на Віленшчыне і працягваецца ў 40-х -- 60-х гадах мінулага стагоддзя ў БССР. Гэта расповяд пра лёсы, каханьне і справы беларусаў, што жылі пад саветамі. Паказана акупацыйная рэчаіснасьць савецкага рэжыму, яго норавы і парадкі. У цэнтры сюжэта людзі, якія шанавалі сваю годнасьць і Бацькаўшчыну і змагаліся за яе волю і адраджэньне.
ISBN: 978-83-935476-8-5



Афармленьне вокладкі і макет: *Зянон Пазьняк*
Кампутарны склад: *Зянон Пазьняк.*
Кампутарны набор і вычытка тэксту: *Галіна Палачаніна.*
Друк: *www.lulu.com*
Наклад: 200 асобнікаў.
Аддрукавана: у 2016 г. у Нью-Ёрку
Папера афсэтная, фармат US Letter
Ум. друк. арк. 17.
Аддрукавана на сродкі аўтара

---------------------------------------------------------------------------
Беларускае Выдавецкае Таварыства ў Амэрыцы. Нью-Ёрк.

